# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ЧАЦВЕРТАЯ*





МЕНСК—1937

*Уладзімір Маякоўскі*

# СТОЛП

Таварыш Папоў—
амаль ад варштата.
Амаль што
ад плуга, сахі.
Ён—
нават партыец,
спалохан ён
надта,
Бурчыць
барытонам сухім:
„Разгорнеш газэціну—
ў крытыцы ўсё,
любая
хістаецца
глыба.
Крыюць.
Каго?
Аж валасьё
Ўстае
ад прозвішчаў
дыбам,
А гэта-ж
падрыў,
падкоп-жа гэта...
Крытыкуй
асцярожненька
сябе і сваіх.
А гэтыя-ж
крытыкуюць
не глядзяць аўтарытэтаў,
ні чына,
ні стажа,
ні пасады іх.
Крытыка
знізу—
гэта яд,
Зверху—
вось гэта лякарства

Ці-ж можна
дазволіць
нізам
падрад
Усім
займацца крытыканствам?!
Аб гідасцях
нашых
трубім, крычым.
Ідзі
і ў газетах сарамаціся!
Я памыліўся,
Дык у трэсце-ж
маім
маецца
рэвізійная камісія!
А можна-ж
не чапаючы сталпоў,
Сярод
сваіх
брацішак,
выклікаць,
сказаць:
— Таварыш Папоў,
арудуй...
цішэй...
не лішне...
Прысталі
аж гідка,
аж рве,
Абмазваюць
кісцью
густою.
Таварышы,
ды гэта-ж
падарве
Дзяржаўныя устоі!
Каго крытыкуюць?—
крычыць як звер,
Аж голас
пішчыць
тэнарком.—
Іванава—
учора,
мяне—
цяпер,
а заўтра—
Соўнарком!?"
Таварыш Папоў,
пакінь скавытню,

Балбатню пра падрывы—
хлусню.
Мы клічам усіх,
каб у лоб,
і метка
Крытыка
дрэнь
касіла,—
І гэта
хай будзе як лепшая
сведка
нашай
чыстаты і сілы.

*Пераклаў М. ХВЕДАРОВІЧ*

*А. С. Пушкін*

# БАРЫС ГАДУНОЎ

Дарагой для расіян памяці
НІКАЛАЯ МІХАЙЛАВІЧА КАРАМЗІНА
працу гэтую, геніем яго натхнёную,
з самай глыбокай пашанай і падзякай
прысвячае
АЛЕКСАНДР ПУШКІН

## *КРЭМЛЕЎСКІЯ ПАЛАЦЫ*

***(1598 года, 20 лютага)***

Князь Шуйскі і Варатынскі.

Варатынскі

Прызначаны мы разам местам ведаць,
Ды, здэцца, нам няма за кім глядзець:
Масква маўчыць; услед за патрыярхам
У манастыр пайшоў і ўвесь народ.
Як думаеш, чым скончыцца трывога?

Шуйскі

Чым скончыцца? Не цяжка разгадаць:
Народ яшчэ павые, ды паплача.
Барыс яшчэ паморшчыцца напэўна,
Як п'яніца над чаркаю віна,
І пад канец па ласкавасці сваёй
Прыняць вянок ён згодзіцца пакорна;
А там—а там пачне валодаць намі
Як і раней.

Варатынскі

Ды месяц прамінуў,
Як ён з сястрой у манастыр замкнуўся
І свецкага ўсяго, здаецца, зрокся.
Ні патрыярх, ні думныя баяры
Схіліць яго дагэтуль не маглі;
Не чуе ён ні слёзных угавораў,
Ні просьбы іх, ні плачу ўсёй Масквы,

Ні голасу Вялікага Сабору.
Яго сястру упрашывалі марна
Благаславіць Барыса на дзяржаву;
Журботнае манахіні-царыцы
Як і яго не ўпросіш і не ўмоліш.
Напэўна сам Барыс яе научыў;
А што калі кіраўніку сапраўды
Абрыдалі дзяржаўныя клапоты
І царскага пасаду ён не прыме?
Што скажаш ты?

Шуйскі

Скажу, што надарэмна
Лілася кроў царэвіча малога;
Што калі так, Дзімітры мог-бы жыць.

Варатынскі

Жахлівае злачынства! А напэўна
Царэвіча згубіў Барыс?

Шуйскі

А хто-ж?
Хто падкупіў дарэмна Чапчугова?
Хто падаслаў абодвух Біцягоўскіх
З Качалавым? У Вугліч ездзіў я
Даследаваць на месцы гэту справу;
Наехаў я на свежыя сляды;
Увесь народ быў сведкаю злачынства;
Усе адно і тое-ж паказалі;
Вярнуўшыся, адным-адзіным словам
Я выкрыць мог патайнага злачынца.

Варатынскі

Навошта-ж ты яго тады не знішчыў?

Шуйскі

Прызнаюся, збянтэжыў ён мяне
Спакойнасцю сваёй і бессаромствам;
У вочы мне глядзеў, нібы нявінны:
Пытаў пра ўсё, драбніцы разбіраў—
І перад ім сказаў я недарэчнасць,
Каторую ён сам мне нашаптаў.

Варатынскі

Нячыста, князь.

Шуйскі

А што я мог іначай?
Пра ўсё сказаць Феодару? Ды цар
На ўсё глядзеў вачамі Гадунова
І чуў усё вушамі Гадунова:
Няхай яго-б упэўніў я ва ўсім,
Барыс яго ізноў бы разупэўніў,
А там мяне-ж саслалі-б у выгнанне,
Ды ў добры час як дзядзьку, і мяне
У глухой турме паціху-б задушылі.
Хваліцца я не буду, давядзецца-ж—
Ніякіх кар не забаюся я;
Я сам не трус, але і не дурны
І не хачу ў пятлю дарэмна лезці.

Варатынскі

Жахлівае злачынства! Слухай, пэўна
Згубіцеля раскаянне трывожыць:
Вядома кроў нявіннага дзіцяці
Яму ступіць на трон не дазваляе.

Шуйскі

І, не тужы—Барыс не баязлівы!
Якая нам, усёй Русі хвала!
Нядаўні раб, татарын, зяць Малюты,
Зяць ката, сам душой сваёю кат,
Бярэ вянок і бармы Манамаха...

Варатынскі

Так, род яго нязнатны; наш знатнейшы.

Шуйскі

Здаецца, так.

Варатынскі

Бо Шуйскі, Варатынскі...
Сказаць адно, прыродныя князі.

Шуйскі

Прыродныя і Рурыкава племя.

Варатынскі

А слухай, князь, мы самі-ж мелі-б права
Феодараў заняць пасад.

Шуйскі

Так, болей,
Ніж Гадуноў.

Варатынскі

На самай справе.

Шуйскі

Што-ж?
Калі Барыс хітрыць не перастане,
Давай народ умела хвалявāць,
Няхай яны пакінуць Гадунова,
Сваіх князёў у іх даволі ёсць,
Хай выбяруць любога за цара.

Варатынскі

Не мала нас, варагавых нашчадкаў,
Ды цяжка нам цягацца з Гадуновым:
Народ адвык у нас род даўні бачыць,
Род баявых уладароў сваіх.
Ужо даўно мы страцілі удзелы,
Даўно царам спадручнікамі служым,
А ён умеў і любасцю і страхам
І славаю народ зачараваць.

Шуйскі *(глядзіць у акно)*

Ён смеў і ўсё,—а мы... Ну, досыць. Бачыш,
Народ ідзе, рассыпаны, назад—
Хадзем хутчэй уведаць, ці рашылі.

---

## *КРАСНАЯ ПЛОШЧА*

Народ

Адзін

Не ўгаварыць! Ён ад сябе прагнаў
Свяціцеляў, баяр і патрыярха.
Яны да ног дарэмна палі ніц;
Пасаду бляск палохае яго.

Другі

О божа мой, хто будзе цар над намі?
О гора нам!

Трэці

Ды вось вярхоўны дзяк
Выходзіць нам сказаць ухвалу Думы.

Народ

Маўчаць! Маўчаць! гаворыць думны дзяк;
Шш,—слухайце!

Шчалкалаў (*з параднага ганку*)

Саборам ухвалілі
Апошні раз паспрабаваць упросы
Над смутнаю душой кіраўніка.
Назаўтра зноў вялікі патрыярх,
Імшу ў Крэмлі ўрачыста адслужыўшы,
З пратэсамі святымі на чале,
І з вобразам Владзімірскім, Данскім
Узрушыцца; а з ім сінкліт, баяры,
Натоўп дваран ды выбарныя людзі
І ўвесь народ маскоўскі праваслаўны,
Мы ўсе прасіць царыцу пойдзем зноў,
Хай зглянецца над беднаю Масквой
І на пасад благаславіць Барыса—
Ідзіце-ж вы цяпер дахаты з богам.
Маліцеся, няхай да неба ўзыдзе
Руплівая малітва праваслаўных.

(Народ разыходзіцца)

---

## ДЗЯВІЧАЕ ПОЛЕ. НОВА-ДЗЯВІЧЫ МАНАСТЫР.

Народ

Адзін

Пашлі цяпер у келлю да царыцы,
Туды зайшоў з Барысам патрыярх
І шмат баяр.

Другі

Што чуць?

Трэці

Усё яшчэ
Ўпіраецца; аднак-жа ёсць надзея.

Баба (з дзіцем).

Агу! Не плач, не плач; вось бука, буку
Аддам цябе! агу! агу!.. не плач!

Адзін

Ці нельга нам прайсці за агарожу?

Другі

Ніяк. Куды! і ў полі нават цесна,
Не толькі там. Не жарт! Уся Масква
Сышлася тут; глянь: агарожа, дахі,
Усе рады саборнае званіцы,
Царкоўныя крыжы і купалы
Унізаны людзьмі.

Першы

Сапраўды, люба!

Адзін

Што там за шум?

Другі

Паслухай! што за шум?
Народ завыў, там падаюць, што хвалі,
За радам рад... яшчэ... яшчэ... Ну, брат,
Дайшло да нас, хутчэй-жа! на калені!

Народ (*на каленях. Лямант і плач*)

Ах, злітуйся, айцец! валодай намі!
Будзь наш айцец, наш цар!

Адзін (*ціха*)

Чаго там плачуць?

Другі

Хто-ж скажа нам? то ведаюць баяры,
Не нам раўня.

Баба з дзіцем

Ну, што-ж, як трэба плакаць,
Дык і заціх! вось я табе! вось бука!
Плач ты, пястун!

(*Кідае яго на зямлю. Дзіця пішчыць.*)

Ну, вось.

Адзін

Усе галосяць,
Заплачам, брат, і мы.

Другі

Я прагну, брат,
Ды не магу.

Першы

І я. Няма цыбулі
Каб вочы праслязіць?

Другі

Памажам слінай.
Што там яшчэ?

Першы

Ды хто іх разбярэ?

Народ

Ён цар! за ім карона! ён згадзіўся!
Барыс наш цар! Няхай жыве Барыс!

---

## КРЭМЛЕЎСКІЯ ПАЛАЦЫ

Барыс, патрыярх, баяры.

Барыс

Ты, ойча, патрыярх, вы ўсе, баяры,
Мая душа раскрыта перад вамі:
Вы бачылі, што я прымаю ўладу
Вялікую са страхам і пакорай.
Які цяжкі ёсць абавязак мой!
Мне—спадчына магутных Іааннаў—
Мне—спадчына і ангела-цара!..
О, праведнік! О, мой айцец дзяржаўны!
Узглянь з нябёс на слёзы верных слуг
І падаруй таму, каго любіў ты,
Каго ты тут дзівосна так узвысіў,
Свяшчэннае на ўладу блаславенне:
Хай буду я са славай кіраваць,
І праведна і літасна, як ты.
Ад вас, баяр, садзейнасці чакаю.

Служыце мне, як вы яму служылі,
Калі і я ваш клопат падзяляў
Не выбраны яшчэ народнай воляй.

Баяры

Не зломім мы прысягі нашай вернай.

Барыс

Цяпер хадзем з паклонам да магіл,
Дзе ўладары Расіі спачываюць—
А там, склікаць увесь народ на баль;
Няхай усе, магнаты й жабракі,
Няхай ідуць, як госці дарагія.

(*Выходзіць, за ім баяры*)

Варатынскі (*спыняючы Шуйскага*)

Ты адгадаў.

Шуйскі

А што?

Варатынскі

Ды тут, нядаўна,
Ты помніш?

Шуйскі

Не, не помню ані-ні.

Варатынскі

Калі народ быў на Дзявічым полі,
Ты гаварыў—

Шуйскі

Цяпер не час, каб помніць.
Часамі я і забывацца раю
А зрэшты, я гаворкаю няшчырай
Тады хацеў цябе паспрабаваць
І выведаць твае больш пэўна думкі!
Ды вось—народ вітае ўжо цара—
Адсутнасць там маю заўважыць могуць—
Іду за ім.

Варатынскі

І хітры-ж царадворац!

---

## НОЧ. КЕЛЛЯ Ў ЧУДАВЫМ МАНАСТЫРЫ

### (*1603 года*)

Айцец Пімен, Грыгоры сонны

Пімен (*піша перад лампадаю*)

Яшчэ адно, апошняе паданне—
І летапіс закончаны тады,
Я выканаў наказ, што бог прызначыў
Мне грэшнаму. Не дарам многіх год
За сведку бог святы мяне паставіў
І кніжнаму майстэрству навучыў;
Настане час,—манах руплівы знойдзе
Мой летапіс, стаpанны, безыменны,
Запаліць ён, як я, сваю лампаду—
І пыл вякоў ад хартый атрасе,
Праўдзівыя паданні перапіша,
Хай ведаюць нашчадкі праваслаўных
Мінулы лёс радзімае зямлі,
Сваіх цароў вялікіх памінаюць
За працу іх, за славу, за дабро—
А за грахі, за цёмныя учынкі
Збавіцеля няхай пакорна моляць.
На старасці я нанава жыву,
Мінулае ідзе перада мною—
А ці даўно падзеямі грымела,
Імчалася як мора-акіян?
Цяпер яно маўклівае навокал:
Крыху аблiччаў памяць захавала
І крыху слоў даходзіць да мяне,
А іншае загінула навекі!..
Ды блізка дзень, лампада дагарае—
Яшчэ адно апошняе паданне. (*Піша*).

Грыгоры (*прачынаецца*)

Ізноў той сон! ці-ж можна? трэці раз!
Пракляты сон!... А ўсё перад лампадай
Стары сядзіць, ды піша—і дрымотай
Відаць праз ноч ён не самжыў вачэй.
Люблю яго спакойны выгляд я,
Калі, душой лунаючы ў мінулым,
Ён летапіс вядзе свой, і нярэдка
Я адгадаць хацеў, пра што ён піша:
А ці пра ўладу цёмную татар?
А ці аб карах лютых Іаана?
А ці аб бурным наўгародскім вечы?
А ці аб славе бацькаўшчыны? Марна:
А ні ў вачах, ні на чале высокім
Не прачытаць яго патайных дум;

Заўсёды ён пакорны і вялічны.
Вось гэтак дзяк судовы абыяка
Глядзіць на ўсіх і вінных і нявінных,
Дабро і зло прыймаючы спакойна,
Не маючы ні жаласці, ні гневу.

Пімен

Прачнуўся, брат.

Грыгоры

Благаславі мяне,
Святы айцец.

Пімен

Хай бог благаславіць
Цябе заўжды: сягоння і навекі.

Грыгоры

Ты ўсё пісаў і не заснуў хвіліны,
А мой спачын нячыстага лятункі
Трывожылі, ён спакушаў мяне:
Мне снілася, што лесвіца крутая
Мяне вяла на вежу; з вышыні
Відаць была Масква, нібы мурашнік;
Кіпеў народ унізе на пляцы
І на мяне паказваў смяючыся;
І мне было і сорамна і страшна—
І, падаючы ўніз, я прачынаўся...
І тры разы той самы сніўся сон.
Хіба не дзіў?

Пімен

Кроў юная гуляе;
Малітвамі і постам ушчувай,
І сны твае высокім лятуценнем
Напоўняцца. Дагэтуль—калі я,
Знядужаны міжвольнаю дрымотай
Не згавару на ноч вялікіх пацер—
Мой сон стары не ціхі й не бязгрэшны;
Здаецца мне тады то шумны баль,
То ратны стан, то бітвы баявыя,
Шалёныя пацехі юных год!

Грыгоры

Як весела правёў ты маладосць!
Ты ваяваў пад вежамі Казані,
Ты раць Літвы пры Шуйскім адбіваў,

Ты бачыў двор і роскаш Іаана!
Шчаслівы ты! а я з дзіцячых год
Па келіях браджу, манах няшчасны!
Чаму і мне не цешыцца ў баях,
Не баляваць за царскімі сталамі?
Паспеў-бы я, на старасці, як ты,
Ад сумятні, ад свету адлучыцца,
Даць цвёрдага манашаства зарок
І ў манастыр спакойны зачыніцца.

Пімен

Не наракай, што рана грэшны свет
Пакінуў ты, што мала спакушэнняў
Паслаў табе вышэйшы. Вер ты мне:
Нас зводдаля чаруе слава, роскаш
І здраднае жаночае каханне.
Я доўга жыў і вызнаў асалоду,
А толькі з тых часоў спазнаў уцеху,
Як бог мяне прывёў у манастыр.
Падумай, сын, ты пра цароў вялікіх:
Хто ёсць над іх? Адзіны бог. Хто смее
Насупраць іх? Ніхто. І што-ж? Нярэдка
Карона ім рабілася цяжкою:
Яны яе мянялі на клабук.
Цар Іаан шукаў заспакаення
У дзейнасці, падобнай да манашскай.
Яго двярэц, любімцаў гордых поўны,
Падобны быў на новы манастыр:
Пякельнікі ў таф'ях і ўласяніцах
Слухмянымі манахамі былі,
А грозны цар ігуменам набожным.
Я бачыў тут—у келіі вось гэтай
(У ёй тады Кірыла жыў пакутны,
Праўдзівы чалавек. Тады ужо
І мне даў бог уразумець нікчэмнасць
Людскіх турбот), тут бачыў я цара
Стамлёнага ад гнеўных дум і кары.
Задумлівы сядзеў між намі Грозны;
Мы перад ім стаялі нерухома,
І ціха ён гамонку з намі вёў.
Ён гаварыў ігумену і брацтву:
„Айцы мае, жаданы прыдзе дзень,
Прыйду сюды, шукаючы збавення.
Ты, Нікадзім, ты, Сергі, ты, Кірыл,
Вы ўсе—зарок прыміце мой духоўны:
Прыду да вас, злачынца акаянны
І схіму тут святую узлажу,
Да ног тваіх, святы айцец, прыпаўшы."
Так гаварыў дзяржаўны гасудар,

І соладка лілася мова з вуснаў—
І плакаў ён. А мы ў слязах малілі,
Хай бог пашле і любасць і спакой
Яго душы пакутнай і бурлівай.
А сын яго Феодар? І на троне
Ён уздыхаў пра ціхае жыццё
Маўчальніка. Ён царскія палацы
Ператварыў у келію для пацер;
Там цяжкія дзяржаўныя клапоты
Святой душы яго не турбавалі.
Бог спадабаў пакорнага цара,
І Русь пры ім у славе ціхамірнай
Займела ўцех—а ў час яго скanання
Нідзе нячутае збылося цуда:
Перад царом, яму адно і бачны,
З'явіўся чалавек, дзівосна светлы,
І распачаў з ім гутарыць Феодар
І называць вялікім патрыярхам,
І ўсе наўкруг былі абняты страхам,
Уразумеўшы ў гэтым прывід неба,
Таму што патрыярх святы якраз
Не быў тады перад царом у храме.
Як толькі-ж ён сканаў, усе палацы
Напоўніліся пахамі святымі,
І твар яго як сонца заяснеў—
Не бачыць больш такога нам цара.
О страшнае, нябачанае гора!
Прагневалі мы бога, саграшылі:
Уладаром сваім царазабойцу
Назвалі мы.

Грыгоры

Даўно, святы айцец,
Хацелася мне запытаць аб смерці
Дзімітрыя царэвіча; тым часам
Ты, кажуць, быў у Вуглічы.

Пімен

Ох, помню!
Судзіў мне бог благую бачыць справу,
Крывавы грэх. Тады я ў дальні Вугліч
Пасланы быў за штосьць на нейкі послух;
Прышоў туды. У час імшы назаўтра
Я чую шум, ударылі ў званы,
Крык, тлум. Бягуць на двор царыцы. Я
Бягу туды-ж—а там ужо ўвесь горад.
Гляджу: ляжыць зарэзаны царэвіч;
Царыца непрытомнее над ім,
У роспачы карміліца галосіць,

А тут народ раз'ятраны цягае
Бязбожную і здрадлівую мамку...
І раптам тут, ад злосці бледны, люты,
З'яўляецца сам Юда Біцягоўскі.
„Вось, вось злачынца!“ лямант скрозь пайшоў,
І ўраз яго не стала. Тут народ
Пабег услед уцёкшым тром забойцам;
Схаваўшыхся злачынцаў захапілі
І прывялі да трупіка дзіцяці,
І—стаўся цуд: нябожчык задрыжэў.
„Пакайцеся!“ народ ім закрычаў:
Жахнуўшыся, злачынцы пад сякерай
Прызналіся—і выдалі Барыса.

Грыгоры

Якіх гадоў царэвіч быў забіты?

Пімен

Гадоў сямі; яму-б цяпер мінула—
(З тых дзён прайшло ўжо дзесяць год... не, болей:
Дванаццаць год)—ён быў-бы твой равеснік
І царстваваў; ды бог судзіў іначай.
Аповесцю журботнай гэтай я
Закончу летапіс; я после мала
Унікаў у справы свету. Брат Грыгоры,
Ты граматай свой розум асвяціў,
Перадаю свой летапіс табе.
У вольны час ад чыннасці духоўнай
Пішы ў яго, без хітрых мудраванняў,
Усё, чаму ў жыцці ты сведкай будзеш:
Вайну і мір, царова кіраўніцтва,
Усякі цуд угоднікаў святых,
Прароцтвы ўсе і спавяшчэнні неба—
А мне пара, пара ўжо супачыць
І пагасіць сваю лампаду... Вось і звон
Да ютрані... благаславі нас, бог,
Сваіх рабоў!.. дай мыліцу, Грыгоры.

(Выходзіць)

Грыгоры

Барыс, Барыс! усе цябе баяцца,
Ніхто табе не важыцца й напомніць
Пра сумны лёс няшчаснага дзіцяці—
А паміж тым манах у цёмнай келлі
Тут на цябе данос жахлівы піша:
І не мінуць табе суда людскога,
Як не мінуць і божага суда.

---

## ПАЛАЦЫ ПАТРЫЯРХА

Патрыярх, ігумен Чудава манастыра

Патрыярх

І ён уцёк, айцец ігумен?

Ігумен

Уцёк, святы ўладыка. Вось ужо таму трэці дзень.

Патрыярх

Шыбеннік праклятты! Ды якога ён роду?

Ігумен

З роду Атрэп'евых, галіцкіх баярскіх дзяцей; замалада стаў манахам невядома дзе, жыў у Суздалі, у Яфімаўскім манастыры, уцёк адтуль, цягаўся па розных манастырах, нарэшце прышоў да майго Чудаўскага брацтва; а я, зважаючы, што ён яшчэ малады і неразумны, аддаў яго пад старшынство айцу Пімену, старцу ціхаму і пакорнаму, і быў ён вельмі пісьменны; чытаў нашы летапісы, складаў каноны святым; ды відаць пісьменнасць далася яму не ад госпада бога...

Патрыярх

Ужо гэтыя мне пісьменныя! што яшчэ выдумаў? буду царом на Маскве! ах, ён пасудзіна д'ябальская! Аднак няма чаго цару і дакладываць пра гэта; навошта турбаваць айца гасудара? Досыць будзе аб'явіць аб гэтым дзяку Смірнову, альбо дзяку Яфім'еву; гэтакая ерась! буду царом на Маскве!.. Злавіць, злавіць бязбожніка, ды й сасланць у Салавецкі на вечнае пакаянне. Гэта-ж ерась, айцец ігумен?

Ігумен

Ерась, святы ўладыка, сапраўдная ерась.

---

## ЦАРСКІЯ ПАЛАЦЫ

Два стольнікі

Першы

Дзе гасудар?

Другі

Вось там, у спачывальні
Замкнуўся ён з якімсь чараўніком.

Першы

Так, вось яго ўлюбёная гамонка:
Варажбіты, знахаркі, чарадзеі.
Гадае ўсё, як тая маладая.
Каб ведаць мне, аб чым варожыць ён?

Другі

Вось ён ідзе. Жадаеш запытаць?

Першы

Які страшны!

(Выходзяць)

Цар (*уваходзіць*)

Дасяг я ўлады поўнай;

Ї шосты год я царствую спакойна.
Але няма мне шчасця. Ці не так
У юнасці кахаем мы і прагнем
Пяшчот, уцех, а як насыцім толькі
Хвілінкаю абладай голад сэрца,
Астыўшы, зноў сумуем у маркоце?..
Дарэмна мне варажбіты прарочаць
Дні доўгія, дні ўлады ціхамірнай—
Не цешыць больш ні ўлада, ні жыццё;
Нябесны гром і гора прадчуваю.
Няма мне ўцех. Я думаў свой народ
У досталі, у славе супакоіць
Ї шчодрасцю любоў яго здабыць—
Але адклаў дарэмныя турботы:
Уладу чэрнь жывую ненавідзіць.
Яны любіць умеюць толькі мёртвых.—
Дурныя мы, калі народны вір
Ці страшны плач трывожыць сэрца наша!
Бог насылаў на край наш галадоўлю,
Народ завыў, канаючы ў пакутах;
Я адчыніў ім жытніцы, я скарбы
Рассыпаў ім, я ім знайшоў работу;
Яны-ж мяне, шалеючы, клялі.
Пажар дамы іх вынішчыў нашчэнт,
Я збудаваў ім новыя мяшканні:
Яны-ж мяне пажарам дакаралі!
Вось чэрні суд: шукай-жа іх любові.
У сям'і сваёй я думаў мець уцеху,
Дачку сваю меў ашчасліўіць шлюбам—
Як бура, смерць забрала жаніха...
Ї погалас зноў здрадна называе
Віноўнікам удоўства даччынога

Мяне, мяне, няшчаснага айца...
Хто ні памрэ, я ўсіх забойца тайны:
Я прыспяшыў Феодара скананне,
Я атруціў сваю сястру-царыцу,
Пакорную манашку... я і я!
Ах! ведаю: нішто не можа нас
Сярод людской пакуты супакоіць;
Нішто, нішто... хіба адно сумленне.
Так, чыстае, яно вяршэнства возьме
Над злобаю, над цёмнаю хлуснёю.
Але калі ў ім пляма хоць адна,
Ну хоць адна часамі завялася,
Тады—бяда! нібы ў якім паморку
Душа згарыць, атрута спаліць сэрца,
Дакор грыміць, як молат, у вушах,
І млосна ўсё, і галава йдзе кругам,
І хлопчыкі крывавыя ў вачах...
Рад уцячы, ды некуды... жахліва!..
Няшчасны той, чыё сумленне ў плямах.

---

## КАРЧМА НА ЛІТОЎСКАЙ ГРАНІЦЫ

Місаіл і Варлаам брадзягі-манахі; Грыгоры Атрэп'еў—міранінам; гаспадыня.

Гаспадыня

Чым-жа гэта мне вас частаваць, старцы добрыя?

Варлаам.

Чым бог пашле, гаспадынька. Ці няма віна?

Гаспадыня

Чаму няма, айцы мае! зараз вынесу.

(Выходзіць)

Місаіл

Што-ж ты зажурыўся, таварыш? Вось і граніца літоўская, да якое гэтак хацелася табе дабрацца.

Грыгоры

Пакуль не буду ў Літве, да тых часоў не буду я спакойны.

Варлаам

Што табе Літва гэтак спадабалася? Вось мы, айцец Місаіл, ды я грэшны, як уцяклі з манастыра, дык ні аб чым ужо і не думаем. А ці Русь, ці Літва, ці гудок ці два: нам усё адно, абы было віно... ды вось і яно!

Місаіл

Складна сказана, айцец Варлаам.

Гаспадыня (*уваходзіць*).

Вось вам, айцы мае. Піце на здароўе.

Місаіл

Дзякую, родная, хай бог цябе благаславіць.

(Манахі п'юць; Варлаам зацягвае песню: „*Как во городе было во Казани*").

Варлаам (*Грыгорыю*)

Што-ж ты не падцягваеш, ды і не пацягваеш.

Грыгоры

Не хачу.

Місаіл

Вольнаму воля...

Варлаам

А п'янаму рай, айцец Місаіл! Вып'ем-жа чарачку за шынкарачку...

„Паглядзі-ж ты, ды люба на мяне".

Аднак, айцец Місаіл, калі я п'ю, дык цвярозых не люблю; адна справа ўпіцца, а другая ганарыцца; хочаш жыць як мы, зрабі ласку— не, дык выбірайся, правальвай: штукар папу не таварыш.

Грыгоры

Пі, ды розуму не губі, айцец Варлаам!.. Бачыш, і я часамі складна гаварыць умею.

Варлаам

А чаму мне губляць?

Місаіл

Пакінь яго, айцец Варлаам.

Варлаам

Ды што ён за святы? Сам-жа да нас навязаўся ў таварышы, нямаведама хто, нямаведама адкуль—ды яшчэ і ганарыцца; можа кабылу нюхаў...

(П'е і спявае „*Молодой чернец постригся*").

Грыгоры (*гаспадыні*)

Куды вядзе гэтая дарога?

Гаспадыня

У Літву, мой саколік, пад Луёвыя горы.

Грыгоры

А ці далёка да Луёвых гор?

Гаспадыня

Недалёка. Да вечара-б можна туды паспець, каб не заставы царскія, ды не вартавыя прыставы.

Грыгоры

Як заставы! што гэта значыць?

Гаспадыня.

Нехта ўцёк з Масквы, а загадана ўсіх затрымліваць ды агляд-ваць.

Грыгоры (*сам сабе*)

Вось табе, бабка, і Юр'еў дзень.

Варлаам

Гэй, таварыш! ды ты да гаспадыні прысуседзіўся. Відаць, не патрэбна табе гарэлка, а патрэбна дзеўка, правільна, брат, правільна! у кожнага свой звычай; а ў нас з айцом Місаілам турбота адна: выпіваем да дна, вып'ем, перакулім і чарачку прытулім.

Місаіл

Складна сказана, айцец Варлаам...

Грыгоры

Ды каго-ж ім патрэбна? Хто ўцёк з Масквы?

Гаспадыня

А бог яго ведае, ці злодзей, ці разбойнік—толькі тут і добрым людзям цяпер праходу няма—а што з таго будзе? нічога; ні лысага чорта не зловяць: нібы ў Літву няма і дарогі іншай, як гасцінец! Вось хоць адгэтуль звярні налева ды борам ідзі па сцежцы да капліцы, што на Чаканскай ручаіне, а там проста цераз балота на Хлопіна, а адтуль на Захарава, а тут ужо кожны хлапчук давядзе да Луёвых гор. Ад гэтых прыставаў толькі і ладу, што прыціскаюць падарожных, ды абіраюць нас бедных. *(Чувацъ шум)*. Што там яшчэ? Ах, вось яны, праклятыя! дазорам ідуць.

Грыгоры

Гаспадыня! ці няма ў хаце другога кутка?

Гаспадыня

Няма, родненькі, рада-б сама схавацца. Толькі слава, што дазорам ходзяць, а падавай ім і гарэлкі і хлеба і няведама чаго—каб ім здохнуць акаянным! каб ім...

(Уваходзяць прыставы).

Прыстаў

Здарова, гаспадыня!

Гаспадыня

Проша, госці дарагія, зрабіце ласку.

Адзін прыстаў (*другому*).

Бач! ды тут п'янства ідзе; будзе чым пажывіцца. (*Манахам*). Вы што за людзі?

Варлаам

Мы божыя старцы, манахі пакорныя, ходзім па вёсках ды збіраем дары хрысціянскія на манастыр.

Прыстаў (*Грыгорыю*)

А ты?

Місаіл

Наш таварыш...

Грыгоры

Міранін з-пад горада; праводзіў старцоў да мяжы, адгэтуль ду дахаты.

Місаіл

Дык ты перадумаў...

Грыгоры (*ціха*)

Маўчы.

Прыстаў

Гаспадыня, пастаў яшчэ гарэлкі—а мы тут са старцамі вып'ем, ды пагутарым.

Другі прыстаў (*ціха*)

Хлопец, здаецца, голы, з яго ўзяць няма чаго, за тое старцы..

Першы.

Маўчы, зараз да іх дабярэмся.—Што, айцы мае? як прамышляеце?

Варлаам

Блага, сыне, блага! Цяпер хрысціяне сталі скупыя; грошы любяць, грошы тояць. Мала богу даюць. Прыдзе грэх вялікі на людзі земныя. Усе пусціліся ў гандаль, у ашуканства, думаюць пра земнае багацце, не пра збавенне душы. Ходзіш, ходзіш, моліш, моліш; іншы раз за тры дні трох грошай не вымаліш. Такі грэх! Пройдзе тыдзень, другі, заглянеш у машонку, аж у ёй так мала, што сорамна ў манастыр паказацца; што рабіць? з гора і рэшту прап'еш; бяда ды і толькі.—Ох, блага, відаць прышлі нашы апошнія часіны...

Гаспадыня (*плача*)

Злітуйся і паратуй, божа!

(Праз увесь час Варлаамавай прамовы першы прыстаў уважліла прыглядаецца да Місаіла).

Першы прыстаў

Алёха! пры табе царскі загад?

Другі

Пры мне.

Першы

Падай сюды.

Місаіл

Што ты на мяне гэтак уважліва глядзіш?

Першы прыстаў

А вось што: з Масквы ўцёк адзін ліхі ерэтык, Грышка Атрэп'еў, ці чуў ты гэта?

Місаіл

Не чуў.

Прыстаў

Не чуў? добра. А таго збеглага ерэтыка цар загадаў злавіць і павесіць. Ці ведаеш ты гэта?

Місаіл

Не ведаю.

Прыстаў (*Варлааму*)

Ці ўмееш ты чытаць?

Варлаам

Замалада ведаў, ды забыўся.

Прыстаў (*Місаілу*)

А ты?

Місаіл

Не судзіў бог.

Прыстаў

Дык вось табе царскі загад.

Місаіл

Нашто ён мне?

Прыстаў

Мне здаецца, што гэты збеглы ерэтык, злодзей, ашуканец—ты.

Місаіл

Я? барані бог! што ты!

Прыстаў

Пастой! трымай дзверы. Вось мы зараз і даведаемся.

Гаспадыня

Ах яны акаянныя мучыцелі! І старцу і таму спакою не дадуць.

Прыстаў

Хто тут пісьменны?

Грыгоры (*выступаючы наперад*)

Я пісьменны.

Прыстаў

Вось на!.. А ў каго-ж ты навучыўся?

Грыгоры

У нашага званара.

Прыстаў (*дае яму загад*)

Чытай-жа ўголас.

Грыгоры (*чытае*)

„Чудава манастыра нягодны манах Грыгоры, з роду Атрэп'евых, упаў у ерась і адважыўся, навучаны д'яблам, бунтаваць святое брацтва ўсялякімі спакусамі і беззаконнямі. А паводле даведак выявілася, збег ён, акаянны Грышка, да мяжы літоўскай...“

Прыстаў (*Місаілу*)

Як-жа не ты?

Грыгоры

„І цар загадаў злавіць яго...“

Прыстаў

І павесіць!

Грыгоры

Тут не сказана павесіць.

Прыстаў

Хлусіш: не кожнае слова ў радок пішацца. Чытай: злавіць і павесіць.

Грыгоры

„І павесіць. А год яму, злодзею Грышку ад роду... (*гледзячы на Варлаама*) за пяцьдзесят, а росту ён сярэдняга, лоб мае плешывы, бараду сівую, пуза тоўстае...

(Усе глядзяць на Варлаама).

Першы прыстаў

Хлопцы! тут Грышка! трымайце, вяжыце яго! Вось дык ужо не думаў, не гадаў.

Варлаам (*вырываючы паперу*)

Адчапіцеся, сукіны дзеці! што я за Грышка? як? пяцьдзесят год, барада сівая, пуза тоўстае! Не, брат! малады яшчэ са мною жарты жартаваць. Я даўно не чытаў, а тут ужо разбяру, як справа да пятлі даходзіць. (*Чытае па складах*) „А год я-му ад ро-ду... 20“.—Што, брат? дзе тут пяцьдзесят, бачыш—дваццаць.

Другі прыстаў

Ага, помніцца, дваццаць. Так і нам было сказана.

Першы прыстаў (*Грыгорыю*)

Ды ты, брат, відаць, забаўнік.

(У час чытання Грыгоры стаіць, апусціўшы галаву, з рукой за пазухай).

Варлаам (*працягвае*)

„А ростам ён малы, грудзі шырокія, адна рука карацейшая за другую, вочы блакітныя, валасы рыжыя, на шчацэ барадаўка, на лбе другая.“ Ды гэта, друг, ці не ты ўжо?

(Грыгоры раптам выймае кінжал; усе перад ім расступаюцца і ён кідаецца ў акно)

Приставы

Трымай! трымай!

(Усе бягуць без ладу)

---

## *МАСКВА, ДОМ ШУЙСКАГА*

Шуйскі, шмат гасцей. Вячэра.

Шуйскі

Віна яшчэ.

(Устае, за ім і ўсе)

Ну, госці дарагія,
Апошні коўш! Чытай малітву, хлопчык.

Хлопчык

Цару нябёс, заўжды і ўсюды існы,
Сваіх рабоў маленне ты пачуй:
Памолімся аб нашым гасудары,
Аб выбраным табой, благачасцівым,
Усіх хрысціян цары самадзяржаўным.
Хавай яго ў палацах, ў полі ратным,
І на шляхах і ў час адпачывання.
Даруй яму над ворагам адолю,
Хай славіцца ад мора ён да мора,
Хай шчасная цвіце яго сям'я,
Хай парасткі яе свать.я ўкрыюць
Усю зямлю—да нас сваіх рабоў
Хай будзе ён, як і раней, ласкавы,
І літасны, і без канца цярплівы,
Хай мудрасці яго невычарпальнай
Крыніцы чыстыя цякуць на нас;
І, царскую на тое ўзняўшы чару,
Мы молімся табе, цару нябёс.

Шуйскі (*п'е*)

Няхай жыве вялікі гасудар!
Даруйце-ж мне вы, госці дарагія;
І дзякуй вам, што вы маёй хлеб солі
Не зганьбілі. Даруйце, добры сон.

(Госці выходзяць, ён праводзіць іх да дзвярэй).

Пушкін

Ледзве выбраліся; ну, князь Васілі Іванавіч, я ўжо думаў, што нам не ўдасца і пагаварыць.

Шуйскі (*слугам*)

Вы чаго рот разявілі? Вам толькі, каб усё паноў падслухоўваць. Прыбірайце са стала, ды ступайце вон.—Што такое, Афанасі Міхайлавіч?

Пушкін

Дзіва, ды й толькі.
Пляменнік мой, Гаўрыла Пушкін, мне
Аж з Кракава ганца прыслаў сягоння.

Шуйскі

Ну.

Пушкін

Дзіўныя пляменнік шле навіны.
Сын Грознага... чакай.

(Ідзе да дзвярэй і аглядвае).

Дзяржаўны хлопчык,
Рукой людзей Барысавых забіты...

Шуйскі

Ды гэта ўжо не нова.

Пушкін

Пачакай:.
Дзімітры жыў

Шуйскі

Вось на! якая вестка!
Царевіч жыў! ну, сапраўды дзівосна.
І гэта ўсё?

Пушкін

Паслухай да канца:
Хто-б ён не быў, царэвіч незабіты,
Ці нейкі дух у вобразе яго,
Ці так шахрай, адважны самазванец,
Ды толькі там Дзімітры заявіўся.

Шуйскі

Не можа быць!

Пушкін

Яго сам Пушкін бачыў,
Як прыязджаў упяршыню ў дварэц
І праз рады паноў ішоў адразу
У тайныя пакоі караля.

Шуйскі

Хто-ж ён такі? Адкуль ён?

Пушкін

Невядома.
Гавораць так, што быў ён за слугу
У Вішнявецкага, што ў час сваёй хваробы,
Прызнаўся ён духоўнаму айцу,
Што горды пан, праведаўшы пра тайну,
Глядзеў яго, падняў яго з пасцелі
І после з ім да Сігізмунда ездзіў.

Шуйскі

Што-ж гутараць аб гэтым малайцы?

Пушкін

Чуваць, што ён разумны, ветлы, спрытны,
Да густу ўсім. Маскоўскіх збеглякоў
Зачараваў. Латынскія папы
З ім заадно. Кароль яму спрыяе,
І абяцаў, гавораць, дапамогу.

Шуйскі

Усё тут, брат, такая завіруха,
Што галава кругом міжвольна пойдзе.
Я ўпэўнены, што гэта самазванец,
Але кажу што небяспекі шмат:
Калі ў народ такая вестка трапіць,
Узнімецца вялікая навала.

Пушкін

Узнімецца такая, што наўрад
Ці цар вянок на галаве ўтрымае.
Яму і след, бо ён кіруе намі,
Як цар Іван (гаворачы не нанач).
Што за карысць, што яўных кар няма,
Што на кале крывавым, пры народзе
Ісусу мы канонаў не спяваем,
Што на пляцы не паляць нас, а цар
Сваім жазлом вуглёў не падграбае?
Ці ўпэўнены ў жыцці мы бедным нашым?
Нас кожны дзень няміласці чакаюць,
Турма, Сібір, кайданы ці клабук,
А там—пятля, ці смерць у глушыні,
Найзнатныя між намі роды—дзе?
Дзе Сіцкія князі, дзе Шастуновы,
Раманавы, айчыны ўсёй надзея?
Сасланы ўсе, замучаны ў выгнанні.
Дай час: табе такая-ж будзе доля.
Ці-ж лёгка нам: мы дома, як Літвой,
Атачаны няверными рабамі.
Скрозь языкі, гатовыя прадаць,
Зладзеі скрозь падкупленыя ўрадам.
Залежым мы ад першага халопа,
Каторага захочам пакараць
Вось—Юр'еў дзень ён скасаваць надумаў.
Неўладны мы ў сваіх маёнтках больш.
Не смей прагнаць лянога. Рад ні рад,
Кармі яго; не смей перацягнуць
Работніка. А то, у Прыказ Халопаў.
Хіба хто чуў хоць пры цары Іване
Такое зло? А ці лягчэй народу?

Спытай яго. Папробуй самазванец
Паабяцаць ім даўні Юр'еў дзень,
І пойдзе зноў пацеха.

Шуйскі

Праўду кажаш.
Ды ведаеш? Аб гэтым аб усім
Мы памаўчым да часу.

Пушкін

Ну, вядома,
Трымай сакрэт. Ты чалавек разумны;
Заўжды з табой пагутарыць я рад,
І калі што мяне падчас турбуе,
Не выцерплю, каб не сказаць табе.
Яшчэ ж твой мёд ды залатое піва
Сягоння так язык мне развязалі...
Бывай-жа; князь.

Шуйскі

Бывай, брат, да спаткання.

(Праводзіць Пушкіна)

---

## *ЦАРСКІЯ ПАЛАЦЫ.*

Царэвіч чэрціць геаграфічную карту. Царэўна. Мамка царэўны.

Ксенія (*цалуе партрэт*).

Любы мой нарачоны, прыгожы каралевіч, не мне ты дастаўся, не сваёй нарачонай, а цёмнай магілцы, на чужой старонцы. Ніколі не суцешуся, вечна па табе буду плакаць.

Мамка

І, царэўна! Дзеўчына плача, што раса падзе; узыйдзе сонца, расу высушыць. Будзе ў цябе другі нарачоны і прыгожы і прыветлівы. Пакахаеш яго, дзіця наша ненаглядвае, забудзешся на свайго каралевіча.

Ксенія

Не, маманька, я і няжывому буду яму верная.

(Уваходзіць Барыс).

Цар

Што, Ксенія? што, любая мая?
У дзеўчынах ужо удоўкай сумнай!
Ты плачаш зноў па мёртвым нарачоным.

Дзіця маё! мне доля не судзіла
Віноўнікам быць вашае уцехі.
Магчыма, я прагневаў бога чым,
Што я твайго не мог уладзіць шчасця.
Нявінная, нашто ж табе пакуты?
А ты, мой сын, што робіш? Гэта што?

Феодар

Чарцёж зямлі маскоўскай; наша царства
Ад краю ў край. Вось бачыш: тут Масква
Тут Ноўгарад, тут Астрахань. Вось мора,
Вось Пермскія гушчэзныя лясы,
А вось Сібір.

Цар

А гэта што такое
Дасэнем тут віецца?

Феодар

Гэта Волга.

Цар

Як хораша! вось добры плён вучэння!
Нібы з-пад хмар ты можаш агляну́ць
Увесь свой край: граніцы, месты, рэкі.
Вучыся, сын: навука скарачае
Нам практыку нядоўга а жыцця—
У пэўны час, і можа неўзабаве,
Усе краі, якія ты сягоння
Нарысаваў так хітра на паперы,
Усе ў руку дастануцца тваю—
Вучыся, сын, і клопаты дзяржавы
Лягчэй і лепш ты будзеш разумець.

(Уваходзіць Сямён Гадуноў).

Вось Гадуноў ідзе ка мне з дакладам.
(*Да Ксеніі*). Душа мая, ідзі ў сваю святліцу;
Бывай, мой друг. Хай бог цябе суцешыць.

(Ксенія з мамкай выходзіць)

Што скажаш мне, Сямён Нікіціч?

Сямён Гадуноў

Сёння
На досвітку ка мне дварэцкі Шуйскіх
І Пушкінаў слуга прышлі з даносам.

Цар

Ну.

Сямён Гадуноў

Пушкінаў слуга данёс спярша
Што з Кракава да іх учора ўранку
Прыбыў ганец і праз гадзіну
Без граматы назад быў адасланы.

Цар

Ганца схапіць.

Сямён Гадуноў

Паслана ўжо ў дагоню.

Цар

А Шуйскі што?

Сямён Гадуноў

Учора частаваў
Сваіх сяброў, абодвых Міласлаўскіх,
Бутурліных, Міхайлу Салтыкова,
Ды Пушкіна—ды некалькіх яшчэ;
Рассталіся пад поўнач. Толькі Пушкін
Сам-на-сам там з гаспадаром застаўся
І доўга з ім ён гутарыў яшчэ.

Цар

У гэты-ж час па Шуйскага пасляць.

Сямён Гадуноў

Ён тут ужо.

Цар

Пакліч яго сюды.

(Гадуноў выходзіць).

У зносінах з Літвою! гэта што?..
Агідны мне род Пушкіных мяцежны,
А Шуйскаму не трэба давяраць:
Няпэўны ён, але адважны й хітры...

(Уваходзіць Шуйскі).

Мне трэба, князь, з табою гаварыць.
Але ты сам, здаецца, маеш справу
І выслухаць хачу цябе спярша.

Шуйскі

Так, гасудар: я абавязан гэта
Табе сказаць.

Цар

Я слухаю цябе.

Шуйскі (*ціха, паказваючы на Феодара*).
Але, мой цар...

Цар

Царэвіч можа ведаць,
Што ведае князь Шуйскі. Гавары.

Шуйскі

Да нас з Літвы прышла, цар, вестка...

Цар

Тая,
што Пушкіну прывёз ганец учора?

Шуйскі

Вядома ўсё... Я думаў, гасудар,
Што ты яшчэ не чуў пра гэту тайну.

Цар

Неважна, князь: хачу абмеркаваць
Я весткі ўсе; не ўведаем іначай
Мы ісціны.

Шуйскі

Я ведаю адно,
Што ў Кракаве з'явіўся самазванец
І што кароль і панства за яго.

Цар

Што-ж гутараць? Хто гэты самазванец?

Шуйскі

Не ведаю.

Цар

А... чым ён небяспечны?

Шуйскі

Бясспрэчна, цар: твая дзяржава ў сіле,
Руплівасцю, стараннямі і ласкай
Сваіх рабоў ты сэрцы ўсынавіў.
Ды ведаеш ты сам: дурная чэрнь—
Здрадлівая, мяцежная, сляпая,
Ідзе за тым слухмяна, хто заве,
Даверліва надзеі ўсе прыймае,

Да ісціны нячулая, глухая,
А байкамі і казкамі жыве.
Да густу ёй ганебная адвага;
І вось калі нязнаны той брадзяга
Літоўскую мяжу пяройдзе дзе,
За ім натоўп вар'ятаў павядзе
Дзімітрыя ўваскрошанае імя.

Цар

Дзімітрыя... Як? гэтага дзіцяці!
Дзімітрыя! Пакінь, царэвіч, нас.

Шуйскі

Пачырванеў: ой, будзе бура!

Феодар

Цар,
Дазволіш мне...

Цар

Не можна, сын, ідзі.

(Феодар выходзіць)

Дзімітрыя!..

Шуйскі

Нічога ён не ведаў.

Цар

Паслухай, князь: цяпер жа ўсё зрабіць,
Каб ад Літвы адгарадзіць Расію
Заставамі; каб ні адна душа
Не перайшла за гэту грань; каб заяц
Не перабег ад Польшчы к нам; каб ястраб
Не прыляцеў з-пад Кракава. Ступай.

Шуйскі

Іду.

Цар

Пастой. Ці-ж праўда, гэта вестка
Забаўная. Ты чуў, скажы, калі,
Каб мёртвыя выходзілі з магілы
Дапытываць цароў, цароў законных,
Прызначаных і выбраных народам,
Увенчаных вялікім патрыярхам.
Смех? праўда? што? што-ж не смяешся ты?

Шуйскі

Я, гасудар?..

Цар

Паслухай, князь Васілі:
Як я пачуў, што хлопчыка таго...
Што хлопчык той нейк загубіў жыццё,
Цябе паслаў на следства я: цяпер
Цябе Хрыстом і крыжам заклінаю,
Па шчырасці мне праўду перадай:
Ці ты пазнаў забітае дзіця,
Ці не было падмена? Гавары.

Шуйскі

Клянуся, цар...

Цар

Не, Шуйскі, не кляніся,
Але скажы: там быў царэвіч?

Шуйскі

Ён.

Цар

Падумай, князь. Я літасць абяцаю,
Былой маны апалаю дарэмнай
Мне не караць. Але калі цяпер
Ты зноў хітрыш, дык галавою сына
Клянуся я—цябе сустрэне кара
Такая, князь, што цар Іван Васіліч
Ад жудасці ў магіле скаланецца.

Шуйскі

Не кары страх; мне страх тваёй няласкі.
Ці-ж я магу хітрыць перад табою?
І хіба мог я гэтак ашукацца,
Што не пазнаў Дзімітрыя? Тры дні
Я труп яго ў сабор хадзіў глядзець
І Вугліч ўвесь мяне туды праводзіў.
Вакол яго трынаццаць цел ляжала,
Раструшчаных народам, і на іх
Прыкметна ўжо гніенне выступала,
Дзіцячы-ж твар царэвіча быў ясны
І свежы быў і ціхі, быццам сонны;
Глыбокая не запяклася рана,
А ў рысах твар зусім не адмяніўся.
Не, гасудар, упэўнен я: Дзімітры
Ў магіле спіць.

Цар (*спакойна*)

Даволі, князь, ідзі.

(Шуйскі выходзіць)

Ух, цяжка як!.. дай дух перавяду—
Я адчуваў: мая ўся кроў у твар
Мне рынула—і цяжка ападала...
Дык вось чаму трынаццаць год падрад
Мне снілася забітае дзіця!
Так, так,—вось што! цяпер я разумею.
Але хто-ж ён, мой грозны супастат?
Хто на мяне? Пустое імя, цень—
Няўжо яны сарвуць з мяне парфіру,
Маіх дзяцей без спадчыны пакінуць?
Шалёны я! чаго-ж я напужаўся?
Адно дзьмухні—і знікне здань зусім.
Дык будзе так: я не праймуся страхам—
А пагарджаць не трэба анічым...
Ох, цяжкая ты шапка Манамаха!

*Пераклаў* ПЯТРО ГЛЕБКА

(*Канец у наступным нумары*)

*Па А. С. Пушкіну*

# КАПІТАНСКАЯ ДАЧКА*

*Сцэнічная перапрацоўка Е. Рамановіча*

„Пушкин принадлежит к вечно движущим и движущимся явлениям, не останавливающимся на той точке, на которой застала их смерть, но продолжающим развиваться в сознании общества. Каждая эпоха произносит о них свое суждение, и как бы ни верно поняла она их, но всегда оставит следующей за ней эпохе сказать что нибудь новое и более верное, и ни одна никогда не выскажет всего".

*В. Белинский.*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

ГРЫНЁЎ Пётр Андрэевіч—сержант гвардыі Сямёнаўскага палка. Пасля прапаршчык гарнізона Белагорскай крэпасці. Малады чалавек.
САВЕЛЬІЧ (Архіп Савельіч)—стары „дзядзька", былы страмянны.
ЗУРЫН, Іван Іваныч—гусарскі ротмістр.
РЭЙНСДОРП, Андрэй Карлавіч—генерал.
МІРОНАЎ, Іван Кузміч—капітан. Камендант Белагорскай крэпасці:
ВАСІЛІСА ЕГОРАЎНА—камендантша, яго жонка.
МАР'Я ІВАНАЎНА—Маша—іх дачка, маладая дзяўчына.
ПАЛАШКА—пакаёўка, прыгонная дзяўчына.
ШВАБРЫН, Аляксей Іванавіч—афіцэр гарнізона Белагорскай крэпасці.
ІВАН ІГНАЦЬЕВІЧ—афіцэр гарнізона Белагорскай крэпасці.
МАКСІМЫЧ—казак, ураднік гарнізона Белагорскай крэпасці.
ПУГАЧОЎ—правадыр сялянскага паўстання. Данскі казак, 38 год.
ЧУМАКОЎ—яіцкі казак. Памочнік Пугачова.
„ХЛАПУША" (Афанасій Сокалаў, 45 год) прыгонны уральскіх заводаў. Адзін з кіраўнікоў паўстання.
БЕЛАБАРОДАЎ—55 гадоў—селянін. Фельдмаршал паўстанчаскага войска.
Кіргіз.
Обер-сакратар Пугачова.
ЮЛАЙ.
Башкірац
Генерал
Капітан
Калежскі саветнік
Вахмістр.
Ваенны пісар.
Салдаты, паўстанцы, народ.

* У сцэнічнай перапрацоўцы аповесці А. С. Пушкіна „Капітанская дачка" скарыстаны: матар'ял самой аповесці, „Маніфест Пугачова абшарніцкім сялянам 31-га ліпеня 1774 г.", сустрэча Пугачова з графам Паніным і інш. з „Гісторыі Пугачова" А. С. Пушкіна.

## АКТ ПЕРШЫ

### СЦЭНА І-я

Лучына асвятляе цесны, але досыць чысты пакой. На сцяне вісіць стрэльба і высокая казацкая шапка. Чумакоў—гадоў шасцідзесяці—свежы і бадзёры яіцкі казак, сядзіць каля лучыны, вострыць шаблю. За акном вые буран.

Чумакоў (*пяе*).

„Старана мая, староначка,
Старана незнаёмая.
Што не сам ці я на цябе зайшоў,
Што не добры ці ды мяне конь завёз:
Завезла мяне, добрага малайца
Спрыт бадзёрасць маладзецкая
І хмялінačка кабацкая.

(Чуваць набліжаючыйся звон бубянцоў. Чумакоў прыслухоўваецца. Стук у дзверы. Чумакоў здымае ліхтар, запальвае яго, ідзе адчыняе дзверы).

Савельіч (*за сцэнай*). Выходзь, васпан,—прыехалі.

Грынёў. Куды прыехалі?

Савельіч (*уваходзіць, абівае снег, азіраецца*). На заезны двор, гасподзь дапамог, наткнуліся проста на плот. Уваходзь, васпан, хутчэй, ды абагрэйся.

Грынёў (*уваходзіць. Савельіч дапамагае яму скінуць лісіную футру і заячы кажух*). Ну, вось, бачыш і знайшлі жыллё, укрыліся ад бурана. А ты ўжо быў спалохаўся, хацеў назад варочацца...

Савельіч. А куды спяшацца? Добра-б на вяселле, а то... Без павадыра не знайшлі-б дарогі, не даехалі...

Грынёў. А дзе-ж павадыр?

Пугачоў (*які ўвайшоў крыху раней і зараз грэецца каля печы*). Тут, ваша благародзіе.

Грынёў. Што, браце, прамёрз?

Пугачоў. Як не прамёрзнуць у аднэй благой світцы? Быў кажух, ды што тут таіцца, заклаў учора ў карчмара. Мароз здаўся невялічкім.

Грынёў. Савельіч, скажы гаспадару, каб загатаваў чаю. (*Да Пугачова*). Вып'еш кубачак, абагрэешся.

Пугачоў. Ваша благародзіе. Зрабіце мне такую міласць, загадайце паднесці шклянку віна; чай не наша казацкае пітво.

Грынёў (*да Чумакова*). Гаспадар. Штоф віна і шклянку.

(Чумакоў вымае з шафы штоф і шклянку, падыходзіць)

Грынёў (*паказвае на Пугачова*).Налі яму.

Чумакоў (*наліваючы ўглядаецца ў Пугачова*). Эхе. Ізноў ты ў нашым краі. Адкуль бог прынёс?

Пугачоў (*падміргнуўшы*). У агародзе лётаў, каноплі дзюбаў, кінула бабулька каменчыкам—ды міма. Ну, а што вашы?

Чумакоў. Ды што нашы... Пачалі былі да вячэрні званіць—ды пападдзя крычыць: поп у алтар—чэрці на цвінтар.

Пугачоў. Маўчы, дзядзя. Будзе дожджык, будуць і грыбкі, а будуць грыбкі, будзе і кошык. А цяпер (*красамоўна падміргнуўшы*

*нуў*) заткні сякеру за пояс: ляснічы ходзіць. (*Да Грынёва*). Ваша благародзіе, за ваша здароўе. (*Выпівае разам шклянку*).

Грынёў (*падыходзіць*). Будзь здароў. Без цябе загінулі-б мы ў буране. Я чуў пра тутэйшыя завірухі.

Пугачоў. Здаралася, што цэлыя абозы заносіла.

Грынёў. Выехалі мы—было чыстае неба і толькі дзесьці, на самым небасхіле, невялічкае белае воблачка... І раптам зрабілася завіруха. Я глянуў з кібіткі... Цемра і віхор. Вецер гудзеў з такой шалёнай выразлівасцю, што здаваўся мне жывым. Снег засыпаў нас. Коні сталі. Каля кібіткі ўздымалася гурба. Я глядзеў ва ўсе бакі, спадзяючыся ўбачыць хоць якія адзнакі жылля. Аднак, нічога не мог разгледзець, апрача мутнага кружэння завірухі. І раптам я ўбачыў нешта чорнае і загадаў ехаць на незнаёмы прадмет. Гэта з'явіўся ён. (*Паказвае на Пугачова*).

Пугачоў. Старана мне знаёмая. Дзякаваць богу, выхаджана, з'езджана ўдоўж і ўпоперак.

Грынёў. Усё-ж, у такі буран вывесці на дарогу, давесці да начлега...

Пугачоў. Вецер, дымам дзьмухнула—ну, значыць, дзякуй богу, жыллё недалёка: паварачвай ямшчык у права, ды яжджай—сяліба блізка.

Грынёў. Кемнасць—проста дзіва. Савельіч, дай яму паўрубель на гарэлку.

Савельіч (*нахмурыўся*). Поўрубля на гарэлку? За што гэта? Затое, што ты-ж сам меў ласку падвезці яго да заезнага двара? Воля твая, дабрадзей, няма ў нас лішніх грошай. Усякаму на гарэлку даваць, дык самому хутка галадаваць давядзецца.

Грынёў. Добра. Калі не хочаш даць поўрубля, дык дай яму што-небудзь з маёй адзежы. Ён апрануты занадта лёгка. Дай яму мой заячы кажух.

Савельіч. Змілуйся, бацюхна, Пётр Андрэіч. Навошта яму твой заячы кажух? Прап'е ён яго, сабака, у першай-жа карчме.

Пугачоў (*насмешліва*). Гэта ўжо, старэнькі, не твая бяда, прап'ю я ці не. Яго благародзіе мне футру дарує з свайго пляча. На тое яго панская воля, а твая халопская справа не спрачацца, а слухацца.

Савельіч (*злосна*). Бога ты не баішся, разбойнік. Ты-ж бачыш, што дзіця яшчэ не разумее, а ты і рады яго абабраць дзеля яго прастаты. Навошта табе панскі кажушок? Ты-ж і не нацягнеш яго на свае акаянныя плячышчы.

Грынёў. (*Савельічу грозна*). Прашу не разважаць. Зараз-жа нясі сюды кажух.

Савельіч (*жахліва*) Божа літасцівы. Заячы кажух, зусім навенечкі. І добра-б яшчэ каму—а то п'яніцы ачмурэламу... (*Прыносіць кажух*).

Пугачоў (*бярэ яго, прымервае*). Дзякую, ваша благародзіе. Надары вас, божа, за ваша дабрадзейства. Век не забуду вашых міласцей. (*Нізка кланяецца. Кажух разлазіцца па швах. Пугачоў і Чумакоў дружна рагочуць. Савельіч з жахам глядзіць на гэтую сцэну*).

Зурын (*за сцэнай*). Гэй, хто тут ёсць? Гаспадар... (*уваходзіць у хату, за ім вахмістр уносіць пакункі*). Хто тут гаспадар?

Чумакоў. Я—гаспадар. Што загадаеце, ваша благародзіе?

Вахмістр. Высокаблагародзіе.

Чумакоў. Даруйце, высокаблагародзіе.

Зурын. Коням аўса і сена, ды жвавей паварочвайся.

Чумакоў (*хмура*). Няма ў мяне ні аўса, ні сена.

Зурын. Як гэта няма? Ты мне не хлусі. Знайду сена, цябе адлупцую.

Чумакоў. Няма ваша высокаблагародзіе. Сёння раніцою кірасіры тут праходзілі, забралі сена, авёс.

Зурын. Ведаць не ведаю, каб мне было, ды зараз-жа.

Савельіч (*ціха да Грынёва*). Чуеш, дабродзей, на чым-жа ты спаць будзеш? Трэба забраць наша сена з кібіткі, а то яшчэ... На гэтых ваякаў пакласціся нельга... (*Бярэ посцілку, хутка выходзіць*).

Зурын. Шалёны буран, мы ледзьве выбраліся. (*Падыходзіць да Грынёва*). З кім маю гонар?

Грынёў. Гвардыі Сямёнаўскага палка сержант Грынёў.

Зурын. Зурын.

Грынёў. Вельмі прыемна.

Зурын. Ротмістр. Гусар, Іван Іванавіч.

Грынёў. Пётр Андрэевіч. Вельмі рады знаёмству, пане ротмістр.

Зурын. У карты гуляеце?

Грынёў. Вельмі дрэнна.

Зурын. Я вас навучу. Гэта неабходна для нашага брата служывага. У паходзе, напрыклад, прыдзеш у мястэчка—чым загадаеш займацца? Хочаш не хочаш пойдзеш у шынок і пачнеш гуляць на більярдзе, альбо ў карты, а для гэтага неабходна ўмець гуляць.

Грынёў. Рэзон.

Зурын. Вахмістр, дастань карты. Будзем гуляць на грошы па аднэй капейцы. Не для выйгрышу, а так, каб толькі не гуляць дарма, бо гэта вельмі дрэнная звычка. (*Крычыць*). Гаспадар!

Чумакоў. Што загадаеце, ваша высокаблагародзіе?

Зурын (*паказвае на Пугачова*). Гэта што ў цябе тут за людзі?

Чумакоў. Ды так, чалавек, падарожнік.

Зурын. У шыю гані, у шыю! Тут ротмістр Зурын будзе адпачываць, зразумеў? Гусарскі ротмістр!

Чумакоў. Як-жа я чалавека ў такі буран з хаты выганю?

Зурын. А мне што за справа. Хай ідзе на стайню!

Грынёў. Іван Іванавіч. Я вас прашу, не рушце яго: ён вывеў нас з бурану...

Зурын. Кіньце, сержант, нічога з ім не здарыцца. Гэта такі народ...

Грынёў. Іван Іванавіч...

Пугачоў. Ваша благародзіе, не трэба... Нам з яго высокаблагародзіем усёроўна тут цесна будзе.. яшчэ таго, *(варухнуў плячыма)* хата разваліцца... *(Зарагатаў і вышаў разам з Чумаковым).*

Зурын *(крычыць).* Вахмістр! *(Пасля паўзы махнуў рукою).* Чорт з ім. Вахмістр, дай нам віна. *(Да Грынёва)* Вып'ем!

Грынёў. Мерсі. Я віна не п'ю.

Зурын. Паспрабуйце, малады чалавек. Да ваеннай службы трэба прызвычайвацца, а без віна—якая служба. *(Яны ўселіся за стол, гуляюць у карты. Вахмістр дастае віно. Гуляючы, Грынёў і Зурын, часам выпіваюць).* Я тут раз'яжджаю па гарадах, прысутнічаю на прыёме рэкрутаў. У Орэнбургу мне давялося гуляць з Андрэем Карлавічам, генералам Рэйнсдорпам...

Грынёў. Генералам Рэйнсдорпам? У мяне якраз пісьмо да яго ад майго бацькі.

Зурын. Прашу козыра. А хто ваш бацька?

Грынёў. Бацька мой Андрэй Пятровіч Грынёў, у маладосці сваёй служыў пры графе Мініху і вышаў у адстаўку прэм'ер-маёрам...

Зурын. Б'ю вашу дзевятку...

Грынёў. Трэба сказаць, што я ўжо гвардыі сержантам быў прыпісаны ў Сямёнаўскі полк яшчэ ў той час, калі знаходзіўся ў матчыным чэраве.

Зурын *(рагоча).* Ваш ход.

Грынёў. Калі мінула мне шаснаццаць год, лёс мой перамяніўся

Зурын. Хадзіце з казыроў.

Грынёў. Прашу... „Пара яго ў службу", сказаў татка. Я уяўляў сябе ў Пецярбургу афіцэрам гвардыі...

Зурын *(напявае песенку, крычыць).* Вахмістр,—налі. *(Вахмістр падае, Зурын налівае, падае Грынёву).* Вып'ем за Пецярбург. *(Чокаюцца, выпіваюць).*

Грынёў. Аднак, татка сказаў: „Петруша ў Пецярбург не паедзе".

Зурын. Гм... Вось як? Б'ю вашага караля!

Грынёў. „Чаму навучыцца ён, служачы ў Пецярбургу", кажа татка, „марнатраўству, ды распусце"...

Зурын. Го-го-го... Лоўка... Б'ю вашу даму!

Грынёў. Не, кажа татка, хай ён паслужыць у арміі, ды пацягне лямку, ды панюхае пораху, ды будзе салдат, а не шаматон.

Зурын. Аднак, ваш бацька, таго... стары сухар!

Грынёў. Усе мае бліскучыя надзеі зніклі. І вось я тут, у чорта на кулічках.

Зурын. Спачуваю вам, малады чалавек. Вып'ем! *(Чокаюцца, выпіваюць).* Вы прагулялі мне сто рублёў, дарагі мой!

Грынёў *(з жахам).* Сто рублёў?... Але ў мяне няма пры сабе столькі грошай. Прашу выбачэння, яны ў Савельіча.

Зурын. Глупства. Не клапаціцеся. Я магу і пачакаць. Гэй, вахмістр! Трэба глянуць, а то гэтыя разбойнікі яшчэ скрадуць нашых коней. *(Выходзіць разам з вахмістрам).*

(Грынёў парадкам захмялеў, ён хістаючыся ходзіць па хаце. Уваходзіць Савельіч, заўважае хістанні Грынёва).

Савельіч. Што гэта, дабродзей, з табою зрабілася? Калі гэта ты паспеў нагрузіцца? Ах ты, божа мой, ад роду такога грэху не бывала...

Грынёў *(запінаючыся)*. Маўчы, хрыч. Ты, мабыць, п'яны. Пайшоў спаць... і мяне ўкладзі...

Савельіч *(падтрымлівае Грынёва)*. Рана, Пётр Андрэіч, рана гуляць пачынаеш. І ў каго ты ўдаўся? Здаецца, ні татка, ні дзедка п'яніцамі не былі, пра матуленьку і гаварыць няма чаго, зроду апрача квасу ў рот нічога не ізволілі браць. А хто ўсяму віна-ваты? Праклятьі мусью. То і глядзіш, бывала, да Анціпьеўны заскочыць: „мадам, жэ ву пры гарэлкю"... Вось табе і жэ ву пры. Няма чаго сказаць, дабру навучыў сабачы сын. І трэба было наймаць у дзядзькі басурмана, вібыта ў пана і сваіх людзей не хапала...

Грынёў. Пайшоў вон, Савельіч.

(Уваходзіць вахмістр, гаворыць да Грынёва).

Вахмістр. Яго высокаблагародзіе, просіць ваша благародзіе сто рублёў, якія вы, ваша благародзіе прагулялі яго высокаблагародзію!

Грынёў. Савельіч аддай яму сто рублёў.

Савельіч. Як? Сто рублёў? Навошта?

Грынёў. Я іх яму вінен.

Савельіч *(здзіўлена)* Вінен? Сто рублёў? Ды калі-ж гэта ты, дабродзей, паспеў іх у яго пазычыць. Тут нешта не добра. Воля твая, васпан, а грошы я не выдам.

Грынёў *(грозна)*. Я твой пан, а ты мой слуга. Грошы мае. Я іх прагуляў, таму што так мне захацелася. А табе раю не разважаць, а рабіць тое, што табе загадваюць. *(Пасля паузы)*. Чаго-ж ты стаіш?

Савельіч. Бацюхна, Пётр Андрэіч. Свет ты мой, паслухай ты мяне, старога, скажы гэтаму разбойніку, што ты пажартаваў, што ў нас і грошай такіх няма... Сто рублёў! Божа літасцівы! Скажы, што табе бацькі наказ суровы далі, не гуляць, апрача, як на арэхі.

Грынёў *(раззлавана)*. Хопіць хлусні. Давай сюды грошы, ці я цябе... *(Выхапіў шпагу, бегае за Савельічам)*.

Савельіч. Божа, дзіця з розуму сыйшло.

## СЦЭНА 2-я

(Орэнбург. Сцэна адбываецца на фоне заслоны. Уваходзіць Рэйнсдорп, трымаючы ў руках пісьмо, за ім Грынёў).

Андр. Карл. *(Пазірае на Грынёва, паволі раскрывае пісьмо)*.

Грынёф—пожа мой. Ці дафно стаецца, Антрэй Пятрофіч быў яшчэ тваіх гатоў, а цяпер вось ушо які ў яфо малайцец. Ах, шасы, шасы... *(Чытае пісьмо, пра сябе)*. „Міласцівы гасутар Антрэй Карлафіч, спадзяюся, што ваша прэвасхадзіцельства"... гэта што за сэрэмоніі... Фуй. Як яму не сарамна. Зразумела, дысцыпліна—першая справа, але ці так пішуць да старога камрад—„ваша прэ-

васхадзіцельства не забыла“... гм... і... калі... нябошчыкам... фельдмаршалам Мін... паходзе... таксама і Каралінку“... (*дробна рагоча*). Эх, брудэр, дык ён яшчэ памятае стары наш проказ? (*Напявае фрывольную песеньку. Заўважыў утаропіўшагася Грынёва, змяніў тон*). „Цяпер аб справе... да вас майго гультая“... гм... „трымаць у ешовых рукавіцах“... Што такое ешовы рукавіцы? Гэта мабыць руска прыказка? (*да Грынёва*). Што такое „трымаць у ешовых рукавіцах“?

Грынёў. Гэта значыць... Ну, як бы сказаць... абыходзіцца ласкава, не надта сурова, даваць пабольш волі... ну... адным словам... трымаць у ежовых рукавіцах...

Андр. Карл. Гм... разумею... (*чытае*) „і не даваць яму волі“... (*Пауза. Падумаў, хітра глянуў на Грынёва*). Не, відаць, ешовы рукавіцы азначаюць не тое... „Пры гэтым яго пашпарт“... Дзе-ж ён? Ага, вось... (*чытае пашпарт*) „Адпісаць у Сямёнаўскі“... Добра, добра, усё будзе зроблена... Ты будзеш афіцэрам пераведзены ў полк і каб табе не траціць дарма часу, ты заўтра-ж яжжай у Белагорскую крэпасць, дзе ты будзеш пад камандай капітана Міронава, добрага і сумленнага чалавека. Там ты будзеш на службе сапраўднай, навучышся дысцыпліне. У Орэнбургу табе рабіць няма чаго, безуважлівасць шкодна маладому чалавеку.

(Выходзіць. Грынёў ідзе за ім следам).

## СЦЭНА 3-я.

Крэпасць. Частка сцяны і двор. Каля сцяны старая чыгунная гармата, ля яе вартавы. Справа ганак, уваход у невялічкі драўляны дом каменданта.

Чысценькі пакой, прыбраны па старажытнаму. У кутку шафа з пасудай, на сцяне, пад шклом у рамцы афіцэрскі дыплом і два лубачных малюнкі, якія ўяўляюць узяцце Кістрына і Очакова, а таксама выбар нявесты і пахаванне ката.

Ля акна сядзіць Маша і, падпёршы галаву рукамі, лятуценна глядзіць у воддаль.

У пакоі, каля печкі, у глыбокім крэсле сядзіць камендантша Васіліса Егораўна; яна ў целагрэйцы з хусткаю на галаве, разматвае ніткі, якія на разапнутых руках, седзячы на пуфіку каля яе ног, трымае Іван Ігнацьевіч.

На двары крэпасці камендант Міронаў ў калпаку і кітайчатым халаце муштруе салдат, старых інвалідаў з даўгімі косамі ў трохвуголках.

Салдаты, маршыруючы, спяваюць:

„Мы ў фартэцыі жывем,
Хлеб ядзім і ваду п'ем.
А як прыдуць ворагі—
Ды да нас на пірагі,—
Пачастуем іх гарбатай
Ды карцечаю з гарматы.

Камендант. Раз-два! Раз-два!

Васіл. Егор. устае, выходзіць на ганак, глядзіць на маршыроўку салдат, падыходзіць да вартавога, які стаіць ля гарматы. Заўважыўшы падыходзячую да яго камендантшу, вартавы падцягваецца. Васіліса Егораўна аглядае яго з усіх бакоў, мацае на ім ранец, пояс і ўсю выкладку. Агледзеўшы, варочаецца ў пакой і пачынае зноў матаць ніткі.

Палашка (*сядзіць на ганку, пяе*):

„Ах ты, дзеўка, дзеўка красная,
Не хадзі, дзеўка малада, замуж.
Ты спытай, дзеўка, бацьку, матухну,
Бацьку-матухну, роду-племені,
Назбірай, дзеўка, ума-розуму,
Ума-розуму—пасаг свой.“

Уваходзіць Грынёў, азіраецца, падыходзіць да Палашкі.

Грынёў. (*Голасна ні да каго*). Куды гэта мяне занесла? На граніцу кіргіз-кайсацкіх стэпаў... Дзе-ж тут крэпасць? (*Глядзіць на Палашку*).

Палашка (*разгублена*). Крэпасць?.. Ды... вось яна. Крэпасць.

Грынёў. А дзе я магу бачыць каменданта, капітана Міронава?

Палашка. Уваходзь, бацюхна, нашы дома.

Грынёў уваходзіць на ганак, у дзвярах сустракаецца з Машай, якая крыху раней заўважыла яго з акна і шпарка збегла ўніз насустрач.

Маша здзіўлена аглядае Грынёва, калі той уваходзіць, яна шэпчацца з Палашкай і час ад часу падглядае ў вакно і дзверы.

Васіл. Егор. (*да ўваходзячага Грынёва*). Вы што хацелі, бацюхна?

Грынёў. Я прыехаў на службу... і... і... (*становіцца перад Іванам Ігнацьевічам ва фронт*) з'явіўся па абавязку свайму к пану капітану...

Вас. Егор. (*перапыняе*). Івана Кузміча няма дома. Ды гэта ўсё-роўна, бацюхна. Я яго гаспадыня—прашу! зрабіць ласку. Сядай, бацюхна. (*Крычыць*). Дзеўка! Палашка! (*Палашка ўваходзіць*). Крэсла пану афіцэру. Пакліч сюды ураднiка.

Іван Ігн. (*да Грынёва*). Адважуся запытацца,—вы ў якім палку мелі гонар служыць?

Грынёў. У Сямёнаўскім.

Іван Ігн. Адважуся спытацца, а навошта вы перайшлі з гвардыі ў гарнізон?

Грынёў. Такая была воля начальства.

Іван Ігн. Пэўна, за непрыстойныя гвардыі афіцэра, учынкі?

Вас. Егор. Хопіць глупства вярзці, Іван Ігнацьевіч. Ты-ж бачыш, малады чалавек стаміўся ў дарозе, яму не да цябе... Трымай рукі раўней... (Да Грынёва) А ты, мой бацюхна, не засмучайся, што цябе загналі ў нашу глуш. Не ты першы, не ты апошні. Сцерпіцца злюбіцца. Швабрын, Аляксей Іванавіч, вось ужо пяты год, як да нас пераведзены за смертазабойства. Бог ведае, які грэх яго спакусіў. Ен, ці бачыш, паехаў за горад з адным паручыкам, ды ўзялі з сабою шпагі, ды давай адзін у аднаго тыркаць. А Аляксей Іванавіч і закалоў паручыка, ды яшчэ пры двух сведках. Ну, што загадаеш рабіць? На грэх майстра няма.

(Уваходзіць Максімыч).

Васіл. Егор. (*да ўрадніка*). Максімыч! Адвядзі пану афіцэру кватэру, ды чысцейшую...

Максімыч. Слухаю, Васіліса Егораўна. Ці не змясціць яго благародзіе ў Івана Палежаева?

Вас. Егор. Ілжэш, Максімыч. У Палежаева і так цесна, ды і ён-жа мне кум і памятае, што мы яго начальнікі. Адвядзі пана афіцэра... *(Да Грынёва)*. Як ваша імя і па бацьку, мой бацюхна?

Грынёў. Пётр Андрэевіч.

Вас. Егор. Пётр Андрэевіч. Адвядзі Пятра Андрэевіча к Сямёну Кузаву. Ён, нягоднік, каня свайго пусціў у мой агарод.

Максімыч. Слухаю, Васіліса Егораўна.

Вас. Егор. Ну, што, Максімыч, ці ўсё ў парадку?

Максімыч. Усё, дзякаваць богу, ціха. Толькі вось капрал Прохараў пабіўся ў лазні з Усцінен Негулінай за ражку гарачай вады.

Вас. Егор. *(гнеўна)*. Іван Ігнацьіч, разсудзі Прохарава з Усціней—хто правы, хто вінаваты, ды абодвых і пакарай. Ну, Максімыч, ідзі сабе з богам. Пётр Андрэіч, Максімыч правядзе вас на вашу кватэру.

Грынёў. Шчыра дзякую вам, Васіліса Егораўна.

(Цалуе руку, адкланьваецца. Выходзіць разам з Максімычам. На ганку ён зноў сустракаецца з Машай, якая ішла з Палашкай. Яны доўга глядзяць адзін на аднаго. Грынёў казырае, наважыўся падыйсці прадставіцца, але Маша, апусціўшы вочы, шпарка ўваходзіць у дом. Палашка за ёю. Грынёў пазірае ім услед).

Святло выключаецца. Цёмна. Музыка. Мінуў дзень. Калі святло запальваецца зноў Маша сядзіць ля акна і падпёршы галаву рукамі, лятуценна глядзіць у воддаль. На двары крэпасці маршыруюць салдаты, пад каманду камэнданта. Салдаты спяваюць:

„Мы ў фартэцыі жывем,
Хлеб ядзім і ваду п'ем.
А як прыдуць ворагі,
Ды да нас на пірагі,
Пачастуем іх гарбатай,
Ды карцечаю з гарматы."

Камендант. Раз-два. Раз-два. *(Выводзіць салдат са сцэны)*.

Уваходзіць Грынёў. Ён аглядае сцяну крэпасці. Падыходзіць да доміка камэнданта, углядаецца ў акно, заўважае там Машу, казырае ёй. Маша схавалася, захінуўшы фіранкі на вакне.

Уваходзіць Швабрын, зірнуў на Грынёва, на акно Машы, падыходзіць бліжэй.

Швабрын. Пардон. Выбачце мяне, што я без цэрамоніі падыходжу да вас знаёміцца. Учора я даведаўся аб вашым прыездзе і... жаданне ўбачыць, нарэшце, чалавечае аблічча так мною заўладала, што я не вытрымаў. Вы гэта зразумееце, калі пражывеце тут яшчэ некалькі часу.

Грынёў. Мне пра вас гаварылі. Я адразу-ж здагадаўся, што гэта вы той, якога перавялі з гвардыі сюды за смертазабойства, як выказалася паважаная камендантша Васіліса Егораўна...

Швабрын *(з гонарам)* За дуэль.

Грынёў. Ды я разумею. Будзем знаёмы. *(Працягвае руку)*. Грынёў.

Швабрын *(паціскае руку)*. Швабрын.

Грынёў *(абводзіць наўкола рукою)*. Я чакаў убачыць грозныя бастыёны, вежы, вал, але нічога не ўбачыў апрача вёскі, абкружанай плотам з бярвенняў.

Швабрын *(іранічна)*. Белагорская крэпасць...

Грынёў. Гарнізоннае жыццё мяне мала вабіць*(Пазірае ў акно)*.

Швабрын *(сочыць за ім)*. Капітанская дачка.

Грынёў. Мар'я Іванаўна. Маша.

Швабрын. А вы паспелі ўжо пазнаёміцца? Павінен вам сказаць, што яна таго... *(паказвае на галаву)*. Розумам не багатая..

Грынёў. А як камендант, капітан Міронаў? Пэўна, сварлівы, грозны стары, які нічога не ведае апрача сваёй службы і будзе за ўсялякае глупства, саджаць мяне пад арышт, на хлеб і ваду?

Швабрын *(рагоча)*. Іван Кузміч? Не. Васіліса Егораўна, жонка яго, вось гэта іншая справа. Яна ім кіруе, а ён бесклапотны; Васіліса Егораўна і на службовыя справы глядзіць, як на свае гаспадарскія і кіруе крэпасцю гэтак-жа сама, як і сваім дамком.

Грынёў. Капітанша? *(Яны рагочуць)*.

Швабрын. Івана Ігнацьевіча, паручыка ведаеце? *(Крывіць плечы, паказваючы яго сутулую фігуру)*. З Васілісай Егораўнай, з капітаншай... *(шэпча Грынёву на вуха)*. У недазволенай сувязі... *(дробна смяецца)*

Грынёў *(гідліва адхіліўся)*. Няпраўда... Не паверу...

(Выбягае Палашка, гаворыць да Грынёва)

Палашка. Пані камендантша просіць вас да іх на абед.

Грынёў. Перадай Васілісе Егораўне, што я з прыемнасцю прымаю яе запрашэнне і зараз прыйду.

Швабрын. Ідзем. Я з вамі разам.

(У гэты момант камендант выводзіць сваіх інвалідаў, маршыруе з імі. Грынёў і Швабрын наглядаюць).

Камендант. Раз-два. Раз-два. Аддзяленне, стой. Раўнуйся... *(поварачваецца да Грынёва і Швабрына, казырае, ківае галавою на інвалідаў)*. Арлы... Муштрую, муштрую і ніяк не магу навучыць— дзе правая, дзе левая рука. Ну, вы, таго, ідзіце да Васілісы Егораўны. Я зараз буду, а тут вам няма чаго глядзець.

(Грынёў і Швабрын уваходзяць у дом)

Камендант. Аддзяленне напра-ва! *(Салдаты паварачваюцца хто куды. Камендат крычыць)*. Направа! Права! Права!.. Марш!.. Раз-два. Раз-два!..

Салдаты співаюць: *„Мы ў фартэцыі жывем“* і. г. д., выходзяць са сцэны).

Вас. Егор. *(уваходзіць—сустракае Грынёва і Швабрына, якія з ёю вітаюцца, цалуюць руку)*. Што гэтай мой Іван Кузміч сёння так завучыўся. Палашка, пакліч пана каменданта абедаць. Скажы Івану Кузмічу—госці чакаюць, боршч прастыне; дзякуй богу, вучэнне не ўцячэ, паспее накрычацца. Ды дзе-ж гэта Маша? *(Кліча)*. Маша!

(Маша ўваходзіць, кланяецца афіцэрам і сарамліва апусціўшы вочы, сядае ў куток. Усе селі).

Вас. Егор (*да Грынёва*) Ну. Расказвай, бацюхна, пра бацькоў, расказвай. Хто яны? Дзе жывуць?

Грынёў. Бацька мой Андрэй Пятровіч Грынёў, прэм'ер-майор у адстаўцы, з матулею Аўдоўццей Васільеўнай, жывуць, у добрым здароўі, у сваёй вёсцы Сімбірскай губерніі.

Вас. Егор. Ці багата жывуць? Якую маёмасць маюць?

Грынёў. Трыста душ сялян.

Вас. Егор. (*здзіўлена*). Трыста душ. Лёгка сказаць. Трыста душ. Вось ёсць-жа на свеце багатыя людзі. А ў нас, мой бацюхна, усяго й душ—адна дзеўка, Палашка; ды дзякаваць богу, жывем памаленьку. Адна бяда: Маша дзеўка на выданні, а які ў яе пасаг,—часты грэбень, пусты кошык, ды тры капейкі грошай; даруй божа з чым у лазню схадзіць. Добра, калі знойдзецца добры чалавек, а то сядзі сабе ў дзеўках векавечнай нявестай.

(Ідзе насустрэч уваходзячаму каменданту; Маша, засароміўшыся шпарка выбягае.

Швабрын (*ёй услед іранічна*). Нявеста...

Вас. Егор. (*Івану Кузьмічу грозна*). Што гэта, мой бацюхна? Ежа даўным даўно гатова, а цябе недаклічашся?

Камендант (*нясмела*). Я, Васіліса Егораўна, быў заняты службай. Салдатушак вучыў.

Вас. Егор. Годзе ўжо. Толькі й слава, што салдат вучыш: ні ім служба не даецца, ні ты у ёй толку не ведаеш. Сядзеў бы сабе дома, ды богу маліўся, дык было-б лепш. (*Змяніўшы тон, да афіцэраў*). Дарагія госці, міласці просім да стала.

Грынёў (*Івану Кузьмічу*). Я чуў, што на вашу крэпасць збіраюцца напасці башкірцы?

Камендант. Ад каго, бацюхна, ты гэта чуў?

Грынёў. Мне так гаварылі ў Орэнбургу.

Камендант. Глупства. У нас даўно нічога не чуваць. Башкірцы народ напалоханы, ды і кіргізцы навучаны, напасці на нас не адважацца, а калі адважацца, дык я ім такога задам пытлю, што год на дзесяць ўтаймую.

Грынёў (*да Васілісы Егораўны, якая прыслухоўваецца да іх размовы*). І вам, Васіліса Егораўна, не страшна заставацца ў крэпасці, жыць пад пагрозай?

Вас. Егор. Прызвычаілася, мой бацюхна.

Швабрын. Васіліса Егораўна адважная дама. Іван Кузміч можа гэта пасведчыць.

Камендант. Так, так. (*Да Грынёва*). Ці чуеш, баба не з палахлівых.

Грынёў (*да Машы, якая ўвайшла ў пакой і бярэ з шафы пасуду*). А Мар'я Іванаўна, ці гэткая-ж адважная, як і вы?

Вас. Егор. Ці адважная Маша? Не, яна баязлівая. Аж да гэтага часу не можа чуць стрэлу з стрэльбы, так і калоціцца, як пачуе. А калі два гады назад Іван Кузміч надумаў у мае імяніны з нашай гарматы бабахнуць, дык яна, мая галубка, ледзь ад страху на той свет не выправілася. З таго часу ўжо і не страляем з праклятай гарматы. (*Усе рагочуць*), Ну, дарагія госці, калі ласка, просім да стала.

## СЦЭНА 4-я

Палісаднік каля дома
Грынёў і Маша сядзяць на лаўцы

Грынёў. Нас было дзевяць чалавек дзяцей.

Маша. Дзевяць дзяцей?

Грынёў. Так, дзевяць. Але ўсе мае браты і сёстры памерлі ў маленстве. З пяцігадовага ўзросту мяне аддалі на рукі страмяннному Савельічу, які за цвярозыя паводзіны быў прызначаны мне ў дзядзькі.

Маша. Савельіч—ён за вамі і зараз, як за малым дзіцем даглядае.

Грынёў. Пад яго наглядам, на дванаццатым годзе, навучыўся я рускай грамаце, і мог вельмі спрытна разважаць пра ўласцівасці борзых сабак. *(Яны смяюцца)*. У гэты час татуля наняў для мяне француза, месье Бопрэ, якога выпісалі з Масквы разам з гадавым запасам віна і праванскага масла.

Маша. Разам з праванскім маслам? *(Смяецца)*. Ой, які вы жартаўнік, Пётр Андрэіч.

Грынёў. Бопрэ на бацькаўшчыне сваёй быў цырульнікам, потым у Прусіі салдатам, потым прыехаў у Расію pour etre outchitel, не надта разумеючы значэнне гэтага слова. Хаця па кантракту абавязаны ён быў вучыць мяне па-французску, па-нямецку, і ўсім навукам, аднак ён вырашыў навучыцца ад мяне сяк-так балбатаць па-руску і пасля кожны з нас займаўся ўжо сваёй справай.

Маша. Вы напэўна, бегалі з хлопцамі, гулялі ў чэхарду...

Грынёў. Вы угадалі. Трэба вам ведаць, што для мяне выпісана была з Масквы геаграфічная карта. Яна вісела на сцяне без усякай патрэбы і даўно спакушала мяне сваёю шырынёю і якасцю паперы. Я вырашыў зрабіць з яе змея і, карыстаючыся тым, што француз спаў, узяўся за работу. Татка ўвайшоў якраз у той самы момант, калі я прыладжваў хвост з мачалы да мыса „Добрай Надзеі". Убачыўшы мае практыкаванні ў геаграфіі, татка надзёр мяне за вушы і ў той-жа дзень прагнаў мусье Бопрэ з двара.

Маша. Небарага Бопрэ...

Грынёў. На тым і скончылася маё выхаванне. І вось толькі тут, у крэпасці, я ўзяўся за навукі, карыстаючыся літаратурай, якой досыць багата ў Аляксея Іванавіча Швабрына.

Маша. Алексей Іваныч. Вунь ён якраз ідзе сюды. Я не хачу з ім сустракацца, прабачце мне. *(Хоча ісці)*.

Грынёў *(схапіў яе за руку)*. Маша, калі я зноў сустрэнуся з вамі?

Маша. А хіба мы не сустракаемся кожны дзень?

Грынёў. Мне гэтага мала. Я хачу бачыць вас заўсёды, безупынна. *(Цалуе яе ў руку)*.

(Маша пачырванела, выхапіла руку, выбегла. Уваходзіць Швабрын. Ён бачыў канец сцэны, але нічым не выдае сябе. Вітаецца з Грынёвым).

Грынёў. Алексей Іваныч, ведаеш, жыццё маё ў Белагорскай крэпасці зрабілася для мяне не толькі цярплівым, але нават і прыемным.

Швабрын. Вось як?

Грынёў. Запэўняю цябе. У нашай богам захаванай крэпасці ні смотраў, ні караулаў... ну чым не жыццё? У доме каменданта я, як родны. Мар'я Іванаўна перастала са мною дзічыцца, да ўсяго гэтага чытанне французскіх кніжак, якія ты мне прынёс, абудзілі ўва мне ахвоту да літаратуры. Раніцамі я чытаю і практыкуюся ў перакладах, а часам і ў складанні вершаў. Вось, да рэчы, мне ўдалося напісаць песню, якою я, асабіста, вельмі задаволены,—паслухай:

„Думку страстную знішчаю,
Дбаю дзіўную забыць.
І ах, Машы унікаю,
Мышлю вольнасць захапіць.
Вочы, што мя паланілі,
Мой парушылі спакой,
Яны дух ўва мне ўзбудзілі—
І заўжды перада мной.
Маша, глянь на сэрца раны,
І змілуйся нада мной,
Бачыш, як я усхваляваны,
Зачараваны табой.

Як ты гэта знаходзіш?

Швабрын. Песня дрэнная.

Грынёў. Чаму так?

Швабрын *(узяў з яго рук сшытак, разглядае)*. Таму што яна нагадвае мне любоўныя куплеты.

Грынёў *(выхапіў сшытак, абражана)*. Хопіць. Больш я табе сваіх твораў ніколі не пакажу.

Швабрын *(рагоча)*. Паглядзім, ці стрымаеш ты сваё слова— вершатворцам патрэбен слухач, як Івану Кузмічу чарка гарэлкі перад абедам. *(Пасля невялічкай паузы)*. А хто гэта Маша, перад якой ты адкрываешся ў страстных пяшчотах і любоўных пачуццях? Ці не Мар'я Іванаўна—капітанская дачка?

Грынёў *(хмура)*. Не твая справа. Хто-б ні была гэта Маша, я не патрабую ад цябе ні тваіх поглядаў, ні тваіх здагадак.

Швабрын *(насмешліва)*. Ого. Самаўлюбёны вершатворац і дасціпны любоўнік. Але паслухай сяброўскай парады. *(Цынічна)*. Калі хочаш мець поспех у капітанскай дачкі, то раю табе дзейнічаць не песнямі...

Грынёў. Што гэта, васпан, значыць? Будзь ласкаў растлумачыць.

Швабрын. З прыемнасцю. Гэта значыць, што калі хочаш ты, каб Маша Міронава прыходзіла да цябе вечарамі, то замест пяшчотных вершаў, падаруй ёй лепш пару завушнічак.

Грынёў *(стрымліваючыся)*. А чаму ты аб ёй такога погляду?

Швабрын *(з усмешкаю)*. А таму што я ведаю з вопыту яе нораў і звычай.

Грынёў *(крычыць у шаленстве)*. Ты лжэш, нягоднік! Ты лжэш самым бессаромным чынам!

Швабрын (*злосна*). Што! Ну, гэта табе так не пройдзе. Вы мне дасце сатысфакцыю.

Грынёў. Будзь ласкаў! Калі хочаш!

(Уваходзіць Іван Ігнацьевіч)

Іван Ігн. Дзень добры, паны афіцэры! Васіліса Егораўна запрашае да сябе.

Грынёў. Мерсі, Іван Ігнацьевіч! Я прашу вас быць маім секундантам.

Іван Ігн. (*утаропіўся*). Секундантам?

Грынёў. Так, секундантам. Мы з Аляксеем Іванавічам пасварыліся. Ён выклікаў мяне на дуэль. Мы будзем біцца на... (*азірнуўся на Швабрына*).

Швабрын. На шпагах. Але па праву—выбіраеце вы.

Грынёў. Мы будзем біцца на шпагах.

Іван Ігн. (*ачмурэла*). Вы ізволіце казаць, што хочаце Аляксея Іванавіча закалоць і жадаеце, каб я пры гэтым быў сведкам? Ці так, адважуся запытацца?

Грынёў. Так.

Іван Ігн. Даруйце, Пётр Андрэевіч! Што гэта вы надумалі? Вы з Аляксеем Іванавічам пасварыліся? Гэтакай бяды. Лаянка на каўняры не вісне. Ён вас аблаяў, а вы яго аблайце; ён вас у морду, а вы яго ў вуха, у другое, у трэцяе... а мы ўжо вас памірым.

Грынёў. Не, Іван Ігнацьевіч, я вас прашу.

Іван Ігн. (*адводзіць яго ў бок, гаворыць ціха*). Адважуся спытацца... Добра, калі-б закалолі вы яго—бог з ім, з Аляксеем Іванавічам, я і сам да яго не ахвотнік. А калі ён вас прасвідруе? Да чаго гэта будзе падобна? Хто застанецца ў дурнях, адважуся спытацца?

Грынёў (*голасна*). Я застаюся пры сваім намеры.

Іван Ігн. (*раззлавана*). Ды навошта-ж мне тут быць сведкам?

Грынёў. Ды зразумейце-ж вы,—без секундантаў нельга.

Іван Ігн. Воля ваша. Калі мне ўжо і ўмяшацца ў гэтую справу, дык хіба што пайсці к Івану Кузмічу, ды давесці яму па службоваму абавязку, што ў фартэцыі замысляецца зладзейства, варожае казённаму інтарэсу: ці не патрэбна будзе пану каменданту прыняць адпаведныя меры. (*Наважыўся ісці*).

Грынёў (*затрымлівае яго просячы*). Іван Ігнацьевіч!

Швабрын. Навошта нам секунданты? Абыйдземся без іх.

Іван Ігн. Памірыцеся... Прашу вас... Мірыцеся, а то пайду...

Грынёў. Наша справа гэтым скончыцца не можа.

Швабрын. Вядома, вы сваёю крывёю будзеце адказваць мне за вашу дзёрзкасць. Але пакуль што нам трэба прытварыцца.

Іван Ігн. (*бярэ злучае іх рукі*). Ну, вось! Даўно-б так!

(Уваходзіць Васіліса Егораўна)

Вас. Егор. Пётр Андрэіч! Аляксей Іваныч!..

Іван Ігн. Благі мір лепш добрай сваркі, а і не чэсны, дык здаровы.

Васіль Егор. Што, што, Іван Ігнацьевіч, я не дачула?

Грынёў (*паказвае знакамі Івану Ігнацьевічу, каб маўчаў*).

Іван Ігн. (*не ведае, што адказаць*).

Швабрын. Іван Ігнацьевіч ухваляе нашу міравую.

Вас. Егор. А з кім гэта, мой бацюхна, ты сварыўся?

Швабрын. Мы, былі, досыць горача пасварыліся з Пятром Андрэевічам...

Вас. Егор. За што так?

Швабрын. Ды так, за глупства. За песню, Васіліса Егораўна.

Вас. Егор. За песню? Нашлі за што сварыцца—за песню. Ды як-жа гэта здарылася?

Швабрын. Ды вось: Пётр Андрэевіч напісаў песню і сёння прачытаў яе пры мне, а я зацягнуў маю любімую:

„Капітанская дачка,
Што ты зводзіш хлапчука"...

Грынёў (*шпарка*). Што? Як ты адважыўся? (*Б'е Швабрына ў твар*).

Швабрын (*адскочыў, выхапіў шпагу*). Заб'ю! Абараняйся!..

(Грынёў і Швабрын б'юцца на шпагах).

Іван Ігн. (*ашалела крычыць*). Караул!.. Караул!..

Вас. Егор. (*утаропілася*). Бацюхна, ды што-ж гэта такое? Ды да чаго ж гэта падобна? У нашай крэпасці, ды заводзіць смертазабойства? Петр Андрэіч. Аляксей Іваныч!..

(Тыя не звяртаюць на яе ўвагі і ярасна нападаюць адзін на аднаго).

Вас. Егор. (*крычыць*). Іван Кузміч!.. Палашка!.. Зараз-жа іх арыштаваць! Адабраць шпагі, ды ў камору!

(У гэты момант з вуліцы ўваходзіць Савельіч, за ім Іван Ігнацьевіч і вартавы).

Савельіч (*убачыў, крычыць*). Пётр Андрэіч... Дзіцятка, што ты робіш?

Грынёў павярнуўся на яго голас. Швабрын, карыстаючыся выпадкам, раніць яго. Грынёў апускаецца на рукі падхапіўшага яго Савельіча.

Вас. Егор. (*грозна да ўвайшоўшых Івана Кузміча, Палашкі і Машы*). Іван Кузміч! Чаго-ж ты разявіўся? Зараз-жа рассадзі іх па розных кутках на хлеб ды ваду, каб у іх дурасць прайшла.

(Маша ўскрыкнуўшы, кідаецца да Грынёва. Усе глядзяць на іх).

## АКТ ДРУГІ

### СЦЭНА 5-Я

Крэпасць. Цёмна. Невялічкая жоўтая пляма ад запаленай свечкі асвятляе твары сялян і казакоў, якія ўважліва слухаюць Максімыча.

Максімыч (*чытае*). „Даволі ўжо напоўнена была Расія аб нашым, ад злодзіяў галоўных сенатараў і дваран укрыцці, пэўнымі чуткамі нават замежным дзяржавам вядомымі. Ні ад каго іншага

гэта вынікла, як ад прапісаных злодзіяў-дваран, ад іх злоснага шкоднага вымыслу, з нямецкіх звычаяў выходзячых.

Яны-ж, злодзіі-дваране, увялі ў Расіі другі закон... і падвяргнулі, апроч нашай манаршай улады, усю Расію сабе ў падданства, з накладваннем вялікіх абцяжэнняў, давёўшы народ да самай крайняй гібелі, разарэння і знішчэння.

Аб усім вышэй прыпісаным наша бацькаўскае шкадаванне і намер ад зладзейскага тыранства дваран і царыцыных чыноўнікаў народ вызваліць і ўчыніць па ўсёй Расіі вольнасць. Дзеля чаго і саізволілі праз гэты наш усеміласцівейшы наказ, даць вестку аб нашым паходзе з неперамажнай арміяй і абвясціць, што хто пажадае ўступіць за прыроднага свайго гасудара і выказаць старанасць для знішчэння шкодных грамадству дваран,—хай пакіне вымушанае паслухмянства да няверных камандзіраў вашых і прыдзе да мяне, паклаўшы зброю сваю перад сцягамі маімі. За што ўзнагароджаны будзеце вы і нашчадкі вашы. Калі-ж хто забыўшы на свой абавязак, адважыцца гэтага імяннога майго павялення не выканаць, той паспытае на сабе праведны мой гнеў, а пасля і жорсткую кару.

Вялікі гасудар імператар Пётр Фёдаравіч Усерасійскі".

Цсс. Ціха... Нехта ідзе. (*Тушыць свечку*).

---

У доме каменданта. У крэсле сядзіць Грынёў. Ён спіць. Ціха ўваходзіць Маша, падыходзіць да Грынёва.

Грынёў (*прачнуўся. Слабым голасам*). Савельіч...

Маша. Гэта я. Ну, як вы сябе адчуваеце?

Грынёў. Маша. Мар'я Іванаўна! Дзякуй богу! (*цалуе яе руку. Уздыхнуў*). Мне крыху не па сабе. Сон дзікі прысніўся... Буран. Мы заблудзілі ў снежнай пустэчы... Раптам брама і я прыязджаю на панскі двор нашай сядзібы. Бачу, матуля сустракае мяне на ганку, на твары ў яе засмучэнне. „Цішэй",—гаворыць мне яна,—„бацька хворы, пры смерці і хоча з табой развітацца". Са страхам іду я за ёю ў адпачывальню. Бачу, каля ложка сядзяць людзі са смуткам у вачах. Я ціханька падыходжу да ложка, матуля прыўзняла полаг і гаворыць: „Андрэй Пятровіч, Пятруша прыехаў, блаславі яго". Я стаў на калені, узняў вочы мае на хворага. Што гэта... Замест бацькі майго, бачу на ложку ляжыць мужык з чорнай барадою, весела на мяне пазіраючы. Здзіўлены я звяртаюся да матулі:—„Што гэта значыць? Гэта не бацька. І навошта мне прасіць блаславення у мужыка?"—„Усероўна, Пятруша,"—адказвае мне маці—„гэта твой пасаджоны бацька, пацалуй у яго руку і хай ён цябе блаславіць". Я не згаджаўся, тады мужык ускочыў з ложка, выхапіў з-за спіны сякеру і пачаў махаць ва ўсе бакі. Я хацеў бегчы... і не мог, пакой напоўніўся мерцвякамі; я спатыкаўся і слізгаўся ў крывавых лужынах... Страшны мужык ласкава мяне клікаў, кажучы: „не бойся, падыйдзі пад маё блаславенне"... Мяне ахапіў жах... я прачнуўся... У гэты момант падыйшлі вы.

Маша. Які, сапраўды, дзіўны сон.

Грынёў (*цалуе яе ў руку*). Мілая, добрая Мар'я Іванаўна, які я шчаслівы, што вы каля мяне.

Маша. Што вы робіце,—супакойцеся. Вы яшчэ надта слабы. Рана можа адкрыцца.

Грынёў. Глупства (*лашчыць*). Мілая добрая Мар'я Іванаўна.

Маша. Мне млосна зрабілася, калі я ўбачыла, што вы б'ецёся шпагамі з Аляксей Іванавічам. Якія мужчыны дзівакі. За адно слова, аб якім праз тыдзень напэўна забыліся-б, яны гатовы рэзацца і афяроўваць не толькі жыццём, але і сумленнем і спакоем тых, якія... (*замяшалася*). Але я ўпэўнена, што не вы пачынальнік сваркі. Пэўна, вінаваты Аляксей Іванавіч.

Грынёў. А чаму вы так думаеце, Мар'я Іванаўна?

Маша. Ды так... Ён такі насмешнік. Я не люблю Аляксея Іванавіча. Ён мне надта прыкры... А дзіўна: нізавошта я-б не хацела, каб і я яму гэтак-жа не падабалася. Гэта мяне-б непакоіла, страх.

Грынёў. А як вы думаеце, Мар'я Іванаўна, падабаецеся вы яму ці не?

Маша (*сарамліва*). Мне здаецца... Я думаю, што падабаюся.

Грынёў. Чаму-ж вам так здаецца?

Маша. Таму што ён да мяне сватаўся.

Грынёў (*здзіўлена*). Сватаўся? Ён да вас сватаўся—калі?

Маша. Месяцы два да вашага прыезду.

Грынёў. І вы не пайшлі?

Маша. Як бачыце. Аляксей Іванавіч, вядома чалавек разумны, шляхетнага паходжання і мае маёмасць, але, як падумаю, што трэба будзе пад вянцом пры ўсіх з ім пацалавацца... Ні за што. Ні за якія багацці.

Грынёў. Вашы словы адкрылі мне вочы і шмат што растлумачылі. Цяпер я разумею—чаму ён так упарта праследваў вас сваімі насмешкамі. Ён заўважыў нашу ўзаемную сімпатыю і хацеў перашкодзіць нашай дружбе. (*Схапіў руку Машы, горача цалуе*). Мілая добрая Мар'я Іванаўна.

Маша (*цалуе яго ў шчаку*).

Грынёў (*ускочыў з канапы, стаў на калені*). Маша! Паўтары яшчэ раз, што ты будзеш маёю жонкаю!

Маша. Пётр Андрэевіч. Прашу вас, супакойцеся. Богам прашу. Небяспека яшчэ не мінула. Рана можа адкрыцца. (*Укладвае яго на канапу*). Паберажыцеся хоць для мяне.

Грынёў. Глупства. Я здаровы. Скажы мне шчыра...

Маша (*пасля паузы*). Бацькі мае, ведама, рады будуць майму шчасцю... (*Шпарка*). Але... ці не будзе перашкод з боку тваіх бацькоў?

Грынёў. У чуласці матулі маёй я не сумняваюся, але, ведаючы нораў бацькі майго, я напісаў яму пісьмо, памятаеш, я-ж табе гаварыў, у якім шчыра прызнаюся ў маім каханні і прашу блаславення. Я пісаў так красамоўна, што не сумняваюся ў яго згодзе. З дня на дзень я чакаю адказу.

(У дзверы прасоўваецца галава каменданта. Грынёў шпарка лёг. Маша, паправіўшы коўдру, падыходзіць да Івана Кузьміча).

Камендант (*шэптам*). Што? Як?

Маша (*паказвае пальцам на рот*). Шшш... Усё ў адным становішчы. (*Уздыхнула*).

Грынёў (*слабым голасам*). Хто тут?

Камендант. Гэта я, Пётр Андрэевіч. Як вы сябе адчуваеце?

Грынёў. Дзякаваць богу.

Маша. Не гавары з ім многа, тата. Ён яшчэ слабы. (*Вышла*).

Камендант (*падыходзіць да канапы*). Эх, Пётр Андрэіч! Трэба было мне пасадзіць цябе пад арышт, ды ты ўжо і без таго пакараны. А Аляксей Іванавіч у мяне такі сядзіць у хлебнай краме пад вартай і шпага яго пад замком у Васілісы Егораўны. Хай ён сабе падумае, ды пакаецца.

Грынёў. Іван Кузміч! Я вас прашу, выпусціце Швабрына. Бог з ім, я яму дарую.

Камендант. Цсс... Ціха. Ні слова. Вам гаварыць не дазволена. Цсс... Я пайду лепш... (*Выходзіць на двор крэпасці*).

(Уваходзіць Маша, прапускаючы перад сабою Савельіча).

Грынёў (*убачыўшы Савельіча, радасна*). Савельіч!..

Савельіч. Ну, Пётр Андрэіч... Ты ўжо зусім, таго, малайцом...

Маша. Не гавары з ім многа, Савельіч. Ён яшчэ слабы.

Савельіч. Добра, добра.

Грынёў. Што гэта ў цябе ў руцэ?

Савельіч. Пісьмо.

Грынёў (*ускочыў*). Пісьмо?.. Што-ж ты маўчыш? Чаго-ж ты марудзіш? Давай сюды. (*Выхапіў пісьмо*).

(Маша і Савельіч яго супакойваюць)

Савельіч. Ды я-ж яшчэ не паспеў і рот раскрыць.

Грынёў (*чытае, трымаючы ў левай руцэ канверт*). „Сыну майму, Пятру Андрэевічу Грынёву ў Орэнбургскую губернію, у Белагорскую крэпасць“... Маша, прачытай, калі ласка, ты,—мне незручна...

Маша (*хвалюючыся чытае*). „Сын мой, Пётр! Пісьмо тваё, у якім ты просіш нас аб бацькаўскім нашым блаславенні і згодзе на шлюб з Мар‘яй Іванаўнай, дачкой Міронавай, мы атрымалі 15-га гэтага месяца і не толькі ні майго блаславення, ні маёй згоды даць я табе не маю намеру“...

Грынёў. Што? Што такое? (*Выхапіў з рук Машы пісьмо, шпарка прабягае яго, гнеўна выкрыкваючы паасобныя фразы*). ... „збіраюся яшчэ да цябе дабрацца... правучыць, як хлапчука, нягледзячы на твой афіцэрскі чын... шпагу насіць яшчэ не варты... на абарону бацькаўшчыны, а не для дуэлей... буду пісаць Андрэю Карлавічу... перавесці з Белагорскай крэпасці куды-небудзь далей“... (*Апусціў руку з пісьмом, разгублена глядзіць кругом*). Усё скончана!

Маша (*ледзь стрымліваючы слёзы, цяжка ўздыхае*). Ну што-ж! Такая ўжо мая доля... Бацькі вашы не хочуць мяне ў сваю сям‘ю, хай будзе ва ўсім воля боская. Рабіць няма чаго, Пётр Андрэіч— будзьце хоць вы шчаслівы.

Грынёў (*ускочыў*). Гэтаму не бываць. (*Схапіў Машу за руку*). Ты мяне кахаеш? Я гатовы на ўсё. Пойдзем, кінемся ў ногі тваім

бацькам, яны людзі простыя, не безсардэчныя ганарліўцы... Яны нас блаславяць, мы пажэнімся... а там—з часам, я упэўнены, мы упросім бацьку майго, маці будзе за нас: —ён мне даруе...

Савельіч (*жахліва*). Божа! Дзіця хоча жаніцца!

Маша. Не, Пётр Андрэіч, я не выйду за цябе без блаславення тваіх бацькоў. Без іх блаславення не будзе табе шчасця. Скарымся перад воляй боскай.

Грынёў. Ні за што.

Маша. Калі знойдзеш сабе нарачоную, калі пакахаеш іншую— бог з табой, Пётр Андрэіч, а я за вас абодвых... (*Не стрымалася, заплакала, выбегла з пакою*).

Грынёў (*хоча яе затрымаць*). Маша...

Савельіч (*яго пе пушчае*). Куды ты? Дзіцятка... Асцярожна... Рана...

Грынёў. Пусці, стары корч. Табе мала таго, што я праз цябе паранены і цэлы месяц быў на парозе смерці, дык ты яшчэ...

Савельіч (*перабівае*). Злітуйся, васпан! Што гэта ты гаворыш? Я прычына таго, што ты быў паранены? Бачыць бог святы, бег я засланіць цябе сваімі грудзямі ад шаблі Аляксея Іванавіча. Старасць праклятая перашкодзіла.

Грынёў. Хто прасіў цябе пісаць на мяне даносы? Хіба ты прыстаўлены да мяне ў шпіёны?

Савельіч (*здзіўлена*). Я? Пісаў на цябе даносы? Божа, цару нябесны. На, вось прачытай, што піша да мяне пан. Пабачыш, як я даносіў на цябе (*падае пісьмо*).

Грынёў (*чытае*). „Сорам табе, стары сабака, што ты, нягледзячы на мае суровыя загады, не данёс мне аб маім сыне, Пятру Андрэявічу, і што пабочныя людзі прымушаны паведамляць мне аб яго ўчынках. Гэтак ты выконваеш свой абавязак і панскую волю. Я цябе, старога сабаку, пашлю свіней пасвіць“...

Савельіч (*з горам*). Вось да чаго дажыўся. Вось да якіх міласцяў даслужыўся я ў сваіх паноў. Я і стары сабака, і свінапас, ды я-ж яшчэ і прычына тваёй раны. Не, бацюхна, Пётр Андрэевіч, не я, а праклятьі мусью ўсяму вінаваты. Навучыў ён цябе тыркацца жалезнымі ражнамі, ды падскакваць, нібыта тырканнем, ды падскакваннем абаронішся ад злога чалавека. Трэба было наймаць мусью, ды траціць дарма грошы!

Грынёў (*нервова ходзіць па пакою*). Хто-ж паведаміў бацьку? Генерал? Не, вельмі патрэбна яму клапаціцца пра мяне, Іван Кузміч? Не. (*Здагадаўся*). Га... Швабрын. Ну, зразумела, ён. Ён адзін мае выгоду ў даносе. Перавод мяне з крэпасці, разрыў з капітанскай сям'ёю, а значыць, і з Машай... Ну, ясна... (*Ходзіць па пакою*).

(Крыху раней на дварэ крэпасці да гарматы падыйшлі камендант, Іван Ігнацьевіч, Максімыч і Швабрын. Камендант уважліва аглядае гармату, вымае з дула рознае рызманне, стары бот і г. д. Глянуўшы ў бок, камендант раптам робіць знакі Івану Ігнацьевічу, Максімычу і Швабрыну, каб яны маўчалі і адводзіць іх за дом. На ганак з двара ўваходзіць Васіліса Егораўна).

Камендант (*да яе*). Васіліса Егораўна. (*Кашляе*). Ці чула? Айцец Герасім, кажуць, з аказіяй атрымаў з Орэнбурга нейкія цудоўныя весткі, якія трымае ў вялікім сакрэце? Не чула?

Вас. Егор. Не. Нічога не чула.

Камендант (*падыходзіць да яе, гаворыць безуважна*). А я думаў, ты што-небудзь ведаеш?

Вас. Егор. Не. Не чула. Што-ж гэта магло-б быць такое? Схадзіць, хіба, да Акуліны Памфілаўны, да пападдзі... даведацца... Га?

Камендант. Схадзі нібыта ў госці.

Вас. Егор. Дай збегаю. (*Вышла.*)

Пасля таго, як вышла Васіліса Егораўна, камендант кліча ў дом Івана Ігнацьевіча, Максімыча, Швабрына. Увайшоўшы, Іван Кузміч падыходзіць да Грынёва і нешта шэпча яму на вуха.

Грынёў. Савельіч, выйдзі на двор, пагуляй каля ганку, глядзі каб ніхто сюды не падыходзіў. Калі будзе хто ісці, пастукай у дзверы.

Камендант (*які выходзіў у другі пакой, варочаецца, замыкае дзверы на ключ і таемна гаворыць*). Паны афіцэры, важная навіна! (*У гэты момант недзе стукаюць. Усе насцяражыліся*). Не. Нічога. Гэта я Палашку, каб яна нас не падслухала, у каморы замкнуў... Слухайце, што піша генерал. (*Надзеў акуляры, чытае*). „Пану каменданту Белагорскай крэпасці капітану Міронаву. Сакрэтна. Гэтым паведамляю вас, што данскі казак і раскольнік Емельян Пугачоў, які ўцёк з пад варты, учыніў немагчымую дзёрзкасць, прыняўшы на сябе імя нябошчыка цара Пятра III-га. Назбіраў зладзейскую зграю, узбунтаваў яіцкія пасяленні і ўжо ўзяў і зруйнаваў некалькі крэпасцяў, чынячы ўсюды грабяжы і смертазабойствы. Таму, з атрыманнем гэтага, павінны вы, пан капітан, зараз-жа прыняць належныя меры к адпору памянёнага злодзея і самазванца.“ (*Здымае акуляры, складвае паперу*). Прыняць належныя меры... Чуеш ты? Лёгка сказаць. Злодзей, відаць, дужы, а ў нас усяго сто трыццаць чалавек, не лічучы казакоў, на якіх надзея дрэнная, не ў дакор табе кажучы, Максімыч. (*Максімыч усміхнуўся*). Аднак, рабіць няма чаго, паны афіцэры. Будзьце асцярожны, узмацніце варту, ды начныя дазоры: у выпадку нападу, замыкайце браму, ды выводзьце салдат. Ты, Максімыч, наглядай больш уважліва за сваімі казакамі: гармату агледзець, ды вычысціць, як мае быць. А самае галоўнае, трымайце ўсё гэта ў сакрэце, каб у крэпасці ніхто не змог даведацца раней часу.

У гэты момант Савельіч стукае ў дзверы. Шпарка ўваходзіць Васіліса Егораўна, падазрона ўсіх аглядае, прайшла ва ўнутраныя пакоі.

Камендант. Пішы прапала. Чорт прынёс. Мабыць, пападдзі няма дома. Вось не ў пару.

Вас. Егор. (*Уваходзіць, агледзела ўсіх, села. Уздыхнула*). Госпадзі божа мой! Бач, якія навіны? Што-ж гэта будзе?

Камендант (*супакойвае*). Нічога, матухна. Бог міласцівы. Салдат у нас хапае, пораху многа, гармату я загадаў вычысціць. Можа й дамо адпор Пугачову. Бог не выдасць, свіння не з'есць.

Вас. Егор. А што за чалавек гэты Пугачоў?

Камендант (*заўважыў, што прагаварыўся, стараецца выкруціцца.*). Ды не, які Пугачоў? Пры чым тут Пугачоў? Проста я...

*(Раптам).* Ці чуеш, матухна, бабы нашы надумалі печкі саломаю паліць: а што ад гэтага можа быць няшчасце, дык вось я і аддаў суровы загад, каб наперад больш саломаю бабам печак не паліць, а паліць галлём, ды ветраломам.

Вас. Егор. *(грозна).* А для чаго-ж было табе замыкаць Палашку? За што небарака дзеўка прасядзела ў каморы, аж пакуль я не вярнулася?

Швабрын. Пры ўсёй маёй пашане да вас, Васіліса Егораўна, не магу не заўважыць, што вы толькі перашкаджаеце Івану Кузьмічу ў яго справах...

Вас. Егор. *(перапыняе, гаворыць са шчырым здзіўленнем).* Ах, мой бацюхна, ды хіба-ж муж і жонка не адзін дух і адно цела? Іван Кузьміч...

Камендант *(нясмела).* Васіліса Егораўна, чуеш ты... пайшла-б... Айцец Герасім, кажуць з гораду атрымаў...

Вас. Егор. Хопіць хлусні, Іван Кузьміч. Хіба я не бачу, што ты хочаш тут нараду правесці, ды без мяне аб Пугачове гэтым пагаварыць,—ды годзі, не ашукаеш.

Камендант *(уздыхнуў).* Ну, матухна, калі ты ўжо і сама здагадалася, дык заставайся. Мы пагаворым і пры табе.

Вас. Егор. *(задаволена).* То таж бо й яно, бацька мой, не табе хітраваць...

Камендант. Дык вось, панове афіцэры. Самага галоўнага я вам яшчэ не сказаў. Зараз мы затрымалі башкірца, які меў пры сабе пасланне ад самога Пугачова да нашых салдат і казакоў. Разбойнік абвяшчае аб сваім намеры зараз-жа ісці на нашу крэпасць і запрашае казакоў і салдат у сваю зграю, а камандзіраў навучае не супраціўляцца, пагражаючы ў іншым выпадку карай смерці.

Вас. Егор. Які нягоднік! Што адважваецца нам прапанаваць.

Камендант. А чуваць, што злодзей завалодаў ужо шмат якімі крэпасцямі.

Іван Ігн. Відаць, ён і сапраўды дужы.

Камендант. А вось зараз мы даведаемся пра сапраўдную яго сілу. Максімыч, прывядзі башкірца, ды загадай Юлаю прынесці сюды бізуноў. *(Максімыч вышаў).*

Вас. Егор. Пачакай, Іван Кузьміч, дай адвяду куды-небудзь з дому Машу, а то пачуе крык, перапалохаецца. Ды і я, праўду сказаць, не ахвотніца да вышуку. Шчасліва заставацца. *(Вышла).*

Іван Ігн. *(Да Швабрына).* Як ты думаеш, чым гэта скончыцца?

Швабрын. Бог яго ведае, паглядзім. Я пакуль што нічога асаблівага не бачу. Калі-ж?..

(Максімыч уваходзіць разам з башкірцам, якога суправаджаюць вартавы і Юлай з бізунамі. Башкірац цяжка пераступае цераз парог, ногі яго ў калодцы. Увайшоўшы, ён зняў высокую шапку і спыніўся каля дзвярэй. Башкірцу год больш за семдзесят. У яго адрэзаны нос і вушы. Галава выбрыта. Замест барады тырчаць некалькі сівых валасоў. Ён малога росту, худы і згорблены, але вочы яго гараць агнём).

Камендант *(разглядаючы башкірца)*. Эге, ды ты, відаць, стары воўк, ужо бываў у нашых пастках. Ты, відаць, не ўпершыню бунтуеш, калі ў цябе так гладка абгаблевана галава, ды адрэзаны нос і вушы. *(Да афіцэраў)*. Адзнакі пакараных бунтаўшчыкоў 1741 года. Падыйдзі бліжэй. Гавары, хто цябе падаслаў? Чаго-ж ты маўчыш? Ці бельмес, па-руску не разумееш? Юлай, спытай у яго па вашаму, хто яго падаслаў у нашу крэпасць.

Юлай *(па-татарску)*. Хто цябе падаслаў, у нашу крэпасць?

(Башкірац маўчыць).

Камендант. Якшы! Ты ў мяне загаворыш. Хлопцы, скіньце з яго халат, ды спаласуйце яму спіну, як мае быць.

(Юлай спрытна скінуў з башкірца халат. Вартавы схапіў яго за рукі і прыўзняў на спіну. Калі Юлай замахнуўся бізуном, башкірац шырока адкрыўшы рот, пачаў нешта жаласна мармытаць).

Грынёў. Кіньце. Не трэба. Хіба-ж вы не бачыце, у яго адрэзаны язык?

Камендант *(пасля няёмкай паузы)*. Ну, відаць, нам ад яго нічога не даведацца. Юлай, адвядзі башкірца ў свіран. А мы, панове, яшчэ пра тое-сёе пагаворым.

(Шпарка ўваходзіць ўсхваляваная камендантша).

Камендант. Што гэта з табою зрабілася, Васіліса Егораўна?

Вас. Егор. Бацюхна! Бяда! Ніжнеазерная крэпасць захоплена сёння раніцою. Парабак айца Герасіма зараз адтуль вярнуўся. Ён бачыў, як яе бралі. Камендант і ўсе афіцэры павешаны. Усіх салдат узялі ў палон. Гэта-ж зладзеі зараз могуць прыйсці сюды.

Іван. Ігн. Ад Ніжнеа зернай да нас вёрст дваццаць пяць...

(Максімыч і Іван Ігнацьевіч вышлі).

Грынёў. Паслухайце, Іван Кузміч. Наш абавязак абараняць крэпасць, пра гэта і казаць няма чаго. Але трэба падумаць, дзе схаваць жанчын. Адпраўце іх у Орэнбург калі дарога яшчэ вольная, альбо куды-небудзь далей, у больш надзейную крэпасць.

Камендант. А чуеш ты, матухна, сапраўды, ці не адправіць вас далей адсюль, пакуль мы не ўправімся тут з бунтаўшчыкамі?

(Грынёў вышаў).

Вас. Егор. Дарма! Дзякаваць богу дваццаць другі год тут жывем. Бачылі і башкірцаў і кіргізаў, а можа і ад Пугачова адсядзімся.

Камендант. Ну, матухна, заставайся ўжо, калі ты на крэпасць нашу надзею маеш. А вось з Машай што нам рабіць?

Вас. Егор *(нерашуча)*. З Машай? Гм...

Камендант. Машы тут аставацца нельга. Адправім яе ў Орэнбург да яе кроснай маці. Там і войска і гармат даволі і сцяна каменная...

Вас. Егор. Добра, так і быць, адправім Машу...

Камендант. Ды дзе-ж яна?

Вас. Егор. *(кліча)*. Маша!..

(Камендант і Васіліса Егораўна выходзяць. Па двару крэпасці, крадучыся, праходзіць і знікае Максімыч. У пакой уваходзяць з двара Грынёў і Маша).

Грынёў. Прашу вас, зараз-жа язджайце ў Орэнбург.

Маша. Добра, Пётр Андрэіч. Жывіце шчаслівы, можа давядзецца, дасць бог, убачыцца... калі не... *(заплакала)*.

Грынёў *(абняў яе)*. Бывай, анёл мой. Бывай, мая любая, мая жаданая. Што-б ні было са мною, вер, што апошняя мая думка, апошняя малітва будзе аб табе. *(Цалуе)*.

Іван Ігн. *(убягае, крычыць)*. Іван Кузміч! Іван Кузміч!.. Пугач прышоў...

(На дварэ пачынае біць трывогу звон).

Грынёў. А як-жа цяпер з Орэнбургам?

Іван Ігн. Дарога на Орэнбург адрэзана. Крэпасць абкружана. Дрэнна, Пётр Андрэіч.

Камендант *(выбягае, замацоўваючы на сабе зброю)*. Ну, дзеці мае, давядзем усяму свету, што мы людзі маладзецкія і прысяжныя.

(Усе вышлі і стоўпіліся каля сцяны крэпасці. Камендант і Іван Ігнацьевіч наводзяць гармату, страляюць. Выбягае Васіліса Егораўна).

Вас. Егор. Ну што? Як ідзе баталія? Дзе-ж непрыяцель?

Камендант. Непрыяцель недалечка. Бог дасць, усё будзе добра. Што, Маша, страшна табе?

Маша. Не, тата, дома аднэй больш страшна *(зірнула на Грынёва)*.

Голас *(з-за сцяны)*. Не страляйце! Выходзьце да цара. Цар тут.

Камендант. Вось я вас! Хлопцы, страляй! *(Залп)*. Васіліса Егораўна, тут не бабская справа, ідзі з Машай, бачыш, дзеўка ні жывая, ні мёртвая... Пётр Андрэіч, праводзьце іх, я вас прашу...

(Грынёў вядзе жанчын з двара ў дом).

Камендант *(глядзіць на сцяну)*. Зараз будзе прыступ. *(Камандуе)*. Адчыняй браму. Бі ў барабан. Хлопцы, наперад, на вылазку за мною *(за ім ніхто не бяжыць)*. Чаго-ж вы, хлопцы, стаіце? Паміраць, дык паміраць, справа службовая...

Максімыч. Сам памірай, калі ахвоту маеш, гарнізонны пацук. Хлопцы, гайда за мной.

(Частка салдат пераходзіць на яго бок. За сцяной мацнее—„Ура"... Убягаюць пугачоўцы. Салдаты ўцякаюць. Цёмна).
Б'юць званы, выходзіць народ, сустракае Пугачова хлебам-соллю.

Пугачоў. Чалом табе, народ мой, чалом.

Галасы. Чалом табе, цар-бацюхна. Прымі наш хлеб-соль. Міласці просім.

Пугачоў *(пацалаваўшы хлеб, перадаў яго старшынам)*. Афіцэраў, дваран і ўсіх маіх непаслушнікаў вешаць. А вам, дзетухны,

усяму чорнаму народу абвяшчаецца воля. *(Выходзіць са сцэны. Свет выключаецца).*

Калі сцэна асвятляецца зноў, на дварэ крэпасці нікога ўжо няма, толькі па сцяне, ля гарматы ходзіць вартавы казак. У пакоі Грынёў і Палашка.

Палашка. Ах, Пётр Андрэіч, які дзянёк, скажу я вам. Які дзянёк. (*З захапленнем*). Пасля абеду цар-бацюхна наш пайшоў у лазню, а зараз адпачывае. Ну, ваша благародзіе, па ўсяму відаць, што персона шляхетная: у часе абеду меў волю з'есці двух смажаных парасят, а парыцца ў лазні так горача, што, кажуць, і Тарас Курачкін не вытрымаў, аддаў венік Фомку Бікбаеву, ды ледзь-ледзь халоднай водой адкачаўся. Няма чаго казаць: усе прыёмы такія важныя... А ў лазні, кажуць, паказваў царскія свае адзнакі на грудзях: на аднэй двухгаловы арол, велічынёю з пятак, а на другой персона яго...

Савельіч (*уваходзіць*). Ну, бацюхна, Пётр Андрэявіч, ці паверыш, усё ў нас расцягалі, нягоднікі: адзежу, бялізну, рэчы, пасуду—нічога не пакінулі. (*Уздыхнуў*). Чаго ўжо. Дзякаваць богу, што хоць ты жывы застаўся. Ці не хочаш чаго з'есці? Дома ў нас нічога няма. Пайду, пашукаю, ды што-небудзь табе згатую.

(У дзвярах сустракаецца з Палашкай).

Палашка (*засланяе дарогу Савельічу*). Куды?

Савельіч. Пусці.

Палашка. Сюды няможна.

Савельіч. Чаму?

Грынёў. Цсс... Ціха. Там Мар'я Іванаўна. (*Да Палашкі*). Ну, як? Як Маша?

Палашка. Ляжыць у мяне на ложку, спіць.

(Уваходзіць Пугачоў. Ён у прыгожым казацкім каптане, абшытым галуном, на галаве высокая сабаліная шапка, з залатымі матусамі; з ім казацкія старшыны сярод іх Швабрын у казацкім каптане, без парыка, валасы абстрыжаны ў кружок).

Пугачоў (*заўважыў Грынёва*). А гэта хто? (*Швабрын падбег, нешта шэпча яму на вуха*). Вешаць яго... (*Старшыны схапілі Грынёва*).

Савельіч (*адштурхоўвае старшын*). Пачакайце, акаянныя, пачакайце. (*Кідаецца ў ногі Пугачову*). Бацька родны! Што табе ў смерці панскага дзіцяці? Адпусці яго. Табе выкуп за яго дадуць, а дзеля прыкладу і страху, загадай павесіць хоць мяне, старога.

Пугачоў (*угледаецца ў Грынёва, у Савельіча. Пауза. Пасля ён робіць знак*). Адпусціць.

Чумакоў. Бацька наш цябе мілуе.

Швабрын. Цалуй руку цару бацьку.

Савельіч (*шэптам*). Бацюхна, Пётр Андрэіч. Не ўпірайся, што табе абыходзіць? Плюнь, ды пацалуй у яго руку.

(Пауза. Грынёў нерухома стаіць на каленах).

Пугачоў. Яго благародзіе, відаць, ачмурэў ад радасці. (*Усе рагочуць*). Падыміце яго. (*У гэты момант за сцяной застагнала Маша. Пугачоў насцеражыўся*). А там хто стогне?

Палашка (*падыходзіць, нізка кланяецца*). Гэта сястра мая, цар-бацюхна, захварэла, ляжыць вось ужо другі тыдзень.

Пугачоў. Пакажы мне тваю сястру.

Палашка. Будзь ласкаў, цар-бацюхна, толькі дзеўка не зможа ўстаць і прыйсці да тваёй міласці.

Пугачоў. Нічога, я сам пайду, гляну. (*Выходзіць, з ім старшыны*).

(Грынёў, які напружана слухаў, парываецца ісці за Пугачовым. Савельіч яго стрымлівае)

Савельіч. Ці пазнаў ты васпан, атамана?

Грынёў (*гаворыць аўтаматычна, позірк яго на дзвярах, куды ўвайшоў Пугачоў*). Не, не пазнаў, а хто-ж ён такі?

Савельіч. Як бацюхна, хіба ты забыўся на таго п'яніцу, які выманіў у цябе кажух на заезным двары? Заячы кажушок, зусім новенечкі. А ён, шэльма, нацягваючы яго на сябе, распароў...

(Уваходзіць Пугачоў, нясучы збан віна. За ім Палашка нясе кубкі).

Пугачоў (*ставіць на стол збан*). Ну, панове старшыны, сядайце, вып'ем за нашу перамогу. (*Да Грынёва*). Сядай і ты, ваша благародзіе. Гонар і павага, міласці просім. (*Наліваюць кубкі. Грынёў прысеў на край крэсла*). Сіла наша мацнее. Крэпасці пакараюцца нам адна за аднэй. Возьмем Орэнбург, на Маскву пойдзем.

Белабародаў. На Маскву, Пётр Фёдаравіч. На Маскву.

Пугачоў (*падняў руку*). Але крыкам Маскву не возьмеш— сіла патрэбна, дый не малая.

Белабародаў. Народу ў нас, што жытніх каласоў у полі.

Пугачоў. Народу многа, ды арміі мала. Трэба народ узброіць, ды навучыць, як па сапраўднаму біць царыцыных генералаў.

Хлапуша. Аружжа мы здабудзем. Што ў байцы возьмем, а што масцеравыя і работныя людзі нашы на заводах зробяць. Бонбы, гарматы...

Кіргіз. Якшы бонбы, якшы гарматы. Стралой камень-сцяну, лбом камень-сцяну... Бонба сцяну ламай. Камень угару птушкай лётай, лётай. Дай нам стрэльбы, цар.

Пугачоў (*да Белабародава*). Чуеш, фельдмаршал?

Белабародаў. Чую, цар-бацюхна, чую. На ўсіх стрэльбаў не набярэшся. Вострая шабля ў верных руках таксама не малая сіла.

Пугачоў. Чым бліжэй да Масквы, тым больш народу у нас будзе. Уся Расея матухна падымецца супроць зладзеяў—дваран ды царыцыных чыноўнікаў. Трэба народ навучаць вайсковым навукам і тады нашу армію ніхто не пераможа. Есаулам, сотнікам, палкоўнікам—мой загад: навучаць народ вайсковым навукам кожны дзень. Фельдмаршал войска нашага—Белабародаў—галавой адкажа мне, калі гэтага не будуць рабіць. (*Пасля паузы*). Ну, вып'ем, панове

старшыны за нашы перамогі, ды разыйдземся адпачыць. Гасцяваць у Орэнбурзе будзем. (*Пугачоў уздымае кубак*).

(Прысутныя ўзнялі кубкі, бурна вітаюць Пугачова).

Пугачоў (*выпіўшы*). Гэй, браткі, зацягнем маю любімую песню. Чумакоў, пачынай.

Чумакоў (*запявае. Усе хорам падхопліваюць суровую простанародную песню пра шыбеніцу. Твары ва ўсіх задумлівыя і грозныя*).

„Не шумі, маці, зялёная дубровачка,
Дай мне, добраму малайцу, думу-думаці,
Што заўтра мне добраму малайцу, на допыт ісці,
Перад грозным суддзёй—самім царом.
Яшчэ пачне мяне цар-гаспадар распытваць:
Ты скажы, скажы, хлапчына, сялянскі сын,
Ужо з кім ты краў, з кім разбой трымаў,
Яшчэ, шмат ці з табою сяброў было?
Я скажу табе, надзежа, праваслаўны цар,
Усю праўду скажу табе, усю праўдачку.
Што сяброў у мяне было ўсіх чацвёра.
Яшчэ першы мой сябра—цёмная ноч,
А другі мой сябра—булатны нож,
А ўжо трэці мой сябра—тугі лук.
Пасланцы мае—гартаваныя стрэлы;
Што ўзгаворыць надзежа-праваслаўны цар:
Слава табе, хлапчына, сялянскі сын,
Што ўмеў красці, умеў і адказ трымаць.
Я за гэта цябе, хлапчына, узнагароджваю
Сярод поля палацамі высокімі,
Што з двума слупамі, з перакладзінай.

(Вялікая пауза. Палашка, выціраючы вочы, наліла ўсім у кубкі. Усе моўчкі выпілі, пачалі ўставаць з-за стала і выходзіць на ганак).

Пугачоў (*Грынёву, які наважыўся ісці разам з усімі*). Сядзі, я хачу з табою пагаварыць.

(Пугачоў доўга, моўчкі, заплюшчыўшы левае вока, углядаецца ў Грынёва. На твары яго блукае хітрая ўсмешка. Раптам ён з непрыкрытай вясёласцю зарагатаў. Грынёў мімаволі паддаўся яго настрою—смяецца таксама).

Пугачоў. Што, ваша благародзіе, спужаўся ты, калі мае малайцы пацягнулі цябе на шыбеніцу? Прызнайся. Мабыць, неба з аўчыну здалося? (*Грынёў маўчыць*). А пакачаўся-б на перакладзіне, каб не твой слуга. Я зараз-жа спазнаў старога карча. Ну, ці думаў ты, ваша благародзіе, што чалавек, які вывеў цябе з бурану на заезны двор, быў сам вялікі цар?... (*Пауза. Грынёў маўчыць. На твары яго прамільгнула і схавалася ўсмешка. Пугачоў заўважыў яе*). Я памілаваў цябе за тваё дабрадзейства, за тое, што ты зрабіў мне паслугу, калі я прымушаны быў хавацца ад сваіх ворагаў. (*Пасля паузы*). Ці тое яшчэ пабачыш. Ці так я яшчэ цябе ўзнагароджу, калі я атрымаю сваю дзяржаву. (*Пасля паузы*). Абяцаешся служыць мне са шчырасцю і стараннем? Чаго ты ўсміхаешся? Альбо ты не верыш, што я вялікі цар? Кажы проста. Не верыш?

Грынёў (*пасля некаторай няёмкасці*). Слухай, скажу табе ўсю праўду. Разваж сам, ці магу я прызнаць ў табе цара? Ты-ж чалавек разважлівы, ты-ж сам убачыў-бы, што я хітрую.

Пугачоў (*прыжмурыўшыся, упарта пазірае на Грынёва*). Хто-ж я такі, як ты разумееш?

Грынёў. Бог цябе ведае, але хто-б ты ні быў, ты гуляеш у небяспечную гульню.

Пугачоў (*шпарка зірнуў на Грынёва*). Дык ты не верыш, што я цар Пётр Фёдаравіч? Ну, добра. Думай пра мяне, што хочаш, а ад мяне не адставай. Якая табе справа да ўсяго іншага, хто ні поп, той бацька Паслужы мне верай і праўдай і я цябе вызначу і ў фельдмаршалы і ў князі... Як ты думаеш?

Грынёў. Не. Я прыродны дваранін. Я прысягаў царыцы Екацерыне. Табе служыць не магу. Калі ты сапраўды жадаеш мне дабра, дык адпусці мяне ў Орэнбург.

Пугачоў (*задумліва*). А калі адпушчу, то абяцаеш хоць супраць мяне не служыць?

Грынёў (*шчыра*). Як я магу табе гэта абяцаць? Ты-ж сам ведаеш—не мая воля: загадаюць ісці супроць цябе—пайду, рабіць няма чаго. Ты цяпер сам начальнік, сам патрабуеш паслухмянства ад сваіх. Галава мая ў тваіх руках: адпусціш мяне—дзякую; пакараеш смерцю—бог табе суддзя, а я сказаў табе праўду.

Пугачоў. Так і быць. Караць, дык караць, мілаваць, дык мілаваць. Ідзі сабе на ўсе чатыры бакі і рабі, што хочаш. (*Пахлопаў Грынёва па плячу, ідзе да дзвярэй, пасля спыняецца*). Слухай, яздждай зараз-жа ў Орэнбург і абвясці там ад мяне губернатару і ўсім генералам, каб чакалі мяне да сябе праз тыдзень. Парай ім сустрэць мяне з дзіцячай любоўю ды паслухмянствам, а не, то не пазбегнуць ім лютай кары. Шчаслівай дарогі, ваша благародзіе. (*Выходзіць*).

(На ганку Пугачова сустракаюць Швабрын і народ).

Пугачоў (*да народа, паказваючы на Швабрына*). Вось вам, дзеці мае, новы камандзір. Слухайцеся яго ва ўсім, а ён адказвае перада мною за вас і за крэпасць.

(З натоўпу выходзіць Савельіч, нізка кланяецца, падае Пугачову паперу).

Пугачоў. Гэта што?

Савельіч. Прачытай, будзь ласкаў, пабачыш.

Пугачоў (*узяў паперу, уважліва разглядае*). Што ты так мудрона пішаш, нашы светлыя вочы не могуць тут нічога разабраць. Дзе мой обер-сакратар? (*З натоўпу выходзіць малады обер-сакратар у капральскім мундзіры*) Чытай у голас.

Обер-сакратар (*чытае па складах*). „Два халаты—міткалёвы і пярэсты шаўковы—на шэсць рублёў...

Пугачоў. Што гэта значыць?

Савельіч. Загадай чытаць далей.

Обер-сакратар (*чытае*). „Мундзір з тонкага зялёнага сукна—на сем рублёў. Штаны белыя суконныя—на пяць рублёў. Два-

наццаць кашуль палатняных галанскіх з манжэтамі—на дзесяць рублёў, скрынка з чайнай пасудай—на два рублі з паловаю...

Пугачоў. Што за хлусня... Якая мне справа да тваіх скрынак, ды штаноў з манжэтамі?

Савельіч. Гэта, бацюхна, ці бачыш, спіс панскаму дабру раскрадзенаму злодзіямі...

Пугачоў. Якімі злодзіямі?..

Савельіч. Выбач, абмовіўся. Злодзіі не злодзіі, а твае малайцы парыліся, ды парасцягвалі... Не злуйся, конь і на чатырох нагах, ды спатыкаецца. Загадай дачытаць.

Пугачоў. Дачытвай.

Обер-сакратар. „Коўдра паркалёвая, другая кітайкавая на ваце—чатыры рублі. Футра лісіная, крытая чырвоным рацынам—сорак рублёў, яшчэ заячы кажух, падараваны тваёй міласці на заезным двары—пятнаццаць рублёў...

Пугачоў (*грозна*). Гэта яшчэ што?

(Савельіч хоча тлумачыць).

Пугачоў (*не дае яму гаварыць*). Як ты адважыўся лезці да мяне з гэтым глупствам? (*Выхапіў у обер-сакратара паперу, скамячыў яе і кінуў*). Стары дурань! Ды ты павінен вечна за мяне да за маіх малайцоў бога маліць за тое, што з сваім барынам не вісіце вунь там разам з маімі непаслушнікамі... Заячы кажух? Я табе дам заячы кажух...

Савельіч. На ўсё твая воля. А я чалавек паднявольны і за панскае дабро адказваць павінен.

Пугачоў (*доўга пазірае на Савельіча, пасля адштурхнуў яго*). Эх ты... (*Шпарка выходзіць. Усе рушылі за ім*).

(Савельіч падняў паперу, выпрастаў яе. Уваходзіць у пакой. Насустрач яму з бакавых дзвярэй уваходзіць Грынёў).

Грынёў. Савельіч. Ідзі хутчэй збірайся. Мы зараз-жа едзем у Орэнбург.

Савельіч. Што збіраць, куды ехаць. Няма чаго збіраць, няма на чым ехаць.

Грынёў. Што гэта ў цябе за папера?

Савельіч. Чалабітная.

Грынёў. Чалабітная? Каму?

Савельіч. Цару-бацюхну.

(Грынёў бярэ ў яго з рук паперу, чытае. Па меры таго, як ён чытае, смех усё больш і больш апаноўвае яго).

Савельіч (*з дакорам*). Смейся, васпан, смейся, а як трэба будзе нам зноў абзаводзіцца ўсёй гаспадаркай, дык паглядзім—ці будзе смешна.

(Уваходзіць Максімыч).

Максімыч. Ваша благародзіе. Бацька наш дорыць вам каня і футру з свайго пляча. (*Падае футру*). Ды яшчэ... (*запінаецца*) дорыць ён вам поўрубля грошай... ды я іх, даруйце міласціва, растрос дарогаю.

Савельіч. Растрос дарогаю. А што гэта ў цябе брынькае за пазухай? Бессаромны.

Максімыч. Што ў мяне брынькае за пазухай? Бог з табой, старэнькі. Гэта брынькае вуздзечка, а не поўрубель.

Грынёў. Добра. Падзякуй ад мяне таго, хто цябе прыслаў, а згубленыя грошы пастарайся знайсці, як будзеш варочацца, ды вазьмі іх сабе на гарэлку.

Максімыч. Шчыра дзякую, ваша благародзіе. (*Вышаў*).

Грынёў (*надзеў футру*). Вось бачыш, Савельіч, нічога не было, а зараз...

Савельіч. Гэта таму, васпан, што я ўсё-ж нездарма падаў чалабітную... (*Глядзіць у акно*). Хоць башкірская цыбатая падла ды аўчынны кажух не варты і паловы таго, што яны, ашуканцы, у нас укралі і таго, што ты яму сам меў ласку падараваць, аднак, усё-ж спатрэбіцца і гэта.

Грынёў. Ды годзе табе, стары. У Орэнбург едзем. У Орэнбург. Трэба ратаваць Машу. (*Адкрывае дзверы, крычыць*). Бывай, мая мілая. Да хуткага спаткання. (*Шле ёй пацалункі, выходзіць*).

(Уваходзіць Швабрын, доўга глядзіць ім услед, усміхаецца. Уваходзіць у пакой да Машы).

## СЦЭНА 6-я.

Орэнбург. Зала ў доме генерала Андрэя Карлавіча. Іграе аркестр. Госці танцуюць менуэт. Пары рушацца, як здані. Асада горада і голад наклалі на людзей сваю пячаць. У залу ўваходзяць Андрэй Карлавіч і Грынёў.

Андр. Карл. Бетны Міроноф. Шката яго, тобры быў афіцэр. Мадам Міроноф топрая была дама і які майстар грыбы саліць. А як Маша, капітанская дачка?

Грынёў. Яна засталася ў крэпасці, на руках у сваёй пакаёўкі.

Андр. Карл. Ай-яй-яй. Гэта трэнна, зусім трэнна. На дысцыпліну распойнікаў нельга разлічваць. Што будзе з петнай дзяўчынкай?

Грынёў. Ваша прэвасхадзіцельства. Да Белагорскай крэпасці недалёка, я ўпэўнены, што ваша прэвасхадзіцельства больш не затрымае з высылкай войска для вызвалення бедных жыхароў.

Андр. Карл. (*невыразна*). Паглядзім, паглядзім. Аб гэтым мы яшчэ паспеем пагутарыць.

Грынёў (*стрымліваючы шаленства*). Але-ж, адважуся далажыць, прайшло ўжо столькі часу, а мы сядзім у крэпасці і бяздзейнічаем. У горадзе голад, горад абкружаны бунтаўшчыкамі...

Андр. Карл. (*перапыняе*). Спакойна. Спакойна, прапаршчык Грынёф. Без панік. Ідзіць, танцуйць менуэт. Фліртуйце з наш дам. Не трэпа тумаць пра голад, пра аблог. Не трэба, каб вораг бачыў наш спалох, наш становішч. Зараз у мяне тут будзе невялічкі ваенны нарад. Ты зможаш нам даць каштоўны весткі аб нягоднік Пугачоф і аб яго войск. А пакуль што—ідзіць весяліцца.... (*Адыходзіць*).

Грынёў (*нервова ходзіць па залу*).

(Музыка мацнее. Пары рушацца больш жвава, хоць і адчуваецца, што ўсім не да танцаў).

(Лёкаі расстаўляюць на авансцэне крэслы ў карэ. Паступова каля іх збіраюцца генералы і афіцэры, чынна сядаюць па рангу).

Андр. Карл. (*пасля таго, як лёкаі абнеслі ўсіх чаем*). Панове! Нам належыць сёння вырашыць, як нам дзейнічаць супроць бунтаўшчыкоў—наступленнем, ці абаронай? Кожны з гэтых спосабаў мае свае дадатныя і адмоўныя бакі. Наступленне прадстаўляе больш надзеі на хутчэйшае знішчэнне ворага; абарона-ж, э-э э... больш бяспечна... Такім чынам, пачнем збіраць галасы па законнаму парадку, гэта значыць, пачынаючы з малодшых па чыну. Прапаршчык Грынёф, калі ласка, вытлумачце коратка нам вашы меркаванні.

Грынёў (*устае*). Я ведаю войска Пугачова...

Калежскі саветнік (*віскліва*). Не войска, а зграю, пане прапаршчык.

Грынёў (*не звяртаючы на яго ўвагі*)... А таму лічу, што самазванцу не ўстаяць супроць правільнага наступлення. Вось чаму я за безадкладнае наступленне, а не абарону.

Узняўся страшэнны гоман. Усе прысутныя нездаволены выступленнем Грынёва. Сярод паасобных выкрыкаў у яго бок можна пачуць „блазнюк“).

Андр. Карл. (*супакойвае ўсіх*). Панове. Панове, супакойцеся. Першыя галасы на ваенных нарадах зазвычай падаюцца ў карысць дзеянняў наступальных: гэта законны парадак. Цяпер пачнем прадаўжаць збіранне галасоў. Пан калежскі саветнік, скажыце нам ваш погляд.

Калежскі саветнік. Я думаю, ваша прэвасхадзіцельства, што мы павінны дзейнічаць ні наступленнем, ні абаронаю.

(Усе здзіўлена на яго пазіраюць).

Андр. Карл. Як так, пане калежскі саветнік? Іншых спосабаў ваенная тактыка не ведае. Абарона, ці наступленне.

Калежскі саветнік. Ваша прэвасхадзіцельства, а вы дзейнічайце... (*вытрымаў паўзу, агледзеў усе насцярожаныя твары*)—подкупам.

(Агульнае ажыўленне, якое пераходзіць у смех).

Галасы. Подкупам... Ха-ха-ха...

Андр. Карл. Панове, спакойна. (*Калі ўсе суціхлі*). Думка ваша, пане калежскі саветнік, зусім трапная. Подкуп тактыкай дапушчаецца і мы скарыстаем вашу параду. Можна будзе паабяцаць за галаву нягодніка... рублёў семдзесят, ці нават сто... з сакрэтных сум...

Калежскі саветн. (*здаволена*). І тады хай я буду кіргізскім баранам, а не калежскім саветнікам, калі гэтыя зладзеі не выдадуць нам свайго атамана, нават скаваным па руках і нагах.

Андр. Карл. Мы яшчэ аб гэтым падумаем і пагаворым. Аднак ва ўсякім выпадку, належыць прадпрыняць і ваенныя меры. Панове, падавайце вашы галасы, па законнаму парадку.

Генерал. Панове, войска наша ненадзейнае, таму я лічу больш разумным аставацца пад аховай гармат, за моцнай каменнай сцяной, чым на адкрытым полі шукаць шчасця ў зброі. Да таго-ж у бунтаўшчыкоў будзе, па маіх вестках, не менш трох тысяч адборнага войска, не лічучы натоўпу паўстаўшых сялян і не менш дваццаці пяці гармат. Вось чаму я лічу за лепшае абараняцца ў крэпасці.

Галасы. Правільна. Абараняцца ў крэпасці. Мы далучаемся да яго прэвасхадзіцельства.

Андр. Карл. Панове, я вам павінен абвясціць, што з свайго боку я зусім згодзен з поглядам прапаршчыка Грынёва, бо яго меркаванні грунтуюцца на ўсіх правілах здаровай тактыкі, якая амаль заўсёды аддае перавагу наступленню перад абаронай.

(Усе, апрача Грынёва, нездаволена глядзяць на Андрэй Карлавіча. Грынёў не можа стрымаць сваёй радасці).

Андр. Карл. (*пасля вялікай паўзы, у часе якой ён набівае і распальвае люльку*). Але, панове, я не адважуся ўзяць на сябе такую вялікую адказнасць, калі справа ідзе аб небяспецы даручаных мне яе імператарскім вялічаствам, усеміласцівейшай царыцай нашых правінцый. Такім чынам, я згаджаюся з большасцю пададзеных тут галасоў, якія вырашылі, што больш разумна і надзейна перачакаць аблогу ўнутры горада, адбіваючы напады ворага сілай артылерыі і калі гэта будзе магчыма—вылазкамі. Усё. На гэтым мы нашу ваенную нараду скончым. Прашу, панове, дамы чакаюць нас.

(Усе разыходзяцца. Музыка мацнее. Пачынаюцца танцы).
Грынёў ледзь стрымліваючы шаленства, бегае па зале. Уваходзіць Савельіч, ён нясмела аглядаецца, хаваючыся за калонамі, нарэшце заўважыў Грынёва, робіць яму знакі.

Савельіч. Пётр Андрэіч, Пётр Андрэіч... Цсс... На хвіліну сюды...

Грынёў. Савельіч, табе чаго?

Савельіч. Ды вось, Максімыч, памятаеш, ураднік, што з крэпасці да бунтаўшчыкоў перайшоў, яшчэ поўрубля грошай якія нібыта ён згубіў, а ты яму падараваць меў ласку...

Грынёў. Ды добра, ведаю. У чым справа?

Савельіч. Пісьмо табе з крэпасці перакінуў, прасіў перадаць чым хутчэй. Ад капітанскай дачкі пісьмо.

Грынёў. Давай. Што-ж ты марудзіш? (*Вырывае ў Савельіча пісьмо*).

Савельіч. Цс... Хавай. І ахвота табе мець справу з бунтаўшчыкамі? Ні роўны час, прападзеш яшчэ ні за што якое.

Грынёў (*не слухаючы Савельіча, чытае пісьмо*)... Малю бога, каб гэта пісьмо як-небудзь да вас дайшло... Я доўга ляжала хворай, а калі ачуняла, то Аляксей Іванавіч Швабрын пачаў прымушаць мяне выйсці за яго замуж... Ён абыходзіцца са мной вельмі жор-

стка, пагражае смерцю, калі я не згаджуся на яго прапановы. Ён згадзіўся чакаць яшчэ тры дні, а калі праз тры дні за яго не выйду, дык ужо ніякага злітавання мне не будзе. Бацюхна, Пётр Андрэіч, вы адзін у мяне абаронца; заступіцеся за мяне, бедную. Папрасіце генерала і ўсіх камандзіраў прыслаць да нас, як хутчэй дапамогу, ды прыязджайце самі, калі зможаце. Застаюся вам пакорная, бедная сірата... Мар'я Міронава" (*Грынёў скамячыў пісьмо, сціснуў рукі*). Бедная Маша! Што рабіць? (*Заўважыў уваходзячага Андрэя Карлавіча, шпарка падыходзіць да генерала*). Ваша прэвасхадзіцельства, прашу вас, як бацьку роднага, богам прашу, не адмоўце мне ў маёй просьбе; справа ідзе аб шчасці ўсяго майго жыцця.

Андр. Карл. Што такое, бацюхна? Што я магу для цябе зрабіць? Кажы.

Грынёў. Ваша прэвасхадзіцельства, загадайце мне ўзяць роту салдат і паўсотні казакоў і пусціце мяне ачысціць Белагорскую крэпасць.

Андр. Карл. (*глядзіць на Грынёва, як на звар'яцеўшага*). Як гэта? Ачысціць Белагорскую крэпасць?

Грынёў (*з жарам*). За поспех ручаюся. Толькі адпусціце мяне.

Андр. Карл. Не, малады чалавек. На такой вялікай адлегласці бунтаўшчыкам лёгка будзе адрэзаць вас ад камунікацыі з галоўным стратэгічным пунктам і атрымаць над вамі поўную перамогу. Перакрэсленая камунікацыя... (*Пачынае растлумачваць*).

Грынёў (*у яго не хапае цярплівасці*). Ваша прэвасхадзіцельства. Дачка капітана Міронава піша да мяне пісьмо, яна просіць дапамогі: Швабрын прымушае яе выйсці за яго замуж.

Андр. Карл. Няўжо? О, гэты Швабрын, найвялікшы шэльм, і калі ён трапіцца да мяне ў рукі, дык я загадаю яго судзіць у дваццаць чатыры гадзіны і мы расстраляем яго на парапэце крэпасці... Але пакуль што трэба мецъ цярплівасць...

Грынёў (*крычыць*). Мець цярплівасць. А ён тым часам ажэніцца з Мар'яй Іванаўнай.

Андр. Карл. О, гэта яшчэ не бяда: лепш ёй быць пакуль што жонкай Швабрына; ён цяпер зможа зрабіць ёй пратэкцыю; а калі яго расстраляем, тагды бог дасць, знойдуцца ёй жаніхі. Міленькія ўдовачкі ў дзеўках не сядзяць. Не, я хацеў сказаць, што ўдава хутчэй знойдзе сабе мужа, чым дзяўчына.

Грынёў (*у шаленстве*). Я хутчэй згаджуся памерці, чым аддаць яе Швабрыну.

Андр. Карл. (*нарэшце зразумеў*). Ба-ба-ба... Цяпер я разумею. Ты, відаць, закаханы ў Мар'ю Іванаўну сам. О, гэта іншая справа. Бедны хлопчык. (*Уздыхнуў*). Але ўсё-ж я ніяк не магу даць табе роту салдат і паўсотні казакоў. Гэтая экспедыцыя была-б неразумнай. Я не магу ўзяць яе на сваю адказнасць... (*Выходзіць*).

Грынёў (*рашуча*). Савельіч! Колькі ў мяне ўсяго грошай?

Савельіч. Хопіць з цябе. Нягоднікі, як там не шнырылі, а я ўсё-ж такі паспеў схаваць сёе-тое. (*Выцягвае і паказвае капшук з грашыма*).

Грынёў. Ну, Савельіч, аддай-жа мне цяпер палову, а рэшту вазьмі сабе. Я еду ў Белагорскую крэпасць.

Савельіч. Бацюхна Пётр Андрэіч. Пабойся бога. Куды ты паедзеш у гэтакі час, калі нідзе праезду няма з-за бунтаўшчыкоў. Пашкадуй ты хоць бацькоў сваіх, калі сам сябе не шкадуеш... Куды табе ехаць? Пашто?

Грынёў. Я павінен ехаць. Я не магу не ехаць. Не сумуй, Савельіч, бог міласцівы, а можа яшчэ і ўбачымся. Глядзі-ж не скупіся, купляй ўсё, што табе будзе патрэбна, хоць у тры-дарага. Грошы гэтыя я табе дарую. Калі праз тры дні я не вярнуся...

Савельіч. (*перапыняе*). Што гэта ты, васпан? Каб я цябе пусціў аднаго... Ды гэтага і ўва сне не прасі. Калі ты ўжо вырашыў ехаць, дык я хоць пешкі ды пайду за табою, а цябе не пакіну. Каб я ды стаў без цябе сядзець за каменнай сцяною... Ды хіба я розум страціў? Воля твая, васпан, а я ад цябе не адстану.

Грынёў. Ну, добра. Калі так—пайшлі. Тут нам няма чаго больш рабіць... (*Выходзяць*).

(Раптам моцная страляніна. Перапалоханыя госці бегаюць па зале).

---

## АКТ ТРЭЦІ

### СЦЭНА 7-я

Двор крэпасці засыпаны снегам. На сценах гараць бочкі са смалою. Полымя чырвоным заравам асвятляе двор. Дзве гарматы ахоўваюць уваход у дом. Па ганку ходзіць вартавы казак.

У камендантскіх пакоях усё прыбрана для прыёма высокага госця—сцены абклееныя залатой паперай, на падлозе і канапе ляжаць пярэстыя ўсходнія дываны, лаўкі пакрыты чырвоным паркалем. У кутку стаяць старыя казацкія сцягі. Дзве велічэзныя васковыя свечкі асвятляюць пакой.

Пугачоў у чырвоным каптане і высокай шапцы ходзіць па пакою.

За сталом сядзіць обер-сакратар і піша пад агульную дыктоўку маніфест. Побач з ім сядзіць Хлапуша—высокаросла, дужы, шырокаплечы, гадоў сорака пяці мужчына, апрануты ў чырвоную кашулю, кіргізскі халат і шырокія казацкія шаравары. Густая рудая барада, падзёртыя ноздры і чырвоныя плямы на лбе і шчоках надаюць яго шырокаму, рабому абліччу невыказны выраз. Гэта Афанасі Сокалаў, якога клічуць „Хлапуша", былы прыгонны Уральскіх заводаў, які тры разы ўцякаў з Сібірскіх руднях.

Каля яго недалечка сядзіць Белабародаў, кволы, згорблены, з невялічкай сівою барадою, у шэрай світцы, перавітай блакітнай істужкай.

Стаяць Максімыч, Чумакоў, башкірац.

Пугачоў (*обер-сакратару*). Пішы. Усяму народу абвяшчаецца: гэтым іменным наказам з манаршым і бацькоўскім нашым міласэрдзем надараем усіх, знаходзіўшыхся раней у сялянстве і ў паддан-

стве ў абшарнікаў, быць вернападданымі слугамі ўласнай нашай кароны і ўзнагароджваем старажытным крыжам і малітваю, галовамі і барадамі, вольнасцю і свабодаю і назаўсёды казакамі...

Белабародаў (*дадае*). Не патрабуючы рэкруцкіх набораў, падушных і іншых грашовых падаткаў.

Пугачоў. Разумна. Пішы... не патрабуючы рэкруцкіх набораў, падушных і іншых грашовых падаткаў...

Чумакоў. Валоданнем зямлёю, ляснымі сенакоснымі ўгоддзямі і рыбнымі лоўлямі і салянымі вазёрамі без выкупу і без аброку.

Пугачоў. Пішы...

Хлапуша. І вызваляем усіх, каму раней чынілі ад злодзеяў дваран і гарадскіх хабарнікаў-суддзяў сялянам і ўсяму народу накладзаемых падаткаў і іншых абцяжэнняў...

Пугачоў. Пішы:—і жадаем вам збавення душ і спакойнага ў свеце жыцця, для якога мы выспрабавалі і перацярпелі ад прапісаных злодзіяў-дваран, вандраванне і немалое ліха. А як зараз імя наша ўладаю ўсявышней правіцы ў Расіі расквітнела, дзеля чаго і загадваем гэтым нашым імянным наказам, якія раней былі дваране ў сваіх маёнтках і сядзібах, гэтых ворагаў нашай улады і рабаўнікоў сялянства лавіць, караць смерцю, вешаць і рабіць з імі таксама, як і яны, не маючы ў сабе хрысціянства, рабілі з вамі, сялянамі...

Белабародаў (*лятуценна*). Пасля знішчэння якіх ворагаў і злодзеяў-дваран усякі зможа адчуць цішыню і спакойнае жыццё, якое да века працягвацца будзе.

Пугачоў. Усё. Падпісвай маніфест... Пётр Фёдаравіч Усерасійскі!

(На двор крэпасці кіргіз уводзіць звязанага Грынёва і Савельіча).

Кіргіз (*Грынёву*). Пачакай тут. (*Вартавому*). Афісэр злавіў. Пачакай тут. Я скажу цар-гасудар. (*Уваходзіць у дом*).

Казак. Вось скажа пра вас, а там ужо бацькава воля—загадаць павесіць вас зараз ці пачакаць свету божага.

Кіргіз (*да башкірца, паказвае знакамі*). Афісэр злавіў.

Чумакоў (*да кіргіза*). Табе чаго?

Кіргіз (кланяецца Пугачову). Афісэр злавіў, цар-гасудар. Сюды ішоў, у крэпасць ішоў.

Пугачоў. Афіцэра? Давай сюды афіцэра. (*Кіргіз вышаў*).

(Пугачоў садзіцца ў пакрытае дываном крэсла, прымае позу, старшыны становяцца каля яго, пабраўшы ў рукі сцягі, срэбную сякеру і булаву).

Кіргіз ( *да Грынёва*). Ідзіць... Цар-гасудар загадаў пусціць афісэр.

(Грынёў і Савельіч уваходзяць).

Пугачоў (*пазнаўшы Грынёва, скінуў з сябе ўсю важнасць*). А, ваше благародзіе. Як жывеш? Чаго бог прынёс?

Грынёў. Ды вось, ехаў па сваёй справе ў крэпасць, ды твае людзі мяне затрымалі.

Пугачоў. А па якой справе? (*Бачыць замяшанне Грынёва*). Кажы смела, ад іх я нічога не ўтойваю. Кажы па якой справе выехаў ты з Орэнбурга?

Грынёў. Я прыехаў вызваліць сірату, якую тут крыўдзяць.

Пугачоў (*грозна*). Хто з маіх людзей адважваецца крыўдзіць сірату?... Хай ён будзе сямі пядзей у ілбе, а ад суда майго не ўцячэ. Кажы, хто вінаваты?

Грынёў. Швабрын вінаваты. Ён трымае ў няволі, пад вартай дзяўчыну, якую ты бачыў некалі тут хворай і прымусам хоча з ёю ажаніцца.

Пугачоў. Я правучу Швабрына. Спазнае ён у мяне, як сваволнічаць, ды народ абражаць. Я яго павешу.

Хлапуша (*шпарка*). Дай слова сказаць. Ты паспяшаўся прызначыць Швабрына ў каменданты крэпасці, а цяпер спяшаешся яго вешаць. Ты ўжо абразіў казакоў, пасадзіўшы двараніна ім у начальнікі, не палохай-жа дваран, караючы іх смерцю па першаму нагавору.

Белабародаў (*хмура*). Няма чаго іх шкадаваць. Швабрына пакараць не бяда, але не дрэнна будзе і пану афіцэру зрабіць допыт. Калі ён цябе царом не прызнае, дык няма чаго ў цябе і ўправы шукаць. А калі прызнае, дык чаго-ж ён аж да сёнешняга дня сядзеў у Орэнбургу з тваімі супраціўнікамі? Ці не загадаеш весці яго ў канцылярыю, ды запаліць там агеньчык: мне здаецца, што яго міласць падасланы да нас ад Орэнбургскіх камандзіраў.

Пугачоў (*насмешліва*). Ась, ваша благародзіе? Фельдмаршал мой, здаецца, трапна гаворыць? Як ты думаеш?

Грынёў. Я пад тваёй уладай. Ты можаш зрабіць са мною ўсё, што захочаш.

Пугачоў. Добра. (*Пасля паузы*). Скажы ў якім становішчы ваш горад?

Грынёў. Дзякаваць богу ўсё добра.

Пугачоў (*здзіўлена*). Усё добра? А народ мрэ з голаду.

Грынёў. Гэта пустыя чуткі. У Орэнбургу хапае ўсякіх прыпасаў.

Белабародаў (*палка*). Ты бачыш, ён табе ў вочы хлусіць. Усе, хто ўцёк з гораду, у адзін голас даводзяць, што ў Орэнбургу голад і пошасць, што там мерцвячыну з'есці і то за гонар лічуць, а яго міласць запэўняе, што ўсяго хапае. Калі ты Швабрына хочаш павесіць, то ўжо на той-жа шыбеніцы загадай павесіць і гэтага малайца, каб нікому не было зайздросна.

Хлапуша. Годзе, Наумыч. Табе-б усё душыць, ды рэзаць. Што ты за асілак такі?

Белабародаў. А ты што за святы ўгоднік? У цябе гэта адкуль жаласлівасць ўзялася?

Пугачоў. Годзе вам спрачацца, паны енералы. Не бяда, калі-б і ўсе орэнбургскія сабакі дрыгалі нагамі пад аднэй шыбеніцай.

Грынёў (*хоча змяніць на другое небяспечную размову*). Ах... Я быў ужо і забыўся падзякаваць табе за каня ды кажух. Без цябе я не дабраўся-б да гораду і змёрз бы на дарозе.

Пугачоў (*весела*). Любіш пазычаць—любі і аддаваць, як кажа прыказка. (*Да Белабародава*). Чуеш, фельдмаршал? Мы з яго благародзіем старыя прыяцелі. (*Сеў з Грынёвым на канапе*). Ну, дык раскажы мне цяпер, якая ў цябе справа да той дзяўчыны, якую Швабрын абражае? Ужо ці не зачаравала яна сэрца маладзецкае? Га?

Грынёў. Яна нявеста мая.

Пугачоў (*здзіўлена*). Твая нявеста? Чаму-ж ты раней не казаў? А ну паклікаць мне зараз-жа сюды Швабрына. (*Чумакоў і Максімыч вышлі*). Ды мы ажэнім цябе і на вяселлі пагуляем. (*Пасля паузы*). Аб чым задумаўся, ваша благародзіе?

Грынёў. Як не задумацца. Я афіцэр, дваранін, учора яшчэ змагаўся супроць цябе, а сёння сяджу з табою побач і шчасце ўсяго майго жыцця залежыць ад цябе.

Пугачоў. Што-ж, страшна табе?

Грынёў. Калі адзін раз я ўжо быў табою памілаваны, то прызнаюся, і зараз я спадзяюся не толькі на тваю міласць, але нават і на дапамогу.

Пугачоў. Твая праўда. Далібог, твая праўда. Ты бачыў, што мае хлопцы паглядалі скоса на цябе, а стары нават казаў аб тым, што ты шпіён і што трэба цябе дапытаць і павесіць, але я не згадзіўся, бо помню тваю шклянку віна, ды заячы кажух. Бачыш, я не такі ўжо крывапіўца, як гаворыць аб гэтым ваша панства.

(Уваходзіць Швабрын).

Швабрын (*нізка кланяючыся Пугачову, гаворыць лісліва*). Я тут, цар-бацюхна. З'явіўся перад твае светлыя вочы, як ты загадаў. (*Заўважыў Грынёва, адразу выпрастаўся, гаворыць у замяшанні*). А, і ты... наш? Даўно-б гэтак.

Пугачоў. Скажы, браток, якую дзяўчыну трымаеш ты ў сябе пад вартай? Пакажы мне яе.

Швабрын (*страшэнна перапалохана*). Цар-бацюхна, яна не пад вартай... Яна хворая... яна ў святліцы ляжыць...

Пугачоў. Вядзі мяне да яе... (*Устае разам з Грынёвым*).

Швабрын (*шпарка*). Цар-бацюхна. Вы маеце права патрабаваць ад мяне ўсё, што пажадаеце, але не загадвайце староннаму чалавеку ўваходзіць у спальню да маёй жонкі.

Грынёў (*з жахам*). Як? Ты жанаты?

Пугачоў (*перапыняе Грынёва*). Ціха. Гэта мая справа. (*Да Швабрына*). А ты не выкручвайся, жонка яна табе ці не жонка, а я вяду да яе каго хачу. (*Да Грынёва*). Ваша благародзіе, ідзі за мною.

Швабрын (*стаў на дарозе*). Цар-бацюхна, папярэджваю вас, што яна ў белай гарачцы і ўжо трэці дзень, як ляжыць без памяці.

Пугачоў. Ідзем.

Швабрын (*шукае ў кішэні*). Здаецца, я не ўзяў з сабою ключа...

Пугачоў (*раззлавана*). Ну досыць. Максімыч, ідзі, прывядзі сам сюды дзяўчыну. (*Швабрыну*). А ты аставайся тут. Чумакоў, не пушчай яго.

(Праз хвіліну Максімыч уваходзіць з Машай. Яна ў падзёртай бруднай вопратцы з распушчанымі валасамі).

Грынёў (*убачыўшы яе, ускрыкнуў*). Маша!

Маша (*радасна*). Пётр Андрэіч!

Пугачоў (*стрымлівае Грынёва, гаворыць да Машы*). Скажы мне, галубка, за што твой муж цябе няволіць? У чым ты перад ім вінавата?

Маша (*здзіўлена*). Мой муж? Які мой муж?

Пугачоў (*паказвае на Швабрына*). Ды вось ён,—Швабрын.

Маша. Мой муж? Ён мне не муж. Я ніколі не буду яго жонкай. Я вырашыла лепш памерці, і памру, калі мяне не вызваляць.

Пугачоў (*грозна да Швабрына*). І ты адважыўся хлусіць мне? Ці ведаеш ты, нягоднік, чаго ты варты?...

Швабрын (*кінуўся Пугачову ў ногі*). Даруй мне, цар-бацюхна. Даруй.

Пугачоў (*сурова*). Мілую цябе на гэты раз, але помні, што пры першай-жа віне табе прыпомніцца і гэта. (*Ласкава да Машы*). Ну, чараўніца, дарую табе волю. (*Да Грынёва смеючыся*). Што, ваша благародзіе, выратавалі дзяўчыну-красуню? Як думаеш, ці не паклікаць папа, ды прымусіць яго абвянчаць вас? Я, так і быць, буду пасаджоным бацькам. (*Хітра падміргваючы*). Швабрын—шаферам. Загуляем, зап'ем і браму замкнем.

Швабрын (*крычыць у шаленстве*). Паслухай, цар-бацюхна. Я вінаваты, я вам схлусіў, але ж і Грынёў вас ашуквае. Гэта дзяўчына не сястра Палашкі. Яна дачка Івана Міронава, які павешаны пры захопе тутэйшай крэпасці.

Пугачоў (*здзіўлена глядзіць на Грынёва*). Гэта яшчэ што?

Грынёў (*цвёрда*). Швабрын сказаў праўду табе.

Пугачоў (*хмура*). Ты мне гэтага не казаў.

Грынёў. Сам падумай. Хіба можна было пры ўсіх абвяшчаць, што дачка капітана Міронава жывая. Ніштo-б яе не выратавала. Слухай, як цябе называюць, я не ведаю, ды і ведаць не хачу... Але, бачыць бог, што я рады быў бы жыццём сваім заплаціць табе за ўсё тое, што ты для мяне зрабіў... Ты мой дабрадзей. Дакончы-ж, як пачаў: адпусці мяне з беднай сіратою. А мы дзе-б ты ні быў і што-б з табою не здарылася, кожны дзень будзем бога маліць аб збавенні грэшнай тваёй душы.

Пугачоў (*усміхнуўся. Пасля паўзы, уздыхнуўшы*). Добра. Хай будзе па твойму. Караць дык караць,—мілаваць дык мілаваць, такі мой звычай. Вазьмі сабе сваю красуню: вязі яе куды хочаш і дай вам бог згоду, ды любоў. (*Да Чумакова*). Выдаць ім пропуск ва ўсе заставы і падуладныя мне крэпасці.

(Грынёў і Маша нізка кланяюцца Пугачову)

Ну, а цяпер, Швабрын, пакажы, які ты тут гаспадар, пачастуй нас віном, ды загадай паклікаць сюды спевакоў, ды музыкаў. Пагуляем на заручынах яго благародзія. Сядайце ўсе да стала.

Грынёў (*абымае Машу*). Мілая Мар'я Іванаўна, дазволь лічыць цябе сваёю жонкаю. Дзіўныя абставіны злучылі нас непадзельна. Нішто на свеце зараз не можа нас ра́злучыць. (*Вядзе яе да стала*).

(Уваходзіць народ: казакі, кіргізы, башкіры, хлопцы і дзяўчаты з крэпасці).

Пугачоў (*запрашае ўсіх да стала. Заўважыў Савельіча*). Га-а... Стары хрыч. Ізноў бог даў спатканца. Ну, сядай і ты.

Савельіч (*кланяецца*). Дзякую, цар-гаспадар. Дзякую, родны бацька. Дай божа табе сто гадоў жыць і здаровым быць за тое, што ты мяне, старога заўважыў. Век за цябе буду бога маліць, а пра заячы кажушок больш і не ўспомню.

Пугачоў (*рагоча. Бярэ ў падышоўшага да яго з падносам Швабрына чарку, паказвае на Грынёва*). Пачастуй і яго благародзіе.

(Швабрын падносіць. Грынёў адварочваецца. Замест яго бярэ чарку Савельіч. Пачынаецца баляванне. Госці п'юць і ядзяць. Дзяўчаты спяваюць).

„Як у нашай яблыні
Верхавіны няма, ані парасткаў
Як у нашай княгінюшкі
Ні бацькі няма, а ні матухны.
Выпраўляць яе ай няма каму:
Бласлаўляць няма каму.

Пугачоў (*да Грынёва*). Што кажуць пра мяне ў Орэнбургу?

Грынёў. Ды гавораць, што з табою цяжка зладзіць. Што й казаць, даўся ты ім у знакі.

Пугачоў (*задаволена*). Так. Я ваюю хоць куды. (*Голасна, каб усе чулі*). А ці ведаюць у вас у Орэнбургу пра бойку пад Юзеявай? Сорак генералаў забіта, чатыры арміі ўзяты ў палон. Як ты думаеш: пruскі кароль ці змог бы са мной пацягацца?

Грынёў. А ты сам як думаеш? Ці справіўся-б ты з Фрыдэрыкам?

Пугачоў. З Фёдарам Фёдаравічам? А хіба не? З вашымі генераламі я-ж спраўляюся, а яны яго білі. Дагэтуль зброя мая шчасце мела. Дай часу, ці тое яшчэ будзе, калі трасянём Масквою.

Грынёў. Ты думаеш ісці на Маскву?

Пугачоў. Вуліца мая цесная, волі мне мала.

Грынёў. Грышка Атрэп'еў царстваваў над Масквою, а ведаеш, чым ён скончыў? Яго выкінулі з акна, зарэзалі, спалілі, набілі яго попелам гармату і стрэлілі.

Пугачоў. Грышка Атрэп'еў?.. Слухай. (*З нейкім дзікім захапленнем да ўсіх голасна*). Слухайце ўсе. Раскажу вам байку, якую калісьці ў дзяцінстве расказвала мне старая калмычка. Аднаго разу арол пытаецца ў крумкача: скажы мне, крумкач-птушка, чаму жывеш ты на белым свеце трыста год, а я ўсяго на ўсяго толькі трыццаць тры гады? Таму, бацюхна, адказвае яму крумкач, што ты п'еш жывую кроў, а я кармлюся мерцвячынай. Арол падумаў: давай паспрабуем і мы карміцца тым-жа. Добра. Паляцелі арол ды крумкач. Вось убачылі яны здохлага каня, спусціліся

і селі. Крумкач пачаў дзюбаць, ды хваліць. Арол дзюбануў раз, дзюбануў другі, узмахнуў крылом ды сказаў крумкачу: не, браце, крумкач, чым трыста год карміцца падлаю, лепш раз напіцца жывой крыві. Вось якая калмыцкая казка. Ну, хопіць. Павесяліліся і годзе. Панове старшыны, сядлайце коні, у Бердах чакаюць нас— войска на Казань углядаецца.

Галасы. На Казань. На Казань.

Пугачоў. Там даўно нас ужо ў госці чакаюць—пірагоў напяклі, брагі насаладзілі...

(Агульны рогат).

Пугачоў (*да Грынёва*). Ну, бывай, ваша благародзіе. Можа яшчэ калі і ўбачымся. Згода ды любоў табе з тваёй маладзіцай.

(Грынёў і Маша нізка кланяюцца Пугачову).

Пугачоў (*да ўсіх прысутных*). Бывайце, дзетухны. Жывіце ў згодзе і добрым здароўі. (*Кланяецца на ўсе бакі*). Не памінайце ліхам.

(Народ, шумна вітаючы Пугачова, праводзіць яго).

(Савельіч выходзіць разам з усімі).

Грынёў (*калі ўсе выйшлі*). Мілая Мар'я Іванаўна. Ты зараз-жа з Савельічам паедзеш адгэтуль...

Маша. А куды-ж я магу паехаць? Хіба ў Орэнбург, да хрэснай маці?

Грынёў. Орэнбург абложаны. У ім голад і пошасць.

Маша. Тады мне няма куды больш ехаць, я круглая сірата. Мне ўжо лепш аставацца тут.

Грынёў. Што ты, Маша. Тут камандуе Швабрын. Гэта немагчыма. Ты паедзеш у вёску да маіх бацькоў.

Маша. Не, не, што ты, што ты. Твой бацька...

Грынёў. Супакойся. Мой бацька будзе лічыць сваім шчаслівым абавязкам прыняць дачку капітана, загінуўшага за айчыну. Так. Так. Можаш быць упэўненай. Не будзем губляць дарма часу, ідзі, збірайся ў дарогу. Я вас крыху праводжу, а сам пасля павінен звярнуцца ў Орэнбург. Я абавязаны быць у войску царыцы.

Маша (*з замілаваннем глядзіць на Грынёва*). Бывайце, Пётр Андрэіч. Прыдзецца нам убачыцца больш ці не—бог адзін ведае. Але век не забуду вас, да магілы ты адзін астанешся ў маім сэрцы. (*Яны цалуюцца*).

Савельіч (*уваходзіць, закрывае на завал дзверы; заўважае цалуючыхся Грынёва і Машу*). Божа! Дзіця цалуецца!

(Маша, засароміўшыся, уцякла ў бакоўку).

Грынёў. Савельіч! Збірайся ў дарогу, адвязі Мар'ю Іванаўну да нас, да дому, у вёску.

Савельіч. Што ты, васпан? Як я цябе аднаго пакіну? Хто за табою будзе даглядаць? Што скажуць бацькі твае?

Грынёў (*ласкава*). Дружа ты мой, Архіп Савельіч, не адмаўляйся, зрабі мне ласку. Я як-небудзь абыйдуся і без тваіх паслуг, але, калі Мар'я Іванаўна паедзе ў дарогу без цябе—я не буду спакойным. Служачы ёй, ты служыш і мне, таму што я цвёрда вырашыў, як толькі абставіны мне гэта дазволяць, ажаніцца з Мар'яй Іванаўнай.

Савельіч. Ажаніцца? А што скажа стары пан, а матуля ваша што падумае?

Грынёў. Згодзяцца, напэўна згодзяцца, калі бліжэй пазнаюць Мар'ю Іванаўну. Апроч таго, я спадзяюся і на цябе. Бацька і маці табе вераць, ты будзеш прасіць за нас. Ці-ж не так, Архіп Савельіч?

Савельіч. Ох, бацюхна ты мой, Пётр Андрэіч, хоць і рана задумаў ты жаніцца, але затое Мар'я Іванаўна такая добрая паненка, што грэх і прапусціць аказію. Хай будзе па твойму. Праводжу яе, анёла божага, і пакорліва буду даводзіць тваім бацькам, што такой нявесце не трэба і пасагу.

Грынёў. Ну, вось і добра. Ідзі, скажы, каб нам запрагалі коней у дарогу. (*Савельіч вышаў. Грынёў ідзе да дзвярэй Машы, кліча яе*). Маша! Мар'я Іванаўна! (*Адчыняе дзверы, асцярожна глядзіць*). Маша... Бедная мая галубка, яна заснула на клумках. Пакладу яе на ложак. (*Выходзіць. Хутка варочаецца назад, ціха прычыняе дзверы*). Бедная мая, яна так моцна спіць, што нават не чула, як я перанёс яе і паклаў на ложак. Не дзіва—гэтулькі перажыць за адзін дзень...

(Уваходзіць Савельіч).

Савельіч. Не дае камендант коней.

Грынёў. Гэта хто? Швабрын?

Савельіч. Але-ж, яго благародзіе пан Швабрын. Кажа, куды гэта на ноч гледзячы, пачакайце да раніцы.

Грынёў (*гнеўна*). Нягоднік. Ён будзе карыстацца кожным выпадкам, каб адпомсціць мне. Але ўсё-ж, думаю, ён не забыў, што ад Белагорскай да Берд недалёка. У яго не хопіць адвагі пярэчыць Пугачову. (*Падышоў і глянуў у дзверы да Машы*). Маша спіць—што-ж пачакаем раніцы.

Савельіч. Кладзіся, васпан, вось сюды на канапу кладзіся, адпачні. (*Укладвае Грынёва*).

Грынёў. Толькі крышачку, на адну хвілінку—хіба, не больш. Нам тут заставацца небяспечна.

Савельіч. Ды адпачні, чаго там. Раніца ад вечара мудранейшая. (*І сам лёг каля канапы*).

---

Ноч. Да дому падыходзіць Швабрын. Углядаецца ў акно. Узыходзіць на ганак. Выбег казак.

Казак (*крычыць*). Трывога... Трывога...

Швабрын. Цыц. Хто тут крычыць?

Казак. Ваша благародзіе, гусары каля крэпасці...

Швабрын. Гусары? Гм... (*Задумаўся*). І многа?

Казак. Многа... Трэба біць у звон. Збіраць народ...

Швабрын. Чакай. Я ведаю, што рабіць. (*Схапіў вартавога за горла, душыць, пасля цягне за сцэну*).

(У пакой да Грынёва выбягае Маша.

Грынёў і Савельіч прачнуліся).

Маша. Пётр Андрэіч...

Грынёў. Маша... Што з табою?

Маша. Я чула нечый крык. (*Савельіч углядаецца ў акно*).

Грынёў (*прыслухоўваецца*). Нічога не чуваць.

Маша. Няўжо мне здалося? Раптам стала так страшна. Жудасна. (*Прытулілася да Грынёва*).

Грынёў. Ты ўся дрыжыш. (*Накрывае яе футрай, садзіць на канапу, абымае*).

Савельіч. Ноч—хоць вочы выкалі, цёмная...

Грынёў (*да Машы*). Супакойся, мілая...

(Некалькі стрэлаў, па двары прабеглі цені, забомкаў звон, недзе ўспыхнула зарава. На працягу далейшых сцэн за кулісамі страляніна і крыкі. Савельіч і Грынёў ускочылі, глядзяць у акно. Моцны стук у дзверы,—голас вахмістра...)

Вахмістр. Адчыніце. Хто там у доме?

Савельіч (*важна, грозным голасам*). Хто там адважваецца гэтак стукаць? Тут царскі кум са сваёю гаспадыняю.

Гусары. Царскі кум... (*Рагочуць*).

Вахмістр. Выходзь, чортаў кум! Вось ужо будзе табе лазня разам з тваёю гаспадыняю.

Савельіч (*аж сеў ад нечаканасці*). Вось табе і царскі кум. З агня ды ў полымя.

(Грынёў правёў Машу ў бакоўку. Савельіч ідзе адчыняе дзверы. У пакой урываюцца вахмістр і гусары. Вахмістр, заўважыўшы афіцэра, здзіўлена глядзіць на Грынёва, пасля бярэ пад казырок. Гусары таксама прысмірэлі).

Грынёў. Пан вахмістр, ідзіце, далажыце вашаму начальніку, што прапаршчык Грынёў хоча з ім пагаварыць.

(Вахмістр выйшаў).

Савельіч. Божа літасцівы, чым усё гэта скончыцца?

Грынёў. Не бойся, Савельіч.

Савельіч. Ды я не баюся,—чаго тут—я за гэты час усяго наглядзеўся.

Вахмістр (*уваходзіць*). Так што яго высокаблагародзію гаварыць з вамі няма калі і ён загадаў адвесці вас у турму, а гаспадыню вашу да яго высокаблагародзія.

Грынёў (*утаропіўся*). Што? Што гэта значыць? (*У шаленстве крычыць*). Ды хіба ён звар'яцеў?

Вахмістр. Не магу знаць, ваша благародзіе. Толькі яго высокаблагародзіе загадаў ваша благародзіе адвесці ў турму, а яе благародзіе загадана прывесці да яго высокаблагародзія, ваша благародзіе.

Грынёў. Савельіч. Ідзі да Мар'і Іванаўны, супакой яе, а я сам пайду да начальніка.

Вахмістр дае знак. Гусары схапілі Грынёва, ён вырываецца.

Зурын (*за сцэнай*). З крэпасці нікога не выпушчаць. (*Уваходзіць у пакой*).

Грынёў (*пазнаў Зурына, крычыць*). Іван Іванавіч!

Зурын. Ба-ба-ба. Пётр Андрэіч, якім ветрам? Адкуль ты?

Грынёў. Проста дзіва, Іван Іванавіч. Вось шчасце. (*Яны абымаюцца*).

Зурын. Здарова, браце, здарова. У карты гуляеш?

Грынёў. Дзякую. Ты лепш загадай выдаць нам пропуск на праезд.

Зурын. Які пропуск? Заставайся ў мяне—тут...

Грынёў (*перапыняе*). Не магу, я не адзін.

Зурын. Ну, давай сюды і таварыша.

Грынёў. Я не з таварышам; я з. . дамаю.

Зурын. З дамаю? Дзе-ж ты яе падчапіў? Эге, браце. (*Выразліва свіснуў, гусары зарагаталі*). Ну, так і быць,—будзе табе пропуск. А шкада... Мы-б гульнулі па даўнейшаму... (*Да вахмістра*). Гэй, вахмістр. Чаму-ж сюды не вядуць пугачоўскую куму? Ці яна ўпіраецца? Скажы ёй, каб не баялася. Скажы, пан афіцэр добры, нічым не пакрыўдзіць, ды ў шыю яе, як мае быць.

Грынёў. Што ты гэта? Якая пугачоўская кума? Гэта дачка нябошчыка капітана Міронава. Я вызваліў яе з палону і цяпер адпраўляю ў вёску да бацькоў, дзе яна і астанецца.

Зурын (*здзіўлена*). Як? Дык гэта пра цябе мне зараз дакладвалі?

Грынёў. Пра мяне.

Зурын. Змілуйся—што-ж гэта ўсё азначае?

Грынёў. Пасля ўсё раскажу, а цяпер—калі ласка, дапамажы мне вярнуцца ў Орэнбург, а жонку маю адправіць да бацькоў.

Зурын. Жонку?

Грынёў. Будучую маю жонку, я хацеў сказаць.

Зурын (*з жахам*). Жэнішся, значыць?

Грынёў. Жанюся.

Зурын. Прападзеш ні за што...

Грынёў. Як гэта? Але-ж я люблю Мар'ю Іванаўну і Маша мяне любіць.

Зурын. Усё гэта добра: адно толькі дрэнна. На якое табе ліха жаніцца? Ну, куды табе цягацца з жонкаю, ды няньчыцца з дзецьмі. Э, плюй. Паслухай мяне—развяжыся ты з капітанскаю дачкой. Адпраў яе заўтра адну к бацькам тваім, дарога на Орэнбург мною ачышчана, а сам аставайся ў мяне ў эскадроне. Такім чынам любоўны чад пройдзе сам па сабе і ўсё будзе добра.

Грынёў. Не, Іван Іваныч, не згодзен я з табою.

Зурын. Ну, рабі, як знаеш.

(У пакой урываецца Швабрын, за ім вахмістр і некалькі гусараў, якія яго стрымліваюць).

Швабрын. Пусціце, нягоднікі, што вы мяне трымаеце? Прэч. (*Да Зурына*). Ваша высокаблагародзіе, пан ротмістр. Я згадзіўся

здаць вам крэпасць пры ўмове маёй поўнай свабоды. Вы не трымаеце слова.

Зурын. Ха-ха-ха... Што такое даць слова здрадніку прастола і прысяге. Цьфу. (*Сакавіта плюнуў. Зварочваецца да Грынёва*). Ці-ж не праўда, Пётр Андрэіч... (*Грынёў маўчыць*). Вайсковая тактыка—нічога больш. Узяць яго. (*Гусары схапілі Швабрына*).

Швабрын. Ах, вось як? А чаму ў вас на свабодзе здраднік прастолу пугачоўскі любімчык, прапаршчык Грынёў?

Зурын (*спахмурнеў, глянуў на Грынёва*). Чакай, чакай... Вахмістр, дзе гэты загад які мы сёння атрымалі? (*Вахмістр падае паперу, Зурын чытае*). „Сакрэтна. Загад... Усім начальнікам... прапаршчыка Грынёва Пятра Андрэевіча... дзе-б ён не папаўся... зараз-жа... а-рыш-та-ваць“... (*Холадна глянуў на Грынёва*). Прапаршчыка Грынёва, Пятра Андрэявіча, сумнення быць не можа. То-ж гэта аб табе загад. Гм... Мой абавязак падпарадкавацца загаду—сам разумееш. (*Гаворыць вахмістру*). Узяць іх абодвых і ў... турму.

(Гусары выводзяць Грынёва. У гэты момант з бакоўкі выбягае Маша, заўважыла што выводзяць арыштаванага).

Швабрын (*дзіка ўскрыкнуў*). Маша...

Маша (*кідаецца да Грынёва*). Пётр Андрэіч. Ды што-ж гэта такое? Куды яны вас вядуць, Пётр Андрэіч?

Грынёў. Маша, родная мая, супакойся. Усё высветліцца. (*Да Зурына*). Іван Іванавіч, клянуся, я не вінаваты. Я прашу цябе, супакой яе.

Зурын. Не сумнявайся. (*Робіць знак вахмістру*). Вядзіце.

(Швабрына і Грынёва выводзяць).

Савельіч (*выбег, заўважыў, што выводзяць арыштаванага Грынёва, крычыць*). Пётр Андрэіч дзіцятка. Куды гэта яны цябе?

Грынёў. Савельіч, вязі Машу адсюль... (*Яго вывелі*).

Савельіч (*кідаецца за ім услед*). Пётр Андрэіч...

Зурын (*стаў на дарозе*). Куды?

Савельіч. Ваша высокаблагародзіе, пусціце. Ваша высокаблагародзіе, загадайце аслабаніць панскае дзіця...

Зурын (*груба адштурхнуў Савельіча*). Пшоў вон, стары пёс.

Маша (*стала на калені перад Зурыным*). Пан афіцэр, клянуся, ён не вінаваты. Гэта ён для мяне аднэй...

Зурын (*падымае Машу*). Супакойцеся, красуня, нічога страшнага. Пётр Андрэіч, калі ён сапраўды не вінаваты, зможа апраўдацца і справа не будзе мець ніякіх дрэнных вынікаў. Я вам раю не хвалявацца... (*Прытуліў яе да сябе*) і не сумаваць...

Маша (*адштурхнула Зурына*).

Паміж Зурыным і Машай стаў Савельіч, засланяючы сабою Машу, грозна глядзіць на Зурына).

Зурын. Аднак... (*Шпарка выходзіць*).

Знясіленая Маша апускаецца на рукі Савельіча.

---

## АКТ ЧАЦВЕРТЫ

### СЦЭНА 8-я.

Следчы пакой. Цяжкія скляпенні. Дзверы ў розныя бакі. Стол, лаўкі. Партрэт Екацерыны на сцяне.

За сталом генерал, гвардзейскі капітан, ваенны пісар. Перад сталом, закуты ў ланцугі Грынёў, за ім варта.

Генерал. Годнасць?

Грынёў. Прапаршчык гарнізона Белагорскай крэпасці.

Генерал. Імя?

Грынёў. Грынёў, Пётр Андрэевіч.

Генерал. Грынёў? (*Углядаецца ў Грынёва*). Часам не сын прэм'ермайору Андрэю Пятровічу Грынёву?

Грынёў. Сын.

Генерал. Гм... Шкада, што такі шаноўны чалавек мае такога нягоднага сына.

Грынёў (*спакойна і ўпэўнена*). Якія-б не былі ўзведзеныя на мяне абвінавачванні, я спадзяюся шчырым растлумачэннем ісціны— знішчыць іх.

Генерал (*якому не спадабалася ўпэўненасць Грынёва— хмура*). Ты, браце, шустры, ды бачылі мы і не гэтакіх.

Капітан. Скажыце, прапаршчык Грынёў, з якой прычыны і калі, у які час пачалі вы службу ў Пугачова і для якіх даручэнняў ён вас скарыстоўваў?

Грынёў (*цвёрда*). Я, як афіцэр і дваранін, ні ў якую службу да Пугачова ўступаць не мог і ніякіх даручэнняў ад яго прымаць таксама не мог.

Капітан. Якім-жа чынам, афіцэр і дваранін, адзін памілаваны самазванцам, у той час, як усе яго таварышы зладзейскім чынам забіты? Якім чынам гэты самы афіцэр і дваранін па сяброўску балюе з бунтаўшчыкамі, прымае ад галоўнага зладзея падарункі, футру, каня, поўрубля грошай? Чаму адбылася такая дзіўная дружба і на чым яна ўзнікла, як не на дзяржаўнай здрадзе, альбо ў іншым выпадку, на злачыннай і агіднай баязлівасці?

Грынёў (*гнеўна крычыць*). Як вы смееце абвінавачваць мяне ў баязлівасці?

Генерал. Арыштаваны! Трымайце сябе спакойна. Адказвайце на запытанне.

Грынёў (*пасля паўзы*). Я зусім выпадкова сустрэўся з Пугачовым у стэпу. Быў страшэнны буран, мы заблудзіліся, ён вывеў нас на дарогу і прывёў на заезны двор. Ён быў лёгка апрануты і змёрз. Я падараваў яму заячы кажух. Калі Пугачоў захапіў Белагорскую крэпасць, ён мяне пазнаў і памілаваў. Футру і каня я, праўда, не пасаромеўся ўзяць ад яго, але-ж я да апошняга моманта змагаўся супроць самазванца, абараняючы Орэнбург.

Генерал. І ўцяклі з гораду ў самы цяжкі момант. Чым вы гэта вытлумачыце, арыштаваны?

Грынёў. Аб прычынах майго адыходу з горада добра ведае яго правасхадзіцельства генерал Рэйнсдорп.

Генерал (*пісару*). Зачытайце пісьмо яго прэвасхадзіцельства генерала Рэйнсдорпа.

Пісар (*чытае манатонна і па складах*). „На запытанне вашага прэвасхадзіцельства адносна прапаршчыка Грынёва, які нібыта мае дачыненне да цяперашняга непакою, увайшоў у зносіны са злодзеем, службаю недазволеныя і абавязку прысягі варожыя, растлумачыць маю гонар—прапаршчык Грынёў знаходзіўся на службе ў Орэнбургу... з гораду адлучыўся і з тэй пары ўжо ў каманду маю не з'яўляўся. А чуваць ад перабежчыкаў, што ён быў у Пугачова... Што да яго паводзін, то я магу..."

Генерал (*перапыняе чытанне*). Хопіць. Што ты цяпер скажаш сабе ў апраўданне?

Грынёў. Але-ж я паехаў выратаваць... (*Раптам думка аб тым, што ён можа заблытаць і Машу, прымусіла яго змоўкнуць. Ён з ненавісцю глянуў на дапытваўшых*) Не... больш я не маю чаго сказаць...

Капітан. Ваша прэвасхадзіцельства, я патрабую зрабіць очную стаўку з галоўным даносчыкам.

Генерал (*пісару*). Прывесці сюды арыштаванага Швабрына.

(Пісар выходзіць. Уводзяць Швабрына).

Капітан (*да Швабрына*). Паўтарыце ўсё тое, што вы казалі аб прапаршчыку Грынёве на папярэднім допыце.

Швабрын (*лісліва*). Слухаю, ваша высокаблагародзіе. (*Насмешліва глядзіць на Грынёва, гаворыць нахабна і ўпэўнена*). Прапаршчык Грынёў адразу-ж пасля таго, як Пугачоў захапіў Белагорскую крэпасць, перайшоў на бок бунтаўшчыкоў. Як высветлілася, дык ён даўно знаёмы з самазванцам, вось чаму Пугачоў зараз-жа накіраваў яго ў Орэнбург шпіёнам. Кожны дзень у часе перастрэлкі здраднік Грынёў выязджаў нібыта біцца, а на справе перадаваў праз былога вурадніка Белагорскай крэпасці Максімыча пісьмы Пугачову, у якіх паведамляў аб усім, што робіцца ў горадзе. Пасля ён прыехаў да самазванца і стараўся загубіць нас, сваіх былых таварышоў-здраднікаў, каб заняць нашы месцы і карыстацца ўзнагародамі, якія раздаваў самазванец.

Генерал (*пасля паўзы, да Грынёва*). Чым вы можаце абвергнуць паказанні Швабрына?

Грынёў (*плюе Швабрыну ў твар*). Вось чым.

Генерал (*крычыць*). Арыштаваны!

Грынёў (*спакойна*). Я ўжо даў вам свае тлумачэнні. Нічога іншага ў свае апраўданне я вам сказаць больш не магу.

Капітан. Ясна.

Генерал. Ясна. (*Капітану*) Адпраўце іх у турму. (*Пісару*). Прывесці сюды самазванца.

(Генерал і капітан выходзяць).

Грынёў. (*Да пісара*). Як? Няўжо Пугачова схапілі?

Пісар. Сядзіць закуты.

Грынёў (*з уздохам*). Эх, Емеля, Емеля.

Швабрын. Спачуваеце, значыць?

Грынёў. Чалавеку — заўсёды, падлецу—ніколі. *(Горда праходзіць перад Швабрыным, Швабрын ідзе следам).*

(На сцэну ўваходзяць капітан, афіцэр, Маша і Савельіч).

Капітан. Вось, калі ласка, уваходзьце сюды; прыдзецца крышачку пачакаць. Я зараз-жа далажу яго прэвасхадзіцельству і загадаю прывесці сюды прапаршчыка Грынёва. *(Да афіцэра).* Ідзем са мною. *(Выходзіць разам з афіцэрам).*

Савельіч. Бачыш, як замітусіліся. А раней-бы гаварыць з намі не захацелі... Вось што значыць па шчуччаму павяленню, па...

(Уваходзіць пісар).

Пісар *(крычыць).* Хто вас сюды пусціў? Сюды нельга.

Савельіч. Не крычы, васпан, а перш спытайся, хто перад табою, якія людзі?

Пісар. Хто-б ні быў—выходзь. Сюды зараз прывязуць на допыт з турмы дзяржаўных злачынцаў.

Савельіч *(важна).* Кінь гарлаць. Перад табой капітанская дачка з павяленнем ад самой царыцы матухны Екацерыны.

(Пісар вышаў. Варта ўводзіць Грынёва).

Савельіч. Бацюхна. Дзіцятка. Пётр Андрэіч...

Грынёў. Маша.

Маша. Пётр Андрэіч. *(Кідаецца да Грынёва. Варта яе адштурхоўвае).*

Савельіч. Ну, ну, асцеражней. Пётр Андрэіч, дзіцятка, як змізарнеў. У турме не ў карчме.

Маша. Бедны мой Пётр Андрэіч... Пеця...

(Уваходзіць генерал з ім пісар).

Генерал. Хто тут выхваляецца павяленнем яе імператарскага вялічэства, матухны царыцы нашай?

Маша *(горда).* Я не выхваляюся. Я патрабую выканання загаду яе імператарскага вялічаства!

(Уваходзіць капітан і афіцэр).

Капітан *(да генерала).* Ваша прэвасхадзіцельства, імянное павяленне яе імператарскага вялічэства аб аслабаненні прапаршчыка Грынёва. *(Робіць знак афіцэру, той падае генералу паперу).*

Генерал *(чытае. Паволі на твары яго зменьваюцца розныя пачуцці. Ён пачціва кланяецца Машэ).* Прашу выбачэння. *(Да пісара і вартавых).* Зняць кайданы з прапаршчыка Грынёва. *(Да Грынёва).* Адчувайце сябе зусім свабодна. Сын паважанага прэм'ер-майора, дваранін, і раптам... Ну, я вельмі рады... Віншую... Віншую... Капітан, зрабіце распараджэнне, каб прапаршчыку Грынёву выдалі дакуманты. *(Да Грынёва)* Вам прыдзецца тут крышку пачакаць. *(Да пісара)* Прывесці да мяне зараз-жа самазванца. *(Вышаў).*

(За ім выходзяць усе, апрача Грынёва, Машы і Савельіча).

Грынёў. Маша, гэта не сон? Мілая, дарагая, раскажы мне хутчэй, што ўсё гэта значыць?

Маша. Усё, усё раскажу, Пётр Андрэіч. Скончыліся твае пакуты.

Савельіч. Сядайце, галубкі мае, дзіцятка ледзь на нагах трымаецца, не дзіва—у ланцугах.

Грынёў. Дарагія мае, расказвайце, я хачу хутчэй усё ведаць.

Маша. Калі цябе арыштавалі, мы з Савельічам паехалі да вас у Сімбірск. Вестка аб тваім арышце здзівіла тваіх бацькоў. Тата твой не хацеў верыць, каб ты мог быць замешаным у паўстанні, накіраваным супроць прастолу і да знішчэння дваранскага роду. Прайшло некалькі тыдняў і вось раптам з Пецербургу прыйшло пісьмо ад князя, вашага сваяка, у якім паведамлялася, што падазрэнні аб тваім удзеле ў паўстанні вельмі грунтоўныя. Я зразумела, што для мяне аднэй прыняў ты на сябе ўсе абвінавачванні.

Грынёў. Я спачатку хацеў усё шчыра вытлумачыць, але калі падумаў, што ў такім разе камісія прыцягне і цябе да адказнасці— гэтая жудасная думка так мяне здзівіла, што я змоўк і больш не сказаў ні слова.

Маша. Мілы, я вінавата ва ўсіх тваіх няшчасцях.

Грынёў. Маша. *(Яны цалуюцца).*

Маша. Я вырашыла сама паехаць у Пецербург шукаць заступніцтва і дапамогі ўладу маючых. У дварцовым садзе я выпадкова сустрэлася з аднэй дамай. Я ёй усё дакладна расказала. Калі яна даведалася, што я прыехала прасіць за цябе, яна страшэнна раззлавалася, нават пачала гнеўна крычаць, што царыца не можа табе даравайь і што цябе трэба пакараць смерцю, бо ты, нібыта, прыстаў да самазванца не з невуцтва, ці даверлівасці, а як не сумленны і шкодны нягоднік. Мне давялося доўга яе пераконваць і расказваць пра ўсё, што адбылося. А як высветлілася пасля, гэта дама была сама царыца. Я атрымала ад яе імяннае павяленне аб тваёй свабодзе.

Грынёў. Дзякую вам, мае дарагія. *(Цалуе Машу).*

(У пакой уводзяць скаванага Пугачова. Грынёў, убачыўшы Пугачова, парываецца яму насустрач).

Пугачоў. А-а, ваша благародзіе. Вось мы і сустрэліся. Здароў будзь. Хлопцы мае здраднікі: Чумакоў, Тварагоў загубілі мяне. Яны-ж самі некалькі дзён раз-по-разу упрашвалі мяне прыняць на сябе імя нябошчыка вялікага цара, а цяпер маёй шыяй выкупілі свае галовы.

Грынёў. Эх, Емеля, Емеля. Чаму не наткнуўся ты на штых, альбо не трапіў пад карцечу—лепш нічога не мог-бы ты прыдумаць.

Пугачоў *(зазвінеў ланцугамі ў роспачы).* Дзе мае слаўныя Хлапуша, Белабародаў, Чыка, Перфілляў—мае верныя сокалы, сіла мая...

(Уваходзіць генерал, прыглядаецца да Пугачова).

Генерал. Ты данскі казак Емелька Пугачоў?

Пугачоў. Я данскі казак зімавейскай станіцы Емельян Іванаў Пугачоў.

Генерал. Як-жа ты, вор, адважыўся называцца царом.

Пугачоў. Я не воран, я варанёнак, а воран яшчэ лётае. (*Зарагатаў*).

(Генерал утароплена глядзіць на яго. Крыху раней, за сцэнай загучэла песня).

„Не шумі маці, зялёная дубровачка,
Дай мне, добраму малайцу, думу думаці,
Што заўтра мне, добраму малайцу, на допытісці
Перад грозным суддзёй, самім царом.“

Пугачоў (*узняў угару рукі, загрымеў ланцугамі, падпявае казакам*).

(Грывёў, Маша, Савельіч, глядзяць на яго).

*Канец.*

*А. Гурло*

# НЯДОЎГА ЦЕШЫЎСЯ Я МОРАМ

Нядоўга цешыўся я морам,
Нядоўга погляд мой лавіў
Далёка—блізкія прасторы
І холад хваль і жар крыві.

Я ўспомніў тут сваё былое,
Надзеі сэрца і душы,
І новай песняй і ігрою
Ў сабе свой жар падварушыў.

Іду я сёння з развітаннем
Да морскіх бурных берагоў
Не з градам слёз,—не як выгнаннік,—
А з песняй сэрцу дарагой.

Нядоўгая мая разлука,
Я неўзабаве буду зноў
Тут паціскаць сяброўству руку
І пеніць радасцю віно.

І тут і там—мая айчына
І тут і там ёсць сябрыня...
Дзядок стары, краса-дзяўчына...
І іх мне хочацца абняць!

Абняць і прывітаць са святам,
Якога не было нідзе,
І расказаць пра дар багаты,
Што нам прыносіць кожны дзень.

Ну, дык бывай, таварыш мора!
Бывайце вы, сябры жыцця!
Я спадзяюся скора, скора
Зноў пабываць у вас ў гасцях!

Я прывязу вам падарункі
З лугоў квяцістых і лясоў,
Напоўню песню іхнім гукам
І іх цудоўнаю красой.

*Андрэй Ушакоў*

# МУЖНАСЦЬ

Плынь непраходная ракі
Фронт напал падзяліла,
Стаяць на берагах палкі—
Два ворагі, дзве сілы.

Асеннім вее халадком,
Пакрыта даль імглою,
Як пругкі тыгр перад прыжком
Мост выгнуўся дугою.

Спяць насцярожана палі
І ў цішыні магільнай
Стаяць на варце патрулі,
За мостам сочаць пільна.

Байцоў склікае камандзір—
У голасе трывога:
З Мадрыда к нам праз сем гадзін
Прыбудзе дапамога.

Ды будзе позна. Сонца рос
Яшчэ не вып'е, Франко
Без перашкоды цераз мост
Натоўпам пусціць танкі.

І яны рушаць на Мадрыд
Гармат узняўшы спіны.
Іх толькі грозны дынаміт
Мост узарваўшы, спыніць.

Ці знойдзецца такі смяльчак,
Хто смерць сустрэць гатовы?
Рашуча падыйшоў юнак
Мартынес з-пад Кардовы.

Чужы збіраў я вінаград,
Касіў чужыя травы.
Цяпер хоць раз я буду рад
Сваю выконваць справу!

З суровасцю магільных пліт
Стаяў атрад маўкліва.
Узяў Мартынес дынаміт
І ў ноч пайшоў імкліва.

Пражэктар гнаўся ўслед за ім
Змардаваным і потным,
І кулямёт праз едкі дым
Закашляў, як сухотны.
Замятусіўся рой салдат,
Як раздражнёны вулей.
Уперад! Выканаць загад
Раней, чым скосіць куля.

Ён падае і зноў паўзе
Праз лужы, праз канавы.
І па пяску і па расе—
Істужкай след крывавы.

А вось і мост. На дынаміт
Кладзі гранату. Ранкам
Тут з дзікім гулам на Мадрыд
Не праімчацца танкі.

Над плынкай стромаю ракі,
Як дрэва выбух вырас.
І песня скончана. Такім
Героем быў Мартынес.

Масква, 1936 г.

*Андрэй Ушакоў*

# КАЛЫХАНКА

Цябе людзі ўсынавілі
З горада Масквы...
Дзме з разбуранай Авілы
Вецер франтавы.

Ты-ж не бойся. Над калыскай
Ночка з ціхім сном.
Бомбай з маркаю берлінскай
Твой разбуран дом.

Не прытуліць цябе мама
Да сваіх грудзей,
Бацька з фронта Гвадаррамы
К сыну не прыдзе.

Дзе смугой сінеюць горы
Труп яго ляжыць.
Ён змагаўся, каб без гора,
Без фашыстаў жыць.

Лепш памерці, чым скарыцца,
Песню пеў сваю.
Тыя словы астурыйцы
Дружна дапяюць.

Спі. Пад сталінскаю ласкай
Сны шчасліва сні.
Падрасцеш,—тады як казку
Раскажу пра дні,—

Як народ іспанскі катаў
Гнаў з свае зямлі,
Як бацькі на барыкадах
Волю здабылі.

*Усевалад Краўчанка*

# КРЫВАЯ СЦЕЖКА

## I

Гэта быў рамантычны юнак. Ледзь на золак ён выводзіў на поле свой дванаццацісільны Інтэр, станавіўся край поля і, выпрастаўшыся на ім ва ўвесь рост, акідаў позіркам пачарнелае сырое поле. Яно рассцілалася перад ім без меж, шырокае, роўнае, як зглёдзець вокам, і нішто яшчэ не парушала яго спакою. Тады Сяргей усклікаў: „Поле, поле!“ Гэтыя словы з песні аб трагічнай смерці слаўнага трактарыста Сяргей вымаўляў нейк асабліва страсна, стараючыся ўкласці ў іх перапаўняўшыя яго пачуцці.

Ва ўсім можна было бачыць вясну. З палёў сышоў снег, было вільготна, і сонца, не па зімняму чырвонае і яркае, узнымалася на далягдядзе, яно ветліва па-мацярынскі пачынала саграваць зямлю. Убачыўшы на полі трактар, ад вёскі ляцела стая варання, каб збіраць за плугамі тлустых і белых чарвякоў. Ажываў лес, набрынялі почкі на яго бязлістых чорных галінах. На ўзгорках, дзе вецярок хутчэй асушаў зямлю, пачынала прабівацца трава. Уздувалася рака, плылі пасля ледаходу апошнія крыгі, чапляючыся за ўзбярэжныя лазнякі. І разам з надыходам вясны апаноўвалі Сяргея новыя, не хваляваўшыя яго дагэтуль пачуцці.

„Поле, поле!“—усклікаў ён і вёў трактар на трэцяй хуткасці. Тры плугі вярнулі роўныя барозны, і вароны ледзь спраўляліся збіраць за трактарам чарвякоў. Моцнымі рукамі ён трымаў баранак руля, здаровымі, нараспашку, грудзьмі ўдыхаў вясновае паветра. У працы Сяргей знаходзіў асаблівую прыемнасць.

Вечарамі з гармонікам цераз плячо ён блукаў па сяле, іграў „Забайкальскую“ ці „Прокати меня, Петька, на тракторе“, моладзь з ахвотаю спявала пад яго гармонік. Песні больш любіў ён сумныя, якія краналі павольнай, мінорнай мелодыяй. Ён быў нечым незадаволены і сам не ведаў, чаго яму не хапала. У Сяргея было многа сяброў. Ён іх любіў, і больш чым усім даражыў дружбай з імі. Ён меў дзевятнаццаць год, і быў поўны здароўя. Часамі на гулянцы ўвечары Сяргей перадаваў гармонік сябру і спяваў песні разам з усімі. Чысты і моцны голас яго ціхімі вечарамі ляцеў над соннай вёскай. У полі, за рулём, ён складаў вершы і ў іх гучэў той самы незразумелы сум, як і ў песнях, што любіў спяваць Сяргей. У яго быў шасцігадовы сябрук, Лёнік, хлопчык гаспадыні, у якой ён кватэраваў. Гадзінамі ён мог забаўляцца з ім, строіў яму розныя хітрасныя калясачкі, вазіў яго на трактары. Але і гэтае сяброўства не задавольвала яго. У выхадныя дні ён

хадзіў на трэніроўку эмтэасаўскай футбольнай каманды, з незразумелай злосцю ганяў па полі мяч, знарок стамляўся больш за ўсіх, каб прышоўшы дамоў моцна спаць.

Так было датуль, пакуль Сяргей не пакахаў дзяўчыну. Ён сам здзівіўся таму, як хутка гэта здарылася. Раніцою ў нядзелю (рабочы для яго дзень) ён варочаўся з гаража з запасною свячою для трактара. Ён бег нацянькі, Крывою Сцежкаю, каб не траціць дарэмна часу. І тут на дарозе ён сустрэў гэтую дзяўчыну. Яна жыла ў суседняй вёсцы, у Зазер'і, за два кілометры ад Ростані, дзе жыў Сяргей. Гэта была тонкая стройная дзяўчына, з-пад чорнай у кветкі хусткі выбіваліся кудзеркі светлых валасоў. Порсткія вочы пазіралі на Сяргея смела і задзёрыста. Яна першая загаварыла да яго, назвала па імені, яна мусіць ведала яго і раней.

— Сяргей, ты прыходзь з гармонікам увечары да нас у сяло.

Ён, не спыняючыся, паглядзеў на дзяўчыну. Да гэтай хвіліны ён яшчэ не думаў аб ёй, ён як хутчэй хацеў выправіць запальнік у трактары і прадаўжаць работу ў полі. Але калі Сяргей паглядзеў на дзяўчыну, ён уздрыгануўся і спыніўся. Ён падумаў: гэта мусіць і ёсць тое, чаго ён шукаў...

Сяргей не памятае, што ён адказаў дзяўчыне, ён быў увесь апанаваны новымі думкамі. Ён спачатку прабег па дарозе, потым стаў, абярнуўся і пазіраў услед дзяўчыне, пакуль тая аж не схавалася за ўзгоркам. Паправіўшы запальнік, Сяргей зноў пачаў араць, але ён ужо не бачыў перад сабой поля, якое араў, ён успамінаў дзяўчыну, якую сустрэў на Крывой Сцежцы.

Увечары ён памыўся, апрануўся ў свой лепшы гарнітур і разам з трыма сваімі сябрамі пайшоў у Зазер'е. Ён не сказаў ім аб сапраўднай прычыне таго, чаму гэта ён раптам надумаўся пайсці гуляць у другое сяло. Хлопцы і не дапытваліся ў яго аб гэтым. Яны зайшлі ў хату чытальню, вялікую былога кулака хату, дзе праводзіла свае вечары калгасная моладзь. Іх, чатырох, ветліва сустрэлі і хлопцы і дзяўчаты вёскі. Амаль усіх іх ведалі, бо МТС, у якой працаваў Сяргей з сябрамі, абслугоўвала гэты калгас. Першы Сяргееў друг, Ляксей, кучаравы весельчак і балагур адразу-ж прымасціўся на лаве сярод дзяўчат і ўрэзаў на гармоніку польку. Адсунуўшы да сцяны сталы і лаўкі, некалькі пар закружыліся сярод хаты, лоўка падстукваючы абцасамі.

І тут Сяргей убачыў тую дзяўчыну. З ёю ўдала скакаў невысокі, дужы хлопец, якога ён раней ніколі не бачыў. Хлопец спрытна кружыўся па хаце, ледзь не на вазе трымаючы тонкую дзяўчыну.

Пасля першай-жа полькі Сяргей парашыў пазнаёміцца з дзяўчынай. Ён падышоў да знаёмага брыгадзіра палявой брыгады Ракіты Сцяпана. Сцяпан у куточку за маленькім столікам гуляў у шашкі.

— А-а?—хітра засмяяўся Сцяпан,—з Нінкай хочаш пазнаёміцца? Іш ты. Толькі-ж, глядзі—яна, брат, комсамолка.

Ніна сарамліва падала яму руку. Яны выйшлі на двор і пайшлі вуліцаю на шлях. На дварэ было цёмна, няўтульна, вільготна. Ён трымаў Ніну за руку і павёў яе прысадамі. Сяргей гаварыў мала, а толькі адказваў на пытанні Ніны. Ён быў шчаслівы ад таго, што

ішоў з ёю разам, што трымаў яе за руку тут, адзін на адзін, пад цёмным шатром неба. Сяргей спытаў яе толькі аб адным, пра таго хлопца, з якім скакала Ніна. Яна засмяялася. Тады ён і сам зразумеў, што яго пытанне недарэчнае. Мала хто з кім скача пад гармонік, хіба абавязкова скачуць толькі тыя, што кахаюць адзін аднаго.

— Ён у нас першы ў сяле танцор.

І ён змоўк і прыціснуў яшчэ мацней яе руку.

Назаўтра раніцою ў канторы МТС Сяргея яшчэ на парозе сустрэў камсорг Галушкевіч і, схапіўшы пад руку, адразу-ж павёў у габінет дырэктара.

— Пабяжым, Сярожка, да Рыбакова. Справа ёсць,—горача гаварыў Галушкевіч.

Дырэктар МТС Рыбакоў гаварыў з некім па тэлефону. Убачыўшы ўвайшоўшых, ён хутка кончыў гутарку і ветліва абярнуўся да іх. Нізенькі, лысы, з ордэнам Чырвонага сцягу на барту сіняга пінжака, Рыбакоў узрушана паціраў рукі.

— Ты яшчэ нічога не ведаеш?—спытаў ён Сяргея.

— Не, нічога.

— Ах, гусі-лебедзі... То сядайце.

Хлопцы паселі. Рыбакоў падсунуў ім папяросы і закурыў сам.

— Да цябе званіў тут дрыбінец Боркін. Сур'ёзны хлопец. Ён пра цябе прачуў нядаўна. Ты-ж, Сяргей, можа ведаеш яго, на злёце быў. Звоніць, гусі-лебедзі, падайце мне Новака. Я кажу, пагаворым са мною—куды там, не хоча. І што-б гэта ён такое, а?

Рыбакоў устаў з-за стала і хацеў прайсціся па пакою, але тут зазваніў тэлефон. Ён зняў трубку.

— Слухаю... Дрыбінская МТС? Гм... гусі-лебедзі... Зноў звоніць. На, гавары,—і Рыбакоў перадаў Сяргею трубку.

— Гэта хто?—пачуў Сяргей у трубцы глухі басавіты голас.

— Новак, а што?

— Ты мне і трэба. Я чуў пра цябе, ты хлопец што трэба. Хочаш—пацягаемся на трактарах.

Сяргею падабаўся ўпэўнены спакойны голас дрыбінскага трактарыста, і хоць ён не ведаў Боркіна, але адразу адчуў сімпатыю да яго.

— Гэта значыць на спаборніцтва выклікаеш?

— Ага. Хочаш?

Ні хвіліны не хістаючыся, Сяргей адказаў:

— Згодзен. Прысылай умовы.

— Толькі ты не крыўдуй на мяне, я, брат, круты. Аблажу цябе.

— Ну, гэта мы яшчэ пабачым.

— Ладна,—сказаў Боркін і паклаў трубку.

Сяргей азірнуўся. Рыбакоў хадзіў па пакою, чмыхаў і цёр лысіну. Усміхаючыся, ён паглядзеў на Сяргея.

— Ты ведаеш з кім звязаўся?

— Ведаю

— Гусі- лебдезі... Ты-ж прапаў. Ён табе накруціць хвост. Гэта-ж бес, а не трактарыст. Бес...

— Я яго перамагу, Нікалай Пятровіч,—цвёрда адказаў Сяргей.

Рыбакоў падняў палец угару і ў раздуме замоўк.

— Хоць... Хоць... Ты-ж у нас таксама штучка.

Абярнуўшыся да Галушкевіча, Рыбакоў дадаў:

— Ты дапамажы Сяргею чым толькі трэба. Аблажыць Боркіна, гусі-лебедзі, ды гэта-ж гонар для ўсёй МТС!

... Так у роўным дагэтуль жыцці Сяргея адбыліся дзве падзеі, якія напоўнілі яго новым зместам. Роўна ў шэсць гадзін Сяргей уставаў і ішоў на працу. Праца не здавалася яму цяжкай, яна і раней здавальняла яго, але цяпер, калі ён пакахаў, ён яшчэ больш ахвотна сядаў раніцою на трактар. Полудзень па дамоўленасці прыносіў яму на поле яго шасцігадовы сябра Лёнік. Лёнік ішоў па полі ў доўгім да пят, пашытым на ўзрост паліце, з палкаю, якая была вышэй за яго ў паўтары разы, у адной руцэ і судочкамі ў другой.

— Сяргей, абедаць,—строга крычаў Лёнік, стаўшы край воранага поля.

Сяргей канчаў круг, спыняў трактар і ўсміхаючыся, высока на руках падкідаў свайго сябрука. Потым, выцершы рукі, ён сядаў абедаць, а Лёнік тымчасам лазіў пад трактар, на трактар, спрабаваў круціць руль. Гэтае права ён сабе добрасумленна заслужыў.

Увечары Сяргей заводзіў на стаянку трактар і спяшаўся да дому Да пояса абмыўшыся халоднаю вадою, ён пераапранаўся і ці з сябрамі, ці, бывае, адзін, нацянькі Крывою Сцежкаю ішоў у Зазер'е. Ніна сустракала яго, стоячы ў веснічках сваіх варот, ці ў чытальні. Пахкія красазіцкія ночы праводзілі яны цесна прытуліўшыся адзін да аднаго. Ён расказваў ёй аб сваім жыцці, аб сваіх марах, аб зорках, пра Млечны Шлях, расказаў ёй аб сваім каханні да яе. Бесхітрасная Ніна таксама адкрыта прызналася яму ў каханні. І тады, калі Сяргей на яе дзявочых вуснах пакінуў след першага пацалунка, яны пасапраўднаму адчулі сябе шчаслівымі.

Шчасце прыходзіць да людзей рознымі шляхамі, але першае ўзаемнае каханне заўсёды прыносіць радасць людзям. І адной майскай ноччу (пахкі водыр вясны абуджаў у сэрцы нязведаныя жаданні) Сяргей пазнаў пачатак жыцця. Гэта было нечакана і радасна для яго. Шчаслівая і слабая ад шчасця Ніна тулілася да яго, і ён такі спакойны і ўпэўнены шаптаў нейкія малазначныя словы:

— Ты мая, мая...

Цёплы вясенні вецярок варушыў на яго галаве светлыя пасмы валасоў. Была ноч, было ціха і здавалася, калі прыслухацца, можна-б было пачуць, як набракаюць, наліваюцца жыццём пупышкі бэза ў садочках пад соннымі хатамі, як пачынае хадзіць сок па ствалах бяроз, што нерухома выстраіліся ў рад паабапал роўнай і шырокай дарогі. Цішыня як-бы падкрэслівала ўрачыстасць гэтай хвіліны і новай для іх абоіх і такой бязмерна прыемнай. І ад гэтага часу ночы пабеглі адна за адной шпарка і непрыметна, як хвіліны. Перад імі ляжала наперадзе жыццё, поўнае такіх шчаслівых начэй.

... Так думалася ім, бо яны, аслепленыя шчасцем, не маглі бачыць далёка наперад, а жыццё, здараецца, бяжыць па крывых сцежках.

Калі святлеў усход, Сяргей пакідаў Ніну, каб бегчы перапрануцца і пачынаць працу. Трактар чакаў яго, запраўлены яшчэ з вечара. Уся МТС з хваляваннем сачыла за спаборніцтвам знатнага трактарыста Боркіна з Новакам. Ляксей намаляваў у насценнай газеце сяброўскі шарж на Сяргея. Асядлаўшы трактар, Сяргей даў шпоры свайму сталёваму каню, і, туга нацягваючы паводдзі, пёрся насустрач другому „кавалерысту"—Боркіну. „Хто каго?"—крычаў надпіс наверсе. Галушкевіч кожны дзень на дошцы вывешваў: вынік дзённай Сяргеявай работы. Калі ў яго трактары псавалася якая-небудзь частка і другой такой, каб замяніць, пад рукою не было, сябры прыходзілі яму на дапамогу. Яны пазычалі яму запасныя часткі з сваіх трактараў. Кожны дзень увечары Рыбакоў званіў у Дрыбіна, каб даведацца, хто ідзе наперадзе. Трактарысты дасюль ішлі роўна, хіба што на некалькі сотак у таго, ці ў другога была перавага.

Тады Рыбакоў паціраў лысіну, гмыкаў і, калі трапляў на Сяргея, казаў:

— Пароўну, брат, ідзеце, пароўну.

Аднойчы Рыбакоў здзіві́ўся, чаму Сяргея ніколі не відаць увечары ў МТС. Ляксей таямніча ўсміхнуўся.

— Гэтаму, Нікалай Пятровіч, ёсць прычына...

— Прычына? То чаго-ж вы маўчыце? Ах, гусі-лебедзі... Мо' каханне?

Ён і не чакаў адказу Ляксея, бо здагадаўся аб усім і ўжо тупаў па пакою эмтээсаўскай чыталкі, смешна паціраючы сабе рукі. Падрабязна распытаў ён у Ляксея пра Ніну. Назаўтра Рыбакоў сам паклікаў да сябе ў габінет Сяргея.

— Ну, як рабста?

— Я яго ўсёроўна перамагу, Нікалай Пятровіч, вот убачыце.

— Ведаю, ведаю...

Рыбакоў хітра ўсміхнуўся.

— А калі-ж ты мяне на вяселле паклічаш, а, Сяргей?

Сяргей уздрыгануўся і, пасур'ёзнеўшы, зірнуў на Рыбакова. Ён не чакаў, што аб яго каханні той добра ведае. Але не гэта, урэшце, прымусіла яго ўздрыгануцца. З самага пачатку знаёмства і да сёняшняга дню яму першы раз напамянулі аб жаніцьбе. Не тое, каб ён не ведаў, што толькі так можа вырашыцца яго сувязь з Нінай, але дагэтуль ён ні разу не думаў аб гэтым, унікаў думак аб адказнасці за сваю блізкасць з дзяўчынай, ён гнаў іх ад сябе. І цяпер пытанне, пастаўленае Нікалаем Пятровічам так проста і ясна, прывяло яго ў разгубленасць. Перш чым адказаць Рыбакову, Сяргей прымушан быў паўтарыць яго сам сабе. І тут ён са здзіўленнем адчуў, што гуляючы з Нінай ён, уласна кажучы, не меў ніякіх асаблівых намераў да яе. Праўда, ён кахаў Ніну, але не так моцна, каб ён меў на ўвазе звязваць назаўсёды сваё жыццё з ёю. Адказаўшы самому сабе на пытанне Нікалая Пятровіча, ён са сполахам падумаў, ці не далёка ён зайшоў, ці заста-

ліся ў яго яшчэ шляхі для адступлення. Пытанне Нікалая Пятровіча дапамагло яму ўнесці яснасць у яго адносіны да Ніны, акрэсліла тыя думкі, якія ён раней гнаў ад сябе.

— Я жаніцца не збіраюся, Нікалай Пятровіч. Мы толькі так. Я яшчэ малады, каб жаніцца.

— Як-жа гэта—так?

— Паміж намі нічога няма. Чыстае каханне...

— Ну, ну, не круці мне тут хвастом. Іш ты, гусі-лебедзі! Я, брат, і аб ёй ведаю. Я ўсё знаю. Вартая дзяўчына... Ды і ты-ж у нас хлопец, што трэба...

Сяргей стаяў каля стала, абітага зялёным сукном, і ў разгубленасці круціў пальцамі крышачку ад чарнільніцы.

— Нічога, нічога, усё ў парадку. Толькі, глядзі, спі па сем гадзін,—дадаў Рыбакоў і, як бацька, абняўшы за плечы Сяргея, ён давёў яго да дзвярэй габінета.

Сяргей выйшаў ад Рыбакова ўсхвалёваным. Думкі аб сваёй будучыні, аб якой адным словам напамянуў Рыбакоў, вывелі яго з роўнавагі. Ён не мог і не хацеў уявіць сябе звязаным, як яму здалося, сям'ёю, якая адарве яго ад сяброў, перашкодзіць у рабоце. Ды і каханне да Ніны, ачорненае гэтымі практычнымі думкамі, цяпер не мела ранейшай свежасці, губляла сваю пачатковую прыгожасць.

Праз два дні ў Сяргея на полі здарылася непрыемнасць. Пасля палудня па нейкай прычыне не захацеў запускацца трактар. Лепшы Сяргееў сябра Лёнік сядзеў на рабочым месцы трактарыста і ў нецярплівасці спрабаваў пакручваць руль. Ногі яго, абутыя ў новыя чаравікі, бездапаможна боўталіся ў паветры, ён не мог імі дастаць да пода трактара.

— Ну-ж, Сяргей,—нецярпліва падганяў Лёнік, з радасцю чакаючы той хвіліны, калі трактар загрукоча, запульсуе, як жывы.

— Ну-ж...

Але колькі не мучыўся Сяргей, трактар упарта адмаўляўся працаваць. Ён праверыў запальванне, агледзеў увесь матор, праверыў бак з бензінам, але відаць справа была не ў гэтым, бо знадворны выгляд не прывёў ні да чаго.

— Ай, тады я злезу,—сярдзіта парашыў Лёнік. З вялікай цяжкасцю,—перашкаджала ўсяму доўгае, пашытае на ўзрост паліто— ён злез на зямлю і ўзброіўшыся сваёю палкай пайшоў дапамагаць Сяргею.

— Што тут такое?—спытаўся ён такім голасам, нібы яму нічога не каштавала адным махам рукі выправіць усе непарадкі ў машыне.

— Сапсавалася нешта,—адказаў Сяргей. Убачыўшы, што сам ён трактара выправіць не зможа, ён парашыў збегаць у майстэрні за майстрам. Лёнік за нейкую ўзнагароду згадзіўся застацца вартавым. І калі Сяргей пабег, Лёнік увесь аддаўся сваім дзіцячым марам. То ён уяўляў сябе дарослым трактарыстам і сеўшы за руль старанна паўтараў усе рухі Сяргея, альбо раптам трубіў ротам, як аўтамабіль, што, праязджаючы па сяле, палохаў свіней, каб не трапілі пад кола. То, стаўшы майстрам, ён у два мігі рамантаваў машыну, тады калі ніхто не мог яе адрамантаваць.

І не доўга давялося Лёніку вартаваць машыну да прыходу Сяргея. Сяргей прывёў з сабой майстра, сівавусага ў ачках, нізенькага і шчуплага.

— Пузыр,—засмяяўся майстар, паглядзеўшы на Лёніка,—Пузыр, мусіць, ва ўсім вінават.

Лёнік сярдзіта надзьмуўся на майстра. Той, убачыўшы, што яго жарт не падабаўся Лёніку, замахаў рукой.

— Не ты, не ты, па носе бачу,—майстар нырнуў у бакавую кішэню кожанкі і дастаў адтуль цукерку:—во, на, еш...

І зазначыў ніто сам сабе ніто Сяргею:—У мяне такіх, як ён, дома тры пузыры расце. Слаўныя хлопцы...

Майстар аглядзеў матор і сказаў, што адрамантаваць на полі машыну не можна і што давядзецца зацягнуць яе трактарам у майстэрні.

Увечары машыну зацягнулі ў майстэрні і адразу-ж пачалі рамонт. Майстар абяцаў, што праз дзень трактар будзе спраўны.

Увечары ісці ў Зазер'е Сяргею не хацелася. Гэтаму перашкаджала работа, ён павінен быў удзельнічаць у рамонце трактара. Але не гэта было прычынай таго, што Сяргей не ішоў у Зазер'е. Яго і не цягнула асабліва туды. Пасля тае гутаркі з Нікалаем Пятровічам ён адчуў, што з кожным днём становіцца халаднейшым да Ніны. І хоць ён стараўся не выказваць пры сустрэчах з Нінай гэтай халоднасці, усё-ж яму цяжэй і цяжэй было перамагаць сябе. Парашыўшы не ісці ў Зазер'е, Сяргей затрымаў Ляксея, які збіраўся туды.

— Лёшка, перадай Ніне гэтую пісульку.

— А сам чаму-ж?

— Па рамонту заняты, дый...

Сяргей адвёў Ляксея ўбок да майстэрань. Ён сціснуў Ляксея за локаць і ціха сказаў:

— Прызнаюся табе, як другу: звязаўся я і не ведаю, як развязацца. Прыелася мне ўсё гэта.

Ляксей у здзіўленні адступіў крок назад.

— А каханне? Ты-ж кахаў яе.

Сяргей апусціў галаву і некаторы час маўчаў.

— Памыліўся. Я думаў, што кахаю, ажно мне гэта толькі здалося.

— М-так...—прамармытаў Ляксей.

Ніну Ляксей убачыў на дзядзінцы каля хаты чытальні. Тут заўсёды збіралася ўлетку вясковая моладзь. Ніна была ў гуртку дзяўчат, калі яе паклікаў да сябе Ляксей.

— Вось вам пасланне ад мілага,—сказаў жартаўліва Ляксей. Ніна засмяялася і ўзяла паперку. „Нінка, пісаў Сяргей, вельмі прашу выбачэння, але сёння прысці не магу. Мне не пашанціла—сапсаваўся трактар, і сёння я буду дапамагаць у рамонце. Цалую. Твой Сяргей“...

— Пайду спаць,—сказала Ніна, прачытаўшы пісьмо.

Ляксей далікатна падставіў верчыкам руку:—Калі ласка...

— Ах, жартаўнік,—Ніна ахвотна ўзяла яго пад руку і з жартамі і смехам ён правёў яе дахаты.

Праз дзень трактар сапраўды ўжо зноў быў у парадку і Сяргей пачаў работу, але ў спаборніцтве з Боркіным ён здорава адстаў. З болем перажывалі гэты вымушаны прастой сябры Сяргея, яны вельмі хацелі каб Сяргей перамог.

— Сярожка,—ціха, адзін на адзін, гаварыў Ляксей,—а што калі-б як укруціць, а? Калі-б, скажам, Буду, што я ўзараў, табе пераваліць. А! Не выйдзе? От, чорт...

— Эй, гусі-лебедзі, ты не апускай носа. Чуеш?—сустрэўшы каля майстэрань Сяргея, гаварыў Рыбакоў.—Не ў гэтым сэнс спаборніцтва...

— Я яго даганю,—упарта гаварыў Сяргей Галушкевічу, які з трывогай прыбег на поле спраўляцца аб яго самаадчуванні. І Галушкевіч, абрадаваны ад гэтай упартасці і ўпэўненасці, заспакоены ішоў з поля.

Так беглі поўныя жыцця і прыгожасці майскія дні. Нібы абсыпаныя снегам, цвілі белым цветам сады, і ў паветры стаяў мяккі і прыемны пах вішнёвых кветак. Вечарамі над ліпкімі маладзенькімі лісцікамі кучаравых бяроз круціліся і гулі майскія жоўтакрылыя жукі. Вясковая дзетвара ганялася за жукамі, шпурляючы ў іх шапкамі. Пад вокнамі прыбраных, падмаладжаных увесну вясковых хат у гародчыках расцвіталі махрыстыя вяргіні, бэз. Зелянелі вузенькім поясам паабапал ракі, што ўвайшла ўжо ў свае берагі, густыя лозы. Усё ажывала, усё набіралася сілы. Вярнуліся з далёкіх краёў птушкі, у садах пачалі шчоўкаць салаўі. Стракатыя, дзікія качуры за ракою пачыналі вабіць да сябе качак. Балбаталі на палянках каля лесу цецерукі. Усё часцей і часцей увечары можна было пачуць над сялом дружную, павольную песню, што спявала моладзь, сабраўшыся дзе-небудзь на прызбе каля хаты. І доўга пасля таго, як усе ўжо кончылі спяваць, можна было яшчэ чуць рэха ад песні, якая ляцела за рэку, на лугі, да лесу, а звонкі і высокі голас падгалосніка чуцен быў яшчэ і тады, калі нават рэха ад песні раставала і знікала ў далечыні.

Беглі дні... І адзін з іх, як і можна было чакаць, перавярнуў увесь жыццёвы расклад Сяргея. Пасля работы ён забег у МТС, каб даведацца, у якім становішчы яго спаборніцтва з Боркіным. Галушкевіч сказаў, што Боркін не зніжае тэмпаў, але з кожным днём узорвае ўсё больш і таму Сяргей парадкам такі адстаў ад яго.

— Але ты не сумуй,—узяў яго пад руку Галушкевіч,—ніхто-ж не думаў, што трактар здасць. Цяпер не возьмеш—увосень паб'еш. Сярод нас ты-ж усёроўна першы.

Галушкевіч правёў, трымаючы пад руку, Сяргея аж да сяла.

А Сяргей, уласна кажучы, гараваў не столькі ад таго, што яго перамагаў Боркін, колькі яму было непрыемна перад сябрамі, надзей якіх ён не апраўдаў.

Увечары Сяргей пайшоў у Зазер'е. Ніна, як заўсёды, чакала яго радасная і вясёлая, ніякіх падазрэнняў аб Сяргеявай няшчырасці яна яшчэ не мела. Абняўшыся яны пашлі на бераг ракі і паселі на ўлюблёнае месца каля разложыстага дуба. За ракою працяжна і аднастайна выў рэчны бугай. Моўчкі слухалі яны яго сумнае бумканне. Сяргей не пазнаваў сам сябе, якім ён стаў.

Ён прыслухаўся да бугая і думаў аб тым, як сказаць Ніне, што ён не меў сур'ёзных намераў да яе і што ён баіцца вынікаў іх блізкасці. Толькі ў яго не хапала смеласці пачаць гэтую гаворку—цесна прытуліўшыся да яго, Ніна, пакорлівая і блізкая, сядзела моўчкі. І ўсё-ж ён парашыў не адцягваць і адразу-ж пагаварыць пра ўсё, каб унесці яснасць у іх адносіны. Але Ніна папярэдзіла яго. Яна раптам варухнулася.

— Сярожа,—ціха прамовіла Ніна, гладзячы яго руку,—Сярожа, нам трэба падумаць аб сумесным жыцці.

— Аб чым?—адарваўся ад думак Сяргей.

— Ну, каб жыць разам.

І дабавіла, не чакаючы яго адказу, ціха і пяшчотна:

— Сярожка, я—цяжарная.

Яна паглядала на яго, радасная і простая, гордая тым, што яна цяжарная ад Сяргея, паглядзела, спадзяючыся ўбачыць і на яго твары такую-ж радасць, пачуць ад яго словы ласкі, любові. Але яна не пачула ласкавых слоў і не ўбачыла, каб Сяргей узрадаваўся навіне. Ён рэзка, палахліва выхапіў ад яе сваю руку.

— Што, цяжарная?

Ён адсунуўся ад яе, нейк адразу сціснуўся ўвесь, напружаны, сухі, халодны. Ніна са сполахам і адчаем назірала гэтыя змены ў ім.

— Што з табою? Чаму ты стаў такім?

Яна трывожна ўзяла яго за руку, падсунулася да яго, абняла, але ён не адказваў на яе пяшчоты. Ён сціснуў зубы і чужымі халоднымі вачамі глядзеў на Ніну. Ёй стала страшна і дзіўна ад таго, як хутка можа перамяніцца чалавек. Хвіліну назад ён яшчэ быў блізкім, родным, дарагім і тут-жа на вачах ён змяніўся, стаў чужым, халодным, як лёд, жорсткім. Яна яшчэ не верыла і не хацела верыць, што прычынай гэтых змен была яе цяжарнасць, яна супакойвала сама сябе тым, што тут напэўна выйшла памылка, Сяргей чаго-небудзь не зразумеў, што ўсё гэта хутка высветліцца, і ночы, і шчасце іх зноў будзе такімі-ж, як былі. Але ён разбіў усе яе думкі. Ён устаў, адпіхнуў ад сябе Ніну і сказаў ёй раздзельна і суха.

— Я не хочу, каб было дзіця.

Ніна працягнула да яго рукі.

— Сярожа, ну а як-жа наша жыццё?

Але ён не адказаў ёй на пытанне. Ён упарта кіўнуў галавою і рэзка паўтарыў:—Я не хачу дзіцяці.

І тады адразу аслабелая Ніна ў знямозе апусціла рукі, і па яе дзявочай шчацэ прабегла першая крыштальная сляза.

За ракою сумна выў рэчны бугай...

## II

У спаборніцтве лепшых трактарыстаў дрыбінскай і ростаньскай МТС перамог Боркін. Гэта было вельмі непрыемна Сяргею. Яго трывожыла сумленне, ён саромеўся перад сябрамі таго, што ён не апраўдаў іх давер'я і хоць яны, як і раней, ставіліся да яго з любоўю, шчыра, яму здавалася, што яго паражэнне павінна было

ўнесці нейкі халадок у іх таварыскія адносіны. Сяргей, вядома, памыляўся, калі думаў так, але гэтыя назойлівыя думкі мусіць мелі пад сабою другія прычыны, якія Сяргей хаваў сам ад сябе, баючыся іх праўды. Каб супакоіць і апраўдаць сябе ў вачах сяброў, Сяргей выклікаў Боркіна на рашаючае спаборніцтва ў час асенняга ворыва. Боркін прыняў выклік і па тэлефону дадаў ад сябе нешта такое мусіць па адрасу Сяргея, што Галушкевіч (ён па даручэнню Сяргея перадаваў выклік) толькі скрывіўся і злосна сказаў:

— Ну, ну, асцеражней, а то так накруцім... Чорт,—дадаў Галушкевіч і паклаў трубку.

Гэтая сцэнка адбылася ўжо ў пачатку верасня, увосень, перад пачаткам ворыва пад азіміну і на папар. Сяргей з патроенай энергіяй узяўся за работу. На гэты раз ён парашыў перамагчы ва што-б там ні стала. Ён думаў работаю забіць тыя думкі якія грызлі яго сумленне...

Аб тым, што паміж Сярожам і Нінай адбыўся разрыў, першым даведаўся Ляксей. Дзён праз пяць пасля таго памятнага вечару каля ракі Ляксей, ні аб чым не здагадваючыся, прапанаваў Сяргею пайсці з ім увечары ў Зазер'е. Сяргей згадзіўся, але супроць чаканняў Ляксея гуляць да Ніны не пайшоў, а правёў вечар разам з ім і вясковымі хлопцамі на дзядзінцы каля клуба. Ідучы назад, Ляксей запытаў аб незразумелых паводзінах Сяргея. Той, прыкідваючыся бесклапотным, проста махнуў рукой.

— А, ведаеш...

Але Ляксей настойліва пацікавіўся, у чым справа.

— Глупства ўсё гэта... Не хочу я з ёю. Ты-ж сам разумееш.

Сяргей збіваўся, не канчаў сваіх думак, недарэчна пасміхваўся, рабіў выгляд, што здзіўлены, чаму Ляксей не разумее яго паводзін, якія быццам-бы самыя правільныя і звычайныя. Але Ляксей маўчаў і не выказваў таго, як ён ставіўся да Сяргеявага ўчынку, толькі твар яго стаў удумлівым і сур'ёзным. Сяргей яшчэ некаторы час гаварыў аб нечым блытана і неўпэўнена, але хутка збіўся і замоўк. Так моўчкі яны і прышлі дадому. Калі развіталіся, Сяргей ціха спытаў.

— Ты чаго маўчыш?

Ляксей паціснуў на развітанне руку Сяргею і з неахвотаю адказаў.

— Так. Настрою няма... А як яна будзе?

— Хто яна?

— Ніна. Ты-ж з ёю жыў?

— А што там мне. Хай як хоча...

Ляксей моўчкі пакінуў Сяргея і пайшоў.

Праз два дні, у выхадны, на сустрэчы футбольных каманд іхняй МТС з Дрыбінскай Сяргей упершыню ўбачыў таго, з кім ён завочна спаборнічаў. Ён, праўда, бачыў Боркіна і раней, на раённым злёце ўдарнікаў, але тады не звяртаў на яго такой увагі. Гэта быў нізкі, мускулісты, з павольнымі, здавалася да канца прадуманымі рухамі і светлымі вачамі гадоў дваццаці пяці хлопец. Паглядзеўшы на яго рабілася дзіўным, што ён прыехаў на спабор-

ніцтва ў якасці галкіпера, такі ён быў павольны і, здавалася, лены·
Сяргей зашнуроўваў бутцы, калі Боркін падышоў да яго. Спакойным басам, які так пасаваў да яго павольнай фігуры, Боркін ні то спытаў, ні то зазначыў.

— Новак?

— Так, Новак. Ты—Боркін? Давай знаёміцца.

Боркін пыхнуў дымам ад папяросы і туманна зазначыў.

— Ага...

Ён падаў руку, але не выказаў асаблівых адзнак хвалявання. Расшпіліўшы рубаху, Боркін застаўся ў адных трусах і майцы, чорныя палосы якой ішлі папярок яго шырокіх грудзей.

Футбалісты абодвух каманд спешна пераапраналіся тут-жа на полі. Скора на полі пачуўся свісток суддзі. Праз некалькі хвілін павінен быў пачацца матч. Як дрыбінскія трактарысты, так і каманда Ростаньскай МТС амаль усё лета рыхтаваліся да гэтай сустрэчы. Хоць гэтая сустрэча мела цёплы таварыскі характар, але паколькі Дрыбінская МТС па ўсіх паказальніках спаборнічала з Ростаньскай, то і перамога на футбольным полі была вельмі пажаданай для абодвух бакоў. І таму перад пачаткам гульні не абышлося без хвалявання. Футбалісты сабраліся каля сваіх капітанаў, каб пачуць ад іх апошнія парады.

— Галоўнае—пасуйце Сяргею, —гаварыў Галушкевіч,—а ты—прамым...

Сяргей быў у „нападзе" і ад яго ўдараў залежыў у той ці другой меры поспех сёнешняй гульні. Вёрткі і спрытны галкіпер ростаньскай каманды Сцёпка Галай па ўласна выдуманай хітрасці націраў мелам рукі, каб ямчэй мог утрымаць мяч.

Як толькі пачалася гульня, Сяргей са здзіўленнем убачыў, што непаваротлівы і павольны Боркін раптамператварыўся. У трывожныя для дрыбінскіх варот хвіліны ён увесь падбіраўся, здавалася, рабіўся нават танчэйшым і з маланкавай шпаркасцю лавіў мячы. Першы з усёй сілы дасланы Сяргеем мяч трапіў у рукі Боркіна так лоўка, нібы Сяргей цаляў не ў шырокія вароты, а знарок у рукі Боркіну.

Доўгі час атака пераходзіла ад адных варот да другіх без вынікаў. Як у адных, так і ў другіх варотах мяч сустракалі лоўкія рукі галкіпера, і здавалася, што сілы ігракоў роўныя. Але нязначны промах „абароны" ростаньцаў змяніў становішча. Ляксей па невядомай прычыне прамахнуўся і яго нага не ўдарыла па мячу. Васпаваты і шустры дрыбінскі „цэнтр" радасна сам сабе усклікнуў „ап", паслаў мяч „нападу", які ў нецярплівасці стаяў ужо напагатове. І прыняўшы мяч, ён касым ударам з пятнаццаці метраў загнаў яго ў вароты.

Пасля першага мяча гульня пайшла ў хуткім тэмпе і праз зусім кароткі адрэзак часу Сяргей выраўняў лік, куляю загнаўшы мяч у дрыбінскія вароты. Боркін, спахмурнелы і сур'ёзны, крыху сагнуўшыся ў гатоўнасці кожную секунду адбіць атакі, стаяў цяпер у варотах. Але акрыленыя першай перамогай ростаньцы энергічна націскалі на вароты праціўніка. Ляксей галавою даслаў мяч Сяргею і той (потым ён сам дзівіўся гэтаму) амаль з паўполя стук-

нуў па варотах. Каля самай рэйкі праляцеў мяч паўз выцягнутыя рукі Боркіна.

Гульня скончылася лікам тры-адзін у карысць ростаньцаў... Радасныя і потныя ўзрушана падкідалі футбалісты Сяргея, пацiскалі яму рукі. Толькі адзін Ляксей моўчкі стаяў у баку.

Упэўнены ў тым, што сябры засталіся вернымі яму, Сяргей яшчэ з большай ахвотай узяўся за работу ў полі. Трактар, добра адрамантаваны ўлетку, цяпер працаваў безадказна. Тое, што на футбольным полі ростаньцы перамаглі, таксама нейк абнадзейвала Сяргея і перамагчы Боркіна здалося не такім ужо цяжкім. Перамог-жа Сяргей яго, калі той стаяў галкіперам. Бадзёры і моцны, раніцаю сядаў ён за руль. Мяккая пераворaная увесну, ралля цяпер аралася не цяжка. Сяргей узорваў разы ў паўтары больш, чым увесну Пасля першага-ж тыдню работы каля майстэрань яго сустрэлі сябры Галушкевіч і Сцёпка Галай.

— Наша бярэ!—яшчэ здалёк убачыўшы Сяргея крычаў вёрткі Галай.

— Я сёння з дрыбінцамі гутарыў. Адстае!—у захапленні спяшаўся паведаміць Галушкевіч.

Сяргей з радасцю слухаў гэтыя паведамленні ад сяброў. Яму было вельмі прыемна пачуць, што ён пачынае браць верх над Боркіным і было ўдвая прыемна бачыць, які ўдзел прымаюць сябры ў яго спаборніцтве, бачыць, што яны радуюцца яго перамозе.

І Сяргей памалу з часам стаў забывацца на Ніну. Калі першыя часы яго калі-не-калі грызла сумленне, ён крыху шкадаваў яе, то цяпер гэтыя пачуцці зніклі. Парваную з Нінай дружбу Сяргей кампенсаваў узмоцненай работай, абкружыў сябе большай колькасцю сяброў. Вечарамі ён выходзіў з гармонікам на сяло і ў вясёлым кагале хлапцоў з песняю яны праводзілі свой вольны час.

Аднойчы ў нядзелю ўвечары яны сабраліся ў прасторнай хаце канцавога Анупрэя, высокага, без пальцаў на правай руцэ, па запрашэнню яго дачкі Анюты, сарамлівай прыгожанькай дзяўчыны. Як толькі ў хаце пачуўся гармонік, адразу з усяго сяла сюды рынула моладзь, і праз некаторы час усе, каму хапіла месца і знайшлася пара, весела выстуквалі польку. На адзін вальс Сяргей запрасіў танцаваць Анюту. Яна саромілася танцаваць, але зноў і адмовіць Сяргею ў яе не хапала смеласці. Сяргею падабалася гэтая саромлівасць Анюты, і як толькі заграглі другі танец ён зноў запрасіў яе.

Але неўзабаве ў Зазер'і пачала хадзіць чутка пра тое, што Сяргей пакінуў цяжарнай Ніну. Ніна і сама не хавала гэтага. Гэтая чутка вельмі хутка перакінулася і ў Ростань. У МТС хутчэй за другіх (апрача Ляксея, які ведаў аб гэтым раней) даведаўся пра гэта Нікалай Пятровіч. Калі яму расказалі пра паводзіны Сяргея, ён доўга хадзіў па пакою, у роздуме гмыкаючы сам сабе. Ён спытаў Галушкевіча, што робіць і як адчувае сябе Сяргей, але той расказаў яму аб ім усё самае дадатнае. Тады ўвечары Рыбакоў сказаў, каб Сяргея паклікалі да яго. Сяргей думаў, што Рыбакоў хоча даведацца аб яго рабоце за апошнія дні.

— Ты што-ж гэта, Сяргей? А?—спытаўся Нікалай Пятровіч.

— Што такое?

— Дзяўчыну падманіў нашто? Як гэта ты так кінуў яе?

— Ды так... Яна сама... Я-ж вам казаў, што не збіраўся на ёй жаніцца. Мала што: кінуў, ну і кінуў...

Рыбакоў доўгі час маўчаў, паглядаючы на збянтэжанага і ўспацелага Сяргея, потым павярнуўся і пачаў глядзець у акно.

— Та-ак, кахаліся, значыць, кахаліся і падманіў.

Раптам ён павярнуўся да Сяргея, усхвалёваны, нізенькі, з загарэлаю летам лысінаю на галаве.

— А ты ведаеш, як трэба назваць твой праступак?

І ціха, але ясна дадаў:—Здрадай!—Ага... Здрадай!

Рыбакоў усхвалёвана пачаў наводзіць парадак у сябе на стале, перакладаючы нейкія паперкі.

Сяргей вышаў з габінета збянтэжаны, ён не зусім разумеў хваляванне Нікалая Пятровіча за Ніну, хоць і адчуваў сваю перад ёй віну. Але ў яго ні на адзін момант не ўзнікла думка паправіць сваю памылку. Сяргей толькі думаў аб тым, як упэўніць Нікалая Пятровіча, якога ён паважаў і любіў, што ён застаўся тым-жа добрым, дружным і вясёлым хлопцам і лепшым у МТС трактарыстам.

Хутка даведаліся аб тым, што здарылася паміж Сяргеем і Нінай, усе яго сябры.

— Я і сам не ведаю, чаму так далёка зайшло,—гаварыў Сяргей Галушкевічу,—я зусім аб жаніцьбе не думаў.

І кожнаму, хто яго пытаўся аб гэтым, ён адказваў так як Галушкевічу. Сяргей адчуваў сябе ніякавата пры такіх роспытах, хоць і стараўся трымацца незалежна, па маладзецку. Толькі яго дзівіла і прыводзіла ў разгубленасць тое, што хлопцы, якіх ён лічыў сваімі лепшымі сябрамі, найбольш адданымі, выслухоўвалі яго тлумачэнні, не хаваючы таго непрыемнага ўражання, якое яно пакідала на іх. Яны або пахмура, холадна рабілі яму заўвагі аб тым, што яго ўчынак дрэнны, не таварыскі, або проста, нічога пэўнага не сказаўшы, пакідалі яго. І толькі адзін Сашка, трактарыст другога разраду, агідна падміргваў Сяргею.

— Пастараўся? Ха-ха... Малайчына!

Але гэты Сашка вызначаўся сярод усіх толькі тым, што кожную нядзелю яго можна было бачыць п'яным да страты свядомасці, і ён быў апошнім работнікам у МТС. Сяргей адчуў, што ў адносінах яго з сябрамі лягла плёнка холаду. Яны па-ранейшаму віталіся з ім раніцаю каля майстэрань, цікавіліся, як ідзе яго спаборніцтва, але Сяргей ужо не чуў у іх вітаннях ранейшай сяброўскай шчырасці, як не шукаў яе, не бачыў тых радасных твараў пры сустрэчы з імі. Іх зацікаўленасць спаборніцтвам перастала мець той сяброўскі характар, які так радаваў Сяргея раней. Іх адносіны да яго пачалі аддалёна нагадваць адносіны здаровых людзей да хворага чалавека, якім цікавіліся для таго, каб толькі не абразіць яго. Такі шчыры, бывала, добры Галушкевіч цяпер сурова сказаў яму:—Я думаў, што ты ўжо пазбаўлен астаткаў капіталістычнага свінства. Аж ты...

Ї гэта прыводзіла Сяргея ў роспач. Сівавусы майстар дагнаў яго каля майстэрань і палажыў руку на плячо.

— Ты абмануў дзяўчыну? Нядобра, нядобра...

Ляксей зусім ухіляўся сустрэч з ім. Нават Лёнік аднойчы сустрэў Сяргея заявай:

— Я не буду з табой дружыць.

— Чаму?—спытаўся Сяргей.

— Я чуў, што ты паганы,—безапеляцыйна заявіў Лёнік.

У роспачы Сяргей шукаў шляхоў, якімі-б ён мог аднавіць свае адносіны з сябрамі, з тымі сябрамі, якія былі так дарагі для яго. Але ён не думаў і не хацеў вяртацца ў думках да Ніны. З ёю ў яго было порвана назаўсёды, так думаў ён.

Ї Сяргей знайшоў тыя шляхі. Ён ведаў як дорага была для сяброў яго перамога над Боркіным, як гарэлі яны разам з ім радасцю яго першых невялікіх поспехаў. Ён парашыў ва што-б там ні стала перамагчы знатнага трактарыста, заваяваць славу не толькі сабе (аб сабе ён думаў менш за ўсё), але і ўсёй Ростаньскай МТС і памірыцца з сябрамі. Ї ён раніцамі, прышоўшы на поле яшчэ роснае ад інею, укрытае вэлюмам туманаў, намагаў усе сілы, каб працаваць як найлепш. Баязліва прыслухоўваўся ён да работы матора—калі-б цяпер трактар падвёў, рушыліся-б усе яго надзеі. Але матор працаваў роўна і прывычнае вуха Сяргея не магло ўлавіць у ім ніводнага непатрэбнага гуку. У яго галаве стаяла адна думка: памірыцца з сябрамі, аднавіць ранейшыя адносіны да яго. З болем і гаркотай успамінаў ён тыя слаўныя летнія вечары, калі ў акружэнні вясёлых сяброў ён спяваў песні, жартаваў з імі, смяяўся, калі на лузе, каля ракі, яны, бывала, гулялі ў гарэлкі. Гэта ўсё яшчэ было так нядаўна. А цяпер...

Ї цвёрда вядучы ялавінаю трактар, ён думаў: перамагчы Боркіна.

Ї вось настаў той незабыўны для яго час. На цэлых дзесяць дзён раней тэрміну Сяргей кончыў сваю работу. Ён ведаў, што Боркін адстаў ад яго не менш чым на тыдзень. Вечарам, на змярканні, Сяргей бег з поля, стомлены і радасны, каб паведаміць сябрам гэтую хвалюючую навіну. Халодны восенскі вецер трапаў каўнер расшпіленай сарочкі. Сяргей на зважаў на вецер, не адчуваў стомы і бег нацянькі, праз лясок, Крывою Сцежкай, хутчэй, хутчэй, да сяброў. У гэты час хлопцы звычайна бываюць у чытальні. У эмтээсаўскай чытальні ўтульна і прыгожа. Лёшка ціханька пад балалайку прыгаварвае сябрам частушкі, якіх ён ведае столькі, колькі валос у яго на галаве. Сцёпка Галай дае сеанс адначасовай гульні ў шашкі на чатырох дошках. Такі-ж жвавы, як заўсёды, ён не дае часу і падумаць сваім чатыром партнёрам. Каля патэфона аддаўся марам Галушкевіч, слухаючы ўкраінскія народныя песні. „Гэй, далінаю, гэ-эй“—любімая яго песня і ён напэўна слухае яе. Сівавусы майстар, успяўшы на нос акуляры, чытае газеты. Гэта ўсё Сяргей ведаў наперад. Ї вось ён прыбяжыць, раскажа аб сваёй перамозе і пачнецца радасць. Радасць сяброў таксама ўяўляе сабе Сяргей. Ён памятае як вясною шкадавалі яны, калі ён прайграў спаборніцтва, і таму цяпер яму не цяжка было ўявіць іх радасць. Можа на гэту

хвіліну у чытальні будзе і Рыбакоў, то ён забудзецца на ўсё і толькі пачне паўтараць:—„Малайчына, гусі-лебедзі, малайчына!“

Ён вернецца да сваіх сяброў. Так! Для гэтага варта было папрацаваць, варта было пакласці хоць-бы і ўсе сілы. І калі б Сяргею сказалі, што для таго, каб вярнуць сяброў, яму нанава трэба было пачаць спаборніцтва з Боркіным і перамагчы яго, то ён-бы не хістаўся ні адной хвіліны. Заўтра-ж ён зноў выехаў-бы ў поле і зноў перамог-бы яго.

Поўны такіх думак Сяргей прыбег у двор МТС. Ён адчыніў дзверы чытальні і яркае святло ад лямпы ўдарыла яму ў вочы. Але ён не быў аслеплены святлом, ён не бачыў нічога ад шчасця. Захліпаючыся ад хвалявання, ён, ледзь пераступіўшы парог, крыкнуў!

— Хлопцы! Я перамог Боркіна. Пабіў Боркіна!

У чытальні былі ўсе яго сябры, але Лёшка не спяваў частушак, Галай не іграў у шашкі, патэфон стаяў закрыты, бо Галушкевіч не слухаў украінскіх песень. Усе яны сядзелі за сталом і ніхто не ўсхапіўся, каб прывітаць яго з перамогай, ніхто не падняўся яму насустрач, ніводзін нават не ўзняў прывітальна рукі. Разгублены і збянтэжаны Сяргей пахіснуўся і замоўк. Ён яшчэ не ведаў прычыны такой сустрэчы, але ўжо шукаў яе. Ён прабег вачыма па тварах сяброў, кінуў позірк за стол і ўбачыў і зразумеў усё, усё.

За сталом, побач з Галушкевічам, сядзела Ніна. Яна плакала і ўцірала хустачкай слёзы.

Нейкі момант у нутры Сяргея яшчэ цяплілася іскарка надзеі, што ўсё будзе так, як ён меркаваў, але праз момант надзея знікла. І тады хваля гарачай крыўды адразу зрабіла млосным цела. Камяк гаркоты падступіў да горла. Вось як сустрэлі яго сябры пасля таго, як ён абараніў гонар Ростаньскай МТС і цяпер прынёс ім самае сваё дарагое, самае шчырае—радасць, каб падзяліцца ёю з усімі! Вось адплата за яго слаўную перамогу над Боркіным!

— Сяргей!—парушыў цішыню Галушкевіч,—мы хацелі табе сказаць...

Але Сяргей не хацеў слухаць сяброў. Усё скончана. І не трэба. Ён не вярнуў сяброў. Ён не знайшоў дарогі, як вярнуць іх. Плачучы ад крыўды, ён выскачыў за дзверы чытальні, у ноч халодную, асеннюю ноч, і дрэвы пад ветрам спявалі сумныя свае песні, губляючы па адным залатое лісцё.

Ён пабег па дарозе, сам не ведаючы куды, і зверху падаў дождж, густы, дробны дождж, а пад нагамі хлюпала гразь. Роспач і крыўда апанавалі яго, прымушаючы нічога не чуць і не бачыць, і халодны вецер злосна біў у яго расхрыстаныя грудзі...

## III

Па заяве Сяргея Рыбакоў адпусціў яго вучыцца ў горад. Позняй восенню Сяргей паступіў на трэці курс рабфака і старанна ўзяўся за вучобу. У кнігах ён шукаў забыцця. Але такія справы не за-

бываюцца. І Сяргей, якога раз пакінулі сябры, і тут, у горадзе, не мог ні з кім завязаць шчырай дружбы. Ён сам быў вінаваты ў гэтым, хоць гэта і не залежала ад яго: ён ужо не мог быць адкрытым з імі, простым, вясёлым, як раней. Тады ён пачаў думаць пра сябе, пра Ніну і сумленне, якое ён раней утаймаваў, з адноўленай сілай загаварыла ў ім. Цяпер ён убачыў ступень сваей віны, ён пачаў шкадаваць Ніну, толькі цяпер, калі ўсе падзеі паўсталі перад ім аддалёныя часам і таму віднейшыя, ён зразумеў правату сваіх сяброў. Ён парашыў выправіць усе свае памылкі, і з нецярплівасцю Сяргей пачаў чакаць канца вучобы. А калі на палях ужо зелянела збожжа, Сяргей вярнуўся ў Ростань.

— Я вярнуўся да Ніны,—сказаў ён Рыбакову.

— Добра,—паздароўкаўся з ім Рыбакоў,—будзеш працаваць у нас?

— Буду.

І Сяргей пайшоў у Зазер'е. Поўны сораму, поўны ўнутраных хістанняў, пераступіў ён парог Нінінай хаты. Бацькоў Ніны не было дома. Ніна купала ў начоўках дзіця. Сяргей закрыў за сабою дзверы і ўсміхнуўся. Ніна паглядзела на яго здзіўленая і спалоханая.

— Ну вось і я прышоў.

Яна супакоілася, калі пачула яго голас і зразумела, чаго ён прышоў.

— А-а, ты?

Яна выняла з начовак дзіця і, выцершы, абвярнула яго ў беленькую просціну. Сяргей не ведаў, аб чым гаварыць.

— Уга, сын наш які вялікі.

— Вырас. Яму-ж вось пяты месяц пайшоў,—адказала Ніна.— Ён у мяне ўжо гаварыць вучыцца. Скажы, сынок, „ма-ма"... -

Сяргей падышоў да Ніны.

— А гэта хто?—спыталася Ніна, паказваючы на Сяргея.

— Та-та,—хацеў дапамагчы Сяргей.

— Не тата, а дзя-дзя. У нас, скажы, сынок, таты няма, і не трэба ён нам. Вот...

Ніна некалькі раз пацалавала дзіця.

...Сяргей выйшаў за дзверы. На дварэ свяціла сонца. На плоце круціліся шустрыя канаплянікі. Забыўшыся, Сяргей стаяў каля парога і глядзеў у неба, сіняе і чыстае, і ён не думаў ні аб чым, спустошаны ўвесь, стомлены, разбіты, і ён не хацеў нікуды ісці, хоць і ведаў, што трэба ісці.

...Па такіх крывых сцежках, здараецца, бяжыць чалавечае жыццё і пакуль трапіць чалавек на роўную дарогу, пакуль не навучыцца жыць, яно неаднойчы сурова правучыць яго, ён прыглыне не адзін камяк гаркоты і крыўды.

Ачнуўшыся ад забыцця, Сяргей паціху пайшоў да варот. Канаплянікі стайкай шарахнуліся з плота. Ён павольна адчыняў вароты і не хапаўся выходзіць на вуліцу, яму цяжка было пакідаць

гэты двор, ён яшчэ не хацеў верыць, што ўсё ўжо скончана. Але час бег і Сяргей апынуўся на вуліцы. І тады, калі ён не меў ужо ніякіх надзей, раптам ззаду ён пачуў голас:

— Сяргей, хадзі, я нешта маю табе сказаць.

Ён азірнуўся. На парозе стаяла Ніна. Раней, якою ён ведаў яе спачатку знаёмства, на парозе стаяла Ніна і прыветна ўсміхалася, паглядаючы на яго.

г. Мазыр, 1937 г.

---

*П. Панчанка*

# Сувей

Польшча сёння, як царская Расія—
Краіна смерці, краіна чорных крат.

*А. Александровіч.*

1

Пад Маладзечнам шмат лясоў,
нямала і балот.
Вялося многа там ласёў
і дзікіх коз было.
Цяпер іх, кажуць, не відно,
Не чуцен грозны рык;
І п'юць хваёвае віно
Іначшыя звяры...
Загублена у нетрах тых,
Дзе хвоі вышай гор,
Магіла непрыкметная—
Зямлі пакутнай горб.
А ў людзях ходзіць гутарка,
А ў людзях сказ жыве,
Што жыў на бедным хутары
Хлапец Лявон Сувей.
А побач млын за горкаю—
Чатырохкрылы птах.
Лявон там працы горкае
Даволі паспытаў.
Цягаў мяшкі пукатыя
Ён дзень-у-дзень, каб меці
Скарынку, каб за хатаю
Шчэ пачакала смерць.
Пад старасць каб з сявенькаю
пайсці на свой загон,
каб мацеры сівенькай
дажыць да лепшых дзён...
Міналі дні прагорклыя,
як лубіна струкі.
І часта за гаворкаю
Узнімаў ён дзве рукі:
— Эх, шчасце, шчасце... Дзе-ж яно?
Дайсці не хопіць ног
мне да яго.. развеена
на паясах дарог.

Чаму, чаму пакутую
з багаццем дужых рук?
Жыццё ў ланцуг закутае,
А я ў ім гару...
А ў млынара раскошы скарб,
Як цеста з дзежкі прэ...
Маўкліва людзі слухалі,
ішлі з аглядкай прэч.

2

Быў адвячорак. Воблакаў
стаялі астравы
на небе. Дожджык цёплы
Асеў у глыб травы.
Трубіў пастух... З палосак
да хаты жнейкі йшлі,
іх песень адгалоскі
журботаю плылі...
Лявон ішоў у стоме
і вечару быў рад.
Яго ў багатым доме
чакаў млынар Ігнат.
Сядзеў і гладзіў вус. Каб
кроў бурліла лепш,
гарэлка і закуска
стаялі на стале.
Сядзеў як бот. Пад носам
два касмакі рудых...
І парабку паднёс ён:
— На, выпі за труды!
Лявон быў здзіўлен. Выпіў...
Праз зуб гнілы тынок
ляцелі словы хрыпла:
— Пі, сам даю, сынок.
Затым устаў ён. Тлусты,
як буйны белы грыб.
— Каб мець вам хлеба лусту,
трэ' быць маўклівей рыб.
А ты, а ты ўжо хочаш
таптаць святы закон?
А ты распяліў вочы
на скарб чужых? Лявон!
Ідзі, ідзі да д'ябла,
у млын каб ні нагой!—
Гнілы, папсуты яблык
Сарву сваёй рукой!..
Крычаў, слюною харкаў
І непакорных кляў.
Лявон збялеў. І чарка

у горле запякла...
А на дварэ прыветна
сваволіў вецярок.
І бачыў месяц светлы
цяжкі лявонаў крок.
Хадзіў з калючым болем,
ў вачах іскрыўся гнеў.
Хадзіў як цень па полі,
ў нянавісці нямеў...
Дождж зорак з неба падаў
на росны шоўк травы.
І чуўся шэпат: „Гады!
Заплачаце-ж і вы!“
А потым звон старанна
гудзеў, і выў млынар...
Млын паміраў прыбраны
ў кажух пякучых хмар.
І знік Лявон... І маці
сівела ад журбы.
І пелі штось ля хаты
дзве стройныя вярбы.

3

Не звер ламаччам хрумстае,
Не скрыпае кара—
Лявон глухой сцяжынкаю
Ідзе у родны край.
І па суровай постаці
нялёгка зразумець,
якія словы вострыя
і думкі ён займеў.
... Ноч зоркам параблытала
таемныя шляхі—
адна упала спрытная
у цёмны бор глухі.
І нарадзіла вогнішча,
сабрала сем сялян...
Мо' папараць чароўная
тут сёння зацвіла?
Паселі ўсе суровыя:
— Ну, што-ж, Лявон, кажы,
Што чуў на свеце новага,
Чым дыхаў ты і жыў?
— Браты, як звер зацкованы,
я уцякаў ад хат
у лесавыя схованi,
а быў чамусьці рад,
што полымем залочаным
узняўся мой праклён,

што помстаю заплочана
за здзек, за пекла дзён...
Я край наш вялікі
увесь абыйшоў.
Усюды шчасце клікаў,
але не знайшоў.
На віленскіх гонях—
паноў тлусты рой,
Жуюць сяляне сёння
мякіну з карой.
Пануюць на Гародні
галодныя дні.
Дзятва сялян гаротная,
не бачыла кніг.
У чорным дыме Лодзі
хрыпяць ткачы,
каб сытна, ў пазалоце
жылі багачы.
Зрабіліся таварам
дзяўчаты палёў—
ў Варшаву на бульвары
іх голад прывёў.
Каб пышна піравалі
ў харомах паны,
каб у цахах кавалі
машыну вайны.
І з гэтаю машынай
пайсці на Усход—
Жыве у той краіне
совецкі народ.
Няма там магнатаў.
Цвітуць сады..
Зрабіў народ багатым
мудрэц-правадыр.
Там радасная праца,
там сонца ярчэй,
і весела іскрацца
сузор'і начэй...
І чулі дрэвы дужыя
прысягу мужыкоў—
быць змагарамі мужнымі,
разбіць прыгнёт вякоў.

4

Не вербы шум рассыпалі,
не плёскае ручэй—
то маці плача з радасці,
ласкава словы тчэ:
— Як галубочка, сыне мой,
чакала кожны дзень...

Хоць ночаньку адзіную
паспі ў сваім гняздзе...
І задрамаў ён стомлены,
бы явар ля ракі,
Як абцугі над скронямі
сышліся дзве рукі.
А маці ноч бяссонную
малілася, каб бор
ад бед, ад гора чорнага
ёй сына пабярог.
Маўчала цемра-здрадніца;
Калі-ж людскі сон знік,
у бархат ночы раніца
зары ўпляла каснік.
І тапалі крылатыя
паўсталі ў поўны рост...
Загрукалі прыкладамі
Жандары ля варот.
Наперадзе, як ступа,
Ішоў млынар Ігнат;
каваным ботам стукаў,
масніцы ўгінаў...
Рыдайце, зоркі частыя,
над краем, стала дзе
свая хаціна пасткаю,
дзе здрада ўслед ідзе,
і адбірае ў беднякоў
астатак волі—сон
сваёй прадажнаю рукой...
І зразумеў Лявон,
што маладое сонейка
не для яго вачэй,
што ўжо не піць ў сасонніку
мядовы пах начэй.
Вясна мая гаротная,
мяцежны мой закат!
— Бывай, матуля родная...
Ну, варушыся, кат.
— Сынок... мой свет... Куды-ж яго?!
Зара, як кроў плыла...
і бегла ўслед нядужая,
прасіла і кляла.
Ды кат рукой умелаю
скрываваў ёй вісок;
Кроў журавінай спелаю
упала на пясок...
Глядзела і не бачыла
Праменны водбліск шкла...
Збіраўся люд, і матчына
кроў ім душу пякла.

Эх, ты, красуня-раніца,
цямней ты нам за ноч!
Маўчалі людзі хмурыя,
а помста біла з воч.
— Каму ты ўсходзіш, сонейка?
Каму цвітуць сады?
Каму пяюць ў сасонніку
Сініцы і дразды?—
З адчаем маці думала,
ў вачах стаяў туман...
— О, божа, падмануў мяне,
няма цябе, няма!!.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Пад Маладзечнам шмат лясоў:
Там, у гушчары дрэў,
уночы чуцен рогат соў,
удзень—птушыны спеў.
А гэтай майскай раніцай
звярыны смех гучыць:
— Ха ха! Ха-ха! Застрэлены
пры спробе уцячы...

5

І будзе дзень і грымне бой,
Узброіцца народ.
Гарніст мядзянаю трубой
Збярэ нас у паход.
Мы пераможнаю хадой
Уславім помсты час,
Каб Вісла свежаю вадой
пачаставала нас...
Я адшукаю у бары
магілы змрочны кут
і ціха вымаўлю: сябры,
юнак пахован тут.
Дарогай жаху ён прайшоў,
і ў час пакутных дзён
ён сеяў гнеў, каб узышло
шчаслівае жыццё.
Яшчэ скажу: Лявон Сувей,
пад гул хваін старых
спакойна спі, сябры твае—
жыцця гаспадары.
І ворагаў перамагчы
нас кліча твая кроў,
у сэрцах мужных несучы
нянавісць і любоў.

1936 г.

*А. Пятроў*

# ПОМСТА *)

## I

— Мун,—змяя!

Калматы звярок скочыў з маіх каленяў і, распушыўшы хвост, з ваяўнічым порсканнем забегаў па двары. Вядома, ён ведаў, што ніякае змяі няма, але рабіў выгляд, што гатовы шчапіцца з хоць якім ворагам.

— Я памыліўся, мун: змяі няма!—закрычаў я, у захапленні шлёпаючы сябе па голых бёдрах.

Мунго **) кінуўся да мяне і, нібы ў адпомсту, напоўжартуючы, напоўсур'ёзна пачаў пакусваць маленькімі, вострымі, як іголкі, зубамі рукі, ногі—усё, што мог дастаць.

Бацька жартаваў, што ў яго два сыны: я і мунго, і што мяне ён знайшоў у чаплінным гняздзе, а мунго—на какосавай плантацыі. Аб маім чаплінным паходжанні можна было спрачацца, але мунго сапраўды трапіў да нас з плантацыі,—у той памятны дзень, калі бацька знайшоў яго, малюсенькага, вішчэўшага з голаду, у зарасніку мімозы. Я выкарміў яго казіным малаком і дробна скрышаным мясам яшчарак—геконаў, якіх забіваў на сценах хаціны. Калі мунго вырас, ён стаў паляваць на змей, яшчарак і джунглевых курэй, якія вяліся за аколіцай паселішча. Часам ён знікаў на колькі дзён, і я плакаў з гора, бо думаў, што яго задзяўблі дзікія павы альбо знёс коршык. Але мунго нечакана з'яўляўся і зноў, як ні ў чым не было, насіўся па садзе, засоўваючы пысу ў кожную норку.

З хаціны, з кучаю цыновак у руках, выйшла маці.

— Даволі гуляць з мунго,—бурчліва сказала яна.—Схадзі на бераг, налаві крабаў.

Я ўзяў мяшок і, размахваючы ім, як сцягам, упрыскачку накіраваўся да мора. На шашы я сустрэў прыяцеля.

— Ты куды?—спытаўся я, спыніўшыся.

— У краму па соль. А ты?

---

*) Апавяданне сінгалеза. Сінгалезы жывуць на востраве Цэйлоне.

**) Мунго—маленькая драпежная жывёліна з сямейства віверавых; славіцца зншчэннем змей.

— Крабаў лавіць. Потым збегаю да бацькі на плантацыю.

Прыяцель азірнуўся. Па яго таямнічаму выгляду я зразумеў, што ён хоча паведаміць нешта важнае.

— Ты ведаеш, што сёння здарылася на плантацыі?—спытаўся ён, панізіўшы голас.

— Не. А што?

— Вялікае няшчасце: на трэцім бараку абваліўся дах. Ен пакрывіўся даўным-даўно, але яго падперлі балкамі... На світанні, калі шмат хто спаў яшчэ, з лагуны наляцеў шквал. Трах! Дах не вытрымаў і ўпаў,—проста на людзей.

— Ой-ой! І што-ж?

Прыяцель нервова паварушыў плячыма.

— Што там бы-ло!—працягнуў ён, зажмурваючы вочы.—Збегліся з усіх баракаў, пачалі выцягваць людзей. У каго рукі пераломлены, у каго—ногі. Крычаць, стогнуць... Дзіця Бішану выцягнулі мёртвага. Чацвярых завезлі ў горад, у больніцу. Стары Азісвар па дарозе памёр,—яму бервяном скруціла шыю.

— Ай-ай!—прашаптаў я, жыва ўявіўшы сабе бяскрыўднага звар'яцелага, якога шмат хто лічыў за калдуна.

— Рабочыя пагражаюць, што заб'юць „гепарда",—сказаў прыяцель:—ён ведаў, што дах ледзьве трымаўся, ды ўсё адкладваў рамонт.

— „Гепарда" шмат разоў збіраліся забіць,—запярэчыў я, грэбліва махнуўшы рукой,—і калі прадалі рабочым тухлую рыбу, і калі ўтапілася дзяўчына... А ён жывы і здаровы. Так і цяпер будзе.

Але прыяцель быў іншай думкі.

— Заб'юць, вось пабачыш!—з перакананнем сказаў ён.—Бішану пры ўсіх пакляўся вокам Сівы, што адпомсціць за дзіця. Ты ведаеш, ён не з тых, што кідаюць словы на вецер. Толькі нікому не расказвай, чуеш?

— Ну, во,—пакрыўджана адказаў я.

Мора шумела. Вялікія хвалі набягалі на бераг да ўзножжа пальмаў. Яны не паспявалі адхлынуць, як навальваліся другія хвалі, яшчэ больш грозныя, з закручанымі наперад грабянямі. Яны з такою сілаю ўдараліся аб валуны, што бераг уздрыгваў. Дзьмуў бурны зюд-вест, што нараджваў шквалы пры бязвоблачным небе,—прадвеснік летняга мусону. На моры мільгалі парусы рыбацкіх чоўнаў, а далёка за імі, ахутаны дымам, паволі рушыў да Каломба *) грузавы параход.

Размаўляючы, мы завярнуліся да лагуны. Раптам з какосавага ляска з брэхам кінуліся да нас два велізарныя догі, падобныя да леапардаў. Іх лютушчы выгляд мог збянтэжыць нават дарослых мужчын. Мы, як мышаняты, кінуліся ў розныя бакі, у слабой надзеі дабегчы да дрэў, па якіх лазілі не горш за малпаў. Але сабакі адрэзалі ўсе шляхі да адступлення. Заставалася выйсце, падказанае горкім вопытам: скочыць у пену прыбою. Прыяцелю ўдалося ўскараскацца на высокі валун, а мяне збіла хваляю з ног і адкінула далёка ўбок.

*) Галоўны горад вострава Цэйлона.

Следам за сабакамі з ляска выйшаў шырокаплечы англічанін з рушніком праз плячо. Гэта быў той самы „гепард“, аб якім гаварылі,—упраўляючы какосавай плантацыі братоў Сарлей і К⁰. Ён мелькам зірнуў на нас і, падышоўшы да затокі, у якую не забягалі хвалі, пачаў не спяшаючыся распранацца.

Я дарэмна напружваў сілы, каб утрымацца на лініі прыбою. Калі набягала хваля, сабакі адскокваліся да ляска, а затым з падвоенай лютасцю кідаліся да валуноў, за якімі я шукаў ратунку. Гэтыя догі, якіх „гепард“ прывучыў нападаць на „чорнаскурых“, скалечылі нямала людзей, а двух пастушкоў і сляпога жабрака загрызлі на смерць. „Гепард“ плаціў штрафы, але так і не надзеў на сваіх улюбёнцаў намордкаў.

Жахлівая хваля падхапіла мяне і вынесла на бераг. На шчасце, яна пацягнула мяне назад—інакш я немінуча трапіў-бы на зубы сабакам. Я круціўся, як чурбак, і па горла наглытаўся салёнай вады з пяском. Сабакі рынуліся за мной і бадай не ўхапілі, але іх адагнаў ураган пырскаў. Мне ўдалося затрымацца сярод валуноў, але—увы!—не паспеў я ўзняцца на ногі, як мяне перакруціла дагары нагамі і імкліва панесла ў адкрытае мора. Пена злосна шыпела і сцёбала ў твар, а над ёю—у вадзяным пыле—успыхвалі міріяды зіхацеўшых вясёлак. Наперадзе раптам вырасла гіганцкая зялёная сцяна. Я за адзін мах узляцеў на яе, але ў той-жа час старчма паляцеў у бяздонне. На дне я ўгледзеў нешта цёмнае і ў той-жа міг адчуў жорсткі ўдар у галаву. Перад вачамі блісьнулі яскравыя агні. Я ў адчаі забарахтаўся, ударыўся яшчэ раз і, аглушаны, мала не захлынуўшыся, выдрапаўся наповерх. Побач тырчэў валун, які амаль залівала прыбоем. Я схапіўся за яго і стаў корчыцца ў спазмах ванітавання. Мне здавалася, што ва мне перакручваюцца вантробы і што я зараз памру. Я ванітаваў і ў перапынках крычаў ад жаху, а за якіх-небудзь дваццаць крокаў спакойна купаўся дарослы, моцны мужчына. Што яму каштавала дапамагчы мне,—хоць-бы прагнаць сабак, якія не суніміліся на беразе!

Нарэшце „гепард“ выйшаў з вады. Ён, не спяшаючыся, апрануўся і ўжо збіраўся ісці, як штосьці з грукатам пракацілася па валунах, непадалёк ад мяне. Гэта было бервяно, чорнае ад таго, што доўга было ў вадзе,—магчыма, абломак мачты парусннага карабля, што пацярпеў крушэнне. Бервяно грузна перавалілася праз каменне і застрала, задраўшы ў неба пашчапаную верхавіну. „Гепард“ пачуў шум і ўважліва агледзеў бервяно ў бінокль. Пасля гэтага ён развалістым крокам пайшоў да мыса, на якім, сярод пальмаў, бялелася віла. За ім, як пара дышловых, пабеглі догі.

Я дабраўся да берага і ў знямозе апусціўся на пясок. Рукі і ногі дрыжэлі, каля пазногцяў ішла кроў, а ад „саронга“ *) (новага „саронга“, апранутага першы раз!) засталіся адны лахманы.

Прыяцель, усхваляваны, чакаў мяне.

— Я думаў, што ты патанеш,—сказаў ён, усеўшыся перада мною на цыпачкі.—Калі ты забрыкаў нагамі,—там, каля рыфа,—я падумаў: канец! не выплывеш...

*) „Саронг“—вопратка, накшталт спаднічкі.

— Хіба мяне... занесла да рыфаў?—расслабленым голасам спытаўся я.

— Ого!—да самых бурунаў. А пракляты „гепард“ нават галавы не павярнуў! Ведаеш што, Біп? Давай атруцім сабак... Сапраўды! Я здабуду насення „гуртмі“ *) (у Хазы яго багата,—ён прывёз з Індыі). Начынім рыбіну і ўначы падкінем да варот віллы. Добра?

— Я з ахвотаю атруціў-бы... самога „гепарда“,—пахмурна адказаў я.

Прыяцель трывожна азірнуўся.

— Дойдзе чарга і да яго,—напоўголаса адказаў ён.—Пакуль-што возьмемся за сабак. Я сёння-ж выпрашу ў Хазы насення, а ў Махамеда—кавалак рыбіны. Толькі нікому ні слова!

## II

Маці ахнула, убачыўшы мяне.

— Ты чуеш?—закрычала яна суседцы, калі я, хліпаючы, расказаў аб здарэнні.—Хлопчык ледзь не патануў, бо сабакі загналі яго ў мора, а бессардэчны „гепард“ не даў сабе клопату прагнаць іх.

— А „гепарду“ што?—адгукнулася суседка.—У яго замест сэрца—камень. Вось пабачыш, скончыцца тым, што нельга будзе выпускаць дзяцей на вуліцу.

— Але чаму не прымуць меры? Чаму не паскардзяцца „карале“ ці „ратамахатмею“ **)? Ёсць-жа на свеце суддзі, законы!—кіпяцілася маці, рэзкімі рухамі павярачваючы мяне ва ўсе бакі.

Суседка кпліва хмыкнула.

— Чаму не скардзяцца? Баяцца, вось чаму. Хто захоча нажыць сабе ворага?

Маці вымазала мае сінякі казіным маслам і яшчэ доўга прыгаварвала над парваным саронгам.

— Як-жа ты будзеш лавіць крабаў?—з роспаччу ў голасе спыталася яна.—Нам і без таго няма чаго есці.

— Я буду хадзіць у Каралавую бухту: туды сабакам не дабрацца,—заспакойваюча адказаў я.

Маці зноў узялася за перапыненую работу, а я, падсілкаваўшыся парою бананаў (мне раптам страшэнна захацелася есці), узяў на рукі мунго і пабег з ім на плантацыю, каб паглядзець на разбураны барак, а заадно—паслухаць, што гавораць пра падзею рабочыя.

Баракі двума лініямі працягліся ўсцяж лагуны, на самым краі плантацыі. Гэта былі нізкія цагляныя будынкі без вокнаў, пад дранковым дахам, такім спарахнелым, што на ім пышна разрослася лес папараці. Для аховы ад касога дажджу з аднаго і з другога боку баракаў былі прыбудаваны паветкі; яны даўно прыйшлі ў нягоднасць і служылі—удзень—арэнаю боек для вераб'ёў, а ўначы—месцам пагулянак для катоў.

*) Анамірта кокулюс,—расце на прадгор'і Гімалаяў; насенне вельмі атрутнае.
**) Мясцовыя адказныя асобы.

Сярод сметнікаў, што абкружалі баракі, з раніцы да начы капашыліся голыя дзіцяняты рознага полу і ўзросту, якія агалашалі паветра смехам і плачам. Старэйшыя няньчылі малодшых, а за ўсімі прыглядвалі бабулькі, якія, седзячы ў цяню, цыравалі і перашывалі лахманы. Улюбёнымі цацкамі дзяцей былі жывёлы, якіх яны песцілі і мучылі,—цэлая армія кацянят і сабачанят,—пачварнахудых, у гнойных балячках і каросце. Час-ад-часу, па загаду „гепарда", чацвераногія прыхлябаі знішчаліся, але потым—глядзіш—паяўляліся зноў, усёроўна як іх параджала баракавая плесень.

Баракі зваліся „лініямі". У іх жылі тамілы*), якіх партыямі прывозілі з Паўднёвай Індыі,—сумленныя, працавітыя людзі, пагалоўна няграматныя і поўныя самых дзіўных забабонаў. Мужчыны брылі спераду галаву і закручвалі валасы ў пышныя шыньёны. Яны панастаўлялі наўкол баракаў драўляных ідалаў,—шматрукіх, шматтварых пачвар з выскаленымі зубамі, па святах фарбавалі свае целы і, пад грукат „там-там'аў" **), да знясілення скакалі ў гонар Сівы, Крышны ці якога-небудзь іншага бога, якога баяліся не менш, чым упраўляючага плантацыі. Маладыя тамілкі насілі завушніцы не толькі на вушах, але і ў ноздрах, рукі і ногі ўпрыгожвалі браслетамі, і любілі спяваць хорам старадаўнія індускія песні, у якіх апявалася горкая доля сіраты-дзяўчыны. Тамілкі ўмелі працаваць, не разгінаючыся, ад зары да зары, і ў сорак год, нібы растраціўшы запас сіл, ператвараліся ў друзлых бабуль.

---

Ад трэцяга барака засталіся адны сцены. На зямлі валяліся груды дранкі, прыдушаныя абломкамі крокваў. Большая частка даха, разам з падпоркамі, абвалілася ў жылыя памяшканні. Некаторыя каморкі былі завалены даверху, у другіх—на падлозе і на палацях—ляжаў тлусты пласт пацярухі, ад якой патыхала ўдушлівым пахам гнілля. Дзіўна было бачыць заўсёды цёмныя жыллёвыя памяшканні, яскрава асветленымі адвесна падаючымі праменнямі сонца.

Я з жахлівай цікаўнасцю заглянуў у каморку—крайнюю з правага боку—у якой загінула дзіця Бішану. У ёй, амаль ля парога, ляжаў абломак балкі з тырчэўшым збоку даўгім іржавым цвіком. Мне здалося, што на ім запяклася кроў.

— Настане час! Настане час!—пачуўся раптоўна за мной хрыплы голас.

Я ўздрыгануў і азірнуўся. Ля сцяны, абодвума рукамі абапіраючыся на кій, стаяў вартаўнік,—вельмі стары, звалі яго Марабар,—якога на плантацыі паважалі за тое, што ён быў у Бенарэсе і двойчы, у кампаніі багамольцаў, прайшоў ад вусця да вытокаў Ганга. Мы, дзеці, крыху пабойваліся старога, правільней—ягонага крумкаючага голасу і зблытанай барады, якая ад старасці пажоўкла.

— Бішану там!—крыкнуў ён, махнуўшы кудысьці рукой.

— А дзе Азісвар?—боязка спытаўся я.

Стары пажаваў бяззубым ротам.

---

*) Народ дравідскага племя.

**) Музычныя інструменты накшталт бубна.

— Нікога няма,—прамовіў ён, і пры кожным слове яго сівая барада прыгала ўгору і ўніз.—Дзе жылі людзі—плача дронга *). Але няхай ведаюць усе—багатыя і жабракі (голас старога перайшоў на крык): набліжаецца час адплаты! Хвалі агню затопяць краіну, як мора—пясчаны бераг. Гора сеючым зло, жорсткім і прагавітым! Яны загінуць жудаснай смерцю,—усе, усе да аднаго!

Стары грозна застукаў кіем аб зямлю. Мунго заёрзаў на маіх руках, выяўляючы жаданне ўцячы. Мне таксама зрабілася не па сабе і я таропка пайшоў, раздумваючы над дзіўным прароцтвам.

На беразе лагуны я ўбачыў Бішану. Гібкае мускулістае цела індуса (ён лічыўся за лепшага лазільшчыка **) было прыкрыта адной набедранай павязкай. Ён складваў у кучу паленні, якія толькі што нашчапаў з крокваў. У цяню бамбукавага куста, пад пакрываллам, сядзела яго жонка—Чандра; на яе каленях, як кокан шаўкавічнага чарвя, ляжаў спавіты трупік дзіцяці. Жанчына нізка схіліла галаву і час-ад-часу адганяла галінкаю мух, прываблених пахам тлення. Поруч з ёю стаяла дзяўчынка год пяці і, прыадкрыўшы рот, шырокімі вачамі глядзела, то на шпарка ўзрастаўшую кучу дроў, то на страшны скрутак на каленях маці.

Пакончыўшы з справай, Бішану распрастаўся і паглядзеў у бок шашы. Адтуль, па ценістай сцежцы, важным поступам набліжаўся брамін,—чорнабароды таўстун у развяваючымся ад ветру адзенні, на якім ігралі сонечныя плямы. У левай руцэ брамін нёс чамаданчык з прадметамі рытуалу, а правай абмахваўся круглым веерам.

Бішану абцёр аб павязку далоні і, падыйшоўшы да жонкі, беражліва ўзяў трупік. Жанчына зрабіла парыўчасты рух, нібы хацела абараніць сваё мёртвае дзіця, але той час у бяссіллі апусціла рукі і схавала твар у складках „соры“ ***). Яе плечы ўздрыгвалі ад рыданняў. Дзяўчынка распусціла твар у грымасу і голасна заплакала.

— Рама нама сацін хай („адно імя Рамы ёсць ісціна“)!—урачыста прамовіў Бішану і паклаў трупік на дровы.

Гэтае хвіліны падыйшоў брамін. Яго твар з рознакаляровымі рыскамі і плямамі на ілбе ільсніўся ад поту. Ён затыркнуў веер запазуху і не спяшаючыся дастаў з чамаданчыка (упрыгожанага адмысловым пляценнем) курыльную свечку і пляшачку з гангскай вадой, запячатаную сургучом. Кожны рух служыцеля быў перапоўнены ўсведамленнем сваёй вартасці, але ў вачах чыталася абыякавасць чалавека, якому часта, па доўгу службы, даводзіцца рабіць адно і тое-ж.

— Як імя?—адрывіста спытаўся ён, кіўнуўшы галавой на трупік.

— Гандболь,—адказаў Бішану.

Брамін прымацаваў свечку да ўзгалоўя дзіцяці, запаліў яе (не без цяжкасці, бо свечка адсырэла) і пачаў напоўголаса мармытаць малітвы, незразумелыя нікому з нас, бо яны гаварыліся на санскрыцкай мове. Потым ён абпырскаў трупік вадой і, схаваўшы пля-

*) Птушка, якая крычыць жаласліва, маркотна.
**) Ад слова лазіць; так завуць рабочых, што збіраюць какосавыя арэхі.
***) Кавалак матэрыі, абкручаны вакол бёдраў.

шачку ў чамаданчык, моўчкі працягнуў руку. Бішану паклаў у яе пару дробных манет, якія дастаў з-за пояса. Брамін абыякава адвярнуўся і, памахваючы веерам, пайшоў у какосавы лясок, дзе яго чакала цялежка.

Бішану падпаліў хварасцё. Полымя шпарка абхапіла сухія дровы і запалала высока ў паветры. З-пад гарэўшых складак матэрыі паказалася цела дзіцяці,—спачатку ножкі, потым тулава і малюсенькая, ненатуральна сагнутая ручонка (яна была пераламана вышэй локця).

Мне раптам здалося, што дзіця корчыцца ў агні. „Жывое!“—блісканула жахлівая думка. Я пахаладзеў да кончыкаў пальцаў і ў збянтэжанасці ледзь не выпусціў мунго. „Не, не, не можа быць: мёртвых-жа аглядае знахар...“

Смурод гарэлага мяса прымусіў мяне адбегчыся ўбок. Бішану палкай падпраўляў дровы, жмурачыся і адварочваючы ад жары твар, укрыты кроплямі поту. Няшчасная маці не ўзнімала з каленяў галавы, а дзяўчынка, як акамянеўшы, не спускала воч з кастра, хоць наўрад ці разумела трагічны сэнс таго, што адбывалася.

Калі касцёр дагарэў, Бішану сабраў у хустку звуглелыя астанкі дзіцяці і вытрас іх у лагуну. Затым, пастаяўшы хвілінку нерухома, ён павярнуўся тварам да плантацыі.

— Няхай так загінуць яго дзеці!—прамовіў ён з палаўшымі ад гневу вачыма.—Няхай грыфы выдзяўбуць ім вочы, а бутоны *) раскрамсаюць на часткі душы!

Ён рэзкім рухам затыркнуў за пояс хустку і, падняўшы з зямлі сякеру, накіраваўся ў дальні барак. Жанчына ціха ўзнялася і пайшла за ім з чапляўшайся за падол дзяўчынкай.

## III

Я заглянуў у гадавальнік саджанцаў, дзе з раскладзеных радамі какосавых арэхаў вылазілі сакавітыя, ізумрудна-зялёныя сцёблы, і паўз склады копры **) пабег у глыб плантацыі.

Бацька толькі-што злез з пальмы і, седзячы на пні, распускаў уеўшуюся ў ногі вяроўку ***). Наўкол кіпела работа, чуліся глухія ўдары аб зямлю скідваемых арэхаў, пакрыкванні наглядчыкаў (—працуй! працуй!), скрып павозак і шорах рассоўваемых у кронах вялікіх жорсткіх лісцяў. З напружаннем выкручваючы ступні ног, лазільшчыкі, як мурашкі, караскаліся ўгору і ўніз па гладкіх ствалах. За сваю цяжкую працу, звязаную з рызыкай для жыцця, яны атрымоўвалі ўсяго пяцьдзесят цэнтаў****) за дзень, з якіх пяць цэнтаў аддавалі наглядчыкам,—„звычай“, які строга саблюдаўся на плантацыі.

— З кім ты біўся?—зірнуўшы на маё падрапанае цела, спытаўся бацька.

*) Злыя духі.

**) Копра—стоўчанае і высушанае ядро какосавага арэха.

***) Каб лягчэй было лазіць па дрэвах, рабочыя звязваюць сабе вышэй шчыкалак ногі.

****) 1 цэнт = 0,65 капейкі па даваеннаму курсу.

Я коратка расказаў аб нападзе сабак. Бацька спахмурнеў.

— Добры гаспадар лепш абыходзіцца з жывёлай, чым „гепард" з намі,—прыглушана, з сэрцам сказаў ён.—У самых міралюбных людзей лопне цярпенне.

Ён змоўкнуў, убачыўшы праходзіўшага наглядчыка.

Я прысеў каля бацькі на цыпачкі.

— Праўда, што яго забіць хочуць?—ціха спытаўся я.

— Не паўтарай глупства,—строга адказаў бацька.—Не толькі забіваць, але нават гаварыць аб забойстве—вялікі грэх.

— Але на вайне забіваюць ворагаў... і гэта не лічаць за грэх. Ты сам расказваў, што твой прадзед змагаўся з англічанамі, і называў яго героем.

Бацька памарудзіў з адказам.

— Вайна—справа іншая,—сказаў ён нарэшце.—Ты яшчэ шмат чаго не разумееш. Лепш трымай язык за зубамі.

У гэты час каля нас прайшоў Бішану. Рабочыя і нават наглядчыкі, адны з цікаўнасцю, другія са спачуваннем, паглядзелі на яго. Але Бішану не звярнуў ні на каго ўвагі; ён шпарка звязаў сабе ногі і з нажом у зубах палез на бліжэйшую пальму.

— „Гепард"! „Гепард"!—пачуліся ў ляску перасцерагаючыя галасы.

Бацька ўсхапіўся на ногі.

— Адыйдзі хутчэй!—прамовіў ён і зачыкільгаў на стрыножаных нагах да дрэва.

Я схаваўся ў кусты: „гепард" не цярпеў на плантацыі дзяцей, хоць мы не толькі не перашкаджалі дарослым, а наадварот, чым маглі, дапамагалі ім.

„Гепард" ішоў з віллы, на шчасце—без сабак. Я адразу заўважыў, што ён мярцвецка п'яны. Гэта здаралася з ім два-тры разы на тыдзень, узімку часцей, улетку радзей,—так казалі старажылы плантацыі. Ён не хістаўся,—ён толькі рухаўся неяк асабліва грузна, глыбока засунуўшы рукі ў кішэні панталонаў. Часам ён мармытаў сам сабе альбо, спыніўшыся, шумна адсопваўся, як чалавек, што ўзнімаецца на высокую гару. Усе ведалі, што ап'яненне не перашкаджала яму заўважаць промахі ў працы, і што ў нецвярозым стане ён быў здольны на самыя дзікія выхадкі, у якіх прарывалася ягоная грубая, нізменна-жорсткая натура.

Наглядчыкі падвоілі службовую шчырасць. Каб падлісціцца начальству, гэтыя людзі не грэбавалі ніякімі сродкамі,—нават самымі незаконнымі. Яны пагарджалі сумленнай працай і марылі аб адным: як найхутчэй сабраць капітал—вядома, за кошт падначаленых, у якіх вымагалі апошняе,—і стварыць уласную „справу",—які-небудзь гандаль сярэдняй рукі, альбо піўную на Малабар-стрыт, альбо прытон для чужаземных матросаў, з таемнай прадажай опія. Зрэшты-ж, некаторыя з іх, не пакідаючы службы, рабіліся багатымі людзьмі, бо распазычвалі грошы, пад заклад маемасці, навакольнаму насельніцтву.

Увайшоўшы ў лясок, „гепард" спыніўся і паволі абвёў вачыма рабочых. На яго твары, бронзавым ад загару, светларыжыя бровы,

вейкі і падстрыжаныя вусы складалі ўзор, ад якога ён атрымаў сваю мянушку *).

Я сцішыўся ў сваёй засадзе. „Гепард“ стаяў за дзесяць крокаў, злёгку вагаючыся з абцасаў на наскі. Ён з-пад ілба прыглядаўся да людзей, і на яго правай шчацэ торгаў мускул,—адзнака, што не абяцала для абкружаўшых нічога добрага. Але прычапіцца не было да чаго: лазільшчыкі спрытна скідвалі арэхі, насільшчыкі мітусіліся як апантаныя,—складаная машына, якою рухалі галеча і страх, дзейнічала без затрымкі.

Паджылы індус—старшыня нядаўна прыбыўшай партыі—падыйшоў да „гепарда“ і пакланіўся, збіраючыся штосьці сказаць. „Гепард“ утаропіў на яго мутныя вочы.

Вецер заглушаў словы, але па выразных гэстах і ўрыўках сказаў старога, што далётвалі да мяне, я зразумеў, што гаворка ішла пра баракі.

— Небяспечна, саіб... Нельга жыць... Людзі баяцца,—каверкаючы англійскія словы, казаў стары.

„Гепард“ тупа глядзеў на яго, нібы намагаючыся яго зразумець. Стары замоўк і, паглядваючы на рабочых, у разгубленасці камачыў сваю барадзёнку.

Гэтая мімічная сцэна цягнулася даволі доўга. Вочы „гепарда“ раптам наліліся крывёю, нібы ў буйвала, што збіраецца басціся. Ён ступіў крок да старога і з такою сілаю задаў яму нагой у жывот, што індус, як падкошаны, паваліўся на зямлю. Але „гепард“ не ўзяў на ўвагу вінных пароў: ён пахіснуўся і ледзь не ўпаў ніцма,—на насілкі з арэхамі.

Бліжэйшы наглядчык гучна засмяяўся. Вядома, смех адносіўся да старога, які, трымаючыся за жывот і пужліва азіраючыся, бег у глыб ляска. Але „гепард“ прыняў яго да сваёй асобы. Ён так грозна выставіўся на не па розуму шчырага служачага, што той паспяшаўся схавацца ў кусты.

Недзе за лагунай пачуўся шум, які нагадваў рокат прыліву. Сонца памеркла і неба ўкрылася сівымі, клубістымі хмарамі. Мунго, які дагэтуль спакойна сядзеў на маіх руках, у трывозе настрыў вушкі. Я не паспеў азірнуцца, як ён скочыў на зямлю і стралой паімчаўся паміж пальмамі: ён не любіў навальніцы і заўсёды хаваўся, калі набліжаўся шквал.

На плантацыі пачалася сумятня. З правага і з левага боку лазільшчыкі таропка спускаліся з дрэваў. Дзесяткі людзей, пераклікаючыся, беглі на ўскрай ляска, каб уратавацца ад ліўню і ад арэхаў, якія, у часе буры, са страшэннаю сілай бамбардыравалі зямлю. Наглядчыкі надрываліся ад крыку, прымушаючы рабочых выносіць кашы ды іншы гаспадарчы інвентар. Але на ўчастку, дзе стаяў „гепард“, усе заставаліся на месцах,—нават лазільшчыкі, якіх удары ветру маглі скінуць з пальмаў. Страх перад „гепардам“ быў такі вялікі, што людзі не адважваліся спыніць работу, хоць мелі на гэта права.

„Гепард“ рабіў выгляд, што не заўважае набліжэння небяспекі.

*) Гепард—буйны звер з сямейства кашачых, з пярэстым колерам поўсці.

Пад яго вусамі іграла д'ябальская ўсмешка, нібы яго забаўляла трывога, якая раптоўна апанавала людзей. Ён дастаў з кішэні люльку і ўзяўся раскурваць яе, злорадасна (як мне здалося) паглядваючы на вяршыні пальмаў.

Наляцелі першыя парывы ветру. Пальмы з шумам прыгнуліся да зямлі. Я на міг убачыў бацьку, які са скажоным ад напружання тварам абхапіў рукамі і нагамі жмук лісцяў. Я зусім забыўся пра „гепарда“ і закрычаў ад жаху. Але пальма ўжо распрасталася і панесла бацьку ўгору,—у хаос бушаваўшага зелянiва, над якім нізка імчаліся змрочныя хмары. Удары ветру чаргаваліся адзін за другім, усё часцей і часцей, усё больш і больш ярасна. Пальмы рыпелі і вагаліся ва ўсе бакі, стыкаючыся павернутымі кронамі; з іх градам сыпаліся арэхі і сухое лісце.

Ці „гепард“ зразумеў, што ігра зайшла занадта далёка, ці не хацеў прамякнуць (бадай, правільней апошняе), але ён завярнуўся і ў пераваку пакрочыў да канторы. У гэту секунду ў ягонае правае плячо ўдарыўся какосавы арэх. Удар быў касы і такі моцны, што з галавы „гепарда“ зляцеў шлем, а сам ён, выпусціўшы з зубоў люльку, прыпаў на адно калена. Арэх адскочыўся назад і закруціўся юлой на пясчанай сцежцы.

Наглядчык з усіх ног кінуўся да „гепарда“ на дапамогу. Але англічанін паспеў узняцца самастойна. Яго рука вісела, як плець, і правае плячо здавалася ніжэйшым за левае, але ён жвава падыйшоў да пальмаў і, задраўшы галаву, стаў углядацца ў бушаваўшую лістоту. На яго скажоным твары звярыная лютасць змагалася з болем. Вопытнаму плантатару было ясна, што арэх кінуты з злым намерам,—чыёйсьці трапнай рукой. Але чыёй? У мяне ёкнула сэрца: бачыў я, што арэх шпургануў Бішану. Відаць, індус знарок затрымаўся на пальме, каб адпомсціць ворагу. Цяпер ён стаіўся паміж лісцяў, як леапард пры паяўленні паляўнічага,—нянавіснага і страшнага сваёй, незразумелай для звера, сілай.

Наглядчык аб чымсьці з жарам гаварыў, паказваючы на пальмы, але яго словы танулі ў неўявімым шуме і раскатах грому. Праз хвіліну і ён і „гепард“ адыйшлі ў напрамку да канторы.

Хлынуў лівень, стала амаль цёмна. Струмені вады ліліся з хмар, з грукатам ударяючыся аб скурыстае лісце пальмаў. З кожнага ліста, з кожнай галіны ліліся ручаі, ад якіх волатавыя шаты папараці, пад якімі я стаяў, ахоўвалі не больш, чымсьці цацкавы зонт. Паверхня зямлі ў міг ператварылася ў возера, укрытае лопаўшыміся пузырамі, пенай, лісцем, абрыўкамі ліан. У ім раз-по-разу адлюстроўваліся асляпляючыя ўспышкі маланак, за якімі той час-жа следвалі громавыя раскаты, якія заглушалі на момант шум вады і ветру.

Каля мяне прабегла некалькі лазільшчыкаў, што ўмудрыліся спусціцца на зямлю, у тым ліку Бішану. Але бацькі сярод іх не было. Раптам я ўбачыў яго,—амаль над сабой. Ён апісаў у паветры крутую дугу і грымнуўся на сцежку, трымаючы ў руках пальмавы ліст. Следам за бацькам, ледзь не накрыўшы яго, упала зламаная верхавіна пальмы з пукам арэхаў. Пры бесперапынным бляску маланак я бачыў, як сударгава заторгаліся бацькавы ногі і як

з кутка яго роту, змешваючыся з дажджавою вадою, тоненькім струменем пацякла кроў...

Калі шквал праляцеў, бацьку паклалі на насілкі і занеслі дадому. У яго аказаўся падвойны пералом нагі і звіх тазабедранага сустава,—настолькі складаны, што сельскі костапраўшчык, выбіўшыся з сіл, параіў завезці бацьку ў гарадскую больніцу.

У той-жа дзень за замах на жыццё „гепарда“ быў арыштаваны і пасаджаны ў турму Бішану.

IV

— Гэй, ты, свінёнак!

Я азірнуўся. З крамы, з пакупкаю ў руцэ, выходзіў наглядчык партыі, у якой да хваробы працаваў бацька. Ён быў метысам і вельмі ганарыўся тым, што ў яго жылах, апрача сінгалезскай, цякла партугальская кроў,—пэўна не больш напарстка, калі меркаваць па колеру скуры.

— Твой бацька ачуняў?—спытаўся ён, прызвычаеным гэстам запіхваючы ў рот порцыю бетэлю*).

— Не яшчэ,—адказаў я.

— Перадай яму, што попыт на копру ўпаў,—вырашана згарнуць справу... часова, вядома. На плантацыі застанецца не больш двухсот чалавек. Выберам самых лепшых. Твой бацька—добры лазільшчык, але... такіх, як ён, багата, вельмі багата (наглядчык сплюнуў крывава-чырвоную, ад бетэлю, сліну). Дык вось, скажы яму, што я пастараюся дапамагчы... Калі ён зайдзе да мяне пагутарыць... разумееш?—калі-небудзь увечары.

Я не адказаў і, адстаўшы ад наглядчыка, на ўвесь спрыт пабег у школу.

„Нічога не скажу бацьку“—сярдзіта падумаў я: „Шакал пужае, хоча атрымаць хабар... жывёліна! Няхай пачакае!“

---

Частка першага ўрока звычайна прысвячалася „нраўственым правілам“—найсумнейшым разважанням, у форме пытанняў і адказаў, якія мы павінны былі ведаць напамяць.

— Гала, што з'яўляецца галоўнейшым абавязкам школьніка?—спытаўся настаўнік, містэр Пітон, „пітон“,—як мы яго празвалі.

Гала—першы вучань, сын махляра,—ускочыў з месца і бойка адтарабаніў:

— Падначаленне волі бога і караля.

— Добра. А чаго патрабуюць ад школьніка бог і кароль?

— Падначалення начальнікам, скромнасці, праўдзівасці, шчырасці ў занятках...

— Малайчына, ты заўсёды ведаеш,—адабраюча прамовіў „пітон“ і працягнуўся за пяром, каб паставіць адзнаку.

— Падкажы, калі ён спытаецца ў мяне,—шапнуў я суседу.

— Містэр Пітон, Біп просіць, каб яму падказалі,—узняўшы руку, сказаў Гала (ён сядзеў наперадзе мяне).

*) Жвачка, якая складаецца з сумесі негашонай вапны і арэкавага арэха, загорнутая ў ліст бетэля—перца.

Кроў адхлынула ад маіх шчок. На шчасце, „пітон“ не дачуў звернутых да яго слоў. Але ён заўважыў мой гэст, што красамоўна выказваў жаданне адлупцаваць нягодніка.

— Біп, што складае вышэйшую радасць школьніка?—спытаўся ён.

Я ліхаманкава запрацаваў памяццю.

— Пахвала... Пахвала начальніка.

— Далей! Які...

— Дзейнічае ад імя бога і караля,—нізка схіліўшыся да парты, падказаў сусед.

Я паўтарыў сказ. „Пітон“ нездаволена пажаваў губамі.

— Табе падказалі,—сказаў ён, стукаючы сагнутым пальцам па сталу.—Табе падказалі, Біп. Ты не ведаеш, што складае вышэйшую радасць школьніка. Адчуй-жа яго вышэйшае засмучэнне. Я стаўляю табе адзінку. Памятай, што я раблю гэта ад імя бога і караля.

Гала павярнуўся і паказаў мне язык. Гэта было занадта. Не памятаючы сябе ад злосці, я задаў яму нагою ў зад, Гала заплакаў—не столькі ад болю (удар прыйшоўся ў мяккую частку), колькі ад нечаканасці. „Пітон“ выпусціў пяро, а ўвесь клас са здзіўленнем пазіраў на мацаўшага зад Галу.

„Інцыдэнт“ скончыўся тым, што мяне на тыдзень адправілі дадому на смутак бацьку, які даражыў маімі школьнымі поспехамі, употай марачы даць мне, у будучым, сярэднюю тэхнічную адукацыю.

— Ты ведаеш, Гала данёс „пітону“, што ты назваў Бішану героем,—паведаміў прыяцель, сустрэўшыся са мной.

— А „пітон“ што?

— Сказаў, што пагаворыць з тваім бацькам, а цябе прагоніць са школы, калі ты будзеш „блытацца з разбойнікамі“.

— Як-жа я блытаюся? Бішану-ж у турме...

— Ну, ён так сказаў. Будзь асцярожны, Біп: у Галы багаты бацька, ён сябруе са жрацом і „каралай“. Ён можа ўсё зрабіць.

— У нас няма чаго ўзяць,—хмурна адказаў я.

— А хаціна, сад?

Я хацеў пярэчыць, што за нас—законы, ды словы застралі ў горле. Страшэннае душэўнае патрасенне, перажытае на плантацыі, і хвароба бацькі, да якога я быў дужа прывязаны, не прайшлі для мяне бясследна. У мяне нібы адкрыліся вочы і я ўбачыў жыццё без дзіцячых украс—поўным несправядлівасці, клопатаў, смутку і вечнага страху перад будучым. Я стаў часцей задумвацца над складанымі людскімі ўзаемаадносінамі, якія назіраў вакол сябе. На ўздзіў таварышам, я перастаў баяцца „гепарда“ і не кідаўся ад яго ў бок, як было раней, калі ён праходзіў каля мяне. Кожны раз, калі я сустракаўся з ім, ва мне ўздымалася пякучае пачуццё нянавісці,—новае, пакутна-хвалюючае пачуццё, што выклікала жаданне адпомсціць... За каго? За бацьку, за дзіця Бішану, за беднага звяр'яцелага Азісвара, за сябе, нарэшце—за ўсіх ажабрачаных беспатольных людзей, так ці інакш пакрыўджаных „гепардам“. Гэты рыжавалосы англічанін зрабіўся ўвасабленнем зла. Я прыдумваў планы помсты, адзін за другі больш фантастычныя: скінуць

„гепарда“ з аэраплана (калі я зраблюся лётчыкам) альбо ператварыць яго з дапамогаю чараўнічага каменя ў дрэва.

Каб развеяць дрэнны настрой, выкліканы размовай з прыяцелем, я пайшоў у Моунт-Лавінія,—прыгожае мястэчка на беразе мора, з атэлем на скале, шырокім пляжам і чоўнамі для катання.

Нягледзячы на ранні час, турыстаў было шмат—і на беразе, і на крытай верандзе, на якой мільгалі фігуры афіцыянтаў, што ледзьве паспявалі разносіць ахаладжальныя напіткі. Раз-по-разу з ляска выбягалі сыходзіўшыя потам рыкшы; яны высаджвалі пасажыраў і адыходзілі са сваімі каляскамі ў празрысты цень дрэваў. Мора іскрылася і шумела, паветра, пясок і гарнітуры турыстаў асляпляюча блішчэлі,—усё здавалася святочна ажыўленым, нават будынак атэля, што тануў у зеляніве пальмаў.

— Ты што прадаеш?—прабягаючы каля мяне, спытаўся таварыш—Азат.

— Нічога. А ты?

Азат спыніўся і беражліва адчыніў сігарную скрынку. Я ўбачыў некалькі пярэстых ракушак і малюсенькае—з чарку—гняздо медасоса з акуратна пакладзенымі яечкамі.

— Як ты думаеш, колькі ўзяць за яго?—спытаўся Азат.

— Цэнтаў дваццаць...

— Што ты! Гінду ўчора прадаў гняздо салагамы за рупію *). Разумееш ты, за рупію! Без гандлю... А гняздо медасоса цяжэй адшукаць.

Азат зачыніў скрынку і пабег на пляж.

Гандлем займалася шмат хлапчукоў. Яны шныпарылі сярод турыстаў і назолліва прапаноўвалі свой „тавар“: морскіх звёздаў, кавалкі каралаў, яскравых жукоў-бронзавак, эфектна прэпарырваных мятлікаў—арнітопцэраў і парындаў, скарынкі какосавых арэхаў, паплаўкі акулаў,—усё, што куплялі „на ўспамін“ гулёвыя, шпурляўшыя грашыма людзі. Гандаль прывучваў падманьваць і нічога не рабіць, а лёгка здабытыя грошы часцей за ўсё траціліся на азартныя гульні ці, што яшчэ горш,—на опій, які прадавалі кітайцы.

Я сеў на валун і прыняўся цікавацца публікай. Мяне здзіўляла, нашто джэнтльмены і лэдзі ўсё фатаграфуюць,—мора, дрэвы, каменні, чаўны, нават адзін другога. Пакуль я сядзеў на валуне, мяне сфатаграфавалі разы з тры, прычым казалі:—„хлопчык, устань!“ ці—„хлопчык, сядзь!“—і прымушалі прымаць самыя адмысловыя позы. Вядома, я мог на гэтым зарабіць, ды бацька мне катэгарычна забараніў браць ад „белых“ грошы.

Раптам я пачуў роспачны крык. Пэўна Азат занадта настойліва прапаноўваў гняздо медасоса, таму што раз'юшаны джэнтльмен сцёбаў яго хлыстом. Азат выкручваўся, як вуж, і, нарэшце, кінуўся ўцякаць, выпусціўшы на пясок скрынку. Мне стала шкада яго: я ведаў, што ён усе грошы аддаваў хворай маці, у якой, апрача яго, было трое дзяцей.

Да валуноў падыйшла лэдзі з хлопчыкам маіх год. Юны па-

*) 1 рупія — 65 кап. па даваеннаму курсу.

дарожац доўга разглядаў мяне, жмурачы прыгожыя, блакітныя вочы.

— Мама,—прамовіў ён,—ці няпраўда, гэты хлапчанёнак падобны да малпы? Такі-ж карычневы, худы,—толькі хваста няма.

Лэдзі весела засмяялася.

— Ён больш нагадвае навознага жука,—сказала яна.—Паглядзі на яго вочы—чорныя, нібы вугалі...

— Ён умее гаварыць?—спытаўся хлапчук.

— Па-свойму, так.

— Па-дзікунску? Цікава было-б яго паслухаць... А як ты думаеш, ёсць у яго душа?

— Ёсць, вядома, але... Прасцейшая за нашу.

— Значыць, калі ён памрэ, ён зможа трапіць у рай?

— Якая лухта! У рай патрапляюць толькі душы хрысціян, а ён—язычнік.

Хлапчук задуменна паглядзеў на мяне.

— Нашто бог стварыў чорнаскурых?—спытаўся ён, памаўчаўшы.—Жывёлы—не жывёлы, людзі—не людзі...

— Яны прыносяць нам карысць,—адказала лэдзі:—апрацоўваюць для нас рыс, кофе, здабываюць са дна мора дыяменты, а з гор—золата, выконваюць самую чорную работу, плоцяць нам падаці... Без чорнаскурых мы не мелі-б шмат якіх патрэбных рэчаў.

— А калі яны не захочуць для нас працаваць?

— Чорнаскурыя вельмі паважаюць і... баяцца белых. Яны лічаць нас за вышэйшыя істоты, якім трэба падначальвацца. Ну, а ў выпадку чаго... мы дастаткова сільныя, каб уціхамірыць іх.

Хлопчык змерыў мяне пагардным поглядам і адвярнуўся.

Гэтая гутарка ўканец расстроіла мяне. Я ўзабраўся на бераг і пайшоў дадому, гатовы разраўціся з самага пустога повада.

## V

Была нядзеля. Па шашы з Каломба з рыпеннем рушылі цугам павозкі, запрэжаныя ў зебу *) ці ў буйвалаў. Побач—у адзіноце ці ў групах—ішлі сяляне з навакольных паселішчаў, а ў павозках, пад чаротавымі паветкамі, сядзелі іх жонкі і дзеці, прыбраныя з выпадку паездкі ў горад. Зрэдку праходзілі натоўпы пілігрымаў,—знясіленых, запыленых людзей з тыквінамі **) ля паясоў; яны трымалі шлях з Індыі да гары Саманале ***), пакланіцца следу Сівы, парасіць твар свяшчэннай вадой і ў тры разы даражэй купіць у жрацоў амулеты і каровіны кал,—універсальны сродак ад цялесных і душэўных нягод.

Сонца спускалася за лясок і цені пальмаў перапаўзлі шашу, набліжаліся да хаціны. Струмені гарачых праменняў прарываліся скрозь лістоту—чырвонаватую ад асеўшага пылу ****)—іскрыліся

*) Мясцовая рагатая жывёла з гарбом на загрыўку.
**) Для вады.
***) Саманале ці Адамаў Пік—адна з самых высокіх цэйлонскіх гор.
****) Глеба на Цэйлоне—чырвоназем.

ў вейках і прымушалі ўспыхваць смарагдам апярэнне папугайчыкаў, статкамі чыкільгаўшых на шашы пад нагамі ў людзей. У сінім, асляпляюча блішчэўшым небе з крыкам насіліся чайкі і рэялі коршыкі з белымі, роўна-б фарфоравымі галовамі.

Мы сядзелі каля парога. Маці сцігавала кофту, бацька выстругваў нажом цацкавы човен (ён умеў рабіць цацкі і пры выпадку прадаваў іх па некалькі цэнтаў за штуку), а я наглядаў за спрытнымі рухамі бацькавых рук і забаўляўся з мунго.

— Кажуць, Бішану засудзілі на чатыры гады ў турму,—перарвала маўчанне маці.

Бацька ўзняў галаву.

— Вось як! Значыць, даказалі, што арэх кінуў ён?

— Не,—адказаў я (пра засуджэнне індуса я даведаўся яшчэ ўранні).—Бішану пакаралі за тое, што ён пагражаў адпомсціць „гепарду“,—больш ні за што. На яго данёс кульгавы наглядчык; кажуць, ён атрымаў узнагароду ў пяцьдзесят рупій і срэбраны гадзіннік.

— Сабака,—прамармытаў бацька.

— Шкада: Бішану быў адзіны чалавек, які мог правучыць „гепарда“,—перакусваючы зубамі нітку, дала заўвагу маці.

Бацька з прыкрасцю паціснуў плячыма.

— Помста—бязглуздая штука,—сказаў ён,—хіба стане лепш, калі замест „гепарда“ будзе „тыгра“ ці „леапард“? Усе ўпраўляючыя аднолькавыя; самыя лепшыя з іх горш за звяроў.

— Значыць, трэба цярпець беззаконнасці?—рэзка спыталася маці,—„Гепард“ цкуе дзяцей сабакамі, бясчэсціць дзяўчат, збівае людзей да страты прытомнасці, разбурае штрафамі, аблічвае... Па-твойму, трэба цярпець гэта? Можа быць, яшчэ кланяцца ды дзякаваць?

— Я не кажу гэтага. Але трэба змагацца іначай... і не ў адзіночку.

— Не ведаю ўжо, як. Але я разумею Бішану. Я таксама адпомсціла-б за дзіця. Ганьба і сорам! Вас сотні мужчын, а вы баязліва падстаўляеце спіну... як бараны ці казлы. Памаўчы хвіліну! Ты скажаш, я ведаю: сіла на баку „гепарда“. Няпраўда, не на яго! Якія ні дрэнныя законы, яны не дазваляюць гвалтоўнічаць і падманьваць. Ёсць суддзі, ёсць паліцыя, улада, значыць, трэба скардзіцца, трэба крычаць аб сваіх правах, патрабаваць правасуддзя...

— Барацьба цяжэй, чым табе здаецца,—мякка запярэчыў бацька. Вядома, ёсць законы і суддзі. Але паспрабуй паскардзіцца,— у міг застанешся без працы.

— А чаму?—запаляюча крыкнула маці.—Вы самі прывучылі „гепарда“ да беспакаранасці. Ён ведае, што вы баіцеся яго, і плюе на вас. Няхай Бішану не ў правах, але ён...

— Хто гэта ідзе?—перабіў бацька, зірнуўшы на шашу.

З какосавага ляска выйшла група „белых“. Паперадзе ішлі дзве лэдзі, а за імі „гепард“ і незнаёмы паджылы джэнтльмен з фатаграфічным апаратам цераз плячо. Перайшлі шашу і, о дзіва!— накіраваліся проста да нас.

Бацька таропка, наколькі дазваляла хворая нага, узняўся з месца, а маці нервовым рухам схапіла кофту і пайшла ў хаціну.

— Вось тыповае сінгалезскае жыллё,—сказаў „гепард", спыніўшыся перад намі.—Дзіравыя, абмазаныя глінай сцены, чаротавы дах... Вокнаў няма; таму ў хаціне мала не цёмна.

— Колькі зеляніны!—усклікнула адна з лэдзі—чырвонашчокая старая.—Пальмы, бананы, архідэі нават на даху... Тут павінна панаваць бязвоблачнае шчасце, ці няпраўда, Мэры?

— Гэтыя людзі—сінгалезы?—спыталася другая лэдзі,—строгая з выгляду, у цмяным пенснэ.—Які прыгожы хлопчык! Каго ён трымае на руках?

— Мунго, славутага знішчальніка змей.

Лэдзі і джэнтльмены абкружылі мяне і сталі разглядаць мунго, які без усякага спалоху пазіраў на іх круглымі, як гузікі, вачыма.

— Гэта той самы звярок, якога апаэтызаваў Кіплінг,—з усмешкай заўважыў паджылы джэнтльмен.—Ці нельга купіць яго?—звярнуўся ён да „гепарда".

— Ба! Чорнамазы парасёнак аддасць яго задарма.

— Я не дам,—з адчайнай мужнасцю прамовіў я, прыціскаючы да сябе мунго.

— О-о! Ён гаворыць па-англійску!

„Гепард" працягнуў да мунго руку, але я адскочыў у бок.

— Не хоча—не трэба,—добрадушна сказаў паджылы джэнтльмен і стаў распытвацца ў „гепарда" пра нашае жыццё.

— На гэтым добрашчасным востраве праца ўзнагароджваецца ў сто разоў,—сказаў „гепард", грунтоўна расказаўшы аб рысавых плантацыях, садах з карычных, ванільных, кардымонавых, кафейных і іншых—не менш каштоўных—дрэваў, аб саматужных заводах лімоннага масла, стадах коз і іншых рэчах, аб якіх мы, беззямельныя сяляне, маглі толькі марыць.—Так, сэр, у сто разоў... калі не больш. Але сінгалезы лянівыя і бесклапотныя, як птушкі нябёсныя; яны ўважаюць залезці ў даўгі і нават галадаць, чым працаваць. Балбатня на парозе хаціны, паездкі на базар, папойкі, сутяжніцтва—іх улюбёныя заняткі. Уявіце сабе, вось гэты самы хлус („гепард" пхнуў тросткай у грудзі бацьку) знарок зваліўся з пальмы, каб мець падставу месяц—паўтары праваляцца на цыноўцы.

— Я чытала, што сінгалезы пагалоўна граматныя і што яны стварылі вялікую мастацкую літаратуру,—сказала лэдзі ў пенснэ.

„Гепард" зрабіў пагардлівую грымасу.

— Школ у іх багата, так. Што датычыць культуры... Паверце, мілэдзі, самы адукаваны туземец мала чым розніцца ад прымата.

— Вы несправядлівы, сэр: сярод сінгалезаў (як і сярод індусаў) ёсць выдатныя ўрачы, пісьменнікі, інжынеры, нават вучоныя,—далікатна, але цвёрда запярэчыў малады джэнтльмен.

— І ўсё-ж яны застаюцца людзьмі ніжэйшай расы,—спадзяюся, вы не сумняваецеся ў гэтым, сэр,—адказаў „гепард", пабагравеўшы да каўнерыка,—ні адзін паважаючы сябе еўрапеец (я не кажу пра комуністаў) не прынізіцца да ўзаемадачынення з імі.

Паджылы джэнтльмен закурыў сігару.

— Я хацеў-бы агледзець пладовы сад,—сказаў ён, відаць, не жадаючы прадоўжваць непрыемную гутарку.

Бацька ўзяў мыліцу і павёў нязваных гасцей углыб двара. Я ішоў адзаду, пагладжваючы мунго і з-пад ілба гледзячы на шырокую спіну „гепарда". Мяне душыла злосць. Нягоднік! Як ён смеў так пагардліва гаварыць аб нас!

— Гэта—„папайя",—сказаў „гепард", калі мы ўвайшлі ў сад.— Плады—падобныя на дыню, прыгодныя на дэсерт. Побач „гуайява"; яе грушападобныя плады, ахаладжаныя на лёдзе, нагадваюць, па смаку сумесь яблыка, вінаграду і апельсіна. Вось там, у куце— „дурыян" наперамешку з „мангустанамі"—лепшымі дарамі тропікаў.

— Як тут прахладна,—любата!—усклікнула таўстушка.

— Цудоўна!—падхапіла лэдзі ў пенснэ.

Перад хлебным дрэвам паджылы джэнтльмен затрымаўся:

— Салідныя плады!—прамовіў ён, кратаючы іх палкай.—Нездарма іх прырода прымацавала не да галін, а да ствала. Кажуць, яны добрыя ў печаным выглядзе.

— І ў „керры" *), падсмажаныя на какосавым масле,—дадаў „гепард".

Ён хацеў абыйсці дрэва, але раптам спыніўся, нібы ўкапаны: з травы, за два крокі ад яго, высока ўзняла плямістае тулава цікпалонга **).

— Змяя!—крыкнуў паджылы джэнтльмен.

Лэдзі віскнулі і стрымгалоў кінуліся да каліткі. За імі, размахваючы палкай, пабег паджылы джэнтльмен.

— Стойце, сэр, нерухома!—спужана закрычаў бацька.—Стойце нерухома! Пусці хутчэй мунго!—звярнуўся ён да мяне.

Мунго ўбачыў змяю і рвануўся з маіх рук. Я схапіў яго і так моцна прыціснуў да грудзей, што ён запішчэў.

— Пусці мунго! Пусці мунго!—крычаў бацька, у якога ад жаху пашарэў твар.

Я ўсё мацней сціскаў драпаўшагася звярка. Сэрца бурна калацілася ў маіх грудзях; я задыхаўся і дрыжэў, як у ліхаманцы, з галавы да ног.

— Дапамажыце!—прахрыпеў „гепард".

— Пусці мунго!—не сваім голасам крыкнуў бацька і, кульгаючы, на мыліцы паскакаў да мяне.

Я не вытрымаў і разняў рукі... Позна! Над травой мільганула цмяная маланка. Дзікі крык, падобны на рык звера, прымусіў мяне пахаладзець. „Гепард" схапіў змяю, што абвілася вакол нагі, але адразу выпусціў яе, адскочыўся ў бок і, вісклíва рыкаючы, пабег з саду...

---

Увечары „гепард" памёр. Бацька баяўся, што нас прыцягнуць да адказнасці, але паказанні паджылага джэнтльмена развеялі яго

*) Соус з прянасцямі.
**) Вівера руселі,—адна з атрутнейшых змей.

страх: усе казалі пра няшчасны выпадак і пра тоё, што мунго на хвілінку спазніўся—пэўна таму, што не адразу заўважыў змяю...

Прайшло месяцаў пяць. Новы ўпраўляючы плантацыі—сівабароды метыс з Галя—разумны і хітры—моцна прыбраў да рук рабочых. Ён дзейнічаў спакваля, тонкімі прыёмамі іезуіта, і хоць не біўся і не крычаў, яго баяліся не менш, чым „гепарда". Ніхто не мог упікнуць яго ў парушэнні законаў, пра „святасць" якіх ён любіў гаварыць. Але тым лягчэй было пераканацца, што законы „саібаў" (гаспадароў) не абараняюць інтарэсаў рабочых і што імі можна прыкрыць хоць якое самавольства.

Бацьку прызначылі за вартаўніка пры складзе. Варочаючыся дадому, ён з прыкрасцю казаў пра „парадкі", заведзеныя новым упраўляючым.

— Цяпер ты бачыш, дружа,—сказаў ён мне аднойчы:—можна забіць дзесяць упраўляючых, але адзінаццаты будзе не лепшым за ранейшыя. Так, так! Каб ачысціць поле ад пустазелля, трэба выкарчаваць яго карэнні. А яны сядзяць глыбока ў зямлі...

І, памаўчаўшы хвіліну, дадаў:

— А ўсё-ткі мы пераможам, дружа... рана ці позна. Перамаглі-ж працоўныя ў Расіі!

*Пераклад з рускай мовы Р. Л—КОВА.*

*А. Бурдзель*

# У ДАРОЗЕ

„Месяц—важкая куля,
Пудоў сто медзі ў ёй,
Груз для цэлага каравана,
А не падае вось,
Плыве над зямлёй,
Як пушынка ад губ каханай“.

Павады адпусціўшы
Мой уртак спяваў,
Коні чутка лавілі
Пах Аральскага мора,
Незнаёмая сохла
На пяску трава
І чакала агня
Ад стралы метэора.

„Месяц—важкая куля,
Пудоў сто медзі ў ёй,
Груз для цэлага каравана“...
Зажурыўся таварыш
Неадлучны мой
У сыпучых пясках
Па сваёй каханай.

— Дзе-ж яна? Колькі будзе
Напрасцяк язды?
— Да Ташкента далёка,
Не злічыць кілометры...
Разап‘еццца па лыжцы
Наш мяшок вады,
Капыты коні стопчуць,
Вочы высушаць ветры.

— Ад такога прастору
Можна соль слязы,
Як вялікую роспач
Ураніць даляглядам,
Можна марыць бязмежна
Пра гушчар лазы,
Буйналістай лазы
З кісткамі вінаграда.

Тут праходзіў пануры
Караван гадоў,
Двойчы згорбіўшы спіну
Пад здабычаю ханаў,
Сухавей уздымаўся
І працяг слядоў
Замятаў паступова
За хвастом каравана.

Ні дарог тых, ні сцежак,
Толькі жоўты дым,
Ды гарачы як вар
Лівень сонечны сіні,
Крылле вянуць у птушак
Што, аднак, сюды
Залятаюць знянацку
У пекла мёртвай пустыні.

Сокаў сонца багата
У нашых краях
І парасткі праб'юцца
Праз барханныя лапы,
Як здалёку нахлыне
На пяскі Дар'я,
Як знітуем арыкі
Мы, абшараў мірабы.

Жыватворчаю плынню
Пацячэ вада,
Зеляніна паўецца
Доўгакосая хмелем.
Не сумуй-жа, таварыш,
У маладых садах
Тут з каханай спраўляць
Будзеш ты наваселле.

Дзе прайшлі, як шакалы,
Пачародна тлець
Ханы ў мёртвую муць,
У нябыт даляглядаў,
Славай нашага часу
Узрастуць, каб шумець
Буйналістыя лозы
З кісткамі вінаграда.

Тлумачэнне слоў:

Уртак—таварыш.
Мірабы—размеркавацелі паліўной вады.

*Іван Грамовіч*

# КАШМІРОВАЯ ХУСТКА

## I

Бадай што ў поўдні, а можа крыху пазней, на трэці дзень вярнуўся з гораду Лявон Буртын. Са станцыі яго прывезлі не аднаго; з ім прыехаў высокі чарнявы чалавек у сінім плашчы. Усе бачылі, як ідучы вуліцай Буртын паказваў гэтаму невядомаму зруб пабудовы. Яны прыпыніліся і каля новай лазні над рэчкай; прыезжы мусіць цікавіўся гэтым, а можа была так якая патрэба.

Буртын, як сваяка, завёў яго да сябе ў хату, каб даць перакусіць і адпачыць хвілінку, бо як не кажы, шлях ад горада не малы—здарожышся.

Падыходзіў вечар і хутка прабляялі на сяле авечкі, бягучы з поля. Неўзабаве пачалі варочацца з працы калгаснікі. Некаторыя з іх ішлі і прыпыняліся ля буртынавай хаты. Праз некаторы час тут сабраўся натоўп, і ў хаце таксама было поўна.

Ля стала ўсеўся дасціпны Адам. На стале стаяў раскрыты патэфон. Буртын часта мяняў пласцінкі. З-за таго, што Адам прыглух на старасць, то яму паставілі табурэт каля самага стала.

Часамі музыка прыпынялася і тады дзед, неўтрываўшы, пытаў старшыню:

— То сколькі ён варт, гэты твой паціхон?

— Нікольні,—усміхаючыся круціў ручку скрынкі Буртын.

— Як гэта?

— Так далі. Прэмія.

— А-а! Хвалілі, значыцца, нас?

— Каб ужо хваліць вельмі, дык не хвалілі, але і ганіць не ганілі.

— Ну, то добра!

— Наказвалі, каб і надалей у нас усё гэтак складна ішло, як цяпер.

— О-то-та-ж, дзяціна!—падхапіў люльку з рота Адам і падсунуў капшук з махорай.—Куры! Будзем старацца! А пастараемся, дык і мець будзем, і людзі пахваляць...

Тут яго хрыпаты голас заглушыла музыка патэфона. З чорнай накрыўкі выляцелі словы лявоніхі і намякнулі дзеду вясёлыя хвіліны. Галасістая музыка палілася па хаце, расплываючыся ўсмешкамі па людскіх тварах.

— Эйш!—кінуў Адам конюху, валасатая галава якога паказалася ў акне.

— Старшыня прыехаў?

— Здароў!—азірнуўся Буртын.
— Можна цябе, Буртын, на пару хвілін?
— Хоць і на дзесяць. А што?
— Эт! Справа невялікая.
Буртын вышаў на ганак.
— Ну, якая справа ў цябе?
Конюх хвалюючыся расказаў пра здарэнне.
— Хадзем!—закончыў ён.
Яны са двара накіраваліся ў канюшню.
— Дык вы яго на балоце дагналі?
— Але!—горача гаварыў ідучы конюх,—ён змарыўся, паставіў у алешніку мех, стаў і стаіць. Тут я з Андрэем і набеглі. Каб у мяху дзіркі не было, дык можа і не нашлі-б, а то авёс церушыўся дарогай. На кладцы рассыпана было, з варот канюшні сцежка намечана, так што мы яго па слядах насцігнулі адразу.
— Бачыш ты?—няўпэўнена сказаў Буртын, і прыбавіў кроку.
А справа была вось як:

* *
*

Цыганскі табар спыніўся на краю балота. Выбранае месца было сухое і дазваляла выгадна распасцерці шатры. Недалёка працякала рэчка, лявей, у бок, віднелася поле і лес. Табар стаяў тут доўга.

Мужчыны днём разыходзіліся па ваколіцы, а к вечару варочаліся начаваць. Нешта аднойчы мужчына сярэдніх гадоў, у чырвоных штанах, вымазаных коламаззю, у чорнай замусоленай ватоўцы вярнуўся позна і жонцы сказаў, што астаўся працаваць у калгаснай рымарні. Цыганка ўклала спаць дзяцей і даведалася больш падрабязна. Мужчына ноччу паказаў рукой кірунак на той калгас, дзе ён будзе працаваць, і гаварыў, што хутка кватэру дадуць і тады яны назаўсёды перабяруцца ў сяло. Даводзілася чакаць прыезду старшыні з горада.

З гэтага вечару цыган хадзіў працаваць у рымарню. Ён мог добра змайстраваць вупраж, таму яго прыстроілі працаваць у майстэрні пры канюшні. Удзень ён быў у калгасе, а вечарам ішоў у табар, хоць кватэра была яму вызначана, але да прыезду Буртына аставалася так.

Цыган працаваў ужо трэці дзень. Да яго ў абедзены перапынак заходзілі калгаснікі, знаёміліся, жартавалі, хвалілі працу. У гэты трэці дзень пасля абеду і амаль не да вечара прасядзеў у майстэрні нейкі чалавек. Цыган яго не ведаў хто ён, але гутарку з ім вёў. Чалавек быў апрануты ў суконную жакетку, на каўнеры якой густа сядзелі ячменныя валоссі. У яго па фасону тырчэлі ў бакі пад носам закручаныя вусы і ў валасах на галаве дзе не дзе пракідалася сівізна. Чалавек гаварыў неахвотна, часта курыў, пляваў пад ногі і калі надвечар пашоў з майстэрні, цыган не мог дадумацца, чаму чалавек так доўга сядзеў. Цыган запытаў аб гэтым у свайго суседа шаўца і той адказаў:
— Ён не калгаснік. Ён не працуе.

Чалавек, што бавіўся ў майстэрні, яшчэ азірнуўшыся, зайшоў у канюшню. Яго сустрэў конюх і назваў „дзядзькам“, пытаючы, чаго ён хоча. Чалавек закінуў жарт у гутарцы (конюх рассмяяўся), а тады сказаў, што прывыкае к умовам, што сам на днях пойдзе ў калгас на працу. Пасля конюх недзе адхінуўся, яму праца была— скаціну напаіць, а чалавек апынуўся адзін, яго ніхто не бачыў. Ён яшчэ раз азірнуўся, закінуў на плечы мех з аўсом і пасігаў у кусты, якія былі не так далёка ад канюшні.

Калі ён увайшоў у зараснікі, то адчуў як востра яму стала ныць плячо. Мех з аўсом быў цяжкі. Чалавек паставіў яго на зямлю. У гэты час прыгналі з вадапою коней і ў канюшні быў чуцен крык, чалавеку здалося, што гэта крычаць на злодзея. Ён спалохаўся і адступіўся ад меха. У момант чалавек абмеркаваў становішча, ён хацеў мех схаваць у кустах і ноччу прыйсці забраць яго, але блізкія крокі некага перашкодзілі яму, ён рынуўся з месца і знік у гушчары.

На балоце каля меха з аўсом злавілі цыгана. Гэта ён ішоў і натрапіў на пакражу. Каб цыган здагадаўся, у чым справа, то мог-бы яшчэ пачуць, як уцякаў чалавек. Але ён не прыслухоўваўся, памацаў авёс, заўважыў дзірку ў меху і, стоячы на месцы, думаў, што тут рабіць. Тут набеглі конюхі і навалілся, што ён краў збожжа.

Апраўданні яго былі бездапаможныя. Ніхто не бачыў, як ён сюды прышоў і пасведчыць у яго невінаватасці ніхто не мог.

Цыган крычаў, што ён мех тут знайшоў.

— Брэшаш!—крычаў конюх,—ніхто яго сюды не прыносіў апрача цябе. Хадзем у сяло!

Цыган быў дужы мужчына, але гэта нічога не дапамагло, усё-ж яго прывялі да канюшні.

* * *

— Што-ж гэта ты?—сказаў Буртын,—папрасіў-бы, а не краў. Язык адняло, ці што? Гэтак не можна.

Цыган калаціўся і ледзве не плакаў. Збіваючыся на сваю мову, ён даводзіў, што не вінаваты, што авёс знайшоў у кустах. Тут заступіўся шавец, што ў майстэрні працаваў з ім у гэтыя дні, і бура віны крыху прыціхла.

— Ну, што-ж, разбярэмся пасля!—сказаў Буртын, заўтра прыходзь на працу. Я таксама не спадзяваўся, што ты так можаш зрабіць.

Цыган пашоў. Па меры таго, як вырастала адлегласць між ім і гуртам калгаснікаў, так вырастала злосць у яго, спачатку на сябе, а тады на тых, хто цягнуў яго да канюшні. Каб яны паверылі і не прывялі яго ў сяло, можа нічога і не было-б.

Такія меркаванні падштурхнулі яго аглянуцца назад. Ля канюшні ўсе разыйшліся, толькі стаяў конюх і глядзеў яму ўслед. Цыган не стрымаў злосці і патрос на яго кулаком. Конюх гэта заўважыў.

К вечару хмурылася—збіралася на дождж. Хмара паднялася над палессем, замуціла заходзячае сонца, свет адразу спахмурнеў. З лагчын і прырэчча злятаў на сяло змрок.

Буртын паглядзеў на счарнелы край неба, гаспадарліва паслухаў цішыню густога паветра і накіраваўся дахаты сцежкай нацянькі. Перасекшы клін лужка, на скрыжаванні паўмежжа, у вішнях ён сустрэў Ніну. Яна ішла ад ракі на свой гарод і несла жмут аеру (мабыць для пасцілу, хлеб пячы). Не чакалі спаткання ні ён, ні яна.

— Калі ты прыехаў?—узрадавалася яна.

— Нядаўна.

Яна пужліва аглянулася навокал і яшчэ з большай баязлівасцю праказала:

— Тата-ж падаў заяву.

— Ведаю. Будзе праўленне, зараз разгледзім.

— Не прымуць?

Буртыну не падабаліся ўчынкі бацькі Ніны.

— А чаму ён не падаваў тады, як жарабец быў?

Яна спахмурнела.

— Тата таксама баіцца, каб хоць кепска не было.

— А? Цяпер ён хоча ў калгас?—упікнуў Буртын.

— Хоча!—заплакала яна.

Лявону стала шкада. Помсціць ёй за бацьку ён не мерыўся. Чым яна вінавата? Узяўшы за крамяны плячук яе ён пацешыў:

— Чаму не пытаеш, які гасцінец прывёз?

Яна са слязмі ўсміхнулася. Лявон зрабіўся лагодным і мяккім. Ён выняў з-за пазухі загорнуты ў паперу скрутак і працягнуў Ніне.

— Што гэта?

Ён не дазволіў разверчваць. Ухапіўшы яе за рукі прыгарнуў да сябе. Пасля пусціў і рыхтаваўся адыходзіць, як яна зноў напомніла.

— Дык што з татам...

Буртын адказаў упэўнена:

— Неяк будзе! Гэта мая бяда.

— Чаму бяда?

— Там чалавек чужы слухаць будзе. Сама ведаеш. Вот і бяда!

— А хто такі? Адкуль?

— Прыехаў разам з горада, у рэдакцыі працуе. А сам родам з мястэчка, Арона, што ездзіў па вёсках, сын. Выбіўся высока, разумны ён.

— То што рабіць?

— Нічога, заспакойся! Я цяпер пайду на праўленне, а пасля зайду раскажу.

— Часу не будзе!—знарок сказала яна, каб ён паабяцаў.

— На момант адлучуся.

— Глядзі!

— Прыду, сапраўды!

— Я чакаць буду, Лёня...

Ен махнуў галавой з воддалі. Яна, астаўшыся адна, развярцела падарунак. У паперы укручана была квяцістая кашміровая хустка.

* * *

Той чалавек, што кінуў на балоце мех з аўсом і вышаў з другога канца алешніка к сялу, прышоў дадому і распрануўся.

Пачалі вячэраць. Стала выразней чуваць, як пагрымлівала хмара. Яна насоўвалася з-за ракі, ахінаючы зямлю густым змрокам. У хаце зусім сцямнела.

Запалілі агонь. За сталом над міскаю маці сама ўзняла такую гутарку:

— А што? Можа бачыла?

— Бачыла.

— Як ён казаў?

— Праўленне, казаў, будзе.

— А хто гэта з ім прыехаў?

— З газеты нейкі. Відаць, вялікі начальнік, бо Лявон сам баіцца яго. Разбіраць будзе ён.

— Будзе?

— Ага! Ён родам з мястэчка, сын Аронаў, але ў горадзе служыць.

— Арона кажамякі сын?—неданёсшы да роту лыжкі, вылупіла ад нечаканасці вочы маці,—чуеш?

Свірыноўскі моўчкі еў, нібы сказанае не кранала яго. Так ён рабіў заўсёды. Не любіў малоць языком, як другія. „Будзь паслухачы, а не апавядаючы“—навучаў ён часамі сыноў. „Маўчанка не пушыць, а ліха тушыць“,—казаў ён бывала. Не дзівіўся ніхто, калі прыдзе Свірыноўскі ў маладзіковую нядзельку гуляць і, выкурыўшы дзьве люлькі самаросліну, завернецца, стукне за сабой дзвярмі, не сказаўшы ні дзень-добры, ні дабранач. Яго маўклівая натура была ўсім вядома. Размаўляць з ім—адно гора. Ты ў яго пытайся разоў дзесяць, а ён, як вады ў рот набраў, як аглух. Аднойчы ў касавіцу прыбег да яго Амельян канцавы. Свірыноўскі сама абедаў. „Дзядзечка, а ці няма ў вас вяроўчыны якой? Дайце на хвілінку, конь у канаву ўваліўся, выцягнуць няма чым. Як мага хутчэй! Хоць пастронак які пазычце!“

Свірыноўскі адрэзаў лусту хлеба, саскроб з нажа захлебліва і крошкі ўкінуў у рот, грызянуў скарынку і зажаваў, як карова жваку. „Я прынясу зараз,—прасіў Амельян,—тут недалёка на канавах, тарфяных“. Свірыноўскі слухаў і вудзіў лыжкай у халадніку з цыбуляй. На дне аставалася, дык ён узяўшы аберуч міску задраў галаву як гусак і выпіў. Пасля перахрысціўся, пагладзіў жывот, уцёр вусы і пасунуўся на край стала. Нагнуўшыся пад лаву, разгарнуў капылы, і дастаў скрутак вузлаватых лейцаў. „На!—шпурнуў у запэцканыя ў гразь рукі Амельяна.—Пад жывот закладай канцом, дзе мягчэй. За нагу пятлю не завязвай, парваць лейцы можна. Яны і так не моцныя!“ Амельян, як утрапёны выскачыў на вуліцу. Але было позна памагаць. Кульгавага каня мыла жонка каля ракі. Амельян радасны вярнуўся к Свірыноўскаму: „Пакуль я справіўся, дык і выцягнулі,—аддаваў ён вяроўчыну,—не трэба ўжо! Дзякую вам!“ Як кажуць, чужая болька нікому не баліць і свая кашуля бліжэй да цела, так што Свірыноўскага не патурба-

вала вельмі тое, калі конь тапіўся, і не абрадавала, што яго выратавалі. А Амельяну не так то лёгка абышло ўсё гэта. „У такога чалавека вады напіцца не дастанеш!"—казаў Змітрок, якому Свірыноўскі не даў атавы скасіць. На Пацяробах, на дрыгве, латачку атавы пашкадаваў. Восень позная была, ужо замаразкі раніцамі браліся, усёроўна-ж яна дарма прападала. Папрасіў, бо карове не было чаго на зіму. Без платы, і ні блізка. А дзе там плата будзе ў Змітрака? Каб меў, не прасіў-бы. От сказаў тады Свірыноўскі, і слова—свята. Без магарычу хоць сам не гам, але і другому не дам. Так і накрыў снег атаву на Пацяробах.

... — Бацька, ты чуў?—аблізала лыжку Свірыновічыха,—хіба ў кажамякі сыны былі?

Прыпомніўшы хваравітага яўрэя, у закарэлым фартуху на грудзях, падлетка яго, што пароўся ў бочках з квасам для авечых скур, Свірыноўскі палажыў лыжку—яда ў рот не палезла.

— Угу!—калупаючы рыжым ад курэння ногцем у такіх-жа рыжых зубах, прагугнявіў ён жонцы.

На двары нізка над хатай разлёгся гром, перапалоханая Свірыновічыха перахрысцілася. Гэты гул адгукнуўся нейкай трывогай і на сэрцы яго. „Няхай не прымаюць,—узлакаціўшыся на стол, думаў ён,—важнасць вялікая! Здохну сам, але свайго дабра не аддам! Прадаў і добра зрабіў. Гэта маё, а не ваша. Падавіцеся малатарняй, калі даю. Даю! Крышыце, ламіце маю бацькаўшчыну! Чаго яшчэ хочаце?"

— Слухай!—ласкава кінула мацi.—Схадзі перапрасі, пагавары. Можа лепш будзе. Можа і прымуць.

— Не дуры галавы!—крыкнуў ён і воўчым позіркам правёў яе да печы.

— А, божачка, а міленькі,—бядавала Свірыновічыха,—от і гавары з ім. Ці-ж я свайму ліхадзей? Бацюхна! Вунь на засценках Юрэвічаў павысылалі. Вот, як заўтра прыедуць па цябе, тады пагрызаешся! Вой! Вой!

Каб адчапіцца ад доўгай бабскай малітвы, Свірыноўскі ўстаў і вышаў. Ён быў вялікі, цыбаты і крывы, ляўшак! Нават левай рукой еў, а калі хадзіў, дык адно плячо насіў ніжэй, правая рука матлялася, як маятнік у гадзінніку. На ганку, вышаўшы, ён кашлянуў і зашпіліў гузікі сваёй суконнай жакеткі.

Ноч была суровая, падобная да настрою Свірыноўскага, прамільгне за сялом маланка, і тады трымцела пры святле начная сінь, а як патухала маланка, грымоты калацілі зямлю нутранымі выбухамі. Яму здалося, што сярод двара стаіць карыта, дзе ўдзень корпаліся парасяты. Шукаючы яго, ён узбіўся босай нагой на слізкія пелюсці, падняў і аднёс іх пад капеж: „Каліва якое цеста, дык курам заўтра будзе,—шаптаў гаспадарліва,—а то пад раніцу пойдзе дождж, тады вадой залле".

Яму не верылася пра кажамякавага сына. Яго нястрымна цягнула ўпэўніцца, пайсці на праўленне, глянуць хоць адным вокам, што там творыцца. І ён пашоў. Вобмацкам накіраваўся за сяло, да школы. Пакуль не ўбачыць сам, ён не даваў веры нікому.

Здалёк два акны ў класе разлівалі відны бляск ад лямпы. Святло

рэзала вочы. Ён зірнуў падкраўшыся і адчуў цяжкасць чорнай начной пеляны вакол сябе, калі там было так светла і ярка. Там сядзелі і хадзілі людзі, смяяліся, можа нават з яго, гаварылі і вырашалі, недзе, відаць, судзілі яго лёс, а ён стаяў тут бяссільны, нікчэмны, і кожныя іх рухі аддаваліся трапяткім парывам на яго сэрцы. Сярод усіх аказаўся і ён. Той, каго Свірыноўскі ніколі не чакаў, каго моцна асцерагаўся і не асцярогся. Ён прыехаў у самы крытычны момант, калі канцы жыцця не заходзілі адзін за адзін. Ён прыехаў, бадай, адпомсціць за восемнаццаць скур, за выробленыя бацькам восемнаццаць аўчын. Тады, як гэта ўсё натварылася, ён быў яшчэ смаркаты карапуз. Апошні раз ад'язджаючы ад кажамякі, Свірыноўскі даклераваў нават яблык прывезці яму, а бацьку жыта за вырабатку. Абяцаў ён таму, што грошай вобмаль тады паварачвалася, а хлебам выкруціцца можна было. Так умовіўшыся, ён развітаўся, забраў свае аўчыны і паехаў. Як паехаў, дык чакай-не-чакай—няма і год, і два прамільгнулі, аднак выплаты не прывозіў Свірыноўскі. Гэткай натуры быў чалавек. А там хутка немцы пайшлі; зусім забыўся ён на Арона кажамяку. Свірыноўскі пры іх нешта старастам застаўся ці што... Малако, здаецца, збіраў немцам па вобчастве. Помніцца адно, як надоечы, вярнуўшыся дадому, Свірыноўскі застаў у хаце Арона. „Пане Свірыноўскі,—міласцю папрасіў стары яўрэй,—хоць восем хунцікаў дай за работу. Хлеба няма. Дзеці плачуць. Старэйшага вучыць аддаў".

„— А ў каго ён ёсць цяпер?—адказаў Свірыноўскі,—цяпер такая-то калатня на свеце—вайна, усе гаруюць, не адзін ты. А ў мяне самога таксама няма".

„— Пане Свірыноўскі, але вы-ж павінны".

„— Я павінен?—закрычаў ён,—за што? Леташні снег прыпамінаць?! Вон з хаты. смярдзюх скураны! Я табе пакажу даўгі! Ты ведаеш, хто я такі?

„— Паночак!..—прасіўся Арон,—дзеці... хоць хунцік...,—і заліўшыся слязмі, забіўся ў кут. Яго сілай выцягнулі адтуль і выпіхнулі на вуліцу. Казалі пасля некаторыя, што местачковы кажамяка ў суд падаў, але справа зацягнулася, наехалі палякі і такім чынам усё заглухла.

„І вось цяпер,—думаў Свірыноўскі,—праз многа год гэтыя аўчыны адрыгнуліся. З'явіўся, як з-пад зямлі, патомак кажамякі, каб канчаткова расплаціцца па задоўжаным рахунку. Ясна, цяпер не прымуць. Ён запрацівіцца, ён не даруе за бацьку. За восемнаццаць аўчын, каб яны агнём пашлі! Праз іх пакінуць сад, агарод, хлеў, паехаць чорт яго ведае куды, дзе жукі косці высмакчуць на чужым полі, аставіць блізкі куток, у якім, як пачаў без штаноў бегаць, дык аж да сівізны ў барадзе. Божачка! Што-ж рабіць?"

Яму стала страшна. Але пустая цемра наўкола абнімала, падбадзёрвала нейкай смеласцю помсціць за парушаны спакой, патурала раптам закіпеўшай злосці.

Калі затупалі нагамі вышаўшы на ганак, ён сударгава адскочыўся ад акна і прыліп к сцяне пад вуглом. Адбягацца не выпадала і ён стуліўшыся ўчуў гутарку курыўшых.

— Дождж пойдзе!—казаў адзін.

— З паўдня паказвала!—адказаў танклявым голасам другі.

Яны прыкурылі папяросы.

— Але чуў?—зноў пытаўся першы (Свірыноўскі пазнаў Данілу), прадаў каровы, жарабца і цяпер з пярэзімкай падаў заяву. Прыміце!

— Ого! Гэта хітрасць.

— Хітрасць, то хітрасць, але шыла ў мяшку не ўтоіш?

„Каб цябе зямля ўтаіла!—чуць не вылаяўся Свірыноўскі. Што ты зубы точыш, што ты падтыкаеш? Не забыўся яшчэ? Помніш? А як-жа без платы жарабца пушчу? Каб каму, а то табе?“

І набегла Свірыноўскаму адно здарэнне на памяць, як некалі перад калгасамі, у вясну неяк, за кабылу заеліся абодвы. Вінават быў, вядома, Даніла. Свірыноўскі чалавек рашучы, ён нават не хацеў заводзіцца.

— Суседзе!—сустрэўшы папярэдзіў ён,—твая кабыла к жарабцу майму ходзіць. На двары ў мяне кожны дзень нікае...

— Дзядзька Свірыноўскі,—не даў даказаць Даніла,—а можа-б вы крыху спусцілі плату. Вясна цяпер—засекі пустыя. Далібог! Самі ведаеце!

— Чалавек з цябе!—паціснуў плячыма Свірыноўскі,—каня трэба карміць. Што ты думаеш, яму дай абы чаго? О-то-та! Гэта-ж можа не каняка, а жарабец. Сам здароў, ведаеш, як ён працуе. Хе-хе-хе! Не даеш веры, то сам папрабуй... хе-хе-хе!..

— Можа на восень?

— Не магу!

— На адработкі?

— Дзе ты бачыў?! Хлеб трэба! Кажу-ж, як у рот кладу...

Але і пасля гутаркі нічога не палепшала. Заўтра кабыла, каб яна здохла, зноў у гумне тырчыць. Перакінула галаву цераз плот ды іржэ, падзывае. Жарабец, доўга не думаючы, абарваў навязку, ды з разгону гэльць цераз плот. Цэлае прасла так і злажыў. Ды яшчэ капыт між аполкаў папаў, узяло і закасала шкуру да шчыкалатак.

Угледзеў гэта Свірыноўскі, аж пасінеў у твары. Хапіў у рукі вілкі, што гной кідаць, падбег ды ў бок кабыле.

„Што ты думаў, так і абыйдзецца? Без платы? Хваробу, галота!“—бушавала лаянка ў нутры Свірыноўскага. Але ён змаўчаў, пачакаў пакуль яны пойдуць.

— Хіба Буртын дапусціць гэта? Хто яго прыме?—казаў далей Даніла. Мала-што! Круціцца з яго дачкой?

— Маладому не ўкажаш, праўда-што. А гарадскі гэты, во разумны чалавек, цікава, што ён пра Свірыноўскага скажа. Ты скурыў?

— Скурыў! Хадзем!

Яны плюнулі па разу ў бок Свірыноўскага і пайшлі ў будынак. Ён астаўся стаяць незаўважаным. Трывожны перад бурай гоман кляноў перадаўся па яго целу халоднымі дрыжыкамі. Пачынала калаціць трасца. Высылка, у якую спачатку Свірыноўскі не хацеў верыць, цяпер паўстала, як немінучасць. Ва ўяўленнях бліснулі апошнія часы прабыцця на тутэйшым месцы, доўгая дарога і невядомы край. На сяле забрахаў сабака, вецер данес далёкі брэх. Свірыноўскі заглянуў у шыбу і злавіў вачыма прыехаўшага з горада.

Чарнявы чалавек сядзеў за сталом і, як на злосць, смяяўся. Усе жылы і косці Свірыноўскага наліліся злосцю. З нянавісцю зірнуўшы ў светлы пакой, ён мільгануў у бляску акна і прапаў у начы.

—... Я цябе стрэну на крыжавых дарогах,—скрыгатнуў зубамі ён,—адзін раз адказваць!..

Вярнуўшыся дадому, ён, перш чым ісці ў хату, забавіўся ў пуні. Калі вышаў адтуль, то пад крысом нешта тырчэла. Прынёсшы ў сенцы, ён гэта палажыў на кадушцы, і сам як ні ў чым не бывала спакойна пераступіў парог.

Свірыновічыха відаць заснула, толькі Ніна яшчэ тупала па хаце.

Прысеўшы на лаве, бацька закрыў рукою вочы, ніто ад лямпы, ніто каб паказаць заклапочанасць і лагодна парушыў маўчанне.

— Дачушка!

Ніна ўздрыганулася, быццам яе ўкалолі іголкай, і павярнуўшыся паслушна азвалася.

— Што, тата?

— Ты мне пра Буртына спамінала неяк?—гаварыў ён не ў злосці, і Ніне здавалася, што ён сарамаціць яе. Чырвань зарумяніла яе шчокі, наіўна працягнуўшы палец к губам, яна укусіла пазногаць.

— Ты з ім гуляеш яшчэ?

— Як ты, тата, скажаш,—апусціўшы павекі адказала дачка,—ён нават браць мяне гатоў...

— Браць цябе замуж, то яшчэ віламі пісана,—адняўшы руку ад вачэй махнуў ён,—глядзі ці захоча ён, а што сказаць табе, дык скажу от што: адзенься, Нінка, і пайдзі туды дзе праўленне. Добра? Як закончыцца яно, дык пазаві Буртына к нам.

Ніна ў знак згоды кіўнула галавой.

— Аднаго яго адзаві. Аднаго, чуеш? Няхай ён гарадскога гэтага накіруе Выгарамі цераз балота, як ён пойдзе спаць, дык вы вуліцай удваіх прыдзіце. Я пагавару з ім. Добра? Помні, каб зрабілі гэтак, як я кажу. Няхай не ідзе з яўрэйчыкам цераз канавы. Ідзіце хоць далячэй, але вуліцай, удваіх.

— Ён абяцаў мне, сам прыдзе.

— Прыдзе, ці не прыдзе—схадзі. Ды не забудзься, што я кажу.

Яна таропка выскачыла на вуліцу, ухапіўшы пад руку новую хустку, якую яшчэ не паспелі ўгледзіць бацькі. Ніне прышла ў галаву думка вярнуцца з Лявонам ахінуўшыся ёю і паганарыцца прыгожым падарункам перад роднымі. Якое шчасце перажывала яна ідучы. Яна думала, што бацьку прынялі ў калгас, і ён хоча за гэта Буртына напаіць. Толькі, каб не ведаў кажамякаў сын; ён павінен пайсці спаць адзін цераз выгары, не вуліцай, а яны прыдуць дамоў удваіх.

Астаўшыся ў хаце, Свірыноўскі пачакаў пакуль дачка адыйдзецца ад варот, і як прытупелі водгукі яе крокаў, ён узняўся з лавы і настаражыўся над лямпай. Шумелі ў віхры наляцеўшай буры бярозы за акном. Шум мацнеў, пераходзіў у стогн, чорная ноч пачынала гудзець. Набраўшы поўныя грудзі паветра, ён дзьмухнуў у чырвоны агонь. Полымя падскочыла ў камінку, палыхнула раз, другі і згасла.

— Куды ты збіраешся?—з прыгрозай, як на дзесяцігадовага хлапчука, сказала Свірыновічыха.

За акном разанула агнявая маланка. Па хаце замігцеў сіне-ружовы свет, пры якім яна разгледзела мужа, стаяўшага ў парозе, як пудзіла на агародзе з распасцертымі рукамі.

— Кладзіся спаць!—прашыпеў ён.

На двары раптоўна бразнуў гром. Свірыновічыха паднялася і села.

— А родныя мае!—зашаптала яна,—от чалавек! От сурміч! Каму-ж я скажу? На чорта мне! Меціа... і сына!

— Калі пачуеш, што яны будуць ісці, запаліш агонь, і кажы, неўзабаве я прыду.

Свірыноўскі хацеў, каб ніхто не дагадаўся пра яго намер. Ён не даў знаць нават жонцы, баючыся лёгкасці жаночага языка. Свет для яго сышоўся ў клін. „Хоць і мне не жыццё, але і ты папар зямлю! Мне турма не страшна!“—думаў ён бягучы на балота.

А ноч грымела і трэсла дрыгву. Маланкі агнявымі пугамі пісяжылі неба.

* * *

Нават Лявон не спадзяваўся гэтага. Мала што гатоў сказаць карэспандэнт. Чалавек хоць не бывалы, але мог-бы закінуць якое слова? Меў права? Меў! А гэтага Лявон Буртын больш чым чаго баяўся, бо калі-б запратэставаў карэспандэнт, то Лявонавы меркаванні разляцеліся-б як сліна. Гэта значыць, прапала-б надзея на вяселле. Аднак, ніхто не пярэчыў і не гаварыў, карэспандэнт аднёсся па звычайнаму, ён тут быў першы раз, мала каго ведаў, умешвацца ў невядомыя яму справы—не выпадала, Ён змоўчаў, пакольківе тутэйшым было ладзіць віднеў. А Лявон Буртын не чакаў такіх вынікаў, таму быццам з радасцю нейкай чыркнуў рэзалюцыю на заяве Свірыноўскага „прыняць“. Цяпер аставалася паказаць Ніне, як у іх дамоўлена было, яе, думаў ён, гэтая вестка ўцешыць лепш усякіх падарункаў, развяселіць і магчыма цясней зблізіць іх абаіх. Так што як канчалася праўленне, Буртын скарыстоўваючы момант, калі ўсе абступілі карэспандэнта з запытаннямі, парашыў не надоўга адхінуцца. Вядома, маючы на ўвазе хутка вярнуцца і пайсці з карэспандэнтам разам спаць. Той быў чалавек гаваркі, разумны і добры характарам. Не гледзячы, што Буртын яго знаў якіх дні два, тры, усе-ткі лічыў яго сваім лепшым прыяцелям.

Каб не здзівіць прысутных сваім адыходам, Лявон занепакоіўся аб пагодзе:

— Мабыць дождж пырскае?—сказаў ён, падышоў зняў з цвіка сіні плашч, накінуў на сябе і вышаў.

Каб хутчэй апынуцца ў Свірыноўскіх, ён накіраваўся не вуліцай, а нацянькі цераз балота, кудой можна выйсці аж у сад іхняй сялібы. У тым садзе ён усе вечары перад ад'ездам у горад гуляў з Нінай.

Вецер з балота дзьмуў вільготнымі тарфянымі пахамі. Ён бы хацеў падняць Буртына на свае хвалі, расхінаючы шырокія крысы

карэспандэнтавага плашча. „Мяне не пазнае у ім“,—усміхаўся ён, цвёрда ступаючы па беразе канавы, абвальваючы груды зямлі у ваду. Вецер паласкаў балота, вербы шапацелі лісцём, гнуліся да долу. Бліснула маланка і асляпіла вочы. Буртын згледзеў пазалочаныя абрысы воблакаў і чыстую сцежку перад сабой непадалёк ад вясковых хат, злева якой глыбокі роў пеніўся аж у рэчку, а справа ўбачыў некалькі кустоў, тут-жа пачыналіся гароды. Пасля бліскавіцы бачнасць прапала, Лявон спыніўся, намагаючыся згледзець што праз густую цемру. Яму здалося нібы на сцежцы вярба, ён працягнуў рукі, і ў гэты момант...

Страшэнны выбух стрэлу грымнуў ад кустоў. Лявона потам халодным абдало і пякучыя мурашкі забегалі па левай руцэ. За стрэлам загрымеў гром, ад якога Буртын утрапянеў, упацёмку не ведаў куды бегчы, ступіў разы тры, зачапіўся за корч і паваліўся ніц на беразе канавы. Да яго, як цень, падскочыў крывы чалавек і штурхануў нагою пад бок. Буртын ад удару ссунуўся ў роў. Пераваліўшыся на абрывістым беразе, ён яшчэ пачаў ратавацца рукамі за бераг. З гарачкі ён ададраў купіну, а другой рукой ухапіўся за корч і павіс на стромкім перагібе.

— Утаплю!—шыпеў на беразе крывы,—высылай мяне, гад! Адзін раз адказваць.

Крывы чалавек узняў нагу, каб, ударыўшы Буртына па галаве, сапхнуць і ўтапіць у гразкай канаве. Але Буртын закрычаў:

— Ай! Р-а-т-у-й-ц-е!

Нага крывога інстынктыўна апусцілася, ён адступіўся ад ляжачага Буртына. Пазнаўшы не таго, хто патрэбен быў, ён прашыпеў: „А-а, сукін сын! Было, шчанюк, не падлазіць“,— і знік направа ў алешніку.

Лявон, працяты болем, спаўзаў у гразь, бездапаможна боўтаючы нагамі ў вадзе.

—Р-а-т-у-й-ц-е!—імчаў на сяло вецер з балота.

* * *

Якое шчасце нечаканае зляцела ў рукі само? Ад радасці Ніне хацелася запець. Яна магла прыгожа спяваць. Яе голас быў высокі і прыемны. Сярод дзяўчат Ніна заўсёды запявала песню.

Падыходзячы да школы, яна ўчула кароткі стрэл, і спынілася. Здзіўлена зірнула на балота. Густая цемра асталася ў алешніках і толькі каля лесу палыхала вогнішчам цыганскага табару. Над галавой разлягаліся грымоты, шапацеў у лісцях рэдкі дождж. Стрэл не паўтарыўся.

Гучна гаворачы між сабой, з будынка вышлі мужчыны. Сярод іх Лявона не было, ні па голасу, ні па постаці яна не пазнавала яго. Заўважыць яе яны не маглі, Ніна стаяла між клёнаў.

— Ціха!—сказаў нехта з іх,—чуеце?

З ветрам далятаў крык чалавека. Ніне ён паказаўся знаёмым.

— Буртын крычыць!—гукнуў нехта.

— Лявон!—Ніна хацела падаць голас, але гаркотны камяк перасеў у горле. Устрапянуўшы рукамі, яна кінулася бегчы прама на крык.

Уначы на куп'істых месцах спатыкалася і стагнала. Радасць была раздушана жахам. Перад вачыма скакалі раздражненымі ваўкамі кусты і карчы. Яна не палохалася, чула як беглі за ёй калгаснікі, амаль даганялі, а пасля адсталі, ці мо' другой сцежкай выбіліся наперад, а Ніна заблыталася. Падбегшы ўжо блізка, з гоні ад таго месца, дзе крычаў Буртын, яе нехта стрымаў, ледзь не паваліўшы дужай рукой. Рот зацісnуў касцістымі пальцамі і прыхінуў галаву да сябе. Яна не крыкнула, пазнаўшы свайго бацьку.

— Куды ты?—пусціў ён,—вярніся!

* * *

Людзі замітусіліся, высыпалі са школы і рынуліся цераз выган у хмызнякі. Карэспандэнт выбег без шапкі, не ведаў у чым справа, крыкнуў да калгаснікаў, ніхто не азваўся; іх важкія крокі аддаляліся ў цемры. Згледзеўшы чырвонае вока ліхтара між кустоў, ён сігануў следам. Дрыгва трэслася і крактала пад нагамі. Лазовыя дубцы хвасталі па вачах. Прышлося ісці прыплюшчыўшы вочы і працягнуўшы наперад рукі. Але хутка ліхтар знік з яго вачэй. Карэспандэнт стаў. Галасы людзей даносіліся з другога боку. Ён заблудзіўся, пайшоў крокам. Раптам завіднелася сцежка, ён ступіў на яе і ўпаў у канаву. Ахапіўшы рукамі вярбу, ён затрымаўся, не памачыўся. Выкарабкаўшыся на бераг ён прабег уздоўж рова, напаткаў другую канаву, вярнуўся назад. Перабрацца было нельга. Роў струменіў шырокі і глыбокі. Вецер расхінуў каўнер рубашкі і буйная кропля ўпала на голыя грудзі. Неўзабаве сыпануў густы дождж. Карэспандэнт стаў пад вярбу і пазіраў на той бераг, за кустамі якога чуваць былі людзі. Хацелася туды, але не ведаючы тутэйшых сцежак, ён папаў як у пастку. Ловячы гукі блізкай мятусні, яму пачулася жаночая песня. Карэспандэнт прытаіў дыханне і настрыўся, прыслухаўся. Да яго даляцеў прыдушаны плач невядомай жанчыны.

* * *

Лёс, спасцігнуўшы Свірыноўскага, быў выразны, але ён, чалавек не ў гарачай вадзе купаны, дзейнічаў прадугледчыва, не завіхаўся. Ён быў упэўнены, што іншага выйсця няма. Памылка яго толькі церабіла шлях больш круты, чым ён быў вызначаны.

Бацька сцягнуў з галавы ў дачкі хустку, завярцеў ёю зброю і працягнуў клумак:

— На! Бяжы дадому і схавай у сена. Хутчэй! Пача-кай!—правішчэў ён стрымліваючы дачку за рукаў.

— Нацянькі імчы. Не сустракайся ні з кім,—піхнуў у другі бок. Бяжы!

Ніна знемаглася бягучы сюды, і цяпер, змораная, ледзь перастаўляла ногі. Яна не супроць была прысесці, але адчуваючы грозны наказ бацькі за плячыма, спяшалася. Яна баялася бацькі з дзяцінства. Папруга не раз далася ў знакі ёй, а гэта бацькаўская дысцыпліна не выветрывалася і ў сталых гадах. Жаласць да Лявона

на момант знікла, Ніна прыслухалася ці не ідзе за ёй раз'юшаны бацька.

Але Свірыноўскі не ішоў, з задуманага яшчэ аставалася яму ўмяшацца ў натоўп калгаснікаў і ўдзельнічаць у ратаванні старшыні калгаса. Так ён і зрабіў. Сляды ўчынка былі чыста замецены.

* * *

Той-жа ноччу старшыню калгаса павезлі ў больніцу. Ён быў страціў прытомнасць і ўсе турбаваліся за яго жыццё. Аб прычынах бяды толькі і даведаліся, што на яго напаў нехта адзін. Так ён сам правойкаў ад болю.

— Цыган,—крыкнуў конюх,—ён гразіў надвечар кулаком.

— Калі так,—суняўся Свірыноўскі,—то даравадь не можна.

— Назад!—пачуліся галасы.

— Пашлі!

— Мы яго зловім!

Натоўп, раззлаваны, рушыў на бераг балота. Каля ракі вецер іскрыў у двух вогнішчах. Каля вогнішча сядзела жанчына ухутаная ў посцілку і пад цёплы подых жару драмала. Калі вецер развяваў вугольлі, то паказваўся яе сонны, маршчыністы, абліты чырванню твар. Людзі гнеўныя наляцелі, разбудзілі ціш беспрытульнага табару.

— Хто тут жывы?—зароў Свірыноўскі. Вусы яго пад агонь зарыжэлі, вочы шнырылі ва ўсе куткі. Старая цыганка ўсхапілася на ногі, збянтэжыўшыся, нічога не адказала. Людзі кінуліся да вазоў, будзілі сонных цыганоў, шукалі між іх вінаватага. Драбінкі калёс заскрыпелі, у анучах заплакалі дзеці. З аднаго шатра высунулася галава, конюх учапіўся за чуб і крыкнуў:

— Тут ён! Гэты!

Чалавека сцягнулі і заламалі назад рукі. Свірыноўскі так закруціў іх, што цыган войкнуў і апусціўся на калені. Жонка цыгана заплакала.

— Іль-к-о-о!

— Сном прытварыўся!—крычаў Свірыноўскі, цягнучы цыгана.

Табар падняўся на ногі, запалалі агні, павылазілі з-пад калёс дзеці, цыганы і цыганкі стаялі разбуджаныя, напалоханыя.

— За што мяне, дзядзька?—прасіўся цыган.

Яго пацягнулі да сяла. Цыганка бегла за натоўпам, яе не дапусцілі. Тады яна ўпала ў кусце лазы на беразе рэчкі і загаласіла.

* * *

Калі Ніна даведалася, што яна нясе, ёй стала холадна. Клумак пацяжэў, рукі нервова задрыжэлі. Прыпомніўся стрэл і смяротны крык чалавека. Грудзі здушыў жаль па Лявону, а ў плечы штурхаў страх ад раззлаванага бацькі. Слёзы выступілі на вачах, яна закрычала плачам, але спалохаўшыся свайго голасу, сціхла. Ёй паказалася, што бацька пачуў, даганяе яе, зараз хопіць за руку. Яна саступіла з месца і ціханька пашла. Яна гадала напрамак, спяша-

лася дадому. Каля вялікага рова пашла берагам, мінула хмызнякі, прыглядалася дзе кладкі з трох паленняў. Але слёзы сыпаліся, кладка не знаходзілася. Думаючы, што яна зайшла на такую адлегласць, адкуль бацька пачуць не зможа, Ніна заплакала наўзрыд. Словы прычытаў выляталі са стогнам.

Яна галосячы дайшла да таго месца, дзе на другім баку канавы стаяла вярба, пад якую схаваўся ад дажджу карэспандэнт. Ён учуў плач, які спачатку палічыў за спяванне і запытаў:

— Каго застрэлілі?

Дзяўчына і без таго абмярцвеўшая ад страху, упусціла клунак і застыла на месцы. Клунак бразнуўся на бераг канавы, зазвінеў і адкаціўся ў цемры ад Ніниных ног.

— Хто гэта?

Ніна, пачуўшы блізкасць невядомага чалавека, адступілася назад. Не даўшы голасу, яна вярнулася ў зараснікі, пабегла на вобмацак.

Карэспандэнт крыкнуў яшчэ раз, адказу не было, ледзь прыкметная постаць невядомай жанчыны растала, хутка з процілеглага боку пачуліся крокі, неўзабаве бліснуў ліхтар.

— Хто крычаў?—запытаў калгаснік.

— Я!—гукнуў карэспандэнт,—скажыце як выбрацца. Заблудзіўся тут.

Калгаснік быў воддаль, на тым баку, ён паказаў дарогу. Карэспандэнт пакінуў вярбу, пайшоў па канаве і хутка апынуўся на тым беразе.

— Цыган старшыню забіць хацеў,—усхвалявана паведаміў чалавек з ліхтаром.

— Цыган!

— Цыган? Уся рука ў Буртына кроўю сплыла. Павязлі ў больніцу. Гэты цыган авёс краў сёння, дык ён злосны быў...

— Пройдзем гэтым берагам,—паказаў на вярбу карэспандэнт.

— Дарэмна!—засмяяўся чалавек з ліхтаром,—яго злавілі і павялі ў сяло.

— Пасвяціце мне, пасвяціце!—сказаў карэспандэнт і пайшоў берагам.

— Што вы згубілі?—здзівіўся калгаснік, ідучы за ім,—у вас шапкі няма? Як вы сюды трапілі?

Карэспандэнт не памыліўся ў сваіх меркаваннях. Ен падняў доўгі важкі клумак. Квяцістая хустка расхінулася, паказаўся іржавы абрэз. Чалавек з ліхтаром раскрыў ад жаху рот, пасвяціў у вочы карэспандэнту.

— Чый гэта?

Яны прабеглі кусты і праз нейкі час выбіліся на гароды. Дарэмна яны закружыліся ў алешніках, нікога не бачылі і не сустрэлі, паўмежкам, змораныя, прыйшлі ў сяло.

* * *

Мокры, запэцканы ў гразь, скамечаны, як ануча, ляжаў на стале карэспандэнтаў плашч, а побач квяцістая кашміровая хустка. За сталом сядзеў начальнік міліцыі і рабіў допыт.

— Але новая, братачка ты мой,—шчупаў пальцамі Даніла,—чыя-ж гэта можа быць? Гэ! Тваёй дачкі, валацуга?

— Не-э!—круціў галавою цыган.

— Ну, і ў нашым сяле ніхто такой не насіў,—казаў Свірыноўскі, быццам суседу Макару прызнаваўся, што „далібог не ведае, хто вічку ў Галяні́шчаве спасвіў“, што яго „жарабец там нагі не ўлажыў“.

Усе прызнавалі таксама, што хустка квяцістая, як у цыганак, але абрэз з нямецкага карабіна намякаў пра сумненні ў віне цыгана. І гэта спраўдзілася. Начальнік міліцыі пабываў у табары і даведаўся, што ў цыгана дарослых дзяцей няма. Згодна паказанняў карэспандэнта, які гаварыў, што ў замаху ўдзельнічае невядомая дзяўчына, падазронасці на цыгана рассеяліся. Ён астаўся працаваць у калгасе.

Карэспандэнт быў нейкі час у калгасе, думаў гэтым паскорыць следства, але ў той-жа дзень ён нечакана атрымаў тэлеграму з рэдакцыі сваёй газеты. Тэлеграмай яго выклікалі тэрмінова выехаць у горад па неадкладных службовых справах. Начальнік міліцыі нешта гутарыў яшчэ з Каганам, а пасля сказаў, што калі важная патрэба, карэспандэнт можа адлучыцца.

Перш чым выехаць з калгасу, Каган хацеў пабачыцца з Буртынам, але да бальніцы было кіламетраў пяць, вечарэла, а ад'езд намячаўся досвіткам. Па такой прычыне іх блізкая сустрэча не адбылася. Кагану перадалі, што Буртын папраўляецца і хутка будзе здаровы.

— Ён не расказваў вам у бальніцы, чаго пайшоў на балота, дзе яго ранілі?—пытаў перад ад'ездам Каган матку Лявона, старую Буртыніху.

— А хто-ж можа ведаць, дзеткі?—адказала кабета,—мусіць, вяло ўжо чалавека на гэта. Добра што хоць жывы застаўся.

Карэспандэнт развітаўся са старой, напомніў перадаць сыну прыяцельскае пажаданне ў яго здароўі і паехаў на станцыю.

К вечару ён быў ужо ў горадзе.

У наступным нумары цэнтральнай газеты цэлая старонка была адведзена калгасу, старшынёй якога быў узнагароджаны граматай Лявон Буртын.

## II

Буртын паправі́ўся хутка. Куля забойцы кранула левую руку і вышла каля локця, вырваўшы кавалак мяса. На адну пядзю забойца прамахнуўся папасці ў сэрца. Буртын выздаравеў, але ямачкі ў руцэ з абодвух бакоў засталіся навек.

Дачуўшыся тады, што вінаваты не знаходзіцца, Буртын хацеў выпісацца хворым з бальніцы і паехаць дапамагчы следству, але гэтаму перашкодзіла Ніна. Яна прышла да яго ў палату і прынесла яму гасцінец. Гаворачы з ім вельмі ласкавым тонам, яна ўпрасіла яго пашанаваць здароўе і не выпісвацца. Ён згадзіўся, а назаўтра яму перадалі, што начальнік міліцыі паехаў без вынікаў.

— Папраўляйся, Лёня!—люба ўсміхалася яму Ніна, седзячы ў нагах яго больнічнай койкі, а потым, паказаўшы на свае грудзі, прашаптала:

— Паслухай!

Абняўшы яе стан, ён, як клапатлівы доктар, прылажыў вуха к яе поясу і ўсміхнуўся. Усмешка была дзевяцігадовага хлопчыка, якому далі пагуляць кішанёвым гадзіннікам, і ён прыгарнуўшы яго к вуху, з шчасцем на твары шаптаў:

— Ідзе!

Гэта бліжыўся той час, якога чакае кожная маці.

Да гэтага часу заставалася два-тры тыдні. Трэба было завіхацца з вяселлем.

Буртын у той дзень, як выпісаўся з больніцы, паехаў у сельсовет і запісаўся з Нінай Свірыноўскай.

Яна ў вяселлі адчувала сябе засмучона, затое бацька паказваў двайную радасць. Загаварыў яго непрывычны да гамонкі язык:

— На мяне брэшуць, што я апошні чалавек. Хай брэшуць, скулы ім у горла. Я ведаю хто гэта. Хваробу яны мяне ўкусяць. Другі сам у тую яму ўваліцца, якую на мяне капае, я не дурны чалавек! Праўда?—лез цалавацца к зяцю цесць. На яго п'яным твары вочы, нібы памазаныя здорам, салавелі, меншалі.

— Добра, бацька! Добра!

— Слухай! Ты! Лявон! Не ўмееш браць у рукі нашых людзей. Слухай. Са мной не прападзеш. Будзем так рабіць, як я навучу—заплаваеш, як сыр у масле. Няпраўду я кажу? Ты злуеш на мяне? Я можа і вінават перад табой. Прабач, зяцю. Калі ты, чорт-бы цябе пабраў, сам крыху вінават. Гарачышся! Трэба ўсё з дагаворанасцю, дык і другія не памыляцца. Ог! Раней у нас малы інтэрас вёўся, а цяпер мы... Дай пацалуемся. Выбачай мне за ўсё... Ну!

Буртын не разумеў яго, ён думаў, што Свірыноўскі намякае пра распраданую гаспадарку.

— Што ты, бацька? Я на цябе не злую! Вы падпілі крыху—ляглі-б спаць. Пусціце мяне да гасцей. Дарую! Дарую вам!

— Ідзі!—цмокнуў у шчаку Свірыноўскі,—даруеш?—мармытнуў астаўшыся адзін,—даруеш? Малайчына Свірыноўскі!

Бабы спялі яго за рукі і пацягнулі ў хату. У хаце звінелі песні, пасуда, галасіла скрыпка, гармонік—усё было па-вясельнаму. На вялікую злосць цесця, Буртын сазваў палавіну сяла. За сталом сядзеў Даніла, усміхаўся з п'яных слоў Свірыноўскага. Таму паказалася гэта абразай.

— Чаго вышкаляешся, сабака!?—закрычаў ён на ўсю хату.—Наеўся майго добрага, дык пашоў за вугал,—махаючы кулаком, стаў падступацца Свірыноўскі да Данілы.

Але мужчыны абступілі і не дазволілі завязацца бойцы, памаленьку ўгаманілі Свірыноўскага і паклалі спаць. Да самага канца ўжо вяселле гулялі спакойна. Свірыноўскі ў каморы хроп.

Назаўтра ён прасіўся ў Данілы, абвінавачваў чарку, хмель у галаве, зваў пахмяліцца. Словам, справа сяк-так уціхамірылася, вяселле, можна лічыць, закончылася.

Буртын па-ранейшаму мала стыкаўся дома, у канторы сядзеў у паездкі ездзіў. Час для яго праходзіў без аглядкі. Хутка не ў прыклад ранейшага—памізарнеў, пахудзеў у твары.

Свірыноўскі да зяця заходзіў рэдка; калі што трэба было яму, дык на гэта мелася Ніна. Ён хоць і ўступіў у калгас, але на працу не хадзіў. Наняўся ў суседнім соўгасе вартаваць луг. Выкасіў берагі ў рацэ і казаў сам сабе:

— Не хаджу на працу і не пайду. Не дадуць хлеба, я і кланяцца не стану. Чорт вас які просіць, недзе дастану. От накасіў мурагу карове і хопіць на зіму, яшчэ можа і ты вязку папросіш. Прыдзе каза да ваза. Пачакай!..

Даніла раз упікнуў старшыню за цесцява самавольства.

— Дык як-жа ты думаеш, Буртын? Абудвы сыны яго паехалі ў Менск вучыцца. Ну, добра—хай яны малыя. Старая карпее каля хаты. А ён які ўломачак? Як на адыходніцтва, то ходзіць. Гэта не парадак! Які-ж тады з яго калгаснік, ён-жа прахадзяшчы чалавек. Гэта-ж не помач, а немач. Ловіць сабе рыбу, сена на зіму прыпасае, бярэ каня калгаснага, едзе чорт ведама куды, прыязджае п'яны і лічыцца калгаснік. На што ён нам у калгасе? Цяпер такая ўвішнасць кругом, рук не хапае, а ён ходзіць за ракою, ды пасмейваецца. Добрая надзея!

У Буртына ад такіх прамых—у вочы—слоў закалацілася барада.

— Я хачу, каб было як найлепей. І табе і ўсім. Нечага мне даносіць. Сам ведаю. Што ён ля ракі ходзіць, дык ты бачыў, а што спраўку з больніцы мае, дык ты гэта не бачыў. Можа ён не можа, ты паверыш? Дажыві ты да яго год, паглядзім як будзеш увіхацца. Справішся з такім Данілам, як ты цяпер, ці не? А! То-та-ж!

Хацелася тут Данілу расшумецца ў канторы, сказаць: „Што ты мне даведкамі тыцкаеш у зубы, такія апраўданні кожны можа даць. Я сам хворы. Яно ясна, захацеўшы сабаку выцяць—кій знойдзеш. Але, як нешта я заўважаю, то ты, старшыня, з цесцем у адну дудку іграеш, жаніўся, дык і пайшоў следам за цесцем? Скажу табе ў вочы—не добра робіш, Лявон. Я аб гэтым не ўмаўчу, паглядзім! Я і ў сельсовет патраплю, калі якое што...“ —а далей сцярпеў, сцяў губы і вышаў.

Словы данілавы сказаны былі не попусту, Лявон іх перадаў Ніне, але Ніна не захацела слухаць, пачала зусім другую гутарку.

Многія на сяле ўсміхаліся, што ў старшыні за вяселлем неўзабаве прыдзецца спраўляць радзіны. Так і было. Ніна нават не данасіла тэрміну. Буртын стаў бацькам маленькага сына.

З ранку таго дня, у які павінна была адбывацца ўрачыстасць, Буртын паехаў у сельсовет. Там ён нечакана, але горача сустрэўся з Каганам. Карэспандэнт рад быў, што Буртын здароў, і расказаў, па якіх справах ён прыехаў зноў сюды.

— Следства па забойству не спынена,—гаварыў ён, калі гутарка пайшла пра мінулае,—міліцыя мабыць на днях будзе тут, а можа ўжо прыехала. На допыт цябе выклікалі?

— Не!—Буртын махнуў рукой,—мне галава і так трашчыць. Карэспандэнт здзівіўся такому тону гаворкі, а Лявон дадаў:

— Я жаніўся, ты не ведаеш?

— Жаніўся?

— Жаніўся, брат, баба паспела. Тады-ж з больніцы і адразу ў сельсовет.

— Ну, а як яна?

— Не магу сказаць, паглядзіш сам, едзем сягоння да мяне.

Лявон стаў прасіць Кагана, каб той прысутнічаў на вечарынцы, на якой яшчэ мацней звяжацца іх дружба. Карэспандэнт урэшце згадзіўся. Зноў, як некалі, яны ўдваіх прыехалі ў сяло. Дарогай, ад гутаркі пра забойства Буртын увесь час ухіляўся.

Дома рыхтаваліся сустракаць гасцей. Буртынава хата была прыбрана зялёнымі вянкамі з дзеразы. Партрэты Леніна і Сталіна дзяўчаты ўпрыгожылі жывымі кветкамі. Кругом было чыста падмецена. Свірыновічыха нанасіла жоўценькага пяску перад ганкам, надзелася сама акуратна і тупала гаспадыняй па буртынавай хаце.

Як дачуліся Свірыноўскія аб прыездзе кажамякава сына, то іх узняты настрой адразу пахаладзеў. Яны—смерць як не хацелі бачыць яго на вечары. Але адгаворваць Буртына было нельга, да й сам ён, як на злосць, увесь час круціўся па сяле з ім.

— Глядзі!—пагразіў пальцам на дачку Свірыноўскі,—ты тады ледзь не прагарэла. Помні-ж цяпер! Зарумзай зноў, прагаварыся, няхай уведае хто аб усім...

— Прыкінься хвораю, дачушка!—настаўляла маці,—ляжы ў пасцелі. Скажы хадзіць цяжка. Будуць прасіць, падыйдзеш ласку прыняць, не будуць—тым лепш.

— Што яна—маленькая,—сказаў бацька разгладжваючы вус.

— Ат!—суцяшала маці,—неяк будзе! Чаго там бядаваць, няхай сабе прыходзіць. Напоім—сап'ецца, дык ляжа спаць. Яшчэ лепш. Ён-жа таксама вялікі чын...

Свірыноўскі кашлянуў і вышаў у бакоўку.

Як запалілі агні, з усяго сяла пачалі збірацца людзі. Госці неслі падарункі, уверчаныя ў белыя абрусы, клалі на стол, віталіся з маладой маткай, з бацькам, цешыліся сынам, прызнавалі падабенства з бацькам, гаманілі, смяяліся. Светла гарэлі дзве лямпы. Іграў патэфон. Людзей прыбаўлялася, узрастаў гул і хутка вечарынка пачалася.

— Каторая-ж твая?—пажартаваў Майсей, кінуўшы позірк на старых кабет.

— Яна прыйдзе. Ёй трохі нездаровіцца. Эт! Ім жанчынам відней у іх справах. Садзіся тут каля бацькі майго,—паказаў ён месца каля Свірыноўскага.

Каган сеў і разгаварыўся са Свірыноўскім. Вышла, што Свірыноўскі старога Арона ведае, некалі гулякамі былі ў маладых гадах. А як сказаў Майсей, што яго бацька не так даўно памёр, то Свірыноўскі чула забедаваў, прыняў к сэрцу гэтую навіну аб старым дружаку, з якім, як казаў ён, „некалі не адну кварту ў карчме высушылі“. Сусед Каганаў аказаўся вельмі клапатлівым гаспадаром,

прасіў не мінаць прышоўшай чаркі. Каган адмаўляўся, падазрона кідаючы позірк на спацелы, валасаты твар Свірыноўскага.

Спачатку на вечарынцы паднялі тост за здароўе старшыні. Усе перад тым, як выпіць, выказваліся.

— Я паднімаю гэта віно і вып іваю за шчаслівае нашае жыццё,— сказаў Майсей Аронавіч,—і за здароўе старшыні, за яго сына, якому жадаю вялікім, вялікім расці, а таксама п'ю за усіх тут прысутных калгаснікаў ударнікаў, ім жадаю надалей так шчыра працаваць, але не забываць, што сярод нас ёсць такія, якія хацелі Буртына з свету збыць. За пільнасць да такіх! За ваша здароўе! Будзьце жывы!

— На здароўе!!—адказалі хорам госці.

— Я, як цяпер памятаю,—успомніў Даніла,—выбег я з Мартынам на двор, чую на балоце крык. Р-а-т-у-й-ц е!

— Закусвайце, мужчыны! Закусвайце!—перабіў Свірыноўскі падсоўваючы скрылі галанскага сыру.

Другі тост быў за матку сына. Яна не хацела і на вочы паказвацца, але яе прывялі жанчыны. Яна ўвайшла прыбраная, нарумяніўшыся, і спадабалася Кагану. Буртын гэта заўважыў і быў рад. Але як здзівіла карэспандэнта тое, што Ніна хавалася ад яго позірку.

— Я п'ю таксама за шчаслівае наша жыццё,—звонкім, яшчэ дзявочым голасам прамовіла Ніна.

Каган акінуў пранізлівымі чорнымі вачыма ўсю Ніну.

Яна сціхла і адвяла вочы ў другі бок. Віно крыху пралілося на пальцы. Ніна не магла вымавіць поўслова і спяшаючыся стала дапіваць чарку.

— А за сына!—падказаў Лявон.

„За сына! За сына!"—гаманілі жанчыны, каля яе. Яна, не памачыўшы губ, аднесла віно і прашаптала.

— ... І за сына.

Ёй здалося, што чарнявы чалавек устаў і паказвае пальцам на яе, зараз скажа ўсім, што яна вінавата, што... у яе ўжо не было сілы падняць руку... яна не ўтрымала маленькі шкляны кілішак і ўпусціла ў талерку з маслам.

Пачуўся смех.

— Га-га-га!—зарагатаў Буртын.—Вот, дык п'яніца з цябе. Не бойся, яна не горкая. Чакай, чакай, Даніла. Я ёй налью саладзейшай. О! На здароўе!

Ніна, стаўшы насупраць мужа, пад шум і смех гасцей выпіла кілішак віна. Яе абступілі кабеты, частуючы яе рознымі прысмакамі.

У Свірыноўскага ўздрыгвалі жаўлакі. Ён каб прымеў, укусіў-бы сябе за локаць. Толькі ўласцівая яму панурасць і маўклівасць стрымалі прыбой нахлынуўшай злосці:

— Закусвайце, братачка мой,—ветліва папрасіў ён Кагана.— Во кілбаса, во масла. Бярыце, не саромейцеся! Будзьце, як дома.

Каган паглядзеў на суседа, як быццам той яго абудзіў, і так-жа ласкава яму адказаў:

— Дзякую, я закусіў!

— Куды-ж вы, братачка?—злавіў яго руку Свірыноўскі.

— Мне нешта кепска,—выкруціўся Майсей,—я зараз прыду.

Ён вышаў на ганак і лёгка ўздыхнуў. Свежасць з саду, пасля душнага паветра, атуліла яго водырам прыемнага паху спелых ігруш. Хутка вышаў з хаты Буртын. Ён важна сеў побач Майсея і па-бацькаўску запытаў:

— Што з табой, дружа? Чаго ты вышаў? Хадзем у хату.

— Душна ў хаце,—адказаў Каган.

Яны паднялі абодва вочы на неба, быццам хочучы вольна дыхнуць, і разам угледзілі падаючую зорку. Агністы шлях яе перакрэсліў „гусіныя дарогі“, заблішчэў залатой істужкай і растаў у бяздонні неба.

— Ведаеш, Буртын!—сур'ёзна парашыў пагаварыць Каган,—табе казалі, што я тую-ж ноч, як было забойства, спаткаў невядомую і да цяперашняга часу дзяўчыну, як яна страціла клунак, хустку!

— Казалі!—махнуў рукою Буртын.—Мы аб гэтым заўтра, Майсей. Хадзем у хату.

Па выразных рысах твару карэспандэнт пазнаў, што Буртын на жонку не мае падазронасці. Гэта яго паставіла ў няясныя дагадкі, якія за другую палову вечара амаль прасвятлелі.

Яго цяпер не дзівіла, чаму Свірыноўскі так упарта намагаўся выпіць яшчэ з ім, чаму голас Ніны так падобен да голасу той дзяўчыны, якую ён спаткаў на балоце, чаму яна сёння так рана лягла спаць. На заўтрае гэта стала зусім ясным.

Раніцай прыехаў начальнік міліцыі і яго памочнік. Карэспандэнт быў ужо з ім знаёмы. Каган расказаў яму аб сваіх меркаваннях. Начальнік загадаў пазваць сведак.

Калі ў хаце засталіся толькі карэспандэнт, Буртын, і Даніла, начальнік міліцыі сказаў:

— Во ў якой хустцы быў абрэз, таварыш Буртын.

Старшыня, угледзіўшы хустку, пабялеў у твары і ўсхапіўся з месца.

— Гэта м-мая!—мармытаў ён.

— Што?—быццам не дачуў начальнік.

— Гэта яго жонкі хустка, таварыш начальнік,—растлумачыў карэспандэнт,—яго жонку я і сустрэў тады на балоце.

Даніла ўзяў у рукі хустку, паглядзеў і спакойна сказаў:

— Вот, братачка ты мой. У два бакі доўга не павіляеш. Хоць цяпер разбярэмся, што за калгаснічак твой цесць.

Менск, 1936 г.

———

*М. Горкі*

# НЕАПУБЛІКАВАНАЯ ПРАЦА ПРА А. І. ГЕРЦЭНА

*6 красавіка споўнілася 125 год з дня нараджэння выдатнага рускага публіцыста і грамадскага дзеяча, рэволюцыянера-дэмакрата. У сувязі з гэтай юбілейнай датай, маючай велізарнае значэнне ў гісторыі рускай грамадскай думкі, мы перадрукоўваем неапублікаваную працу А. М. Горкага пра А. І. Герцэна.*

---

*Горкі аддаў вялікую ўвагу Герцэну ў сваім курсе гісторыі рускай літаратуры, які ён чытаў у 1909 г. для рабочых у капрыйскай партыйнай школе і які захаваўся ў чарнавым запісе. Канец раздзела пра Герцэна ў гэтым курсе згублены. Апроч запісаў, якія проста прысвечаны Герцэну, і ўпершыню друкуюцца намі, Горкі неаднаразова ўспамінае пра Герцэна ў другіх месцах гэтага курса. Так, Горкі пісаў пра тое, што „сам Тургенеў насіў у сабе рысы Рудзіна, як насіў іх адзін час нават Герцэн“, што Талстой „разумны, як Герцэн“, што „Колокол“ Герцэна быў часопісам, перад якім трапяталіся верхнія пласты грамадства сталіц“. Горкі ўспамінае таксама, што рускі інтэлігент лёгка падпарадкоўваўся жыццю, якое кожнае дзесяцігоддзе загадвала яму што-небудзь новае: „У 40-х гадах ён быў ідэалістам і з задавальненнем слухаў салодкія прамовы славянафілаў, у 50-х пайшоў за Герцэнам, у 60-х адвярнуўся ад Герцэна ў бок Чэрнышэўскага...“*

*У курсе лекцый Горкі не падае цытат з твораў Герцэна, а толькі глуха ўказвае старонкі выдання.*

*Па гэтых старонках удалося ўстанавіць, што Горкі карыстаўся жэнеўскім дзесяцітомным зборам твораў Герцэна 1875—1879 гадоў, адкуль намі ўзяты адпаведныя цытаты. Апроч таго, Горкі карыстаўся кнігамі В. Багучарскага „З мінулага рускага грамадства“, II, 1904 г., і Ч. Ветрынскага, „Герцэн“, II. 1908 г.*

*С. БАЛУХАТЫЙ*

---

Пячорыну і Анегіну чужыя так званыя соцыяльныя пытанні, яны жывуць вузка-асабістым жыццём. Яны абодва дужыя, багата адароныя людзі, і таму не знаходзяць сабе месца ў грамадстве. Але ў той-жа час, як Лермантаў друкаваў „Героя нашага часу“, Герцэн пісаў свой раман „Хто вінават?“ Герой рамана таксама дваранін—Бельтаў,—паслухайце, як яго паказвае сам аўтар.

„Дзіўная справа—Бельтаў, з таго часу, як адправіўся ў чужыя краі, жыў многа розумам і страсцямі, раздражненнем мозгу і раздражненнем пачуццяў. Жыццё дарма не праходзіць для людзей, у якіх прабудзілася хоць якая-небудзь вялікая думка... усё нічога, сёння ідзе, як учора, усё вельмі звычайна, а раптам азірнешся назад і са здзіўленнем убачыш, што адлегласць пройдзена страшная, нажыта, пражыта процьма. Так і было з Бельтавым: ён нажыў і пражыў процьму; але не ўсталяваўся. Бельтаў другі раз сустрэўся з сапраўднасцю пры тых-жа ўмовах, як у канцылярыі—і зноў струсіў перад ёй. У яго не хапала таго практычнага сэнсу, які навучвае чалавека разбіць складны почырк жывых падзей: ён быў занадта раз'яднаным з навакольным светам. Прычына гэтай раз'яднанасці Бельтава зразумелая; Жазеф зрабіў з яго чалавека наогул, як Русо з Эміля; універсітэт працягваў гэта агульнае развіццё; сяброўскі гурток з пяці-шасці юнакоў, поўных марамі, поўных падзеямі, настолькі вялікімі, наколькі ім яшчэ не было вядома жыццё па-за сценамі аўдыторыі—больш і больш падтрымліваў Бельтава у коле ідэй, не ўласцівых, чужых асяроддзю, у якім яму даводзілася жыць. Урэшце дзверы школы зачыніліся і сяброўскае кола, вечнае і дамагільнае, мізарнела, мізарнела, і асталося толькі ў успамінах, або ўваскрасала пры выпадковых і непатрэбных сустрэчах, ды пры бакалах віна: адчыніліся другія дзверы, крыху з рыпеннем. Бельтаў прайшоў праз іх і апынуўся ў краіне, зусім яму невядомай, да таго чужой, што ён не мог ні да чаго прымайстравацца, ён не спачуваў нічаму ў сапраўдным жыцці, якое каля яго кіпела, ён не меў здольнасці быць добрым памешчыкам, выдатным афіцэрам, старанным чыноўнікам,—а за гэтым у сапраўднасці аставаліся толькі месцы бяздзейнікаў, ігракоў і гулякаў наогул. На гонар нашага героя, трэба прызнаць, што да апошняга саслоўя ён меў больш сімпатыі, чым да першых, ды і тут яму нельга было разыйсціся: ён быў занадта развіты, а распуста гэтых паноў занадта брудная, занадта грубая. Паваўтузіўся ён з медыцынай ды з жывапіссю, пакуціў, пагуляў, ды паехаў у чужыя краіны. Справы, само сабой разумеецца, і там яму не знайшлося. Ён займаўся бессістэмна, займаўся ўсім на свеце, здзіўляў нямецкіх спецыялістаў шматбаковасцю рускага розуму, здзіўляў французаў глыбокадумнасцю, і ў той час, як немцы і французы рабілі шмат,—ён нічога, ён траціў свой час, страляючы з пісталета ў ціры, праседжваючы да позняй начы ў рэстаранах і аддаючыся целам, душою і кашальком якой-небудзь ларэтцы. Такое жыццё не магло, урэшце, не прывесці да хваравітай патрэбы справы. Не гледзячы на тое, што сярод бачнай незанятасці Бельтаў шмат жыў і думкай і пачуццямі, ён захаваў з юнацкіх гадоў адсутнасць усякага практычнага сэнсу ў дачыненні да свайго жыцця". („Хто вінават?").

Ясна, што тут аўтар іранізуе над сваім героем, што аўтар ведае і адчувае куды больш, чым мог адчуваць яго герой. Але за іроніяй аўтара хаваецца добрае, глыбокае разуменне прычын, чаму яго герой іменна такі, а не лепшы і не горшы.

Пячорыны і Анегіны заняты выключна пытаннямі аб жанчыне,

як аб палюбоўніцы, героі Герцэна гавораць ужо пра другое—вось узор іхных гутарак:

— Чаго вы прыехалі сюды?—запытала ціхім голасам Круцыферская.

— Удзячны, душэўна ўдзячны за гэтае пытанне,—адказаў Бельтаў.

— Вядома, дзіўна,—даў заўвагу Дзімітрый Якаўлевіч,—проста незразумела, навошта людзям даюцца такія сілы і імкненні, якіх няма куды скарыстаць. Усякі звер добра прыстасаваны прыродай да пэўнай формы жыцця, а чалавек... ці не памылка тут якаянебудзь? Проста сэрцу і розуму гідка згадзіцца з магчымасцю таго, каб выдатныя сілы і імкненні даваліся людзям для таго, каб яны раз'ядалі іх уласныя грудзі. Навошта-ж гэта?

— Вы зусім правы,—з запалам запярэчыў Бельтаў.—І з гэтага пункту гледжання вы не выблытаецеся з пытання. Справа ў тым, што сілы самі сабой няспынна развіваюцца, падрыхтоўваюцца, а запатрабаванні на іх акрэсліваюцца гісторыяй. Вы, пэўна, ведаеце, што ў Маскве кожнае раніцы выходзіць натоўп працаўнікоў—падзёншчыкаў і наёмных людзей на вольнае месца: адных бяруць, яны ідуць працаваць, другія, доўга чакаўшы, унурыўшы галовы, цягнуцца дахаты, а часцей за ўсё ў карчму; вось гэтак і ва ўсіх справах чалавечых: кандыдатаў на ўсё досыць—спатрэбіцца гісторыі, яна бярэ іх; не—іхная справа, як прамаячыць жыццё. Адгэтуль гэта забаўнае á propos усіх дзеячоў. Спатрэбіліся Францыі палкаводцы—і з'явіліся Дзюмур'е, Гош, Напалеон з сваімі маршаламі... канца няма: прышлі часіны мірныя і пра ваенныя здольнасці ні слуху ні духу.

— Але што-ж робіцца з астатнімі?—запытала сумным голасам Любоў Александраўна.

— Як здарыцца: частка іх пагасне і зробіцца натоўпам, частка ідзе насяляць далёкія краіны, галеры, даваць практыку катам, разумеецца, гэта не раптам—спачатку яны робяцца тракцірнымі ўдальцамі, ігракамі, пасля, гледзячы па прызванню, турыстамі на вялікіх дарогах, або на маленькіх завулках. Здарыцца на дарозе пачуць заклік—дэкарацыі мяняюцца: разбойніка няма, а ёсць Ярмак,—пакарыцель Сібіры. Радзей за ўсё выходзяць з іх ціхія, добрыя людзі. Іх непакояць каля хатняга ачага едкія думкі. Сапраўды, дзіўныя рэчы прыходзяць у галаву чалавеку, калі ў яго няма выйсця, калі прага да дзейнасці бродзіць хваравітым пачаткам у мазгах, у сэрцы, і трэба сядзець, склаўшы рукі... А мышцы такія здаровыя, а крыві ў жылах такая процьма. Адно можа вырātаваць тады чалавека і паглынуць яго... Гэта сустрэча... сустрэча з ...“ („Хто вінават?“).

Сустрэча з жанчынай, вядома. Але Бельтавы глядзяць на жанчыну ўжо не як толькі на сродак асалоды, яны шукаюць у ёй таварыша на шляхах жыцця. Патрабуюць ад яе сілы, розуму, дапамогі. Гэта натуральна—Бельтавы адзінокія, яны бяссільныя ў балоце жыцця, варожага ім, ім неабходны разумныя, стойкія жонкі, сёстры, маткі, якія ўмелі-б выхоўваць разумных, моцных, сумленных дзяцей.

І жанчыны таго часу, калі верыць Герцэну, разумелі патрабаванні, якія да іх прад'яўляліся. Вось урывак з дзённіка Круцыферскай, жонкі таварыша Бельтава,—Бельтаў прызнаўся ў каханні і яна запісвае сваe думкі пасля гэтага.

„*20 мая.* Учора мы былі з Дзімітрыем у садзе, ён хацеў сесці на той лаўцы, я сказала, што баюся ветру з ракі, мне гэта лаўка зрабілася страшнай, мне здавалася, што для Дзімітрыя будзе знявагаю сядзець на ёй. Быццам гэта праўда, што можна кахаць дваіх? Не разумею. Можна і не дваіх, а некалькіх кахаць, але тут ігра слоў; кахаць каханнем можна аднаго, і ім я кахаю майго мужа. А пасля, я люблю Крупава і не баюся прызнацца, што і Бельтава люблю. Гэта такі моцны чалавек, што я не магу не любіць яго. Гэта чалавек, заклікaны на вялікае, надзвычайны чалавек, з яго вачэй свіцiцца геній. Тое каханне і не патрэбна такому чалавеку. Што для яго жанчына? Яна знікае ў безгранічнай душы яго.

Яму трэба каханне іншае. Ён пакутуе, глыбока пакутуе і чулае сяброўства жанчыны магло-б даць палёгку ў гэтых пакутах. Яго ён заўсёды знойдзе ва мне, ён занадта палка разумее гэтае сяброўства, ён усё палка разумее: звыш таго, ён так не прывык да ўвагі, да сімпатыі: ён заўжды быў адзінокі, душа яго, засмучоная, азлобленая, раптам страпянулася ад голасу спачуваючага. Гэта вельмі натуральна.

*23 мая.* Бываюць часам дзіўныя хвіліны нейкага неспакойнага жадання жыцця яшчэ паўнейшага. Ці няўдзячнасць гэта да лёсу, ці ўжо чалавек так устроены; а я адчуваю часта, асабліва з некатарага часу, імкненне... вельмі мудрана гэта выказаць. Я шчыра кахаю Дзімітрыя, але часам душа патрабуе нечага іншага, чаго я не знаходжу ў ім—ён такі ціхі, такі ласкавы, што я гатова раскрыць яму ўсякую мару, усякую дзяціную думку, прабягаючую па душы; ён усё ацэніць, ён не ўхмыльнецца з насмешкай, не абразіць халодным словам або вучонаю заўвагаю, але гэта не ўсё; бываюць зусім іншыя патрабаванні, душа шукае сілы, адвагі, думкі; чаму ў Дзімітрыя няма гэтай патрэбы даходзіць ісціны, мучыцца думкаю? Я, бывала, звяртаюся да яго з цяжкім пытаннем, з сумненнем, а ён мяне супакойвае, суцяшае, хоча закалыхаць, як робяць з дзецьмі, а мне зусім не таго хацелася-б... ён і сябе закалыхвае тымі-ж дзіцячымі вераваннямі, а я не магу". („Хто вінават?")

Гэта жанчына астаецца з мужам сваім, чалавекам слабым—каб не забіць яго здрадай, яна не ідзе за Бельтавым, каб не перашкаджаць яму ў дарозе, і гэта першая жанчына ў рускай літаратуры, якая робіць учынкі чалавека моцнага і самастойнага,—да яе літаратура ведала толькі палюбоўніц на розныя густы і не займалася ўнутраным светам жанчыны.

У Бельтаве, разумеецца, таксама ёсць рысы яго, аўтара, але Бельтаў—чалавек, які ўжо размаўляе з сваім прыгонным слугою, як з таварышом, ён хоча працаваць, служыць па выбарах, у яго ёсць некаторыя культурныя планы. Але вось якая карціна разгарнулася перад ім, калі ён з'явіўся ў свой горад, каб баллатыравацца:

„Цудоўны від, які ён убачыў, быў агульны, губернскі, форменны: дрэнна афарбаваная каланча, з рухавым паліцэйскім салдатам наверсе, першая кінулася ў вочы; сабор старажытнай пабудовы віднеўся з-за доўгага і, разумеецца, жоўтага будынку прысутных месц, пабудаванага ў вядомым штылі, пасля дзве-тры прыходскія царквы, з якіх кожная паказвала дзве-тры эпохі архітэктуры, старажытныя візантыйскія сцены ўпрыгожваліся грэчаскім парталам або гатычнымі вокнамі, або і тым і другім разам; пасля дом губернатара з сенцамі, упрыгожанымі жандармам і двума-трыма прасіцелямі з барадачоў, урэшце, абывацельскія дамы, зусім такія-ж як ва ўсіх нашых гарадах, з сухотнымі калонамі, прылепленымі да самай сцяны, з мезанінам, у якім не жылі зімою, ад італьянскага акна на ўсю сцяну, з флігелем, закураным, у якім змяшчаецца дворня, з стайняй, у якой захоўваюцца коні; дамы гэтыя, як водзіцца, былі куплены абыходлівымі кавалерамі на дамскія імёны; крыху наўкасяк цягнуўся гасціны двор, белы звонку, цёмны ўнутры, вечна сыры і халодны; у ім можна было ўсё знайсці— каленкоры, кісеі, пікачэты.—усё, апрача таго, што трэба купіць. Крыху расчулены карцінай, якая разгарнулася перад яго вачамі, Бельтаў закурыў сігару і сеў каля акна, на дварэ была адліга, адліга заўсёды падобна на вясну, вада капала з дахаў, па вуліцах беглі ручаі талага снегу. Быццам адчувалася, што вось і прырода аджывецца з-пад лёду і снегу,[1] але гэта так адчувалася навічку, які дарэмна спадзяваўся ў першых чыслах лютага бачыць вясну у НН; вуліца, відаць, ведала, што зноў прыдуць маразы, завірухі, і што да 15—27 мая не будзе адзнак лісця, яна не радавалася; санлівая бяздзейнасць панавала на ёй; дзве-тры брудныя бабы сядзелі каля сцяны гасцінага двара з рэзанью і ігрушамі; яны, карыстаючыся тым, што пальцы не мерзнуць, вязалі панчохі, лічылі петлі і зрэдку толькі звярталіся адна да адной, калупаючы ў зубах запалкамі, уздыхаючы, пазяхаючы, і жагнаючы рот свой. Непадалёк ад іх стары купец гадоў пад семдзесят, з сівой барадой, у высокай сабалінай шапцы, спаў салодкім сном на складным крэсле. Зрэдку сядзельцы перабягалі з крамы ў краму; некаторыя пачыналі замыкаць іх, ніхто, здаецца, нічога не купляў; нават ніхто не хадзіў па вуліцах, праўда, прайшоў квартальны надзірацель, захінуўшыся ў шынель з футровым каўняром, шпаркім дзелавым крокам, з заклапочаным выглядам і з паперай, скручанай у трубку; сядзельцы знялі з пачцівасцю шапкі, але квартальнаму было не да іх. Потым праехала нейкая каляска дзіўнай формы, падобная на тыкву, з якой выразана роўна чвэртка; тыкву гэтую вязлі чатыры пацертыя канякі; гайдук—фарэйтар і сівы зморшчкаваты кучар былі апрануты ў сярмягі, а ззаду тросся лакей у шынелі з галунамі колеру верчантык. У тыкве сядзела другая тыква—добры і тоўсты бацька сямейства і памешчык, з нейкай адмысловай ландкартай з сініх жылаў на носе і шчаках, поруч неадлучная спадарожніца яго жыцця, непадобная на тыкву, а хутчэй на стручок перцу, схаваны ў нейкі тафтавы шалаш, надзеты замест шляпкі, насупроць іх прыемны букет з вясковых трох грацый, пэўна, салодкая надзея матанькі і татачкі, салодкая, але перапаўняючая клопатамі іхныя чулыя

сэрцы. Праехаў і гэты рухавы агарод... зноў настала цішыня... раптам з завулка пачулася заліхвацкая руская песня і праз хв'ліну трое бурлакоў, у кароценькіх чырвоных рубашках, з паўпрыгожванымі капялюшамі, з атлетычнымі формамі і з тым удальствам у твары, якое мы ўсе ведаем, выйшлі абняўшыся на вуліцу; у аднаго была балалайка, не столькі для музычнага тону, колькі для тону наогул, бурлак з балалайкай ледзь стрымліваў свае ногі; відаць было, па рухах плечаў, што яму хочацца пусціцца ў прысядкі—за чым-жа справа? А вось за чым: з-пад зямлі, ці што, або з-пад арак гасцінага двара з'явіўся нейкі хаджалы або будачнік з кіёчкам у руках і песня, што абудзіла на хвіліну нудную дрымоту, адразу падрэзаная, сціхла, толькі балалайка паказаў палец будачніку; паважаны ахоўвальнік цішыні горда накіраваўся пад арку, як павук, які варочаецца ў цёмны куток, закусіўшы мушынымі мазгамі. Тут цішыня яшчэ больш усталявалася, пачало змяркацца. Бельтаў падглядзеў—і зрабілася страшна, яго душыла чугуннай плітой, яму яўным чынам не хапала паветра для дыхання, магчыма, ад падгарэлага масла з тытуном, які праходзіў з ніжняга паверху. Ён схапіў свой картуз, апрануў паліто, запёр за сабой дзверы і выйшаў на вуліцу. Горад быў невялікі, і прайсці яго з канца ў канец было не цяжка. Тая-ж пустэча ўсюды; разумеецца, яму і тут трапляліся часам людзі; змардаваная работніца з каромыслам на плячы, босая і зусім знясіленая, падымалася на гару па галаледзіцы, задыхаючыся і спыняючыся, тоўсты і ветлівы з выгляду поп, у хатнім падрасніку, сядзеў перад варотамі і пазіраў на яе; трапляліся, яшчэ або доўгалыгія пад'ячыя, або тоўсты саветнік,—і ўсё гэта было так зашмальцавана, дрэнна апранута, не ад беднасці, а ад неахайнасці, і ўсё гэта ішло з такой прэтэнзіяй, так не проста: тытулярны саветнік ступаў так важна, як быццам ён сенатар рымскі... а калежскі рэгістратар, быццам ён тытулярны саветнік; праімчаўся яшчэ на санках паліцмейстар; ён з найвялікшай грацыяй кланяўся саветнікам, паказваючы заклапочана на паперу, прасунутую паміж пятліц—гэта значыла, што ён едзе з *дзённым* да яго правасхадзіцельства... Прайшлі ўрэшце дзве тоўстыя купчыхі, кухарка несла за імі венікі і клунак; чырвоныя шчокі даводзілі, што венікі не дарэмна былі ўзяты. Больш ніякіх сустрэч не было.

— Што значыць гэта цішыня,—падумаў Бельтаў,—глыбокую думу або глыбокую бяздумнасць, сум, або проста лянoту?—Не зразумееш.— І чаму мне гэта цішыня такая цяжкая, што хоць-бы завярнуць аглоблі? Чаму яна мяне так душыць? Я люблю цішыню. Цішыня на моры, на вёсцы, нават проста на полі, на роўным, бягучым у далячынь полі, напаўняе мяне асаблівай паэтычнай пабожнасцю, ціхім самазабыццем. Тут не тое. Там—шыр з гэтай маўклівасцю, а тут усё душыць, а тут цесна, дробна, вакол жалкія будыніны, яшчэ каб руіны, а то пафарбаваныя, падбеленыя, ды дзе-ж жыхары? Прыступам, ці што ўзялі ўчора гэты горад, мор, ці што наведаў яго? Нічога такога не было: жыхары дома, жыхары адпачываюць, ды калі-ж яны працавалі?.. І Бельтаў мімаволі пераносіўся ў шумлівыя, кіпячыя народам вуліцы іншых гарадкоў, не на гэтулькі патрыярхальных і больш адданых мітусні мірскай. Ён пачаў адчуваць тую няёмкасць,

якая звычайна суправаджае кожны крок у жыцці, асабліва калі мы пачынаем усведамляць яго, і тужліва накіраваўся дахаты. Калі ён падыходзіў да гасцініцы, густы працяглы гук звона пачуўся з падгараднага манастыра, у гэтым звоне прыгадалася Владзіміру нешта даўно мінулае, ён пайшоў быў на звон, але раптам усміхнуўся, паківаў галавой і хуткімі крокамі накіраваўся дамоў. Бедная ахвяра стагоддзя, поўнага сумненнем, не ў НН табе знайсці спакой!" („Хто вінават?").

Дзе ўжо тут, у гэтым ціхім балоце, культуру сеяць! І Бельтаў павінен быў або ўвайсці ў гурток петрашэўцаў, або стаць у рады эмігрантаў, якія толькі што пачалі тады паход на Еўропу, паход, які працягваецца па сёнешні дзень.

Захапляючыся прыродазнаўчымі навукамі, мы адразу даходзім да нігілізма, у жаночым пытанні—да распусты, скотства, у народніцтве—да таго, што літаратар, сядаючы за стол пісаць апавяданне з мужыцкага жыцця, надзяе палатняныя парткі і лапці, як гэта рабілі Мачцет і Нефедаў. Усё гэта вельмі смешна з выгляду, але надзвычай значна і горка па сутнасці, бо сведчыць пра свежасць мозгу, які хутка схоплівае ўсё каштоўнае, не ўказвае на яго здольнасць грунтоўна перапрацоўваць узятае, не гаворыць пра ўменне карыстацца чужым вопытам у сваіх справах і наогул прымушае сумнявацца ў сіле рускага чалавека, як работніка, творцы жыцця.

... Чым-жа аднак тлумачыцца гэта дзіўная і сумная асаблівасць характару рускага чалавека? Чаму ён, кідаючыся з боку ў бок, любіць усюды станавіцца на самыя крайнія пункты?

На гэта вельмі добра адказвае А. І. Герцэн, чалавек, якому мы можам паверыць—ён дастаткова разумны і свядомы, і праўдзівы.

Ён гаворыць, маючы на ўвазе сябе і сваё пакаленне: „Мы разумная непатрэбшчына, мы стаім па-за народнымі патрэбамі". Так гэта і было:

„Разумная" таму, што яна ўсвядоміла і не пабаялася выказаць страшную праўду: „непатрэбшчына"—таму, што гэта простая перафраза выразу „па за народнымі патрэбамі"... Ды і што такое, так вядомы ў Расіі тып рускага „лішняга чалавека", як не тып той-жа „разумнай непатрэбшчыны"? *) Прачытайце наступныя радкі з XXVIII раздзела „Былога і дум".

„Ці зразумеюць, ці ацэняць будучыя людзі ўвесь жах, увесь трагічны бок нашага існавання?.. Ці зразумеюць яны, чаму мы гультаі, чаму шукаем усякіх асалод, п'ем віно і інш.?.. Чаму ў хвіліну захаплення не забываем тугі?.. О, хай яны спыняцца з думкаю і з сумам перад камнямі, пад якімі мы заснем; мы заслужылі іх сум..."

Расказаўшы пра адзін артыкул, надрукаваны ў „Отечественных записках" з повада „Мёртвых душ", Герцэн пісаў:

„Перачытванне радкоў задушыла мяне нейкай бязвыходнай тугой: Русь так жыва ўявілася мне, сучаснае пытанне так хвара-

*) Апошнія дзве фразы ўзяты Горкім з кнігі В. Багучарскага „З мінулага рускага грамадства". Пб. 1904.

віта паўтаралася, што я гатовы быў рыдаць. Доўгі сон, цяжкі. *За што мы прачнуліся*,—спаць-бы сабе, спаць, як *усё навокал!*".

Але паглядзім—хто быў Герцэн?*)

Мы павінны магчыма падрабязней спыніцца на жыцці і дзейнасці Герцэна—яго значэнне ў гісторыі рускага грамадства і рускай думкі вялізнае і да гэтага часу яшчэ не ацэнена поўнасцю, ва ўсёй шырыні і глыбіні.

Герцэн—першы рускі мысліцель, да яго ніхто не глядзеў так шматбакова і глыбока на рускае жыццё. Яго розум—розум, выключны па сіле, як яго мова выключная па прыгожасці і блеску. Падамо для прыкладу хаця б наступныя радкі, напісаныя 59 г. назад:

„Уся наша адукацыя, наша літаратурнае і навуковае развіццё, наша любоў да прыгожага, нашы заняткі маюць на ўвазе асяроддзе, якое пастаянна расчышчаецца *другімі*, падрыхтоўваецца *другімі*; патрэбна чыясьці праца для таго, каб нам даць адпачынак, тую дзейную незанятасць, якая садзейнічае мысліцелю з'асяроджвацца, паэту марыць, эпікурэйцу атрымліваць асалоду, якая садзейнічае пышнаму, капрызнаму, паэтычнаму, багатаму развіццю нашых арыстакратычных індывідуальнасцей.

Хто не ведае, якую свежасць духу надае бесклапотны дастатак... беднасць страшна калечыць душу чалавека,—не меней за багацце. Клопаты пра адны матэрыяльныя патрэбы забіваюць здольнасці. А хіба дастатак можа быць даступны ўсім пры сучаснай грамадзянскай форме?.. Наша цывілізацыя—цывілізацыя меншасці, яна толькі магчыма пры большасці чорнарабочых.

...Арыстакратыя—наогул больш або менш адукаваная антропафагія,—каннібал, які б'е свайго нявольніка, памешчык, які бярэ страшны процант з зямлі, фабрыкант, які багацее за кошт свайго работніка,—складаюць толькі адгаліненне аднаго і таго-ж людаедства. Хаця я гатоў абараняць і самую грубую антропафагію, калі адзін чалавек сябе разглядае як ежу, а другі хоча з'есці,—хай есць; яны варты таго, адзін каб быць людаедам, другі, каб быць ежай... Работнік не хоча болей працаваць на другога—вось вам і канец антропафагіі, вось граніца арыстакратыі. Уся справа стала цяпер за тым, што работнік не падлічыў сваіх сіл, сяляне адсталі ў сваёй адукацыі, калі яны працягнуць адзін аднаму рукі, тады вы развітаецеся з вашым спачынам, з вашай раскошаю, з вашай цывілізацыяй, тады скончыцца паглынанне большасці на выпрацоўванне светлага і раскошнага жыцця для меншасці. У ідэі цяпер ужо скончана эксплаатацыя чалавека чалавекам, скончана таму, што ніхто не лічыць гэтыя адносіны справядлівымі". („З таго берага").

Герцэн першы ў 40-х гадах у сваім апавяданні „Сарока зладзейка"—смела выказаўся супроць прыгоннага права, да яго руская літаратура паказвала селяніна такім, як у „Запісках Паляўнічага", г. зн., што нібы ён не паддаецца прыгнёту рабства,—Герцэн сказаў—няпраўда!

---

*) Далей М. Горкі падае рад старонак з артыкула В. Багучарскага „Александр ванавіч Герцэн", у яго кнізе „З мінулага рускага грамадства" Пб. 1904 г., які мы тут апускаем.

Ён першы рэзка паставіў пытанне пра становішча жанчыны ў сваім рамане „Хто вінават?“, гэта яго ідэі развівалі пасля Тургенеў, Аўдзееў, Марко Ваўчок і іншыя.

У Герцэне заключаецца ўвесь Міхайлоўскі, Герцэн даў асноўныя пасылкі народніцтва—на працягу цэлых пяцідзесяці гадоў рускае грамадства не выдумала ні адной думкі, незнаёмай гэтаму чалавеку.

Ён становіць сабой цэлую галіну, краіну, здзіўляючую, багатую думкамі.

Грунтуючыся на яго творах, даводзілі самыя супярэчлівыя палажэнні: кансерватары—сцвярджалі не раз, што Герцэн—кансерватар, славянафілы прызнаюць яго сваім, соцыялісты называюць першым рускім соцыялістам, і яшчэ нядаўна—у бягучым годзе Русанаў*), супрацоўнік „Русского Богатства“, даводзіў і давёў (?), што Герцэн з'яўляецца вынаходнікам рускага соцыялізма—такі багаты і поўны ведамі гэты чалавек.

Для нас ён цікавы, як нейкая праўдзівая думка, якая на працягу амаль сарака гадоў адзначала і ацэньвала ўсе рознастайныя з'явы рускага жыцця.

Галоўным чынам, ён цікавы нам, як чалавек, які, зразумеўшы сумную здольнасць псіхікі рускага чалавека захапляцца крайнасцямі і калечыць рэчаіснасць—усё жыццё паказваў на шкоднасць гэтай здольнасці, усё жыццё, не шкадуючы сябе, змагаўся з ёю.

Таму я кажу, што мы павінны спыніцца на жыцці і працы Герцэна як магчыма падрабязней. Жыццё і дзейнасць за мяжой Герцэна рознастайнае і складанае, нам давядзецца гаварыць пра яго не аднойчы, тут-жа мы акрэслім яго коратка**).

... Славянафілы—вясковыя жыхары, яны з маленства выхоўваліся ў памесцях бацькоў, пад уражаннямі аднастайнага жыцця пасіўных людзей, аднастайнай працы сялян, чым да пэўнай ступені і тлумачыцца патрыярхальнасць іхных поглядаў, іхняя любоў да вясковай Расіі.

Заходнікі, па крайняй меры такія людзі з іх як Герцэн, Бакунін, Огарэў, Граноўскі і г. д.—усе нарадзіліся і выраслі ў гарадах, пераважна ў Маскве.

Як ні мала ў той час адрознівалася жыццё дваранства гарадскога ад жыцця вясковых памешчыкаў, аднак розніца была і вядома, яна рабіла ўплыў на псіхіку дзяцей горада. Калі ўзяць дзіцячыя ўспаміны Аксакава і Герцэна, мы ясна ўбачым з іх, наколькі кола інтарэсаў першага вузей інтарэсаў апошняга. Узяўшы юнацкія пісьмы славянафілаў і заходнікаў—мы ўбачым тое-ж самае. Прашу заўважыць, што справу нельга зводзіць да розніцы псіхік, мы гаворым пра колькасную розніцу ўражанняў, пад уплывам якіх стварылася гэта розніца.

*) М. Горкі мае на ўвазе артыкул Н. С. Русанава „Западный социализм“ и „Русский социализм“ Герцена—„Русское Богатство“ 1909 г. № 7 і 8.

**) Далей М. Горкі падае рад старонак з першых раздзелаў часткі другой—„Герцен за границей“—кнігі Ч. Ветрынскага „Герцен“. Пб. 1908 г. Пасля гэтага ў рукапісу яўна адсутнічае рад старонак, прысвечаных Герцэну.

Герцэн характарызуе сваіх сяброў так: шырокі погляд, чалавечыя сімпатыі, цёплае сяброўства, добрадушнасць, а фон усяму—слабы характар.

Гэта праўда—слабахарактарнасць была адрозніваючай адзнакай усіх членаў гуртка Герцэна, гэтая слабахарактарнасць каранілася ў неадпаведнасці таго, пра што гаварылі, з тым, што прымушаны былі рабіць. Справа ў тым, што, як гаворыць разумная жанчына Тацьяна Пасек у сваіх успамінах пра той час,—тады ўсе „любілі народ, але ў сутнасці цвёрда верылі, што плебей ніколі не быў рымлянінам і не будзе ім".

Словы „любілі народ" мы павінны перавесці на больш простую мову, тады яны будуць гучэць так: цмяна адчувалі, што без дапамогі з боку дэмакратыі ім, арыстакратам, не вырвацца з жалезных кіпцюроў двуглавага арла, не выдрапацца з-пад цяжару нікалаевага рэжыма. У той-жа час яны ясна бачылі, што народ, сялянства, варожыя ім, што яно не можа забыць бізуноў і розгаў, і, марачы пра волю, марыць аб знішчэнні дваранства, класа, які ўжо стварыў цэлую культуру і працягваў ствараць яе. Адсюль, з гэтай супярэчнасці, і развілася драма рускага інтэлігента, на гэтай глебе вырас славуты тып каючагася двараніна, і тут-жа караняцца асноўныя рысы псіхікі інтэлігента, сучаснага нам.

Цяпер неабходна спыніцца яшчэ на адным месцы, адкуль з'явіўся „новы чалавек",—апрача мяшчанства і духавенства яго выпіхнулі з свайго асяроддзя дробнапамесныя дваране.

Заўсёды бывае так, што час найбольшай спеласці—з'яўляецца пачаткам увядання і распаду: 30—40 гады былі гадамі поўнага росквіту, яны-ж з'яўляюцца пачаткам эканамічнага заняпаду і псіхічнага разлажэння дваранства, як класа. Тур[геневы], Талст[ыя], Панаевы, Гэрцэны і інш. прапаведнікі гуманізма, хрысталюбівай маралі роўнасці пана і раба, апосталы цярплівасці і ціхамірнасці—астаючыся па інстынкту дваранамі, па ідэях сваіх з'явіліся ўжо нечым іншым, нейкімі здраднікамі тэндэнцыям класа свайго. Сапраўдныя кандовыя дваране, як сведчыць Шчэдрын,—думалі і адчувалі інакш.

Тургенеў амаль не закранае мужыка цяглавага, сапраўднага земляроба,—ён пераважна паказвае былых дваровых, розных людзей, якія адкалоліся ад гаспадаркі, або фігуры накшталт Хора—практыкаў, індывідуалістаў, пасля у 80-х гадах аблюбаваных Эртэлем і ўсхваленых ім.

Чалавек масы, бунтуючы мужык астаўся ў Тургенева ў баку. „Запіскі паляўнічага"—мірныя, ідылічныя малюнкі, ні слова горачы у іх не сказана, ніводнай гнеўнай ноты не чуваць.

А паміж тым задоўга да гэтых апавяданняў Герцэн пісаў у сваім дзённіку:

„На днях выканаў даўнішняе жаданне, ездзіў у Васільеўскае. Апошні раз я быў там у 1830 г. Па дарозе туды пачуў вестку пра ліпеньскую рэволюцыю—і так трынаццаць год. Васільеўскае цесна звязана з маленствам і отрацтвам; з 1842 г. усякае лета, або праз лета я праводзіў там месяцы. У Маскве вучэнне, таварышы, дзіцячая мітусня; у Васільеўскае я прыязджаў нібы для адпачынку, для справаздачы, і таму памяць пра гэтае месца ўплецена ва ўсе ўс-

паміны. У мяне прабегла нейкае дзіўнае пачуццё, калі я ўбачыў, пазнаў даўно знаёмыя месцы, мне хацелася і смяяцца і заплакаць. І апрача ўсяго прыгожае месца. Шкада, што яно прададзена. Я разумею арыстакратычнае пачуцце прывязанасці да валодання месцам. Розныя фазы жыцця жыва прамільгнулі: вось дрэва, дзе я сядзеў дзіцем, вось дарога, па якой юнаком я хадзіў да сельскай красуні і траціў на лёгкую інтрыгу вялізную энергію, не ацэненую, разумеецца. Сустрэў гарбатую папову работніцу, якая ў час оны была ўжо гадоў 70; адзін мужык пазнаў мяне. Тая-ж рака, гарыстыя берагі, абшырныя віды, мне шкада было ехаць, а толькі пры гэтай рацэ, пры гэтых ліпавых алеях магу ярка перанесціся ў тыя часы, калі ўсё жыццё ляжала наперадзе і на душы ўсё было страката і зелена“ („Дзеннік“).

Той-жа Герцэн у 1846 г. расказаў патрасаючую гісторыю прыгоннай актрысы, затраўленай і замучанай барынам, а праз год у сваім творы „Запіскі доктара Крупава“ так едка абрысаваў прыгоннае права.

„Працягваючы мае назіранні, я знайшоў, што паміж сабою нярэдка звар'яцелыя прызнаюць адзін аднаго, гэта ўжо бліжэй да грамадзянскай звычайнай упарадкаванасці. Так у V палаце жылі 8 чалавек лёгка звар'яцелых у вялікім сяброўстве. Адзін з іх звар'яцеў на тым, што ён звыш сваёй порцыі мае прызванне есці на поўпорцыі ў сваіх таварышоў, абгрунтоўваючы вельмі смешна свае правы тым, што яго бацька памёр ад аб'ядзення, а дзед абпіўся. Ён так упэўніў сваіх таварышоў, што ніводзін з іх не адважваўся есці сваёй порцыі, не аддаўшы яму лепшай часткі, не адважваўся яе ўзяць крадком, баючыся ўгрызення сумлення. Калі-ж зрэдку хто-небудзь з дзёрзкіх скептыкаў утойваў кавалак, ён горда выкрываў злачынца і шэсць астатніх гатовы былі натузаць злодзея; ён называў яго злодзеем, сквапнікам, і галава гэтай абшчыны да таго дабрадушна верыў у свае права, што, не маючы магчымасці з'ядаць усё набранае, з вялізнай важнасцю ўзнагароджваў абраннікаў іхняй-жа ежай, і ўзнагароджаны ліў слёзы расчулення, а астатнія слёзы зайздрасці“. („Доктар Крупаў“).

А вось як ён апісвае горад:

„Гарадок наш наогул арыгінальны, гэта губернскае праўленне, абросшае рознымі дамамі і жыхарамі, сабраўшыміся каля прысутных месц, ён тым адрозніваецца ад другіх гарадоў, што ён узнік, уласна, для задавальнення і карысці начальства. Начальства склала сутнасць, цвет, корань і плод горада. Астатнія жыхары—як купцы, мяшчане—больш былі для парадку, бо нельга-ж быць гораду без купцоў і мяшчан. Усе атрымалі сэнс толькі ў адносінах да начальства (і да водкупу, між іншым); масцеравыя, напр. краўцы, шаўцы, шылі чыноўнікам фракі і боты; утрымальнік тракціра меў для іх більярд. Іншыя, нясхлужачыя ў горадзе, займаліся выключна стварэннем тых сродкаў, на якія чыноўнікі заказвалі фракі, боты і пацяшаліся на більярдзе.

У нашым горадзе лічылася 5000 жыхароў; з іх чалавек дзвесці былі ўвергнуты ў нясцерпную нуду ад адсутнасці ўсякага занятку, а чатыры тысячы семсот увергнуты ў нясцерпную дзейнасць ад

адсутнасці ўсякага спачыну. Тыя, каторыя дзень і ноч працавалі, не выпрацоўвалі нічога, а тыя, каторыя нічога не рабілі, бесперапынна выпрацоўвалі і вельмі многа". („Доктар Крупаў").

Як бачыце, у часы Тургенева былі і больш вызначаныя і больш адкрытыя адносіны да прыгоннага права.

Тургенеў наогул недалюбліваў лятуценнікаў, ён любіў супроцьпаставіць лятуценнікаў—практыкам, Калініча—Хору, Незнамава—Саломіну,—мы і тут (у „Рудзіне") бачым яго спробу сканфузіць лятуценніка—асоба паводле тых часоў патрэбная і важная. Не гледзячы на ўсе змякчаючыя віну акалічнасці, не гледзячы на заезд у Парыж і смерць на барыкадзе—Рудзін пастаўлены перад намі чалавекам бяссільным, прыдушаным жыццём, пераможаным, не пакінуўшым у ёй знаку.

Ці справядліва гэта? Мне думаецца—не, несправядліва. Прыняўшы пад увагу ўсе умовы часу—і прыгнёт ураду, і разумовае бяссілле грамадства, і адсутнасць у масах сялянства ўсведамлення сваіх задач—мы павінны будзем прызнаць, што лятуценнік Рудзін—паводле тых часоў быў чалавекам больш карысным, чым практык, дзеяч.

Лятуценнік—ён з'яўляўся прапагандыстам ідэй рэвалюцыйных, ён быў крытыкам рэчаіснасці, ён, так сказаць, араў цаліну, а што па таму часу мог зрабіць практык? Не, Рудзін асоба не жалкая, як прынята да яго ставіцца, гэта няшчасны чалавек, але—гэта і Бакунін, і Герцэн, і часткова сам Тургенеў, а гэтыя людзі, вы ведаеце, не дарма пражылі сваё жыццё і пакінулі для нас выдатную спадчыну.

Ніхто, апрача Герцэна, не разумеў, што стагоддзямі накопленая пагарда да чалавечай асобы, створаная рабствам,—неабходна павінна была выклікаць барацьбу за індывідуальнасць, за свабоду асобы перш за ўсё, але Герцэн глядзеў на асобу, іменна як на сілу арганізуючую, ён не вырываў яе з соцыяльнага асяроддзя, усёткі некаторыя ідэолагі або зусім адрывалі яе з глебы гісторыі, або прыносілі яе ў ахвяру грамадству.

... У літаратуры—усе, пачынаючы з Шчэдрына і канчаючы Пісемскім, Лесковым пачалі паход супроць нігілістаў, прычым, вядома, аплявухі даставаліся больш невінаватым, чым вінаватым, і горш за ўсё тое, што пісарэўшчына, якая разгарнулася гэтак ярка, гэтак пагражаюча—анархічна, павінна была выклікаць—як рэакцыю супроць сябе—другую крайнасць і, вядома, выклікала яе ў асобе рускага кансерватара.

Паслухаем Герцэна, які найбольш ясна зразумеў усю шкоднасць нігілізма:

„Артыкул гэты пацвярджае мой пункт гледжання. У сваёй аднабаковасці ён правільней і выдатней, чым пра яго думалі яго супраціўнікі.

Ці правільна зразумеў Пісарэў тургенеўскага Базарава, да гэтага мне справы няма. Важна тое, што ён у Базараве пазнаў *сябе і сваіх* і дадаў, чаго не ставала ў кнізе. Чым Пісарэў менш трымаўся калодак, у якія разгневаны бацька стараўся ўбіць упартага сына, тым вальней перанёс на яго свой ідэал.

... У тым то і справа, што гэта не яго асабісты ідэал, які *да* тургенеўскага Базарава і пасля *яго* насіўся ў маладым пакаленні і ўвасабляўся не толькі ў розных героях аповесцей і раманаў, але і ў жывыя асобы, якія стараліся прыняць у аснову дзеянняў і слоў сваіх базараўшчыну. Тое, што Пісарэў гаворыць, я чуў і бачыў дзесяць разоў: ён простадушна выказаў задушэўную думку цэлага кола людзей і, сабраўшы ў адным фокусе рассеяныя прамені, асвятліў імі нармальнага Базарава.

... Супрацоўнікі Пісарэва спалохаліся яго неасцярожнасці; адракаючыся ад тургенеўскага Базарава, як ад шаржы, яны адмахваліся яшчэ болей ад „преображенного" двайніка: ім было непрыемна, што Пісарэў апроставалосіўся, але гэта не азначае, што ён яго няправільна зразумеў.

Пісарэў ведае сэрца свайго Базарава да тла, ён спавядаецца за яго.

... Стомленыя, сумуючыя людзі замяняюцца людзьмі, якія імкнуцца да справы,—жыццё бракуе абаіх, як непрыгодных і не поўных.

... Адмоўная карысць, якую яны прыносяць, не выклікае сумнення. Яны размнажаюць людзей, *няздольных* да практычнай дзейнасці, або, вярней, тыя формы, у якіх яна звычайна выражаецца цяпер, паступова, але пастаянна паніжаецца ў вачах грамадства". („Яшчэ раз Базараў").

Гаворачы ўсё гэта, Герцэн не мог сказаць аднаго, самага галоўнага, чаго ён яшчэ не бачыў і не мог бачыць, а іменна: сярод нігілістаў Базаравых нараджаліся і раслі мяшчане Молатавы, людзі, якія самі сябе характарызуюць так*):

„Подласці я ніякай не зрабіў,—думае Молатаў,—але мне ўсёткі сумна і сорамна быць толькі не машэннікам. Дакараць я сябе ні за што не магу, але і радавацца і ганарыцца мне няма чым. Маладым дзеячам, каторым, быць можа, удасца зрабіць падвіг *станоўчай* сумленнасці і актыўнай любові, я скажу толькі: сябры мае, не асуджайце мяне строга. Не лічыце мяне за тунеядца і раба лянівага, які закапаў свой талент у зямлю. Разгледзьце ўважліва маё жыццё, пастаўце *сябе на маё месца*, узважце ўсё,—і памеры маіх сіл, і акалічнасці, і разуменні маіх сучаснікаў—і тады вы чаго добрага скажаце, што я зрабіў усё, што мог зрабіць. І тады вы можа быць з сяброўскім пачуццем пацісне́це маю руку за тое, што я заўсёды еў хлеб, запрацаваны ўласнай працай. Праца мая рэдка прыносіла карысць грамадству, дык што-ж з гэтым рабіць? Адкуль узяць такую працу, якая была-б сапраўды карыснай? Стаць напрыклад на вуліцы рамізнік. Кожная капейка дастаецца яму цяжкай і сумленнай працай. Каб прывезці вечарам дамоў якіх-небудзь два цалковых, колькі ён за дзень нацярпіцца і ад снегу, і ад пылу, і ад дажджу, і ад ветру, і ад марозу! А хіба праца яго сапраўды карысна для грамадства? Хіба ўсе канцы, зробленыя рамізнікам, сапраўды былі неабходнымі? Хіба сілы каня і чалавека не траці-

*) Далей М. Горкі цытуе артыкул пра Памялоўскага Д. Пісарэва—„Роман кисейной девушки".

ліся ў большай частцы на тое, каб вазіць гультаяватых шалапаяў да другіх гультаяватых шалапаяў, якія зусім не жадаюць іх бачыць і якія тым не менш лічаць за свой абавязак выяўляць у падобных выпадках няшчырую радасць, няздольную ашукаць нават маленькіх дзяцей?— А рамізнік-жа тут нічым не вінаваты.—Вось і я,—працягвае Молатаў,—быў пастаянна такім-жа рамізнікам. Тытан, геній, моцны талент прабілі-б сабе дарогу да агульнакарыснай працы. Але я—не геній, не тытан, нават не моцны талент. Я не магу і ніколі не мог сказаць людзям такое слова, якое прымусіла-б іх глыбока задумацца або ачнуцца ад глыбокага сну. Я проста не дурны і таму не подлы чалавек. І прашу я вас, маладыя дзеячы, толькі аб адным: пастаўце мяне ў вашых вачах не вышэй і не ніжэй за таго рамізніка, каторы возіць шалапаяў, але не гледзячы на тое, абыходзіцца зусім сумленна і з гаспадаром, і з седакамі, і з канём. За героя я сябе не лічу, на п'едэстал не лезу, але павагай разумных і сумленных людзей даражу".

Чалавек стварыў сваю вартасць—і бачыў, і адчуваў на кожным кроку, што яго асоба не свабодная, што яе правы—не прызнаюцца ўладай, якая камандуе ўсім жыццём рускага чалавека.

Ён усвядоміў неабходнасць змагацца за свабоду свае асобы і— ясна ўсведамляў, што ён адзінокі, яму няма на каго аперціся ў барацьбе.

Будучы чалавекам разумным, ён адчуваў сябе „разумнай непатрэбшчынай".

Ён ясна разумеў, што прыгоннае права губіць краіну і—сам уладаў рабамі.

Яго жыццё, яго псіхіка—поўная супярэчнасцей. Ён хапаецца за ўсё, што можа, на яго думку, адказаць яму на наканаванае пытанне „што рабіць?"—з яго вырастае „рыцар на гадзіну".

... І так з'явіліся „лішнія людзі", „разумныя непатрэбы".

Але—у гэтых тэрмінах аматары крайнасці пераступілі, так сказаць, граніцу самаадмаўлення. Яны-ж былі разумныя—а калі-ж разумнае—не трэба? Ды яшчэ ў нашай краіне галавацяпаў?

Памятаючы гістарычную наследвальнасць ідэі, мы павінны сказаць, што рускае барства залажыла аснову нашай культуры, унесла ў ужытак рускага грамадства найболей прагрэсіўныя навуковыя і палітычныя ідэі захаду—аж да соцыялізма, першымі прапагандыстамі якога з'явіліся Герцэн і яго гурток. Барства пакінула народжанаму інтэлігенту разначынцу цудоўную спадчыну, лепшая частка якой складалася з багатай літаратуры па народазнаўству і з цудоўна распрацаванага вучэння пра каштоўнасць асобы— у краіне рабоў гэта вучэнне неабходна павінна было з'явіцца, і фармуляваў яго Герцэн...

... Тут пастаноўка пытання не індывідуалістычная—асоба з яе законнымі правамі на свабоду не супроцьстаўляецца грамадству; грамадства не прыносіцца ў ахвяру індывідууму, але і чалавек не павінен быць ахвярай...

Гэтае вучэнне мае корні свае ў кнігах Фур'е, С.-Сімона і іншых соцыялістаў, якія займаліся вырашэннем задачы аб тым, як злу-

чыць гарманічныя інтарэсы грамадства і асобы, рэзка варожыя ў сучаснай дзяржаве, аснаванай на барацьбе ўсіх з усімі?

Вырашэнне пытання Герцэнам не можа задаволіць нас, ды ён, па сутнасці, і не вырашыў яго, а толькі паставіў, і паставіў зусім правільна.

Пытанне вырашылі Крапоткін і Талстой—у сэнсе анархізма, Пісарэў—у сэнсе крайняга індывідуалізма і поўнай свабоды асобы, Лаўроў, Міхайлоўскі і Карэеў, бачачы да чаго прыводзіць пісарэўшчына,—хацелі паправіць справу—і канчаткова заблыталі яе. Паводле іх вучэння роля асобы зводзіцца да ролі пастуха, падпарадкаванага настроям featureразнастайнага гурту, у якім качкі, гусі, куры, авечкі, быкі, казлы, дапускаецца, маюць зусім аднолькавыя патрэбы і ўласцівасці і—пазбаўлены эгаістычных тэндэнцый.

Такім чынам—„лішнія людзі", „разумныя непатрэбы" зыйшлі са сцэны, як пра гэта празваніў „Колокол" Герцэна яшчэ ў 59 г.

„... Анегіны і Пячорыны былі зусім іншыя, выражалі сапраўдную жальбу і разарванасць тагочаснага рускага жыцця. Сумны тып *лішняга*, згубленага чалавека—толькі таму, што ён развіўся ў *чалавека*, з'яўляўся тады не толькі ў паэмах і раманах, але на вуліцах і ў гасцінных, у вёсках і гарадах...

Але час Анегіных і Пячорыных прайшоў. Цяпер у Расіі няма *лішніх* людзей, цяпер, наадварот, на нашае вялізнае ворыва не хапае рук. Хто цяпер не знойдзе справы, таму наракаць няма на каго, той на самай справе *пусты* чалавек, свішч або гультай" („Колокол", 1859, ліст 44).

Месца барына ў рускай літаратуры заступіў разначынец...

---

*Я. Шарахоўскі*

# МАЯКОЎСКІ НА ТРЫБУНЕ

У адзін з зімовых вечароў 1930 г. была ярка асветлена актавая зала Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. Уся зала, уключаючы прамежак за белымі калонамі, была біткам набіта студэнтамі. У гэты вечар тут павінен быў выступаць В. В. Маякоўскі.

Гэта было пасля таго, як Маякоўскім была наладжана выстаўка твораў, прысвечаная дваццацігоддзю яго літаратурнай дзейнасці. Да таго часу, будучы студэнтам універсітэта, я ўжо некалькі разоў бачыў Маякоўскага і чуў яго выступленні. Ва універсітэце пра Маякоўскага тады шмат гаварылі і мяне вельмі цікавіла вялікая праграма яго новых вершаў, абвешчаная ў афішы, але я не чакаў, што вечар ва універсітэце будзе нейкім асаблівым, па асабліваму змястоўным, зусім не падобным на звычайныя платныя выступленні паэтаў.

Трэба сказаць, што універсітэт у тыя гады быў своеасаблівым літаратурным цэнтрам. Ва універсітэце часта рабіла свае творчыя паседжанні ленінградская група „Смена“, у самім універсітэце была досыць актыўная група паэтаў і пісьменнікаў, частка з каторых, як—А. Гітовіч, Б. Ліхараў, Г. Гор і цяпер працуюць у літаратуры. Некаторыя з іх ужо тады мелі зборнікі, або проста друкаваліся, спрабавалі на гэтай падставе хадзіць у геніях, насілі адпаведную „паэтычную“ вопратку, у манерах і паводзінах разыгрывалі біяграфіі вядомых паэтаў. Усё гэта, вядома, былі захапленні маладосці. Аўдыторыю для рознага роду літаратурных сходаў даваў пераважна шматлюдны літаратурны факультэт. На гэтых літаратурных сходах вяліся вельмі ажыўленыя спрэчкі пра літаратурныя напрамкі, школы, пра спосабы работы над мастацкім словам. У спрэчках найбольш часта ўспаміналіся і супроцьстаўліліся імёны Маякоўскага і Есеніна. Шмат яшчэ, праўда, гаварылі пра Веліміра Хлебнікава, галоўным чынам у плане наватарскіх пошукаў, у плане лабараторнай работы над словам.

Супроцьстаўленне Маякоўскага і Есеніна вядома было не выпадковым, бо гэта і сапраўды процілеглыя паэтычныя сістэмы. Ва універсітэце сярод паэтычнай моладзі былі есенінскія эпігоны, якіх, трэба сказаць, досыць жорстка білі на літаратурных сходах. Часы ўплыву Есеніна ў тым ліку і на вузаўскую моладзь прайшлі і наследванне яму лічылася ў універсітэцкай літаратурнай групе, мякка кажучы, дрэнным літаратурным густам. Пра такіх паэтаў звычайна гаварылі як пра „безнадзейных“. Але сярод іх былі вельмі ўпартыя, якія заядла адстойвалі свае пазіцыі. Адсюль зразумела, што

прыезд Маякоўскага ва універсітэт мог быць адказам на многія хваляваўшыя ўсіх пытанні.

Маякоўскі паявіўся нечакана і адразу прайшоў на сцэну. Зала сціхла. На сцэне Маякоўскі распрануўся з такім выглядам, як быццам ён прыйшоў да сябе да хаты, у сваю сям'ю, дзе ў кожны момант можна чытаць вершы і гаварыць пра паэзію. Ён адразу-ж (наколькі гэта дазвалялі яго грамыхаючы голас і рэзкая, энергічная жэстыкуляцыя) у цёплым, таварыскім тоне, пачаў размову з аўдыторыяй. Пасля я зразумеў, што гэта зніжэнне плана паэтычнага выступлення, устаноўка на своеасабліва-блізкія адносіны з аўдыторыяй былі прынцыповымі—Маякоўскі не любіў выступаць як валасаты віція, ён хацеў выступаць і ён выступаў як радавы баец вялікай працоўнай арміі і гэта было выражэннем вялікай цягі да мас, якая была асабліва моцнай у Маякоўскага ў апошні перыяд яго паэтычнай дзейнасці. Іншая справа, што ўплыў асобы Маякоўскага, яго асабістая значнасць настолькі давалі сябе знаць, што як-бы не трымаў сябе Маякоўскі з аўдыторыяй, заўсёды адчувалася, што гэта прышоў *ён* і гэта *ён* размаўляе, вялікі паэт вялікай савецкай краіны.

Маякоўскі яшчэ не пачаў чытаць вершаў, як на сцэне паявіўся адзін з мужыкоўствуючых універсітэцкіх паэтаў і пачаў прасіць слова. Зала адразу-ж узрушылася, загула, пачуліся абураныя выкрыкі, свісткі. Аўдыторыя ведала наперад, што будзе гаварыць гэты няпрошаны прамоўца. Тады загрымеў бас Маякоўскага і зала зноў сціхла. Маякоўскі сказаў, што гэта яго вечар і што ён просіць дазволіць выказацца гэтаму грамадзяніну. Грамадзянін з месца ў кар'ер заявіў, што Маякоўскі не паэт і пачаў плесці нешта невыразнае і незразумелае. Разгадка была надзвычай простая. Ён быў п'яны і трагічней за ўсё было тое, што Маякоўскі гэта заўважыў. Пакуль той гаварыў, Маякоўскі стаяў каля трыбуны і спакойна курыў. Але не паспеў яго супрацоўнік павярнуцца, каб пакінуць сцэну, як Маякоўскі выйшаў наперад.

— Паглядзеце,—сказаў Маякоўскі, паказваючы на свайго апанента,—гэты грамадзянін п'яны. Ён ведаў, супроць каго выступае і не пасмеў выступіць супроць Маякоўскага цвярозым.

У зале засмяяліся. „Грамадзянін“ з вялікім сорамам убраўся. А Маякоўскі грамію і граміў яго і што ні слова, то астрота колкая, трапная, б'ючая без промаху. Не дарма Маякоўскі пісаў:

Готовая рвануться в гике
Застыла кавалерия острот
Поднявши рифм
Отточенные пики.

Я прыводжу гэты эпізод не для таго, каб паказаць палемічны талент Маякоўскага. Што Маякоўскі быў выключна выдатным палемістам,—гэта агульнавядома і доказаў не патрабуе. Я хачу звярнуць увагу на той факт, што Маякоўскі на вечары чыткі сваіх вершаў, дзе ніякай дыскусіі не меркавалася, дазволіў выступіць супроць яго па сутнасці радавому студэнту. Умельства з усёй сур'ёзнасцю выслухаць погляд радавога чытача—гэта рыса, якая часта сустра-

каецца ў сапраўды вялікіх мастакоў слова і гэта надзвычай каштоўная рыса.

Але ў дадзеным выпадку аказалася не проста чытацкае выказванне, у дадзеным выпадку асправчвалася з нягоднымі сродкамі уся паэтычная лінія Маякоўскага. Апанент спрабаваў цягнуць (калі можна так сказаць, не парушаючы маштабаў) Маякоўскага, гарлана-главара ў кулацкі фалькпор, у сусальную псеўданароднасць, да адрыву ад актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці краіны. Маякоўскі ў палеміцы наогул быў больш чым выдатным байцом, але там, дзе ішла гаворка пра паэтычную лінію Маякоўскага, там ён даваў сугуба сакрушальны адпор. Маякоўскі падобна да арла меў надзвычай высокі палёт, з вышыні ён бачыў далёка наперад і падобна да арла з аграмадных вышынь ён падаў на ворага і біў яго бязлітасна і знішчальна.

Маякоўскі ў той вечар не чытаў указаных у афішы вершаў. У Маякоўскага і студэнцкай аўдыторыі ў той вечар вызначылася больш значная праграма, чым абвешчаная ў афішы, праграма самага сапраўднага ўзаемаразумення. Паэт і маса знайшлі тую надзвычайную мову, на якой звычайна гаворыць вялікі паэт са сваім народам. Маякоўскі чытаў свае лепшыя вершы, гаварыў пра работу над вершам, пра шляхі савецкай паэзіі. Агромністай глыбай паэт навіс над залай, бас яго грымеў прыўзнята, амаль урачыста. Паэт авалодаў не толькі ўвагай, але і сэрцамі прысутных. Вечар прайшоў бліскуча. Пачаліся адказы на пытанні. І вось была пададзена запіска наступнага зместу: „Прачытайце ваша хорошо-с“ —гэта тычылася адной з лепшых яго паэм, паэмы, якую ён лічыў праграмнай, прысвечанай найвялікшай эпапеі сусветнай гісторыі—Кастрычніцкай рэволюцыі, паэмы „Хорошо“. Удар быў подлы. Маякоўскі ўскіпеў, кулакі яго сціснуліся. Ён увесь неяк падцягнуўся і загаварыў рэзка, адрывіста, з вялікім абурэннем. Цяпер яго голас быў голасам нянавісці і гневу. Цяпер ён звінеў як вібрыруючая сталь. Паэт гаварыў пра тое, што Кастрычніцкая рэволюцыя для таго і зроблена, каб не было гэтых прэсмыкаючыхся гадзін, якія пішуць лакейскія запіскі і далей у гэтым-жа кірунку. Я дакладна помню заключныя словы паэта: „Мы з коранем вырвем гэты лакейскі дух!“

Ёсць усе падставы думаць, што падобныя запіскі пісалі прэтэнцыёзныя і наглыя бяздарнасці, якія чорнай зграяй насіліся па слядох выступленняў Маякоўскага. Іх было не мала шукальнікаў цёмнай, скандальнай славы, з прычыны нездольнасці знайсці іншую. Будучы няздольнымі пісаць вершы, яны займаліся выдумваннем розных антыграмадскіх і антысавецкіх паэтычных сістэм, яны рабілі п‘яныя скандалы ў тэатрах, як гэта было з універсітэцкім апанентам Маякоўскага ў ленінградскім тэатры сатыры. Гэта было смецце, якое трэба было прыбраць з вялікага будаўніцтва соцыялістычнага мастацтва. Само сабой зразумела, што на іх не ўпаў нават і цень славы Маякоўскага, бо гэта слава пролетарскага паэта рэволюцыянера, соцыялістычная слава.

Маякоўскі быў страсным палітычным байцом не толькі ў паэзіі, у вершах, але і ў жыцці, у біяграфіі. Маякоўскі быў адным і тымжа, быў самім сабой і ў жыцці і ў літаратуры. І гэта толькі лішні

раз падкрэслівае глыбокую арганічнасць яго паэзіі. Я гэта гавару не толькі ў плане характарыстыкі паэтычнай дзейнасці Маякоўскага, але і ў тым сэнсе, што грамадская яго біяграфія—прыклад для совецкага паэта.

Маякоўскі надзвычай добра чытаў свае вершы. Чытаў так, што мне хочацца сумнявацца, што іх яшчэ хто-небудзь можа прачытаць так, як чытаў Маякоўскі.

Паэзія Маякоўскага ў чытцы самога паэта выігрывала ў некалькі разоў у аптымістычнасці, у жыццёсцвярджальнай сіле... Маякоўскі як ніхто ўмеў данесці да слухача *змест* сваіх вершаў, як ніхто ўмеў прымусіць адчуць іх высокую мастацкую *форму*. Але галоўнае было ў тым, што яму было што даносіць, у значнасці ўражання ад яго выступлення. У Маякоўскага было столькі энергіі, столькі жыццёвага напору, што ён літаральна змятаў усе перашкоды. Яго настрой, баявітасць, задор перадаваліся слухачу і тады асабліва зразумелай рабілася ўзнёслая патэтычнасць яго вершаў. Слухаючы Маякоўскага хацелася верыць у чалавека, у жыццё, у Маякоўскага, у культуру, каторая знаходзіла выражэнне ў яго паэзіі. Такі воблік Маякоўскага, лепшага паэта совецкай эпохі.

---

*Віт. Вольскі*

# ЖЫЦЦЕ І ТВОРЧАСЦЬ ЮРЫЯ ПЭНА

У ноч на 1 сакавіка 1937 года трагічна загінуў ад рукі злачынцаў старэйшы мастак Беларусі, выдатны майстар жывапісі, Юрый Майсеевіч Пэн.

Нябожчык прайшоў досыць цяжкі, але пачэсны жыццёвы шлях, шлях нястомнага працаўніка, дарэшты адданага сваёй справе. Усё жыццё яго, пачынаючы ад дзіцячых год, было цалкам прысвечана мастацтву. Заўсёды прыязны і жыццерадасны, заўсёды ў добрым гуморы, ён ніколі не кідаў сваёй майстэрні і, не гледзячы на ўзрост (яму быў 81 год), безупынна працаваў, не пакладаючы пэндзлю, аж да апошніх сваіх дзён.

I

Юрый Майсеевіч Пэн нарадзіўся ў 1856 годзе, у горадзе Нова-Александраўску, былой Ковенскай губерні, у беднай яўрэйскай сям'і. Яшчэ ў дзяцінстве пачаў ён займацца маляваннем, але цяжкія матэрыяльныя ўмовы прымусілі яго рана пакінуць сям'ю і працаваць хлапчуком у прыватнай майстэрні маляра ў гор. Дзвінску. Аб дзіцячых і юнацкіх гадах мастака, аб яго жыцці ў родным мястэчку, аб навучанні ў хедэры, аб першых нясмелых спробах у галіне рысунку і аб працы ў маляра захавалася некалькі яскравых і маляўнічых старонак, напісаных самім Пэнам у яго ўспамінах, якія былі надрукаваны ў яўрэйскім часопісу „Штэрн“, (№ 2-3, 4) у 1926 годзе.

Сам мастак доўга не мог спачатку ўстанавіць дакладную дату свайго нараджэння. Аб гэтым, з заўсёды ўласцівым яму пачуццём гумару, пісаў ён у сваіх успамінах наступнае: „Калі я нарадзіўся і колькі мне год—я не ведаў, і нават маці мая таксама не ведала пра тое, калі людзі мелі шчасце ўбачыць маё з'яўленне на свет. Мая маці не магла гэта ўспомніць таму, што галава яе была заклапочана больш важнымі справамі: ёй трэ' было забяспечыць хлебам сваіх 10 малых дзяцей. Мая маці была ўдава. Усё, што было добрага ў хаце, было прададзена ці закладзена... Ці магла маці ў такіх умовах памятаць дакладна дзень майго нараджэння? Але ўсё-ж такі, пэўная адзнака была. Маці ўспамінала, што ў той год, амаль у той самы месяц, нарадзіліся ў казы нашай суседкі Енты-Груны Аўрама-Лейзера казляняты. І яшчэ адна адзнака ёсць: у гэтым самым годзе чакалі халеру, але бог злітасціўіўся з нашага мястэчка і замяніў тую халеру на голад. Але, калі ўсё-ж такі нарадзіліся казляняты ў казы Енты-Груны Аўрама-Лейзера? Гэтага, нажаль, ніхто не мог успомніць, таксама, як і той год, калі нашае мястэчка



Ю. М. ПЭН— „Пісьмо з Амерыкі"

галадала, бо беднякі, а з іх у большасці сваёй складалася насельніцтва нашага мястэчка, галадалі заўсёды, кожны год, і той год, калі я нарадзіўся, нічым не адрозніваўся ад іншых, тым больш, што я не быў ні царскім сынам, ні адзіным сынам у сям'і маіх бацькоў".

Дзяцінства будучага мастака прайшло ў цяжкіх, безрадасных умовах. Маці яго, бедная ўдава, з апошніх сіл змагалася за існаванне, здабываючы для сваіх шматлікіх дзяцей кавалак хлеба, забяспечваючы для іх магчымасць вучыцца ў хедэры*). Гэтым, фактычна, і абмяжоўвалася іх „адукацыя".

„Мне было чатыры гады,—піша далей мастак,—калі памёр мой бацька. Паводле яўрэйскіх звычаяў, мяне аддалі вучыцца ў хедэр. Мой рэбе**) быў вельмі бедны. Платы за навучанне яму не хапала для жыцця. Жонка яму дапамагала зарабіць на кавалак хлеба. Зімой яна гандлявала гусінымі вантробамі і ляснымі яблыкамі. Яна прадавала іх хлопчыкам у хедэры. Але галоўным заняткам яе было прадаваць гарохавыя бліны. Іх яна таксама пякла для хлопчыкаў з усіх хедэраў нашага мястэчка... Яны былі вялікія і румяныя, гэтыя бліны, і каштавалі адзін грош за штуку. Нам, для таго, каб пад'есці, даволі было аднаго бліна..."

Беднасць і голад у доме, схаластычныя забабоны, сярэдневяковыя байкі і бязлітасны канчык***) цёмнага рэбе ў хедэры,—вось абстаноўка, у якой выхоўваўся хлопчык. Акрамя вучобы, ён павінен быў дапамагаць жонцы свайго „настаўніка" у яе хатніх справах: „Яна часта мела ад мяне карысць. Калі ёй не было часу, я калыхаў дзяцей, свяціў ёй, паліваў ёй ваду на рукі, калі яна мылася і інш.". За тое жонка рэбе заступалася часам за хлопчыка, калі стары рэбе збіраўся яго біць. Былі ў хедэры і асабліва радасныя дні. Такім днём лічыўся аўторак, калі ў мястэчку быў кірмаш: „Жонка рэбе стаяла тады на базары з палівай, а рэбе ёй дапамагаў. У той дзень мы заставаліся ў хедэры без работы і без нагляду".

У хедэры Пэн правучыўся не доўга. „Маці ўзяла мяне і брата і аддала нас у талмуд-тору****). Напэўна таму, што яна не мела чым плаціць за вучобу". Аддаць дзяцей вучыцца ў талмуд-тору—гэта лічылася ў мястэчку афіцыйным і поўным прызнаннем сваёй беднасці. Таму маці Пэна пры першай магчымасці, як толькі дазволілі ёй абставіны, узяла сваіх малодшых сыноў з бясплатнай талмуд-торы і зноў аддала іх у хедэр, дзе паводле мястэчковых разуменняў, належала вучыцца прыстойным „гаспадарскім" дзецям.

У хедэры ўпершыню пачалі праяўляцца ў хлопчыка мастацкія здольнасці. „Хедэр,—пісаў Ю. М. Пэн у сваіх успамінах—адыграў вялікую ролю ў маім жыцці, бо там пачаў я праяўляць свае здольнасці да малявання. Першы мой рысунак з'явіўся дзякуючы такому выпадку: я паспрачаўся з дачкою рэбе і намаляваў, як яна нясе

*) Хедэр—яўрэйская першапачатковая рэлігійная школа для дзяцей. Туды прыймалі звычайна з 5—6 год.

**) Рэбе—настаўнік у хедэры.

***) Бізун.

****) Талмуд-тора—бясплатная яўрэйская рэлігійная школа пры сінагозе.

ваду ў вёдрах на каромысле. Я паказаў рысунак усім хлопчыкам і ўсім ён падабаўся".

Толькі старому рэбе не падабаліся гэтыя заняткі. Не падабалася яму і калатушка*), выразаная Пэнам з дрэва. На калатушцы гэтай былі выразаны фігуры людзей. Пасля адпаведнага ўдзейнічання рэбе катэгарычна забараніў свайму вучню займацца такімі „паганскімі", па яго разуменню, справамі. Ён лічыў, што гэта зусім не выпадае набожнаму яўрэйскаму дзіцяці і раіў яму ўважлівей вывучаць рэлігійныя тэксты.

„Вырэзванне з дрэва я кінуў,—піша Пэн,—але наконт малявання я зусім яго не паслухаўся і пачаў рысаваць, дзе толькі можна. Не было паперы,—дык летам на пяску, а зімой—на снезе.

У хуткім часе на „прадукцыю" хлапчука з'явіўся „попыт", знайшліся „пакупнікі". Гэта падштурхнула яго з яшчэ большым натхненнем узяцца за маляванне.

„Я маляваў цароў, казакоў на конях. Таксама я выразаў мізрохі**). Мне плацілі за мае работы гузікамі, бо грошай ні ў кога з хлапчукоў не было, а калі і былі, дык заўсёды знаходзіліся для выдаткавання іх больш важныя справы. Гэтыя гузікі я прадаваў—шэсць штук за капейку. Часам яшчэ даражэй. Хутка знайшоўся адзін хлопчык з Коўны, які быў тут у гасцях у дзеда. Ён проста краў грошы і купляў у мяне партрэты па тры грашы і па чатыры грашы за штуку. Я ажыў. У мяне было цяпер на што купляць сабе паперу і алоўкі. Я рысаваў свае партрэты толькі ў профіль, бо анфас яшчэ не мог. Вусны і шчокі я маляваў чырвонымі, а вочы блакітнымі. Гэта тлумачыцца тым, што я здабыў толькі чырвона-сіні карандаш. Мастацтва рысаваць у профіль я пераняў вось адкуль. У мамы ў шуфлядзе я знайшоў пусты пакунак з-пад цыкорыя, яна купіла яго калісьці на сёмуху (на сёмуху быў у нас звычай піць каву ці цыкорый). На гэтым пакунку быў надрукаваны штамп—медаль, атрыманы фабрыкай, здаецца гэта быў партрэт Франца-Іосіфа і я пачаў перарысоўваць гэты партрэт. У хуткім часе, не памятаю па якому выпадку, я намаляваў і твар „насупраць"—гэта значыць анфас. Сваёй працай я быў вельмі задаволены. Бегаў як звар'яцелы, паказваў усім партрэт і адчуваў сябе нібы лётаючым у паветры, на галаву вышэй за ўсіх іншых хлапчукоў..."

З-за адсутнасці грошай маці прымушана была ізноў узяць хлапчука з хедэра. Наступілі часы поўнай і неабмежаванай волі. „Я бегаў у лахманах, абдзёрты, галодны, але не кідаў малявання", успамінае Пэн. Так у местачковай цемры і галечы, сярод перажыткаў сярэднявякоўя, ва ўмовах напоўжабрацкага існавання, фармавалася ад кроку да кроку творчая індывідуальнасць будучага мастака.

Нарэшце, „маці ўбачыла, што з гэтага толку не будзе і аддала мяне ў прыходскае вучылішча, бо плаціць туды не трэба было, а тым часам у хаце можна было пазбавіцца і мяне і майго малявання вугалем на сценах. У вучылішчы я вучыўся спачатку дрэнна,

*) Яўр. дзіцячая цацка, ужывалася звычайна на свята „пурым".
**) Мізрохі—арнаментальныя аздобы для адзначэння ўсходняй сцяны.

бо не ведаў рускай мовы і не разумеў таго, што тлумачыў настаўнік. Калі я крыху падвучыўся, мяне перавялі ў павятовае вучылішча, але хутка я быў прымушаны яго пакінуць, бо ў мяне не было ботаў і належнага адзення і таму, што за навучанне трэ' было плаціць пару рублёў у год, а ў маці іх не было".

Каб крыху зарабіць і дапамагчы гэтым сваёй маці, Пэн рашыў намаляваць для продажу вялікі партрэт на трох склееных аркушах паперы. „Крамнік пазычыў мне паперы на тры грашы. Я намаляваў вялікага цара ў чырвоным мундзіры і сініх штанах з блакітнай істужкай цераз плячо і моднымі медалямі і ордэнамі, якія я стварыў у сваёй фантазіі..."

Гэта быў першы „вялікі" поспех Пэна сярод яго блізкіх сваякоў, суседзяў і знаёмых. Партрэт быў разыграны ў латарэю, бо ніхто не меў грошай, каб набыць яго індывідуальным парадкам. „Я зрабіўся Ротшыльдам",—апавядае з дабрадушнай іроніяй Пэн. Хутка паследавала і „грамадскае" прызнанне ў маштабе ўсяго мястэчка. Пэн атрымаў першы свой „афіцыйны" заказ. За 15 капеек павінен быў ён размаляваць першую старонку пінкес*) для пахавальнага брацтва пры сінагозе. Заказ быў выканан удала. Старонка выглядала „як цацка", усе былі задаволены. „Пра мяне загаварыла ўсё мястэчка",—піша Пэн. Яго рэпутацыя ў мястэчку была забяспечана. Усе аднагалосна рашылі, што хлопчыка трэба аддаць у навучанне да маляра. Маці згадзілася і сваякі накіравалі яго ў Дзвінск, у прыватную майстэрню саматужніка, дзе ён павінен быў навучацца малярскаму рамяству. Хлопчыку было тады чатырнаццаць год.

Маляр аднёсся да яго добра. Ён лічыў, што з гэтага вучня можа ў далейшым атрымацца зусім прыстойны майстар малярскага цэха. Калі-ж ён убачыў хуткія поспехі Пэна ў малярстве, дык надумаўся нават выдаць за яго, з цягам часу, сваю малодшую дачку і зрабіць яго сваім хаўруснікам, бо ў маляра не было сыноў. Каб дамагчыся гэтага вышэйшага, на яго думку, жыццёвага дабрабыту, вучню трэ' было толькі выкінуць з галавы сваіх „чалавечкаў" і не займацца мастацтвам. „Мастакі,—так навучаў свайго работніка маляр,—заўсёды п'яніцы, беднякі і паміраюць абавязкова ад сухотаў, альбо вар'яцеюць". Маляр лічыў, што для сумленнага і набожнага чалавека лепш за ўсё—пісаць звычайныя шыльды для крам і размалёўваць столі і сцены ў хатах паважных гаспадароў. Гэта—справа пэўная і прыбытковая. Вучань моўчкі слухаў навучанні свайго гаспадара і аж да позняй ночы маляваў шыльды ў яго майстэрні.

У маляра адпрацаваў ён 8 год, але ўвесь гэты час не пакідалі яго мары зрабіцца сапраўдным мастаком і ён употайку маляваў сваіх „чалавечкаў" дзе і калі толькі мог.

Пазнаёміўшыся выпадкова са студэнтам Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, які прыехаў на канікулы з Пецярбургу ў Дзвінск, Пэн даведаўся пра існаванне гэтай навучальнай установы. З таго часу ўсе імкненні яго былі накіраваны на тое, каб паехаць у Пецярбург і паступіць у Акадэмію. З вялікімі цяжкасцямі гэта яму, нарэшце,

*) Пінкес—кніга запісаў яўрэйскай рэлігійнай абшчыны.

удаецца. Не маючы адпаведнай адукацыі, ён тым не менш вытрымаў экзамены і быў прынят у лік студэнтаў Акадэміі.

Пра гэтыя свае першыя дні ў Пецярбургу мастак апавядае наступнае: „На другую ноч пасля майго прыезда ў Пецярбург, ледзь толькі я заснуў, як мяне нехта пабудзіў, ухапіўшы за плячо: „Уставай, пашпарт ёсць?“ Калі я павярнуўся да таго, хто мяне пабудзіў, дык убачыў высокага чалавека з закураным ліхтаром у руцэ. Гэта быў старшы дворнік, а побач з ім паліцэйскі, а з-заду гаспадар кватэры. Гэта быў часаўшчык, у якога я і яшчэ адзін наймалі пакой. Ён стаяў, бледны як палатно, і дрыжаў як ліст. Ён-жа таксама мог чакаць непрыемнасцей. Я адразу сеў і з вялікай дбайнасцю пачаў разбірацца ў сваіх паперах, якія складаліся толькі з пашпарта. Мой сусед паказаў свае паперы—яны былі ў парадку. Але-ж мае былі нешта ні сёе, і ні тое. Я спалохаўся і пачаў паказваць рысункі, эскізы. Дворнік разглядаў іх з цікавасцю, але настойваў на сваім. „Дзе твой пашпарт на права жыцельства“? Убачыўшы, што я не спяшаюся шукаць яго, ён сказаў: „Уставай, хадзем у вучастак!“ Я ўжо пачаў збірацца, а госці тым часам пайшлі ў пакой да гаспадыні. Тут падышоў да мяне гаспадар, узяў у мяне пяцёрку і кажа: „Вы можаце заставацца“.

Так непрыхільна сустрэла маладога мастака царская сталіца.

## II

У Акадэміі Мастацтваў Пэн навучаўся з 1885 па 1890 год пад кіраўніцтвам прафесараў жывапісі Лаўрэцкага і Чысцякова. Потым пачынаюцца сямігадовыя вандраванні ў пошуках сталага заработку па гарадах і мястэчках так-званага Заходняга Краю былой царскай Расіі. У 1897 годзе Пэн спыняецца ў Віцебску і жыве тут, не пакідаючы гэтага горада, да апошніх дзён свайго жыцця. Ён арганізуе тут прыватную школу жывапісі, у якой навучалася цэлае пакаленне мастакоў.

У 1907 годзе значная колькасць карцін Пэна („Стары рабін“, „Яўрэйка з кнігай“, „Развод“, „Шамес“, „Беспрацоўны магід“, „Пісьмо з Амерыкі“, „Дзяўчына ў белым“ і інш.) былі прадстаўлены на мастацкай выстаўцы ў Парыжы і прыцягнулі да сябе ўвагу грамадскасці. Дзве з гэтых карцін („Стары рабін“ і „Дзяўчына з кнігай“) былі набыты на выстаўцы і засталіся ў Парыжы.

У 1912 годзе Пэн удзельнічае ў некалькіх мастацкіх выстаўках у Пецярбургу.

Творчасць Пэна, амаль цалкам звязаная з Віцебскам, мае вялікае пазнавальнае значэнне. Творы яго—гэта сама гісторыя. Яны звязаны з цэлай эпохай. У гэтых творах адлюстроўваецца ў мастацкіх вобразах жыццё, быт, культура і эканоміка яўрэйскіх працоўных мас Беларусі на працягу амаль цэлага шасцідзесяцігоддзя. Малюнкі і эпізоды гэтага жыцця, адышоўшага ў далёкае гістарычнае мінулае, вобразы дзіцячых успамінаў, трапна схопленыя мастаком, ізноў паўстаюць перад намі на палотнах Ю. М. Пэна ў выразных, пераканальных, рэалістычных вобразах і фарбах.

III

Творчая індывідуальнасць Пэна сфармавалася пераважна пад уплывам рускай школы „передвижников“. Пэўны след пакінула таксама ў яго творчасці ўважлівае і дэтальнае вывучэнне класікаў Нідэрландскай жывапісі XVII стагоддзя, асабліва Рэмбрандта, з твораў якога мастак пісаў копіі ў Эрмітажы. Для творчасці Ю. Пэна характэрна рэалістычная накіраванасць. У сваіх творах ён заўсёды імкнуўся праўдзіва, рэалістычна і маляўніча адлюстроўваць навакольную рэчаіснасць. Мастака вабіла да сябе жыццё і праца яўрэйскай беднаты. Рэалістычна-жанравы напрамак зрабіўся ў яго творчасці кіруючым. Карціна з бытавой і працоўнай тэматыкай, жанравы партрэт, гарадскі і местачковы пейзаж займаюць сярод яго твораў пераважнае месца. Жанравы партрэт вылучаецца ў творчасці Пэна асаблівай дасканаласцю зместа і формы, каларытнасцю і характэрнасцю тыпажа, вялікім падабенствам і моцнай экспрэсіяй. Жанравыя партрэты Пэна сведчаць аб вялікім веданні і разуменні мастаком быта, жыцця і псіхалогіі яўрэйскага працоўнага насельніцтва Беларусі. Жыццё народных мас у беларускім мястэчку, у ваколіцах Віцебска, быт і праца яўрэйскіх гарапашнікаў, рабочых і дробных рамеснікаў, беднякоў гарадскіх акраін, іх радасці і гора—усё гэта знайшло сабе праўдзівае, выразнае і маляўнічае адлюстраванне ў творчасці Пэна.

Цэлая галерэя жыццёвых вобразаў праходзіць перад глядачом на маляўнічых палотнах Пэна.

Вось перад вамі „Сват“, амаль сімвалічны вобраз так званага „луфт-менша“, чалавека, які жыве паветрам. Гэта жывое ўвасабленне беспрацоўных, дэкласаваных пластоў яўрэйскага дарэвалюцыйнага мястэчка. Вобраз, навеяны Шолам-Алейхемам. Заўсёды ён у руху, гэты злашчасны „сват“, заўсёды заклапочаны „вялікімі“ камбінацыямі, „грандыёзнымі“ планамі, якія павінны яму прынесці няпэўны, зданнёвы цень прыбытку. Заўсёды траціць ён дарма свае сілы, сваю невычарпальную энергію, свой вынаходлівы розум на бязгрунтоўныя праекты, на пагоню за фантастычнымі сродкамі для існавання. Вочы яго свецяцца агнём жывой думкі і надзеі, але ў заклапочаным твары адчуваецца трывога і няпэўнасць. Капялюш яго збіўся на бок, вока хітра прыжмурана, ногі ў старых, абдзёртых як вадасцёчныя трубы, штанах спыніліся раптам на месцы, нібы ўкапаныя ў зямлі. Ён увесь ва ўладзе ахапіўшай яго „ідэі“. Ён цалкам, да рэшты, захоплены чарговым „праектам“, але ўсё-ж такі сумняваецца яшчэ ў магчымасці яго ажыццяўлення...

А вось партрэт старой, бедна апранутай жанчыны. У руцэ яна трымае пісьмо. На прыемным добрым твары выраз глыбокай задумлівасці, ціхага смутку. Гэта—„Пісьмо з Амерыкі“. Што пішуць ёй дзеці з далёкай, за морам краіны? Можа ў гэтым пісьме і добрыя весткі,—хто ведае?—але мы бачым, што сэрца старой маці не спакойна, што гаротны твар яе заклапочаны душэўнай трывогай за лёс сваіх блізкіх.

Лоўка і шпарка працуе стары пекар. Адзін за адным ляцяць у гарачую печ хлябы з даўгой лаўкі. На лаўцы застаецца толькі

вільготны след ад цеста. Моцныя, працавітыя рукі спрытна упраўляюцца з драўлянай лапатай. На твары—задавальненне, радасць працы. Гэта—пэнаўскі „Хлебапёк“.

З хаты ў хату, з вёскі ў вёску, ходзіць „Карабейнік“. Увечары, збіраючы апошнія сілы, спяшаецца ён дамоў. Спіна яго гнецца пад цяжарам вялікага корабу. У руцэ—куранё і жмуток цыбулі. Гэта тое, што ён зарабіў ад продажу свайго немудронага тавару.

Адзінока і сумна сядзіць стары „Магід“, пакручваючы сівую бараду. Можа ён прыдумвае змест сваёй бліжэйшай прамовы, можа думкі яго заняты хатнімі справамі—невядома, але кожны бачыць, што на сэрцы яго нядобра, што яму не шанцуе, што думкі яго сумныя. Зморany твар старога сведчыць аб стомленасці, аб жыццёвым цяжары.

Вось яшчэ адзін глыбока псіхалагічны вобраз яўрэя—саматужніка мінулых дзён—„Кравец“. З вялікай цяжкасцю зарабляе ён сабе на хлеб—стары, хворы чалавек. Уся навакольная абстаноўка, шэрыя, брудныя сцены, рэчы, увесь бытавы каларыт карціны, сведчаць аб беднасці і ўціску, у якім праходзіць яго гаротнае жыццё.

Немагчыма пералічыць усіх твораў мастака (іх было больш за восемсот). Яны надзвычай разнастайны, але адна істотная рыса, уласцівая кожнаму з гэтых твораў, злучае іх у адно цэлае, вызначаючы іх агульную накіраванасць. Усе яны сагрэты шчырай і сапраўднай цеплынёй, усе яны прасякнуты спачуваннем да гарапашніка, да бедняка, усе яны асветлены любоўю да чалавека. Для таго, каб у гэтым пераканацца, варта толькі ўспомніць такія творы Пэна, як вядомая яго карціна „Развод“, дзе на фоне прыватнага эпізода, драматычнага моманту з жыцця яўрэйскай сям'і, даецца жыццёвы і разнастайны тыпаж, дзе кожны з абмаляваных мастаком персанажаў жыве сваім самастойным, індывідуальным жыццём, не парушаючы, аднак, кампазіцыйнага цэлага карціны, варта толькі паглядзець на разгледжаныя намі вышэй „Пісьмо з Амерыкі“ (1903 г.), „Сват“ (1926 г.), „Кравец“ (1926 г.), „Хлебапёк“ (1928 г.), на такія творы як „1905 год“ і „У турме“ (1905 г.), „Швачка“ 1927 г.), „Комсамолец-шавец“ (1926 г.), „Музыкант“ (1926 г.), „Часаўшчык“, на шматлікія яго бытавыя жанравыя малюнкі і пейзажы.

## IV

У творах Пэна адчуваецца глыбокае і арганічнае разуменне тых бакоў жыцця і тых аб'ектаў рэчаіснасці, якія мастак абраў для адлюстравання. Творы Пэна сведчаць аб яго ўменні ўвасобіць вобразы гэтага жыцця ў выразныя формы і маляўнічыя фарбы.

Амаль для ўсіх яго твораў характэрна яскрава выяўленае пачуццё колеру, закончанасць формы, багацце фарбаў, увага да дэталяў. Яму ўласціва паглыбленае, удумлівае выяўленне характараў, разнастайнасць тыпажу, уменне мастацкімі сродкамі перадаць спецыфічныя асаблівасці нацыянальнага і соцыяльнага асяроддзя сваіх вобразаў.

Вобразы яго твораў глыбока псіхалагічны, глыбока народны па зместу і накіраванасці. Праўдзіва і пераканаўча раскрываюць



Ю. М. ПЭН—„Хлебапёк“

яны перад гледачом жыццё яўрэйскай працоўнай беднаты ў старыя дарэвалюцыйныя часы. Творы Пэна яскрава сведчаць аб тых вялікіх магчымасцях, якія даны мастаку, добра валодаючаму сродкамі свайго майстэрства і добра ведаючаму тое, што ён адлюстроўвае ў сваіх творах.

У гэтым сэнсе Пэн быў сапраўды народным мастаком. Гэта быў мастак яўрэйскіх працоўных мас. Праўда, ён не належаў да тых мастакоў, якія рухаюць наперад сусветнае мастацтва, якія адкрываюць яму новыя шляхі і законы. Але ён добра валодаў сродкамі свайго майстэрства, ён меў закончаную школу, ён ведаў і разумеў тое, над чым працаваў. На працягу ўсяго свайго творчага жыцця ніколі не адыходзіў ён ад прынцыпаў народнасці і рэалізма. У сваім мастацтве ён быў заўсёды сумленным і праўдзівым.

Сіла Пэна—у яго адданасці мастацтву, у яго арганічнай сувязі з народнымі масамі, у яго надзвычайным працалюбстве. Сіла яго ў тым, што сваё мастацтва ён цалкам прысвяціў свайму прыгнечанаму раней народу. Гэта і зрабіла яго выдатным, шырока вядомым і папулярным мастаком. Але толькі ў Совецкім Саюзе, ва ўмовах нацыянальнай палітыкі Леніна—Сталіна атрымаў ён вялікія магчымасці шырокага прызнання. Толькі ў Совецкім Саюзе скарбы яго мастацкай спадчыны зрабіліся сапраўдным здабыткам народных мас.

Творчая індывідуальнасць Пэна як мастака склалася ў эпоху досыць далёкую ад рэвалюцыі. Рэвалюцыю Пэн сустрэў ужо на схіле свайго жыцця. Але яна ніколі не была яму чужой. Сын яўрэйскай працоўнай беднаты, ён вітаў рэвалюцыйныя падзеі яшчэ ў 1905 годзе. Яго пэндзлю належаць дзве карціны, прысвечаныя падзеям першай рэвалюцыі ў Расіі. Гэта—„1905 год", і „У турме".

У першай з гэтых карцін мастак адлюстроўвае адзін з эпізодаў, звязаных непасрэдна з падзеямі рэвалюцыі 1905 года. Малады рабочы, ранены ў часе вулічных баёў, ляжыць на ложку. Галава яго забінтавана. Смяротна бледны, змарнелы твар. На стале ляжыць рацэпт, пакінуты ўрачом. Стары бацька ахоплены цяжкай думай. Маці нясе ў кошыку апошні хатні скарб—падсвечнікі, каб прадаць іх і купіць для сына лекі. Уся хатняя абстаноўка сведчыць аб невыходнай беднасці, галечы. Брудныя, шэрыя сцены. Але над галавою раненага вісіць невялічкі партрэт Карла Маркса. І гэта характэрная дэталь (карціна была напісана мастаком у 1905 годзе) асабліва ясна сведчыць нам аб палітычнай і соцыяльнай накіраванасці твору.

Песняр гістарычнага мінулага, мастак прыгнечаных народных мас, ён наглядаў тыя змены, якія ўнесла ў жыццё, быт і працу яўрэйскага народу Кастрычніцкая Рэвалюцыя. Сваёй старыкоўскай рукой ён імкнуўся адлюстраваць гэтыя новыя рысы совецкай рэчаіснасці. Цэлы рад яго апошніх твораў прысвечаны совецкай тэматыцы. Гэта — „Яўрэй калгаснік", „Шавец - комсамолец", „Піонер" і інш.

У адным з сваіх прыватных пісьмаў да скульптара Бразера Пэн пісаў: „Маё сапраўднае свята, гэта—мая работа, мая праца".

Незадоўга да смерці Пэн выказаў жаданне перадаць усе свае творы совецкай дзяржаве.

V

Творчасць Пэна была вядома і за граніцай. Яго творам прысвечана пэўная колькасць артыкулаў, рэцэнзій і заметак у амерыканскіх, нямецкіх, французскіх, венгерскіх і польскіх часопісах і газетах. Яшчэ ў 1929 годзе Пэн атрымаў прапанову аб арганізацыі выстаўкі яго карцін у Берліне.

Але асабліва вялікай і шырокай папулярнасцю карыстаўся стары майстар сярод працоўных мас свайго Віцебска і яго ваколіц. Аб гэтым яскрава сведчаць водзывы і ўспаміны рабочых з фабрык і заводаў Віцебску, апублікаваныя ў сувязі з трагічнай смерцю мастака.

„Некалькі разоў я наведваў выстаўкі яго карцін і кожны раз знаходзіў у яго творчасці ўсё новыя і новыя характэрныя рысы,— піша член ЦВК БССР, рабочы завода „Чырвоны металіст“ імя Кірава, тав. Сандлер.—Асабліва спадабалася мне яго карціна „Часаўшчык“. Усё як быццам жыве, пачынаючы ад шкляных калпачкоў, інструментаў і канчаючы кожнай рысай на твары майстра. З паслярэволюцыйных работ асабліва выдатнай я лічу карціну Піонер“, якая паказвае новае, маладое, сталінскае пакаленне“*).

Асаблівае ўхваленне з боку працоўных гледачоў выклікае жыццёвасць і маляўнічасць вобразаў Пэна, рэалістычны напрамак яго творчасці, уважлівая распрацоўка дэталяў.

„Калі знаходзішся сярод карцін, зробленых рукамі гэтага вялікага мастака, адчуваеш сябе нібы сярод жывых людзей, жывых вобразаў, пейзажаў — так рэалістычна зроблены яны, — піша т. Малочнікаў, стаханавец фабрыкі імя Лекерта.—Мне вельмі спадабалася карціна „Провады ў царскую армію“. Гэта работа выканана так праўдзіва, што нагадвае сапраўднае становішча, пры якім праходзілі провады. Бацькі і ўся сям'я аплаквалі сына і брата, праваджаючы яго ў армію муштры і здзекаў, адкуль малады хлапец варочаўся хворым, замучаным“.

Рабочыя гледачы падкрэсліваюць у першую чаргу праўдзівасць зместу твораў Пэна, іх мастацкую пераканаўчасць і пазнавальнае значэнне.

„Аб Пэне, аб яго работах, як мастака і знаўца яўрэйскага быту, я чуў даўно. А затым я і сам у гэтым пераканаўся. Бываў у яго дома і бачыў яго выдатныя карціны,—адзначае Д. Ісхізаў, брыгадзір сталінскай брыгады шчотачнага камбіната.—Кожнае палатно—гэта цэлая кніга, якая запамінаецца надоўга. Не гледзячы на тое, што апошні раз я быў у яго некалькі год таму назад, перад маімі вачыма стаяць усе яго выдатныя работы. Вось вісіць карціна „Часаўшчык“, побач—„Кравец“, „Шавец“, „Развод“. Усе яны ярка і рэалістычна паказваюць жыццё розных пластоў яўрэйскага насельніцтва да рэвалюцыі. Глядзіш на карціну „Часаўшчык“ і ніяк не верыцца, што гэта палатно. Здаецца, вось-вось можна памацаць і ўзяць кожную рэч. Альбо другая карціна „1905 год“: малады рабочы ранен на дэманстрацыі. Ён ляжыць у ложку хворы

*) Газ. „Віцебскі пролетарый“, 49, 3 сакавіка 1937 г.

і бацькі, не маючы грошай на лекі, вымушаны прадаць свой апошні скарб. Доўга не можаш адарвацца ад гэтай карціны“.

Творы Ю. М. Пэна заўсёды займалі выдатнае месца на ўсіх выстаўках выяўленчага мастацтва ў БССР. Яны выстаўляліся таксама на выстаўках у Маскве, Ленінградзе і за граніцай, на шматлікіх індывідуальных выстаўках мастака ў Віцебску. У 1927 годзе савецкі ўрад надаў Ю. М. Пэну годнасць заслужанага мастака.

## VI

Творчая дзейнасць Пэна мела вялікае значэнне ў мастацкім жыцці Беларусі. У дарэвалюцыйныя часы, ва ўмовах каланіяльнага прыгнёту царскай Расіі, майстэрня Пэна з'яўлялася на працягу шматлікіх гадоў амаль адзіным цэнтрам распаўсюджвання мастацкай культуры сярод працоўных мас Беларусі. Свайго культурна-выхаваўчага значэння яна не страціла і да апошняга часу.

Мне ўспамінаецца апошняя сустрэча з Ю. М. Пэнам на кватэры мастака ў Віцебску. Гэта быў сапраўдны музей, нешта накшталт сталай карціннай галерэі. Сцены некалькіх вялікіх пакояў кватэры былі запоўнены карцінамі літаральна ад столі да падлогі. Творы былі падабраны па тэматычнаму прынцыпу. Адзін з пакояў быў прысвечаны партрэтам, другі пейзажам, трэці—бытавым і жанравым творам. Дзверы гэтага своеасаблівага музея былі заўсёды шырока адчынены для наведвальнікаў. Майстэрню Пэна штодзённа наведвала шмат гасцей, нават цэлыя экскурсіі з гарадоў, мястэчак і калгасаў БССР. З насельніцтва Віцебска не было нікога, хто-б не наведваў мастака на кватэры. Маленькага росту, румяны, заўсёды вясёлы і прастадушны, Пэн прымаў усіх са шчырай гасціннасцю. Ён сам хадзіў з пакоя ў пакой, паказваючы свае творы, ахвотна даваў тлумачэнні, дзяліўся сваімі творчымі думкамі і меркаваннямі.

„Юрый Майсеевіч гасцінна сустракаў шматлікія экскурсіі,—успамінае віцебскі рабочы Л. Хайкін,—заўсёды ахвотна і падоўгу тлумачыў нам змест сваіх палотнаў. Заўсёды скромны і ветлівы, ён гадзінамі гутарыў з намі аб сваіх работах, аб мастацтве“.

Ю. Пэн быў чулым і добрасумленным настаўнікам. З яго майстэрні вышаў цэлы рад выдатных мастакоў, выхаваных старым майстрам. Сярод яго вучняў былі Марк Шагал (Парыж), Шульман (Амерыка), Альтман, Мешчанінаў і інш. Заўсёды быў ён абкружаны шматлікімі вучнямі.

Марк Шагал, адзін з першых вучняў Пэна, наступнымі радкамі, прысланымі з Парыжа, адгукнуўся на смерць свайго старога настаўніка:—„Не магу супакоіцца і не ведаю, як выразіць глыбокі смутак ад нечаканай жорсткай смерці Ю. М. Пэна. Як я зайздрошчу ўсім вам. Вы маглі быць на яго пахаванні, хадзіць па нашай зямлі за яго труной, і паветра неба, таго самага неба, якое я так часта стараўся перадаць на сваіх карцінах, абвалаквала вас. Чаму гэта паветра не даходзіць да мяне—сюды ў беспаветраныя прасторы? Чаму лёс падзяліў мяне на дзве часткі—цела тут—душа там? А я пеставаў сябе надзеяй убачыцца яшчэ з Пэнам, быць

у сваім горадзе, хадзіць з Пэнам ізноў на эцюды, як раней, і зноў і зноў пісаць пра наш ужо адроджаны горад.

Зразумела, рэволюцыя адрадзіла другіх новых незнаёмых землякоў, але я хачу перадаць для Пэна некалькі слоў. Пэн мяне любіў. Гэта любоў яго цягнулася вось ужо 30 год з моманту, калі я стаў самім сабою, не гледзячы на рознасць нашых мастацкіх шляхоў. Ён быў маім першым, хоць і кароткачасовым настаўнікам. Я быў з яго першых вучняў і ён ведаў, што я хоць жыву ў Парыжы ўжо з 1910 года з невялікімі перарывамі, але ўсё-ж душою застаўся адданы маёй радзіме, што паказаў, як мог, у сваім мастацтве. Няма столькі фарбаў і засумаваных адценняў, якімі-б я хацеў агарнуць сваё апошняе прывітанне Пэну".

Вобраз Юрыя Майсеевіча Пэна, старога майстра і добрага чалавека, надоўга будзе жыць у нашай памяці, як прыклад надзвычайнай працаздольнасці і працалюбства, як узор выдатнай жыццёвай і творчай сілы. Праўдзівыя і чалавечныя творы нябожчыка, уся яго багатая мастацкая спадчына можа шмат чаму навучыць маладыя кадры савецкіх мастакоў Беларусі.

---

# ХРОНІКА

◇ **14 красавіка ў Доме пісьменніка адбыўся шырокі вечар**, прысвечаны сёмай гадавіне з дня смерці рускага паэта В. В. Маякоўскага.

На вечары з дакладам аб творчасці В. Маякоўскага выступіў тав. Шарахоўскі.

З чыткай вершаў В. Маякоўскага ў перакладзе на беларускую мову выступалі паэты: Пятрусь Броўка, які прачытаў урывак з паэмы „Ленін", Мікола Хведаровіч—чытаў „Левы марш", Пятро Глебка „На ўвесь голас".

З чыткай вершаў В. Маякоўскага выступіў артыст Беларускага дзяржаўнага тэатра т. Рахленка.

◇ **Вялікі літаратурны вечар**, прысвечаны 5-й гадавіне з дня пастановы ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый адбыўся 23-га красавіка ў актавай зале універсітэцкага гарадка. З вялікім дакладам аб росце беларускай савецкай літаратуры выступіў тав. **Александровіч**.

З чыткай твораў выступалі паэты Янка Купала, Якуб Колас, А. Куляшоў, М. Хведаровіч, П. Броўка, В. Кавальскі, Мальцінскі, К. Крапіва, П. Глебка і інш.

◇ **Вечар прысвечаны VII гадавіне з дня смерці В. Маякоўскага** адбыўся ў студэнтаў магілеўскай газетнай школы, наладжаны літаратурным гуртком школы. Студэнты падрыхтавалі літмантаж на тэму: „Грамадзянская вайна і аднаўленчы перыяд у творчасці В. Маякоўскага".

Студэнты таксама дэкламавалі вершы В. Маякоўскага: „Приказ № 2 армии искусств", і ўрыўкі з паэмы „Хорошо". Пачынаючыя паэты прачыталі свае вершы, прысвечаныя памяці Маякоўскага. У бібліятэцы афармлена прыгожая вітрына, прысвечаная творчасці паэта.

## НАД ЧЫМ ПРАЦУЮЦЬ САВЕЦКІЯ ПІСЬМЕННІКІ БЕЛАРУСІ

**Якуб Колас**—піша для II-га Беларускага дзяржаўнага тэатра п'есу па аповесці „Дрыгва".

**Кандрат Крапіва**—напісаў п'есу „Партызаны". П'еса будзе пастаўлена ў III-м Беларускім дзяржаўным тэатры.

**А. Міровіч** — скончыў перапрацоўку п'есы „Машэка". Зараз т. Міровіч працуе над новай п'есай, якую мяркуе скончыць да XX гадавіны Кастрычніка.

**Пятрусь Броўка**—напісаў лібрэта для беларускай оперы. Зараз т. Броўка працуе над паэмай, якую мяркуе скончыць да XX гадавіны Кастрычніка.

**Іван Шапавалаў**—закончыў другую кнігу аповесці „Большэвікі граніцы".

**М. Ільінскі**—працуе над п'есай з часоў грамадзянскай вайны. П'есу тав. Ільінскі мяркуе скончыць да XX гадавіны Кастрычніка.

**Пятро Глебка**—піша лібрэта для оперы аб грамадзянскай вайне на Беларусі.

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ НАСТУПНЫЯ КНІГІ

**А. С. Пушкін**—„Каўказскі нявольнік" (паэма), у перакладзе М. Хведаровіча.

**А. С. Пушкін** — „Цыганы" (паэма), у перакладзе А. Куляшова.

**І. Гурскі**—„Сваты" (п'еса для калгаснага тэатра), у перакладзе на рускую мову М. Юдэлевіча.

## ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ І. ЧАВЧАВАДЗЕ

У канцы мая ў Тбілісім, ордэна Леніна Дзяржаўным тэатры оперы і балета імя З. Паліашвілі адбудзецца ўрачыстае юбілейнае пасяджэнне, прысвечанае стагоддзю з дня нараджэння грузінскага класіка І. Г. Чавчавадзе.

Юбілейны камітэт распрацаваў план мерапрыемстваў па правядзенню ўрачыстасцей.

Да юбілейнай даты Дзяржаўнае выдавецтва Грузіі выпусціць першы том акадэмічнага выдання поўнага збору твораў І. Чавчавадзе, у які ўвойдуць лірыка, проза, паэмы, няскончаныя творы і каментарыі.

Асобным акадэмічным выданнем выйдзе біяграфія Ї. Чавчавадзе.

Шырокі ўдзел у юбілейных урачыстасцях прымуць прадстаўнікі мастацтва. Дзяржаўныя акадэмічныя тэатры выпрацавалі юбілейны рэпертуар, прысвечаны Ї. Чавчавадзе.

У дні юбілейных урачыстасцей у тэатры імя Руставелі адбудзецца вялікі мастацка-літаратурны вечар. Акрамя інсцэніровак, артысты тэатра прачытаюць вершы і ўрыўкі з паэмы Ї. Чавчавадзе. Тэатр імя Марджанішвілі рыхтуе ў аднаўленай пастаноўцы „Чатехили хиди" („Зломаны мост").

Інсцэніроўка асобных эпізодаў паэмы „Разбойник Како" будуць паказаны школьнікам у тэатры юнага глядача.

Да юбілейных урачыстасцей рыхтуюцца рускі, армянскі, цюркскі драматычныя тэатры ў Тбілісі.

У дзяржаўным тэатры оперы і балета імя З. Палеашвілі, пасля ўрачыстага паседжання будуць выкананы рамансы кампазітараў Аракішвілі, Сулханішвілі і інш., напісаныя на словы Ї. Чавчавадзе.

Ва ўсіх школах у Тбілісі праводзяцца літаратурныя вечары, прысвечаныя творчасці выдатнага грузінскага пісьменніка.

Саюз савецкіх пісьменнікаў Грузіі камандыраваў у раёны рэспублікі пісьменнікаў, якім даручана прачытаць лекцыі і даклады, прысвечаныя творчасці Ї. Чавчавадзе. Літаратурна-мастацкія вечары адбудуцца ва ўсіх буйных калгасах і соўгасах.

Дзяржкінпром Грузіі выпускае хроніку, прысвечаную яго жыццю і творчасці.

Да дню сотай гадавіны з дня нараджэння Чавчавадзе будзе рэстаўрыраваны помнік паэту на магіле на Давыдаўскай гары.

На месцы забойства паэта ў Цыцамура будзе ўстаноўлен абеліск.

## ПАЭЗІЯ ЧАВЧАВАДЗЕ Ў РУСКІМ ПЕРАКЛАДЗЕ

У палацы пісьменнікаў Грузіі адбыўся вечар, прысвечаны абгаварэнню вершаў і паэм Ї. Чавчавадзе ў рускім перакладзе Б. Брыка.

Перакладзены паэмы „Отшельник", „Призрак", „Разбойник Како" і „Дмитрий самопожертвователь", а таксама некаторая частка лірычных вершаў Чавчавадзе—„Элегия", „Поэт", „Базалецкое озеро", „Колыбельная", „Муша", „Пахарь" і інш.

На вечары Б. Брык прачытаў значную частку сваіх перакладаў, пасля чаго пачалося абгаварэнне. Выступаўшыя таварышы А. Джаджанашвілі, С. Чыкавані, В. Горгадзе, Цулукідзе, М. Патарыдзе, П. Дадвадзе, В. Гапрындашвілі і Т. Табідзе выказалі многа вельмі істотных заўваг. У асноўным гэтыя заўвагі датычыліся адхіленняў перакладчыкаў ад сэнсу асобных слоў, вобразаў, адхіленняў ад народнасці верша, рытма і характэрных асаблівасцей паэтычнага стыля.

## КНІГІ ГОРКАГА І АБ ГОРКІМ

18 чэрвеня адбудзецца гадавіна з дня смерці вялікага рускага пісьменніка А. М. Горкага. Гэтую гадавіну маскоўскія выдавецтвы адзначаюць выпускам новых кніг А. М. Горкага, а таксама кніг аб яго жыцці і творчасці.

У Дзяржаўным выдавецтве „Художественная литература", выходзіць першым выданнем у добрым афармленні (тыражом у 40 тысяч экземпляраў) 4-я кніга эпопеі „Жыццё Кліма Самгіна". Адначасова ў такім-жа афармленні, тыражом у 20 тысяч экземпляраў, выпускаюцца кнігі, якія ўжо раней выдаваліся—першыя тры томы эпапеі.

Выдавецтва „Советский писатель" выпускае кнігу, напісаную пісьменнікамі Куйбышэўскай области Ї. Фролавым, Івановым—Паймен і Н. Марозавым—**„Горький в Самаре"**. Гэтае-ж выдавецтва выпускае дапоўненую новымі матэрыяламі кнігу публіцыстычных выказванняў А. М. Горкага „О литературе".

„Академия" выпускае „Мои университеты" А. М. Горкага з ілюстрацыямі Б. А. Дзегцярова. Акрамя гэтай кнігі выдавецтва рыхтуе да друку „Детство" і „В людях" Горкага, таксама серыю яго п'ес: „Мещане", „На дне", „Васса Железнова" (новы варыянт), „Егор Булычев и друг.", „Достигаевы и друг.", „Дети сонца", з гісторыяй іх літаратурнага і тэатральнага тэксту. Усе гэтыя кнігі выйдуць у добрым афармленні.

Вядомы літаратуразнаўца і біограф А. М. Горкага—І. А. Груздзеў рыхтуе для выдавецтва „Академия" новую работу—„Летопись жизни и творчества Максима Горького". У кнізе будзе паказан увесь жыццёвы і творчы шлях вялікага пісьменніка.

Выдавецтва „Молодая гвардия" да гадавіны смерці А. М. Горкага выпускае ў добрым афармленні яго трылогію: „Детство", „В людях" і „Мои университеты".

## НАД ЧЫМ ПРАЦУЕ ПАЭТ В. КАМЕНСКІ

У сяле Троіцкім, Пермска-Сергінскага раёна, Саратаўскай обласці жыве і працуе паэт В. В. Каменскі.

За апошні час ім напісаны паэмы аб А. С. Пушк не і Максіме Горкім. Яны будуць друкавацца Дзяржлітвыдатам у вялікім зборніку паэм „Родина счастья". Акрамя таго паэт здаў у друк паэму „Сталин—любовь всенародная", якая выдаецца да XX гадавіны Вялікай пролетарскай рэволюцыі.

Зараз паэт працуе над раманам у вершах „Магутнасць", які прысвечаны росту і росквіту герояў Совецкага Саюза. Галоўны герой твору Андрэй Жула, з беспрытульніка робіцца героям нашай вялікай радзімы. Разам з гэтым паказвае рост совецкай жанчыны ў асобе сельскай настаўніцы Наташы Шатровай.

## У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ АБХАЗІІ

На агульным сходзе пісьменнікаў Абхазіі абгаварвалася работа саюза. Пасля дакладаў тт. Чанба і Мікава разгарнуліся спрэчкі, у якіх прынялі ўдзел амаль усе пісьменнікі.

У сваім дакладзе т. Чанба адзначыў, што абхазская арганізацыя пісьменнікаў безумоўна вырасла за апошнія гады (творча выяв ліся пісьменнікі: Агумаа, Лабахуа, Шынкуба, Сангулія, Папаскіры), але ў той жа час ён спыніўся і на шэрагу адмоўных бакоў у рабоце СОПА.

Саюз совецкіх пісьменнікаў Абхазіі яшчэ не перабудаваўся ў сапраўды творчую арганізацыю. У выніку слабай пільнасці, у шэрагі саюзу пранікалі трацкісты - контррэволюцыянеры Ш. Цвіжба, В. Агрба, В. Грыгор'еў, І. Перабейнос.

У абгаварэнні даклада выступілі пісьменнікі А. Фадзеяў, Сандро Эулі, Джыдар'ен Сангулія, Карванідзі, Н. Мікава, Андро Жванія і інш.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ

